


Удзельнікі Пленарнага пасяджэння Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы
каля архікатэдральнага касцёла ў Мінску.


Предсловие въ Псалтирь

Всяко писание Бгмъ водъхненое полезно е къ учению и кобличе нию исправлению и конаказанию правды, да совершенъ будеть человѣкъ бжий и на всяко дѣло добро уго тованъ. Яко стый апслъ Павелъ пишеть. И сего ради стые писма уставлена суть к нашему научению исправлению духовно му и телесному различными обычаи. Еди ны закономъ ветхымъ и новымъ другые стыми прорки даны суть намъ. Иные деянием стыхъ отецъ, а некые прит чами премудры учителей, некоторые теже песнями и псалмы цря двда и ω иныхъ божиих певцевъ сложеными, яко есть Псальтырь. Тыеже вси перво мснованые писма, кажьное с нихъ токмо едино речь в собѣ замыкаеть. Яко законъ живота вечного людей доступити учить. Прорци...

*Франциск Скарына.*
*З прадмовы да «Псалтыра».*




**У нумары 4/2017**

# НАША ВЕРА




# Дзеля дабра «ўзлюбленага кантынента»

Апошнім часам, калі гаворка заходзіць пра Еўропу, усё часцей гучыць слова «крызіс». А яшчэ зусім нядаўна, практычна на вачах аднаго пакалення, тут адбываліся вялікія гістарычныя падзеі. Пераадолеўшы ўзаемны недавер і крыўды Другой сусветнай вайны, народы Еўропы з вялікім энтузіязмам і надзеяй аб'ядналіся ў адну супольную сям'ю пад блакітным штандарам з дванаццацю зоркамі — сімвалам Жанчыны, апранутай у сонца[1]. З падзеннем «жалезнай заслоны», аб'яднаннем Германіі і далучэннем да агульнаеўрапейскай сям'і народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы здавалася, што Стары Свет чакае новая цудоўная перспектыва, новая эпоха Адраджэння, але, відаць, штосьці пайшло не так…

Святы Айцец Францішак, выступаючы ў Еўрапарламенце, назваў Еўропу «бабуляю», бо «складаецца ўражанне, што Еўропа стомленая і састарэлая, больш не плодная і не жыццяздольная, а вялікія ідэалы, якія яе натхнялі, здаюцца ўжо больш не прыцягальнымі»[2]. Разам з тым Папа ўпэўнены, што гэта не канец: «Я лічу, што Еўропа мае шмат сілаў для таго, каб ісці наперад»[3]. У многіх сваіх выступленнях Святы Айцец жадае «новага і мужнага ўздыму для гэтага ўзлюбленага кантынента». Так прыгожа і пяшчотна — «узлюбленым кантынентам» — Папа называе Еўропу. «Вызначыць шляхі пастырскага супрацоўніцтва паміж рознымі краінамі з пашанаю да адрозненняў, развіваючы ініцыятывы салідарнасці і братэрства», — так папа Францішак акрэсліў мэту працы Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы (РКБЕ), пленарнае пасяджэнне якой праходзіла ў Мінску з 28 верасня па 1 кастрычніка.

Ва ўступнай прамове на адкрыццё пленарнага пасяджэння РКБЕ яе старшыня кардынал Анджэло Баньяско, арцыбіскуп Генуэзскі, сказаў: «Мы таксама цвёрда перакананыя разам з Папам, што Еўропа „мае моц, культуру, гісторыю, якую нельга змарнаваць“[4]; што „да адраджэння Еўропы знясіленай, але ўсё яшчэ багатай энергіяй і магчымасцямі, можа і павінен прычыніцца Касцёл“[5], штораз больш усведамляючы бясспрэчнае багацце двух „лёгкіх: усходняга і заходняга“[6]. Такім чынам, Еўропа не павінна змарнаваць сама сябе, двухтысячагадовую гісторыю, што звязвае яе з хрысціянствам і якая, нягледзячы на цёмныя чалавечыя бакі, прынесла плады цывілізацыі і культуры, але павінна лепш ставіцца да сябе, павінна паверыць у свае магчымасці, ведаючы, што „гэтую гісторыю, большаю часткаю,

яшчэ трэба будзе напісаць“[7]. Нават крыху знясіленая, магчыма, употай расчараваная, яна не павінна здавацца, павінна зноў адшукаць першапачатковы энтузіязм, безумоўна, не тое мінулае бачанне сябе ў цэнтры свету, але магчымасць падараваць штосьці прыгожае і асаблівае чалавецтву. Кожны рэгіён свету, сапраўды, мае штосьці вялікае і сваё ўласнае, што можа даць іншым: усе павінны навучыцца думаць пра сябе ў сувязі з іншымі рэгіёнамі, у велікадушным імкненні даваць і прымаць».

Падчас сваёй працы ў Мінску прадстаўнікі біскупскіх канферэнцый з 45-ці еўрапейскіх краінаў маліліся і разважалі пра Еўропу і пра моладзь з мэтаю прадставіць свае прапановы для абмеркавання на наступным Сінодзе біскупаў, прысвечаным моладзі, які папа Францішак склікаў на восень 2018 года. «Гэтай значнай падзеяй Касцёл паказвае свой клопат пра тых, хто з'яўляецца нашай будучыняй, разважаючы над найбольш адпаведнымі спосабамі і падыходамі, каб адказаць на пытанні пра сэнс, якія кожны малады чалавек носіць у сваім сэрцы. Закранаючы тэму Еўропы, РКБЕ жадае перш за ўсё засведчыць перажыванне Касцёла за Еўропу, за гэты вялікі кантынент народаў і краінаў, які жадае падзяляць лёс міру і дабрабыту», — так пракаментаваў працоўныя задачы мінскай пленарнай асамблеі кардынал Баньяско падчас сустрэчы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам.

Гэтая сустрэча еўрапейскіх біскупаў на беларускай зямлі стала для іх таксама цудоўнай магчымасцю пазнаёміцца з мясцовай каталіцкай супольнасцю і адзначыць разам з ёю 950-годдзе першага ўспаміну Мінска ў летапісе і 500-годдзе выдання Бібліі — першай кнігі, надрукаванай на беларускай мове. Гэтае знаёмства дапамагло ўдзельнікам асамблеі і журналістам з розных краінаў, якія асвятлялі гэтую гістарычную падзею, зрабіць для сябе пэўныя чалавечыя адкрыцці. Адно з іх адбылося падчас наведвання выставы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, на якой гісторыя беларускага кнігадруку паказана ў кантэксце агульнаеўрапейскай гісторыі кнігі. Госці з-за мяжы былі здзіўленыя наяўнасцю ў фондах бібліятэкі старадрукаў з Германіі, Італіі, Францыі, іншых краінаў Еўропы. Для многіх з іх стала адкрыццём, што ў XVI стагоддзі многія нашыя суайчыннікі мелі магчымасць навучацца ў еўрапейскіх універсітэтах, удзельнічаць у навуковым і культурным жыцці тагачаснай Еўропы, якая, аказваецца, была тады больш адзінаю, чым цяпер, асабліва ў святле «брэксіту» і рэферэндуму аб незалежнасці ў Каталоніі. І нездарма кардынал Баньяско падкрэсліў, што «ў вялікай працы дзеля пабудовы лепшай і больш чалавечай будучыні Беларусі неабходна адыграць вялікую ролю».

У заключным пасланні пленарнага пасяджэння РКБЕ ў Мінску, прадстаўленым у апошні дзень яго працы ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха) на Залатой Горцы арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам, Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім — гасцінным гаспадаром форуму еўрапейскіх біскупаў — яго ўдзельнікі далучыліся да пажадання папы Францішка «новага і адважнага ўздыму для гэтага ўзлюбленага кантынента»: «Мы не можам застацца ў баку ад гэтага ўздыму, усведамляючы, што з'яўляемся пасланцамі радаснай навіны. Пасланне, за якое мы нясем адказнасць перад светам, узнёслае і магутнае, але мае слабыя прылады. Хрыстова Евангелле — гэта спрадвечная крыніца гісторыі Еўропы, яе гуманнай цывілізацыі, дэмакратыі, правоў і абавязкаў чалавека. Гэта таксама іх найбольш надзейная гарантыя! <…> Нам бы хацелася, каб слова Езуса дасягнула сэрца Еўропы: «Не бойся, Я з табою». Не бойся, старажытная Еўропа, быць сама сабою, вярніся на шлях айцоў, якія марылі пра цябе як пра дом народаў і краінаў, як пра плодную маці дзяцей і цывілізацый, як пра зямлю адкрытага і цэласнага гуманізму. Так, не бойся, май давер! Касцёл, які з'яўляецца спецыялістам у чалавечнасці, — твой сябра: з позіркам, скіраваным на Хрыста, і з Евангеллем у руках ён разам з табою ідзе да будучыні паяднання, справядлівасці і міру».

*Мікола Гракаў, дыякан*

*Паводле матэрыялаў пленарнага пасяджэння РКБЕ. Мінск, 28 верасня – 1 кастрычніка 2017 г.*

---

[1] *The European Commission and religious values* // The Economist — Oct 28th, 2004.
[2] Пар.: Папа Францішак. *Прамова падчас уручэння прэміі Карла Вялікага*, 6 мая 2016 г.
[3] Пар.: Папа Францішак. *Прамова на пленарным пасяджэнні РКБЕ*, 3 кастрычніка 2014 г.
[4] Пар.: Папа Францішак. *Прэс-канферэнцыя падчас палёту з Мексікі*, 17 лютага 2016 г.
[5] Пар.: Папа Францішак. *Прамова падчас уручэння прэміі Карла Вялікага.*
[6] Пар.: Папа Францішак. *Пасланне да пленарнага пасяджэння РКБЕ 2016 г.*
[7] Пар.: Папа Францішак. *Прамова да Еўрапарламента*, 25 лістапада 2014 г.

Алесь Жлутка

# Францішак Скарына: жыццё дзеля Слова

**ALMA MATER CRACOVIENSIS**

Склаўшы прысягу і прыклаўшы руку да слова Божага, Францішак Скарына апынуўся ва ўлонні Кракаўскай *Alma Mater* — Маці Карміцелькі. Гэтак звалі свае ўніверсітэты іх выхаванцы, якім веды і тытулы, атрыманыя ў час навучання, дазвалялі заняць высокае становішча ў грамадстве, забяспечыць сабе хлеб надзённы і дах над галавою.

Два найстарэйшыя еўрапейскія ўніверсітэты, заснаваныя ў XII ст., Балонскі і Парыжскі, сталі ўзорам, паводле якога пазней стваралiся іншыя ўніверсітэты Еўропы, у тым ліку і Кракаўскі. Універсітэт у Балоны узнік на грунце ранейшых школаў права і славіўся навукаю кананічнага і рымскага права. Кіруючую ролю тут адыгрывалі студэнты, якія са сваіх шэрагаў абіралі рэктара. Шкаляры рассяляліся пераважна па найманых у гараджанаў дамах (гаспіцыях). Парыжскі ўніверсітэт склаўся на аснове катэдральнай і кляштарных школаў Парыжа. Гэта была вучэльня, дзе рэй вялі магістры («настаўнікі»), якія абіралі рэктара са свайго асяроддзя. Галоўным кірункам навучання была тэалогія. Студэнты жылі пераважна ў калегіях, арганізаваных на ўзор кляштараў, з гэткімі ж кляштарнымі парадкамі суменага жыцця. Пазней калегіі, толькі аддалена падобныя на сённяшнія студэнцкія інтэрнаты, атрымалі назву бурсаў.

Кракаўскі ўніверсітэт у 1364 г. з дазволу Апостальскага Пасаду заснаваў Казімір Вялікі. Універсітэт павінен быў складацца з трох факультэтаў: юрыдычнага, вызваленых навук і медыцыны. Арганізоўваўся ён на ўзор Балонскай вучэльні з перавагаю юрыдычных навукаў, але заўчасная смерць караля ў 1370 г. і незацікаўленасць ягонага наступніка ў развіцці навучальнай установы прывяла да яе заняпаду[1].

Узнаўленне ўніверсітэта звязанае з дзейнасцю каралеўскай пары: Ядвігі, якая ў тэстамэнце адпісала на патрэбы ўніверсітэта свае ўпрыгожанні ды іншае дабро, і Уладзіслава Ягайлы, які ахвяраваў вучэльні шэраг наданняў і атрымаў ад Папы булу з прывілеем заснавання поўнага ўніверсітэта з чатырма факультэтамі: тэалагічным, юрыдычным, вызваленых навук, альбо філасофіі, і медычным. На гэты раз за ўзор быў узяты Парыжскі ўніверсітэт. Адкрываючы галоўную школу ў Кракаве з вянцом навук — тэалогіяй, Ягайла меў на мэце і падрыхтоўку святарскіх кадраў для наталення духовага голаду ў родным Вялікім Княстве Літоўскім. Урачыстая інаўгурацыя ўніверсітэта адбылася 22 ліпеня 1400 г., праз год пасля смерці каралевы Ядвігі[2].

У часы навучання Скарыны Кракаўская *Alma Mater* была ў зеніце сваёй славы. Як і іншыя еўрапейскія, універсітэт быў шчыльна звязаны з духоўнымі ўладамі. Ён развіваўся пад апекаю Апостальскага Пасаду: утрымліваўся галоўным чынам з прыбыткаў касцёлаў і кляштараў, а выкладчыцкія кадры і студэнты ў значнай колькасці належалі да духоўнага стану. Канцлерам універсітэта, які даваў ліцэнзію на выкладанне, станавіўся чарговы Кракаўскі біскуп. Выкладчыкі трымалі цэлібат, а студэнты былі абавязаныя весці лад жыцця, мала адрозны ад манаскага (жанатыя не маглі быць навучэнцамі ўніверсітэта).

У арганізацыйным плане Кракаўскі ўніверсітэт, як і іншыя сярэднявечныя, быў дэмакратычнаю ўстановаю з самакіраваннем і аўтаноміяй. Найвышэйшым органам кіравання быў агульны сход выкладчыкаў універсітэта, аднак склікаўся ён толькі ў самых важных выпадках: для абрання са сваіх шэрагаў рэктара, а таксама для прыняцця пастаноў і статутаў, абавязковых для ўсіх факультэтаў. Пытанні, якія не мог вырашыць рэктар, разглядаліся ўніверсітэцкаю радаю, якая складалася з рэктара і дэканаў трох факультэтаў: тэалагічнага, юрыдычнага і філасофскага, паколькі медычны факультэт дзейнічаў спачатку не ў поўнай меры. Рэктар абіраўся на паўгода: 24 красавіка ў дзень св. Юр’я на летняе паўгоддзе, а 16 кастрычніка ў дзень св. Гала — на паўгоддзе зімовае. Пры добрым кіраванні той самы рэктар мог выбірацца на новы тэрмін. Для паслугаў і дапамогі рэктар меў у сваім распараджэнні служыцеляў універсітэта, бэдэляў, якія наглядалі за парадкам, натарыяў, якія вялі ўніверсітэцкую дакументацыю. Большасць з гэтых функцый выконвалі самі студэнты[3].

---

*Працяг. Пачатак у № 3 за 2017 г.*

**Алесь ЖЛУТКА** — кандыдат філалагічных навук (абараніў дысертацыю па лацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Заполле на Магілёўшчыне. Закончыў аддзяленне класічнай філалогіі Львоўскага ўніверсітэта імя І. Франко (1983 г.) Падрыхтаваў да выдання кнігу дакументаў і сведчанняў «Міндаў — кароль Літовіі» (Мінск, 2005). Пераклаў на беларускую мову паэзію Гарацыя, байкі Эзопа і творы анакрэотыкаў. Займаецца даследаваннем ранняй гісторыі Касцёла на Беларусі, беларускай анамастыкай.




Кракаў у часы Скарыны. З кнігі Гартмана Шэдэля *Liber chronicarum. Norimbergae*, 1493.

Факультэцкае кіраванне было арганізаванае, як можна меркаваць, падобна да агульнаўніверсітэцкага. Найвышэйшую ўладу меў агульны сход усіх прафесараў, якія вялі заняткі на факультэце, у тым ліку і з іншых факультэтаў. Агульны сход ствараў камісію па распрацоўцы і рэфармаванні статутаў факультэта, прымаў факультэцкія статуты і пастановы, разглядаў і вырашаў справы пра занядбанне прафесарамі факультэта сваіх абавязкаў у навучанні, а таксама пра парушэнне прынятай для дактароў і магістраў формы вопраткі.

Выбары дэкана адбываліся два разы на год: у найбліжэйшую суботу перад 24 красавіка — днём св. Юр'я, і ў суботу перад 6 красавіка — днём св. Гала. У дапамогу дэкану ў той жа дзень выбіралі з ліку прафесараў факультэта двух асістэнтаў. Новаабраны дэкан прысягаў свайму папярэдніку, што будзе трымацца статутаў і пастаноў факультэта і паведамляць рэктару пра ўсе правіны і парушэнні пры выкладанні і дыспутах. Пасля гэтага ён прымаў прысягу ад кожнага прафесара, што той не дапусціць да экзамена кандыдатаў на бакалаўра ці магістра з уласнай карысці альбо асабістае прыхільнасці. Каб лепей ацаніць здольнасці кандыдатаў, дэкан павінен быў на працягу паўгода весці для іх практычныя заняткі. Гэтыя заняткі былі абавязковыя, і калі кандыдат ухіляўся ад іх, ён не дапускаўся да экзамена на ступень і мусіў чакаць наступнага тэрміна. На працягу месяца пасля заканчэння кадэнцыі дэкан мусіў даць у прысутнасці двух абраных для гэтага прафесараў справаздачу свайму наступніку з усіх прыбыткаў і выдаткаў факультэта[4].

## ЖЫТЛО

Пасля ўнясення свайго імя ў Метрыку ўніверсітэта Францішак, сын Лукі з Полацка, напэўна, заняўся пошукамі даху над галавою. Існавалі тры месцы, дзе ён мог спыніцца: пры калегіуме ў якасці сэрвітара, пры парафіяльнай школе і ў адной з бурсаў. Было два калегіумы, у якіх сяліліся магістры вызваленых навук і мясціліся аўдыторыі для заняткаў: калегіум большы *(Collegium maius)*, дзе на ніжнім паверсе размяшчаліся аўдыторыі, а на верхнім — агульная зала для заняткаў, а таксама жылыя пакоі выкладчыкаў, і калегіум меншы *(Collegium minus)*. Магістры, якія ўваходзілі ў склад калегіума выкладчыкаў пэўнага факультэта, мелі сталае жытло ў будынку калегіума. Шкаляры, якіх туды сялілі, мелі абавязак прыслугоўваць магістрам — за гэта калегіум забяспечваў ім жытло і частку харчавання, а другую частку павінен быў забяспечыць той магістр, якому прыслугоўваў пэўны шкаляр-сэрвітар. Ложак такія шкаляры мелі ў пакоі свайго магістра, але харчаваліся яны за асобным сталом[5]. У 1447 г. была прынятая пастанова пра тое, што прафесар, які жыве ў калегіуме, можа трымаць за кошт калегіума не больш за аднаго сэрвітара, а калі жадае мець іх больш, то за кожнага павінен плаціць штоквартальна шэсць грошаў. Такіх шкаляроў, якім удзялялі асаблівую ласку, даючы жытло ў калегіуме, называлі грацыялістамі (ад лац. *gracia — ласка*), але, у адрозненне ад першых, яны павінны былі плаціць за жытло пяць з палovаю грошаў, а таксама два разы ў год уносіць асаблівую плату за карыстанне з розных бэнэфіцыяў, якімі надзялялі калегіум, і за апальванне. У *Collegium minus* гэтая плата складала адпаведна 24 грошы за летні семестр і 30 грошаў за зімовы[6].

Іншым месцам, дзе Скарына мог атрымаць жытло, былі парафіяльныя школы — прынамсі ў сямі з іх, як сведчаць дакументы, разам з вучнямі сяліліся і шкаляры ўніверсітэта. Шкаляры плацілі тут адносна танна: у школе пры касцёле св. Ганны ўнёсак складаў сем грошаў, да гэтага дадавалася плата за карыстанне ложкам — паўтара гроша, і за ацяпленне — чатыры грошы на год[7]. Харчаванне студэнты мусілі забяспечваць сабе самі: яны маглі атрымаць яго за паслугі школе ці касцёлу (прыслугоўваючы і спяваючы на набажэнствах) ці харчаваліся з ласкі парафіянаў. Бяднейшыя маглі разам з вучнямі школы зарабляць на навучанне і ўтрыманне, жабруючы на вуліцах Кракава. На чале парафіяльнае школы стаяў яе рэктар, уладзе якога падлягалі ўсе яе вучні і насельнікі, але ў спрэчных выпадках канчатковае рашэнне было за рэктарам, якому падпарадкоўваўся не толькі ўніверсітэт, а і ўсе парафіяльныя школы. Самаю прывабнаю для студэнтаў была школа пры касцёле Усіх Святых — яе найчасцей абіралі на жытло шкаляры Вялікага Княства і Мазовіі, хоць бальшыню насельнікаў складалі ўсё ж юнакі з Кароны[8].

Месцам, адмыслова прызначаным для пасялення студэнтаў, былі бурсы (ад лац. *bursa — торбачка, гаманец, кішэня;* пераносна: *грошы, плата*); так называлася таксама грашовая сума, якую ўносілі студэнты за пражыванне.



Універсітэцкі квартал Кракава ў канцы XVII ст., малюнак у рукапісе *Liber diligentiarum* з 1699 г.



Рэканструкцыя ўніверсітэцкага квартала XVII-XVIII стст.: наперадзе — гмахі *Collegium Maius* з унутраным дворыкам, светлы прастакутны будынак уверсе злева — *Collegium Minus*.



Сённяшні выгляд *Collegium Maius*.

Пазней назва перайшла і на будынкі, дзе яны сяліліся. На той час, калі ў Кракаў завітаў па веды Францішак Скарына, у горадзе дзейнічала шэсць бурсаў. *Бурса філосафаў,* згодна з традыцыяй, была закладзеная ў адзін час з аднаўленнем універсітэта ў 1400 г. і спачатку прызначалася на жыллё прафесарам, якіх запрасілі з Прагі на запачаткаванне навук у Кракаўскай *Alma Mater*. На пачатку XVI ст. у ёй жылі пераважна нямецкамоўныя студэнты з Сілезіі, Прусіі, Славакіі і Нямеччыны. У 1409 г. з фундацыі доктара тэалогіі Яна Існэра была закупленая камяніца на скрыжаванні вуліц Вісльнэй і Голэмбей на жытло для бедных шкаляроў з Вялікага Княства Літоўскага. Яна атрымала назву *Бурса бедных*. Каля 1461 г. з фундацыі Яна Длугаша быў закуплены суседні дом на вуліцы Вісльнэй. Бурса магла даваць прытулак звыш 50-ці студэнтам. Тут найчасцей і сяліліся студэнты з Вялікага Княства. Менш іх было ў канцы XV — пачатку XVI ст. у Ерузалемскай бурсе, фундаванай у 1456 г. Кракаўскім біскупам Збігневам Алясніцкім і перабудаванай на сродкі Яна Длугаша пасля пажару ў 1462 годзе. Мясцілася яна на рагу вуліц Ягелонскай і Голэмбей — у яе мурах маглі атрымаць месца каля 100 жыхароў. Бурса Яна Длугаша на вуліцы Гродзкай, інакш званая *Бурса кананістаў*, пачала функцыянаваць з 1485 г. (як вынікае з назвы, яна была фундаваная Янам Длугашам для студэнтаў кананічнага права). *Венгерская бурса* размяшчалася ў прыватнай гарадской рэзідэнцыі роду Мельштынскіх на вуліцы Брацкай і прызначалася для студэнтаў з Венгерскага каралеўства. Гэткі ж нацыянальны характар мела і *Нямецкая бурса*, у якой сяліліся студэнты з нямецкіх земляў. Яна знаходзілася на вуліцы св. Ганны за *Collegium Maius*. Не выключана, што наш Францішак Скарына мог пасяліцца ў любой з гэтых бурсаў, але больш верагоднымі падаюцца дзве з іх: Ерузалемская і Бурса бедных. Ерузалемская бурса патрабавала ад студэнта, у параўнанні з Бурсай бедных, большых выдаткаў на ўтрыманне[9]. Сродкі нашага маладога земляка, хутчэй за ўсё, не былі надта вялікія, таму найбольш верагодна шукаць яго сляды ў Бурсе бедных. Мабыць, у браму гэтага будынка ён і пастукаўся ў адзін з сакавіцкіх ці красавіцкіх дзён 1505 г.

Парадкі ва ўсіх кракаўскіх бурсах былі амаль аднолькавымі — за ўзор для іх статутаў былі ўзятыя статуты магістарскіх калегіумаў. У адрозненне ад калегіумаў, якімі кіравалі прэпазіты, выбіраныя з саміх жыхароў, на чале бурсаў ставіўся сеньёр, якога прызначалі дабрадзеі бурсы. У бурсах захоўвалася і пасада прэпазіта, якога выбіралі са студэнтаў, — яго функцыі зводзіліся да пабожных чытанняў падчас пасілкаў.

...Можна ўявіць, як, увайшоўшы ў будынак бурсы, Францішак Скарына накіраваўся да сеньёра, каб засведчыць яму сваю іматрыкуляцыю ва ўніверсітэт, пасля чаго сеньёр прыняў ад яго ўступнае ў памеры для Бурсы бедных — два з трацінаю грошы, і прысягу прыкладна такога зместу:

*Я, N. (Францішак), прысягаю пану правізару і сеньёру ды ягоным наступнікам, што буду ім паслухмяным, абяцаю захоўваць статут і пастановы, датычныя Бурсы бедных, і дбаць пра дабро яе супольнасці, не адкрываючы таямніцы бурсы староннім асобам. Няхай дапамагае мне ў гэтым Бог і Святое Божае Евангелле*[10].

Сеньёр быў абавязаны спраўдзіць веды новапрыбылага ў лаціне. Пасля гэтага яму павінны былі паказаць пакой, дзе ён спыняўся на час навучання, і месца за сталом для агульных пасілкаў. Але для таго, каб набыць статус паўнапраўнага студэнта і жыхара бурсы, трэба было прайсці выпрабаванне, якое мела свае вытокі яшчэ ў дахрысціянскім часе і захоўвалася ў еўрапейскіх універсітэтах: *depositio beani* — зняцце бэана. Гэтую назву тлумачаць як вытворную ад французскага *bec jaune — жаўтароцік*, ці як гукаперайманне ад бэкання бараноў. Сэнс гэтага своеасаблівага абраду ініцыяцыі палягаў у тым, каб «зняць» з уступаючага ў студэнцкую супольнасць «кару» і бруд дрэннага, грубага выхавання і звычак, «абчасаць» яго, ачысціць ад таго, што замінала б яму стаць чалавекам выхаваным і культурным, і праз гэта ўзняць на новую ступень чысцейшага і шляхотнейшага жыцця. Дзеля гэтага ў вызначаны дзень у асобным пакоі збіраліся ўсе насель-



Бурса бедных (будынак не захаваўся, выгляд да 1838 г.).

нікі бурсы: шкаляры, бакалаўры, магістры. У іншым памяшканні чакалі сваёй чаргі на экзекуцыю бэаны. Пад абразлівыя выгукі і кпіны, штуршкі, а часам і поўхі, уводзілі аднаго з бэанаў і клалі на пастаўленую пасярод пакоя лаўку. Драўлянымі інструментамі ў выглядзе вялікай сякеры, пілы, гэбля абсякалі, абпільвалі і габлявалі «чурбак», да якога прыпадабняўся ўведзены небарака. Успрымаючы як жывёлу, яму прырабляці рогі, асліныя вушы і ўстаўлялі ў рот вялікі драўляны кол. Затым спілоўвалі прыробленыя рогі, абцінаці прыклееныя вушы, а разам з імі доўгія валасы, і вялікімі абцугамі вырывалі ўстаўлены кол. Чынілася таксама вадкае ачышчэнне: вушы і твар абмывалі растворам солі і палівалі вінам. Дзея магла разнастаіцца да бясконцасці дзякуючы багатай фантазіі і вынаходлівасці ўдзельнікаў. Усё адбывалася пры агульнай весялосці, але было вялікаю неспадзяванкаю, іспытам цярплівасці і пакоры для таго, над кім спраўляўся абрад. Пасля таго як бэан мыўся і пераапранаўся, яго прымалі як паўнапраўнага ў студэнцкую супольнасць. Перад ці пасля абраду за кошт бэанаў спраўлялася адмысловая вячэра, на якой не бракавала ежы і напояў[11].

Усе бурсы, таксама як калегіумы і парафіяльныя школы, падлягалі непасрэднаму кіраванню ўніверсітэта, якому належала права рэдагавання статута і выдання пастановаў, датычных бурсаў, права прызначаць ім кіраўніцтва, кантраляваць іх дзейнасць і ў апошняй інстанцыі вырашаць спрэчкі. Кіравалі пэўнаю бурсаю правізар і сеньёр, кожны ў межах сваёй кампетэнцыі. Правізара выбіралі з старэйшых прафесараў. Ён жыў па-за бурсаю і апекаваўся яе фундушамі і бэнэфіцыямі, забеспячэннем апальвання і харчавання, дбаў пра захаванасць будынкаў, наглядаў за дзейнасцю сеньёра, вырашаў у першай інстанцыі розныя спрэчкі.

Ахоўваць лад у бурсе згодна са статутам і пастановамі было даручана сеньёру. Ён павінен быў пільнаваць захаванне статута ўсімі жыхарамі будынка і меў над імі судовую ўладу. Суды праходзілі ў кожную суботу, і на іх мусілі збірацца ўсе насельнікі бурсы. У дапамогу сеньёру з ліку жыхароў абіралі дарадцаў, якіх у Бурсе бедных было пяцёра: аднаго вылучалі з магістраў, якія жылі ў бурсе, двух — з бакалаўраў і яшчэ двух — са шкаляроў. Сеньёр адказваў за паводзіны жыхароў бурсы таксама і за яе мурамі: ён мусіў ведаць, калі і па якой справе кожны выходзіць з бурсы ўдзень, і замыкаў яе браму праз гадзіну пасля заходу сонца ў летні час і праз тры гадзіны ў час зімовы. Сеньёр меў права і абавязак у любы час удзень і ўначы наведваць пакоі бурсакоў, сачыць за тым, каб яны рэгулярна хадзілі на лекцыі, не забываліся паўтараць пройдзенае, бралі ўдзел у дыспутах, якія пад яго кіраваннем штосуботы праводзіліся ў бурсе, дбаў пра парадак і чысціню ў памяшканнях[12]. За парушэнні статута і ўнутраных парадкаў прадугледжваліся даволі суровыя пакаранні, пераважна грашовыя. Пры першым парушэнні спачатку спаганялася нейкая намінальная сума, пры другім парушэнні яна павялічвалася ўдвая, пры трэцім — яшчэ ў два разы, а далей жыхар выключаўся з бурсы і пазбаўляўся права на жытло ў іншых бурсах горада[13].

У жыццядзейнасці ўстановы вялікую ролю адыгрываў дыспэнсатар, ці, як звалі яго ў Бурсе бедных, карбаніст, які абіраўся з яе насельнікаў і займаўся закупам



Ерузалемская бурса (будынак быў разбураны ў 1869 г., на яе месцы пабудаваны *Collegium Novum*).

дроваў на ацяпленне, а таксама прадуктаў харчавання і падзелам ежы на порцыі перад падачаю на агульны стол. Наймалася кухарка, звычайна старэнькая жанчына з добрай рэпутацыяй. Ад жыхароў бурсаў раз на тыдзень збіралі грошы, якія зваліся бурсаю на харчаванне, і на тыя рэчы, што закупляліся для нармальнага функцыянавання ўстановы. Апрача таго, студэнты плацілі за жытло. У Бурсе бедных гэтая плата ўносілася чатыры разы на год, што разам складала 20 грошаў[14].

Разам са студэнтамі ў бурсах жылі і іхнія слугі. У Бурсе бедных дапускалася мець не больш за аднаго слугу на пакой, які мусіў служыць не толькі свайму гаспадару, але і ўсім у пакоі. Бурсы былі абсталяваныя вадаправодамі і клаакамі. Каб пазбегнуць пажару, не рэкамендавалася ўначы перамяшчацца па будынку з адкрытым агнём — свечкамі, лямпамі ці лучынаю, у тым ліку й да прыбіральні. Забаранялася выкідаць праз вокны смецце і нечыстоты. Не ва ўсіх пакоях былі грубкі ці каміны. У вялікім агульным пакоі, дзе адбываліся сходы і супольныя пасілкі, была вялікая печ, да якой узімку выстройвалася чарга. У чарзе да печы і размеркаванні месцаў за сталом, а таксама ў працэсіях захоўваўся парадак першынства: для магістраў і бакалаўраў — паводле часу прамоцыі, а для шкаляроў — паводле часу пасялення ў бурсу. Пільна захоўваўся наказ пра супольнае спажыванне ежы ў вызначаны час; за спазненне было прадугледжанае пакаран-

не. Харчаваліся два разы на дзень пасля ранішніх заняткаў ва ўніверсітэце каля 11-й гадзіны і пасля вечаровых — каля 18-й. Да стала прыходзілі з уласнымі нажамі і лыжкамі. Перад агульным пасілкам і пасля яго чыталася адпаведная малітва, а ў час яго — урыўкі са Святога Пісання ці з твораў айцоў. Гэтая справа даручалася прэпазіту, якога ў Бурсе бедных ставілі ратацыйна на два тыдні паводле чарговасці пасялення. Падчас ежы захоўвалася маўчанне, сваркі і звады за сталом караліся больш жорстка. Забароненае было харчаванне за сценамі бурсы і яшчэ больш катэгарычна — начлег у іншым месцы.

У бурсах студэнты жылі па 2–3 чалавекі ў пакоі. У памяшканні, відаць, была даволі сціплая мэбля: ложкі, стол, гліняны свечнік, у багацейшых студэнтаў — металічны, посуд, рукапісы ці асобныя друкаваныя кніжкі, прылады для пісьма. Насіць зброю і трымаць яе ў пакоях студэнтам забаранялася. Статуты забаранялі таксама насіць у бурсе, універсітэце і за іх межамі свецкую вопратку. У якасці верхняй вопраткі прадпісвалася насіць доўгую суконную туніку (накшталт сутаны) з каптуром ці без яго, чорнага ці шэрага колеру, падперазаную ў поясе пасам. Галаўным уборам служыла шапка. Дапаўнялі строй нагавіцы, чаравікі ці боты. Узімку на туніку апраналі кажух, больш заможныя студэнты мелі футра. Падыспод адзявалася кашуля[15]. Сучасны даследчык гісторыі Кракаўскага ўніверсітэта Кшыштаф Барада падае звесткі пра камплект вопраткі, патрэбнай на два гады навучання для шараговага шкаляра, і яе кошты: 2 тунікі альбо туніка і кабат; 2 пары нагавіцаў, чаравікі, шапка, каптур, бялізна, у тым ліку кашуля, пас ды іншыя дробныя рэчы, кажух. Усё разам каштавала каля 220 грошаў[16].

## НАВУКА І ВОЛЬНЫ ЧАС

Навучальны год падзяляўся на два семестры: зімовы, які распачынаўся назаўтра пасля свята св. Лукі Евангеліста (19 кастрычніка), і летні, які пачынаўся назаўтра пасля дня св. Марка Евангеліста (26 красавіка). Незадоўга перад гэтымі датамі адбываліся выбары рэктара і дэканаў, якіх абіралі на паўгода. За паўмесяца да гэтых выбараў на будучае паўгоддзе магістрам рассылалі спіс кніг, паводле якіх яны павінны былі выкладаць у гэтым семестры, з указаннем лекторыя (аўдыторыі). У 1491 г. былі ўстаноўленыя тэрміны канікулаў: навагоднія пачыналіся ад Божага Нараджэння (25 снежня) і заканчваліся на Аб'яўленне Пана (6 студзеня). Летнія канікулы доўжыліся ўвесь ліпень і палову жніўня. Канікулярныя дні прадугледжваліся таксама паміж зімовым і летнім семестрам ад першай нядзелі пасля Вялікадня да свята св. Юр'я (24 красавіка), паміж летнім і зімовым семестрам — ад свята св. Міхала (29 верасня) да свята св. Гала (16 кастрычніка). Акрамя таго, вольнымі ад заняткаў былі нядзелі і дні святаў, якіх паводле статутаў універсітэта налічвалася каля 90.

У падзеле гадавога цыклу важную ролю мелі так званыя сухадні — дні посту ў сераду, пятніцу і суботу, якія прыпадалі на пачатак кожнай з чатырох пораў года: пасля свята св. Люцыі (13 снежня); пасля Папяльцовае серады; пасля ўрачыстасці Спаслання Святога Духа; пасля свята Узвышэння Святога Крыжа (14 верасня). На сухадні прыпадалі іспыты на ступень бакалаўра. Для правядзення іспытаў у іншы час быў патрэбны дазвол ад дэкана факультэта. Абавязковыя заняткі праводзіліся толькі ў дні, прызначаныя для выкладання. Публічныя дыспуты прыпадалі на суботу, але дні канікулаў і святочныя прызначаліся для неабавязковых заняткаў: пастановаю факультэта вызваленых навук з 1451 г. бакалаўрам прадпісвалася падчас канікулаў цягам месяца ці хаця б трох тыдняў выкладаць неабавязковыя прадметы і наладжваць дыспуты ў час посту два разы на тыдзень[17].

Дзень заняткаў шкаляра на факультэце вызваленых навук пачынаўся вельмі рана, каля 5-е гадзіны ў летнім семестры і каля 6-е — у зімовым; заканчваўся каля 16-е гадзіны ўлетку і каля 15-е зімою. Перапынак на сняданак у летні перыяд быў дзве гадзіны, з 9-е да 11-е, а ў зімовы — адну гадзіну, з 10-е да 11-е. Такім чынам, шкаляр у будні займаўся 9 гадзінаў у летнім семестры і 8 у зімовым. Урок альбо дыспут доўжыўся не 45 хвілін, а роўна гадзіну — 60 хвілін[18].

Заняткі студэнтаў факультэта вызваленых навук адбываліся ў памяшканнях *Collegium Maius* ці, як яго іначай называлі, *Collegium Artistarum* — Калегіума артыстаў, г.зн. тых, хто вывучаў *artes* — вызваленыя навукі-мастацтвы. Калегіум меў для заняткаў каля сямі аўдыторый, больш слушна называных лекторыямі, якія мелі сваё найменне паводле антычных аўтараў: Марона (г.зн. Вергілія), Платона, Пталамея, Арыстоцеля, Сакрата, Гіпакрата і *lectorium Prope Valvam* (лекторый каля ўваходу з боку ўнутранага дворыка, каля драўляных дзвярэй). Паколькі факультэт вызваленых навук быў самы вялікі, выкарыстоўваліся таксама і лекторый Гіпакрата, прызначаны для медыкаў, і лекторый тэолагаў. Для лекцый маглі выкарыстоўвацца і пакоі прафесараў, якія жылі на другім паверсе. Тэолагі маглі займацца ў любым з лекторыяў, калі яны не былі занятыя. Частка заняткаў, перадусім неабавязковых, для студэнтаў факультэта вызваленых навук магла, відаць, праводзіцца і ў *Collegium Minus*. Заняткі для студэнтаў юрыстаў праводзіліся ў іх асобным калегіуме.

На дольным паверсе *Collegium Maius* мясцілася вялікая бібліятэка артыстаў, якая мела багатую калекцыю рукапісаў і друкаваных кніг, ахвяраваных пераважна выкладчыкамі і студэнтамі ўніверсітэта, а таксама іншымі дабрадзеямі. На той час фонд бібліятэкі быў узбагачаны рукапіснымі кодэксамі і стара-

друкамі, атрыманымі ад болей чым ста ахвярадаўцаў[19].

Універсітэцкая адукацыя ў тагачаснай Еўропе была двухузроўневай. Першы агульнаадукацыйны ўзровень забяспечвала навучанне на факультэце вызваленых навук, ці, як яго інакш называлі, філасофскім. Прымалі на яго юнакоў не раней як з 14-гадовага ўзросту. Пры паспяховым навучанні і выкананні неабходных патрабаванняў прыкладна праз два гады можна было атрымаць ступень бакалаўра, а яшчэ праз два — ступень магістра. Ступень магістра вызваленых навук, якую ў іншых універсітэтах (напрыклад, у Падуі) лічылі доктарскай, была канчатковаю кропкаю ў філалагічна-філасофскай адукацыі й давала магчымасць (ліцэнзію) выкладаць вызваленыя навукі ў любой еўрапейскай навучальнай установе.



Лекцыя ў Кракаўскім універсітэце: дрэварыт (частка), зроблены ў 1642 г. паводле выявы (ужо не існуе) з алтара ля грабніцы Ягайлы ў кракаўскім катэдральным касцёле, прысвечанай аднаўленню Ягайлам і Ядвігаю ўніверсітэта ў 1400 г.

Настаўнікі, якія выкладалі для студэнтаў факультэта вызваленых навук, падзяляліся на некалькі катэгорый. Найвышэйшае месца ў іерархіі займалі старэйшыя магістры. Нагадайма, што магістрамі ў шырокім значэнні гэтага слова лічыліся дактары і магістры ў вузкім сэнсе. Старэйшыя магістры жылі ў *Collegium Maius* і належалі да яго арганізацыйна, яны звычайна мелі ступені магістраў вызваленых навук і тэалогіі і маглі выкладаць тэалогію і прадметы з цыклу вызваленых навук. Усім прафесарам гэтага калегіума, а прафесарамі ў той час называлі ўсіх выкладчыкаў, былі прызначаныя з розных фундушаў даволі багатыя бэнэфіцыі (калегіятуры) з пэўнымі ўмовамі, якіх мусілі прытрымлівацца бэнэфіцыянты. Малодшыя магістры ўваходзілі ў склад *Collegium Minus* і таксама мелі матэрыяльную падтрымку ў выглядзе бэнэфіцый з 14-ці фундушаў, г.зн. імі забяспечвалася 14 калегіятураў — 14 малодшых магістраў калегіятаў. Насамрэч, у час навучання Францішка Скарыны іх было менш, 9-12, бо некаторыя фундушы былі бедныя і часам не забяспечваліся. Магістры, якія належалі да *Collegium Minus*, выкладалі толькі прадметы з цыклу вызваленых навук. Ніжэй на кар'ернай лесвіцы стаялі магістры, якія не атрымлівалі бэнэфіцый, а толькі маглі браць удзел у нарадах факультэта: *extranei de facultate* — экстраардынарныя магістры з факультэта. Самую ніжнюю прыступку займалі тыя, якія не мелі на факультэце ніякіх правоў: *extranei non de facultate* — экстраардынарныя магістры не з факультэта. Той, хто абраў кар'еру ўніверсітэцкага прафесара, пасля атрымання ступені магістра вызваленых навук павінен быў выкладаць на факультэце, да якога яшчэ не належаў, — *extraneus non de facultate*. Пасля гэтага пры ўмове сумленнага выканання за гэты час прадугледжаных статутам абавязкаў яго прымалі на факультэт, але яшчэ два гады ён мусіў працаваць як *extraneus de facultate*. Пасля правядзення патрэбнае колькасці заняткаў і рэгулярнага ўдзелу ў дыспутах ён станавіўся паўнапраўным прафесарам факультэта — *magister actu regens* — і мог прэтэндаваць на адпаведныя бэнэфіцыі. Выкладчыкі ўсіх гэтых катэгорый вялі абавязковыя заняткі на факультэце вызваленых навук. Агульная іх колькасць на пачатку XVI ст. складала каля 35-ці асобаў, з іх старэйшых выкладчыкаў было каля 10-ці, малодшых — каля 12-ці і экстраардынарных — каля 14-ці. Неабавязковыя, факультатыўныя прадметы ў час канікулаў і святочных дзён мусілі весці бакалаўры, якія мелі намер здабыць ступень магістра. Бакалаўр, які хацеў атрымаць гэтую годнасць праз два гады, мусіў на працягу гэтага часу адказваць магістру ў час дыспутаў, месяц ці прынамсі тры тыдні весці неабавязковыя заняткі на канікулах і ў святы, а таксама ладзіць дыспуты ў нядзелі і браць удзел у трох звычайных дыспутах магістраў. Калі гэтыя ўмовы не выконваліся, экзамен на ступень магістра адкладаўся. У 1504/1505 і 1506/1507 гг. прынамсі 7 бакалаўраў павінны былі весці неабавязковыя заняткі і дыспуты для студэнтаў факультэта артыстаў[20].

Паводле падлікаў Антонія Карбавяка, у 1504/1505 г. ва ўніверсітэт запісалася 291 асоба, 141 з якіх — з Польшчы і Вялікага Княства, а 150 — з іншых краінаў[21]. У адным семестры са Скарынам у 1504/1505 г. былі іматрыкуляваныя чатыры асобы з Вялікага Княства Літоўскага: Венцэслаў са Слуцка, Георгій з Ваўкавыска, Мікалай з Ашмянаў, Мікалай з Дзітвы і, магчыма, Тамаш з Падлесся[22]. З 245-ці асобаў, якія былі іматрыкуляваныя ва ўніверсітэт у 1505-м каляндарным годзе, 111 чалавек паходзілі з Польшчы. З іншых краінаў, у парадку змяншэння: 47 — з Венгрыі, 31 — з Сілезіі (Шлёнска), 22 — з Нямеччыны, 16 — з Прусіі, каля 9 з Чэхіі і Маравіі; рэшту складалі выхадцы з Заходняга Памор'я і Любускае зямлі, якія

не ўваходзілі ў склад Кароны, а таксама асобы неакрэсленага паходжання[23]. Паводле грамадскага стану большасць студэнтаў належала да мяшчанаў і шляхты, астатнія — да іншых станаў. У 1500–1509 гг. мяшчане складалі 62 %, шляхта — 7 %, астатнія каля 30 % — найверагодней, вясковая, засцянковая шляхта, і, хутчэй як выключэнне, больш заможныя сяляне[24]. Толькі вельмі малая частка студэнтаў заканчвала навучанне на факультэце вызваленых навук са ступенню ў вызначаныя для прамоцыі тэрміны. Так, з запісаных у 1504/1505 г. ва ўніверсітэт 291-й асобы ў 1506/1507 г. сталі бакалаўрамі толькі 60[25].

### ВЫЗВАЛЕНЫЯ НАВУКІ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Поўны курс сямі вызваленых навук — *septem artes liberales*, ці філасофіі — у гуманітарных навучальных установах, да якіх належалі парафіяльныя і катэдральныя школы, а таксама філасофскія факультэты ўніверсітэтаў, складаўся з двух узроўняў (*trivium i quadrivium*) — літаральна, *трохпуцця* і *чатырохпуцця*. Да *trivium* адносілі граматыку з паэтыкай, рыторыку і дыялектыку, да *quadrivium* — арыфметыку, геаметрыю, музыку і астраномію. У ніжэйшых парафіяльных школах з *trivium* вывучалі толькі лацінскую граматыку, а таксама лічэнне і пісьмо, касцёльныя спевы. Навучанне ў катэдральных школах ахоплівала ўжо ўсе прадметы *trivium*, але не ў дастатковым аб'ёме, а таксама часткова некаторыя звесткі з *quadrivium*. Поўны курс вызваленых навук маглі даваць толькі ўніверсітэты. Перад атрыманнем ступені бакалаўра вызваленых навук студэнт мусіў засвоіць дысцыпліны з *trivium* і нейкія веды з *quadrivium*. Калі ж ён працягваў навучанне, то для атрымання ступені магістра мусіў авалодаць усімі вызваленымі навукамі.

Як вынікае з універсітэцкіх дакументаў, Францішак Скарына паступіў ва ўніверсітэт у канцы зімовага семестра 1504/1505 г., прыкладна на зыходзе сакавіка і пачатку красавіка 1505 года. Можна меркаваць, што гэта было пасля Вялікадня, які ў 1505 г. святкаваўся 23 сакавіка. А літаральна праз тыдзень, паводле статута, пачыналіся міжсеместравыя канікулы, што цягнуліся, як ужо было сказана, да свята св. Юр'я (24 красавіка). Праз тры дні пасля свята Марка Евангеліста пачынаўся новы семестр, таму рэальна прыступіць да заняткаў на факультэце Скарына мог толькі на пачатку летняга семестра 1505 года. На канікулах ён меў час азнаёміцца з горадам, універсітэтам, знайсці жытло ў бурсе ці ў іншым месцы, наведаць неабавязковыя заняткі і дыспуты, якія праводзілі бакалаўры. Такім чынам, калі Скарына распачаў заняткі ў Кракаўскім універсітэце пасля Вялікадня ў летнім семестры 1505 г., то завяршыў сваё навучанне ў сярэдзіне зімовага семестра перад Божым Нараджэннем у 1506 г., атрымаўшы ступень бакалаўра.

Але для таго, каб быць дапушчаным да іспыту на атрыманне гэтае ступені, трэба было выканаць некалькі ўмоваў. Па-першае, пасля запісу ў Метрыку ўніверсітэта новаму студэнту неабходна было знайсці сабе куратара з ліку магістраў, які б ім апекаваўся, кіраваў і дапамагаў у навучанні і студэнцкім жыцці. Без такога куратара ўсе праслуханыя лекцыі і практычныя заняткі пры прамоцыі на бакалаўра кандыдату не залічваліся. Хто быў такім апекуном у Францішка Скарыны, невядома. Па-другое, трэба было вывучыць некалькі абавязковых прадметаў, інакш кажучы, праслухаць іх выкладанне і адбыць практычныя заняткі па пэўных кнігах з цыклу *trivium*, якія складалі своеасаблівы канон, без чаго Скарыну не дапусцілі б да экзамена.

Па граматыцы падчас ягонага навучання выкладалася найбольш пашыраная на працягу Сярэднявечча і яшчэ ў Новым Часе *Ars grammatica* («Граматычнае мастацтва») Элія Даната — настаўніка св. Гераніма, дзе ў выглядзе пытанняў і адказаў падавалася марфалогія лацінскай мовы, а таксама звесткі са стылістыкі і рыторыкі. Сінтаксісу была прысвечаная таксама вельмі папулярная ў Сярэднявеччы вершаваная кніга Аляксандра дэ Віля Дэі *Doctrinale puerorum* («Навука для дзяцей»)[26].

Практычныя заняткі па граматыцы Даната ў летнім семестры 1505 г. вёў магістр Марцін Тарновеч, а ў летнім семестры 1506 г. — Станіслаў з Клепажа. Практычныя заняткі па падручніку Аляксандра дэ Віля Дэі ў зімовым семестры 1506/1507 г. вёў Міхал з Вроцлава[27].

Усе прадметы па дыялектыцы, інакш кажучы, логіцы, грунтаваліся на працах Арыстоцеля. Для іспыту на ступень бакалаўра патрабавалася абавязковае вывучэнне ягоных кніг і каментараў да іх пазнейшых аўтараў.

Спасціжэнне логікі Арыстоцеля пачыналася з засваення твораў пад агульнаю назваю *Ars vetus* («Старое мастацтва») альбо *Logica vetus* («Старая логіка»), дзе разглядаліся асноўныя пытанні логікі — катэгорыі мыслення, а таксама выказванні і меркаванні[28].

Кнігу *Ars vetus* (Logica vetus) у летнім семестры 1505 г. чытаў Марцін Тарновеч, практычныя заняткі вёў Ян з Глогава; у зімовым семестры 1505/1506 г. чытаў Станіслаў з Клепажа, а практычныя заняткі вёў Мікалай Мікаш з Кракава; у летнім семестры 1506 г. чыталі Альберт з Пёткрава і Міхал з Вроцлава; у зімовым семестры 1506/1507 г. чыталі Мацей з Ілкуша і Ян з Глогава, практычныя заняткі паводле Пятра Тартарэта вёў Ян са Львова[29].

Паралельна па гэтых пытаннях выкладалася кніга арыстоцелеўскага каментатара Пятра Гішпанца *Parva logicalia* («Малыя лагічныя творы»), якую ў летнім семестры 1505 г. чытаў Мікалай Мікаш з Кракава, а практычныя заняткі па ёй вёў Альберт са Свадзышэвіч; у зімовым семестры 1505/1506 г. чытаў той жа Мікалай Мікаш з Кракава, а

практычныя заняткі праводзіў Станіслаў Клепаж; у летнім семестры чыталі Ян з Глогава і Якуб з Кракава; у зімовым семестры 1506/1507 г. — Станіслаў з Познані, а практычныя заняткі вёў Станіслаў з Клепажа[30].

Пасля гэтага можна было пераходзіць да засваення кнігі *Logica nova* («Новая логіка»), у якой разглядалася вучэнне пра высновы (*Analitica priora* — «Першыя аналітыкі») і пра доказы, вызначэнні і падзелы (*Analitica posteriora* — «Другія аналітыкі»). Па кнізе *Logica nova* ў летнім семестры 1505 г. практычныя заняткі вёў Леанард з Добшыч; у зімовым семестры 1505/1506 г. іх вёў Марцін з Ілкуша; у летнім семестры 1506 г. — Леанард з Добшыч; у зімовым семестры 1506/1507 г. — Фэлікс з Ляскі[31]. Відаць, паралельна чыталіся і вяліся практычныя заняткі паводле аналітыкаў[32].

Потым праходзілася кніга *Liber elenchorum* з разглядам сафізмаў. Яе ў летнім семестры 1505 г. чытаў Альберт з Свадзышэвіч; у зімовым семестры 1505/1506 г. — Марцін з Ілкуша; у летнім семестры 1506 г. — Ян Нагольт; у зімовым семестры 1506/1507 г. — Марцін з Шамотулі[33].

На лагічным вучэнні Арыстоцеля будавалася і ўласна ягоная філасофія. Таму пасля лагічных трактатаў надыходзіла чарга кніг па філасофіі прыроды — *Libri physicorum*. Іх у летнім семестры 1505 г. чытаў Ян з Глогава, працягваў чытаць Станіслаў Клепаж, а таксама чытаў дэкан Сымон з Шэпжа; у зімовым семестры 1505/1506 г. чытаў Сымон Шэпрч, практычныя заняткі вёў дэкан Міхал з Вроцлава; у летнім семестры 1506 г., працягваючы, чытаў Сымон з Шэпрча, а дэкан Пётр з Кракава, відаць, вёў практычныя заняткі; у зімовым семестры 1506/1507 г. чытаў Валянцін з Сандаміра, а дэкан Леанард з Добшыч, відаць, вёў практычныя[34].

Да філасофіі прыроды належала яшчэ адна абавязковая для вывучэння кніга Арыстоцеля — *De anima* («Пра душу»). У летнім семестры 1505 г. яе чыталі Мікалай Мікаш з Кракава і Ян Нагольт; у зімовым семестры 1505/1506 г. — Пётр з Кракава, а практычныя заняткі вёў доктар Марцін з Шамотулі; у летнім семестры 1506 г. чытаў Марцін з Вольбажа (перастаў працягваць за два тыдні перад Вялікім пастом), а таксама чытаў Марцін з Ілкуша; у зімовым семестры 1506/1507 г. чыталі Ян з Міхалова і Ян з Глогава, практычныя заняткі паводле Яна дэ Магістрыс вёў Ян з Стобніча[35].



Іспыт шкаляроў у Кракаўскім універсітэце.
З кнігі Барталамея Папроцкага «Гняздо цноты». Кракаў, 1578 г.

Пачатковыя веды па астраноміі давала кніга *De sphera materialis* Яна дэ Сакрабоско, якая таксама была абавязковаю. У летнім семестры 1505 г. яе чытаў Ян Нашкоўскі; у зімовым семестры 1505/1506 г. — Якуб з Кракава; у летнім семестры 1506 г. — Ян з Глогава; у зімовым семестры 1506/1507 г. — Марцін з Тарновеча[36].

Апрача абавязковых, на факультэце выкладаліся творы, якія належалі да курсу граматыкі, паэтыкі і рыторыкі. Вывучалася больш грунтоўная «Граматыка» Прысцыяна (V–VI стст.) і папулярныя дапаможнікі па складанні лістоў Францішка Нігэра (1452–1496) «Спосабы ліставання», «Спосаб ліставання» Яна Сакрана (1443–1527), «Лісты да блізкіх» Францыска Філельфуса (1398–1481). Чыталіся і творы гісторыкаў: «Скарот гісторыі ад заснавання Рыма» Эўтропія (IV ст.), «Нарыс усіх войнаў» Флёра (II ст.), «Жыцці цэзараў» Светонія (I ст.), «Югуртынская вайна» Салюстыя (86–35 гг. да Н.Х.), «Выказванні і дзеі, вартыя памяці» Валерыя Максіма (I ст.). Значная ўвага надавалася прамовам, лістам і філасофскім творам Цыцэрона (106–43 гг. да Н.Х.) — «Пра абавязкі», «Сон Сцыпіёна», «Лісты да блізкіх», «Тускулянскія разважанні», «Парадоксы», і філасофскаму трактату Баэцыя (475–524 гг.) «Пра суцяшэнне філасофіяй». Вялікую ролю ў выхаванні творчых здольнасцяў і мастацкага густу студэнтаў адыгрывалі трагедыі Сенекі, паэтаў Вергілія (70–19 гг. да Н.Х.) — «Энеіда», «Георгікі» і «Буколікі»; Гарацыя (65–8 гг. да Н.Х.) — «Паэтычнае мастацтва»; Авідзія (43 г. да Н.Х.–18 г. пасля Н.Х.) — «Журботныя элегіі», «Героіды», «Ібіс»[37].

Вывучэнне абавязковых кніг было галоўнаю ўмоваю допуску да іспыту на ступень бакалаўра. Трэба было таксама пацвердзіць наяўнасць запісу ў Метрыцы пра паступленне ва ўніверсітэт і аплату поўнага ўступнага ўнёску — 8 грошаў. Скарына, які ўнёс пры паступленні толькі два грошы, павінен быў даплаціць яшчэ шэсць. Неабходна было аплаціць і заняткі выкладчыкам, што складала каля 350-ці грошаў[38]. Акрамя таго, перад іспытам ён паўгода наведваў заняткі, што праводзіліся дэканам факультэта, якім у зімовым семестры 1506 г. быў бакалаўр кананічнага права Леанард з Добшычаў. За паўгода да іспыту на ступень бакалаўра неабходна было прыняць удзел у

пэўнай колькасці дыспутаў, якія праводзілі магістры.

Нарэшце дэкан абвяшчаў адкрыццё іспыту, заклікаючы ўсіх ахвотных і падрыхтаваных да запісу на іспыт (*intitulatio*), вывешваючы абвестку пра гэта. У прызначаны час вечарам у адным з калегіумаў, большым ці меншым, збіраліся кандыдаты на бакалаўрат ды іхнія магістры. Кандыдаты мусілі прад'явіць на пісьме спіс праслуханых лекцыяў і практычных заняткаў з прозвішчамі выкладчыкаў, якія іх вялі (*cedula*). Магістры маглі выказваць свае заўвагі і засцярогі адносна кандыдатаў, калі, напрыклад, нехта не наведаў патрабаванай статутам колькасці заняткаў, не аплаціў іх магістру, абразіў яго ці падняў на яго руку альбо ў сваіх паводзінах паказаў сябе чалавекам нявартым, непрыстойным, злачынцам ці аматарам азартных гульняў. Зрэшты, дэкан у гэтым абмеркаванні мог прыняць бок студэнта і вырашыць справу на яго карысць. У выніку кандыдаты атрымлівалі ці не атрымвалі допуск да іспыту (*admissio*). На гэтым жа сходзе абіралі двух ці чатырох экзаменатараў.

На працягу трох-чатырох дзён экзаменатары праводзілі апытанне кандыдатаў па розных прадметах. У канцы папярэдняга іспыту кожны з экзаменатараў павінен быў размеркаваць кандыдатаў паводле ўзроўню іх ведаў, а дэкан на падставе гэтых адзнакаў складаў канчатковы агульны спіс — *locatio generalis*. Апытанне і лакацыя разам займалі больш за дзесяць дзён. Вытрымаўшы апытанне і атрымаўшы лакацыю, кандыдат на працягу 15-ці дзён мусіў разлічыцца з універсітэцкай касаю ці даць абяцанне разлічыцца ў акрэслены час і атрымаць ад дэкана пасведчанне пра гэта — сігнэт (*signetum*). Лакацыя заставалася таемнаю да часу адкрыцця наступнага экзамена. Цяпер кандыдаты павінны былі здзейсніць дэтэрмінацыю — дыспут у прысутнасці экзаменатараў з магістрам-прамотарам на зададзеную гэтым магістрам тэму. Пры вялікай колькасці кандыдатаў і пры ўмове прамежку паміж дыспутамі ў некалькі дзён, хоць часам у адзін дзень маглі дыспутаваць некалькі кандыдатаў, дэтэрмінацыя магла расцягвацца больш чым на дзесяць дзён. Калі нехта не здолеў правесці дыспут у вызначаны тэрмін, гэта пагражала яму стратаю набытае лакацыі і паўтарэннем усяго працэсу ад пачатку. Калі ж дэтэрмінацыя была паспяхова здзейсненая, кандыдат атрымліваў ступень бакалаўра. Прамотар урачыста абвяшчаў кандыдата бакалаўрам вызваленых навук і сімвалічна ўручаў яму пальчаткі. Прамоцыю завяршала гасціна, якую наладжваў новы бакалаўр, і ўрачыстае ўручэнне дыплома ад імя дэкана[39].

Гэтай важнай падзеяй у жыцці Скарыны закончылася яго навука ў Кракаўскай *Alma Mater*. Дзякуючы захаваным дакументам універсітэта і працам шэрагу даследчыкаў гэтай знакамітай вучэльні мы можам цяпер узнавіць некаторыя этапы і падзеі ў жыцці нашага першадрукара. Прыезд у Кракаў, прысяга, іматрыкуляцыя, выбар магістра-апекуна, жыццё ў бурсе і заняткі ва ўніверсітэце, бакалаўрат... Хутчэй за ўсё, перапыніць сваё навучанне яго змусілі фінансавыя цяжкасці і, магчыма, больш прывабная перспектыва здабыць сродкі на жыццё і далейшую адукацыю ў іншым месцы. Пра тое, што ён атрымаў ступень магістра (доктара) у нейкім іншым еўрапейскім універсітэце, сведчаць запісы ў Актах акадэмічных ступеняў Падуанскага ўніверсітэта за 1512 г., дзе ён названы доктарам вызваленых навук. Але дзе ён апынуўся пасля кракаўскага экзамена на бакалаўра ў канцы 1506 г., застаецца загадкаю, аднной з тых таямніцаў, якіх шмат пакінуў па сабе «выдатны муж, у вызваленых і лекарскіх навуках доктар, Францішак Скарына са слаўнага места Полацкага».

---

1 Boroda K. Studenci Uniwersytetu Krakowskiego w późnym Średniowieczu. — Kraków, 2010. — S. 30-31.
2 Ibidem. S. 32.
3 Karbowiak A. Dzieje wychowania i szkół w Polsce w wiekach średnich. T. 2. Petersburg, 1903. — S. 177-180.
4 Ibidem. 183-187.
5 Karbowiak A. Mieszkania żaków krakowskich w XIV-XVI wieku. — Lwów, 1887. — S. 12-15.
6 Boroda K. Studenci Uniwersytetu Krakowskiego... S. 205-206.
7 Ibidem. S. 203.
8 Ibidem. S. 201-202; Karbowiak A. Mieszkania żaków... S. 15-17.
9 Boroda K. Studenci Uniwersytetu Krakowskiego... S. 40-41, 191-192.
10 Statuta Bursae Longini seu Canonistarum ex a. 1485 // Czasopismo Poświęcone Prawu i Umiejętnościom Politycznym. 1864. T. 2. Z. 5. P. LXXI.
11 Kiryk F. Nauk przemożnych perła (Dzieje narodu i państwa polskiego). — Kraków, 1986. — S. 78-79.
12 Karbowiak A. Mieszkania żaków... S. 28-31.
13 Ustawy bursy krakowskiej „Jeruzalem" 1453-1841 / Wyd. A. Karbowiak // Archiwum do Dziejów Literatury i Oświaty w Polsce. 1890. T. 6. — P. 104-108.
14 Boroda K. Studenci Uniwersytetu Krakowskiego... S. 187-188.
15 Karbowiak A. Ubiory profesorów i uczniów w Uniwersytecie Jagiellońskim. — Kraków, 1889. — S. 20-26.
16 Boroda K. Studenci Uniwersytetu Krakowskiego... S. 216-218.
17 Karbowiak A. Dzieje wychowania ... T. 2. — S. 343; Karbowiak A. Dzieje wychowania i szkół w Polsce w wiekach średnich. T. 3. — Lwów-Warszawa-Kraków, 1923. — S. 284-287.
18 Karbowiak A. Dzieje wychowania... T. 3. — S. 288-289.
19 Karbowiak A. Dzieje wychowania... T. 3. — S. 293-295.
20 Wisłocki W. O wydawnictwie Liber diligentiarum krakowskiego facultetu filozoficznego z lat 1489-1563 // Pamiętnik Akademii Umiejętności w Krakowie. Wydziały. Filologiczny i Historyczno-Filozoficzny. 1887. T. 6. — S. 93; Karbowiak A. Dzieje wychowania... T. 3. — S. 299-303.
21 Karbowiak A. Dzieje wychowania... T. 3. — S. 383.
22 Metryka Uniwersytetu Krakowskiego z lat 1400-1508. T.1-2. — Kraków, 2004. T. 1. — S. 610-613.
23 Boroda K. Studenci Uniwersytetu Krakowskiego... S. 329.
24 Ibidem. S. 351.
25 Karbowiak A. Studya statystyczne z dziejów Uniwersytetu Jagiellońskiego 1433/4 — 1509/10 // Archiwum do Dziejów Literatury i Oświaty w Polsce. Seria I. T.12. — S. 80.
26 Karbowiak A. Dzieje wychowania i szkół w Polsce w wiekach średnich. T. 1. — Petersburg, 1898. — S. 198, 224.
27 Liber Diligentiarum Facultatis Artistice Universitatis Cracoviensis 1487-1563 // Archiwum do Dziejów Literatury i Oświaty. t. 4. — Kraków 1886. — P. 69, 74, 75.
28 Karbowiak A. Dzieje wychowania... T. 1. — S. 225-227.
29 Liber Diligentiarum... P. 68-77.
30 Ibidem.
31 Ibidem.
32 Ibidem.
33 Ibidem.
34 Liber Diligentiarum... P. 68-77.
35 Ibidem.
36 Ibidem.
37 Ibidem.
38 Boroda K. Studenci Uniwersytetu Krakowskiego... S. 245.
39 Najstarsza księga promocji Wydziału Sztuk Uniwersytetu Krakowskiego z lat 1402-1541 / Wyd. A. Gąsiorowski, T. Jurek, I. Skierska. — Warszawa, 2011. — S. XVIII-XX.

Яўген Маліноўскі

# Асоба на ростанях: псіхалагічная рэфлексія беларуса на тле постаці Францішка



Сучасныя гістарычныя і тэалагічныя даследаванні ўсходнеславянскага хрысціянства, прысвечаныя 500-годдзю выдання «Біблії Рускай...», зыходзяць з недахопу біяграфічных звестак пра яе аўтара. Таму рэтраспектыўная ацэнка адпаведнасці постаці Першадрукара самасвядомасці сучаснага беларуса чакае свайго дапаўнення з боку псіхалогіі, бо для яе прадмету больш важным з'яўляецца лагічная пераменная менталітэту беларуса, якому цалкам, на наш погляд, адпавядае асоба Францішка Скарыны. Рэальнае поле непаразуменняў на гэты конт выбухнула інцыдэнтам меркавання вядомага навукоўцы Аляксандра Пашкевіча ў «Нашай Ніве»: «Калі лічыць «нашай» верай толькі ўніяцтва, то тады мы павінны прызнаць, што і ўся гісторыя, якая была ў нас да канца XVI ст. і якую прасоўвалі выключна прадстаўнікі іншых канфесій, было «ня наша». А гэта азначае, што выпадаюць самыя слаўныя часы Вялікага Княства Літоўскага з дзейнасцю Францыска Скарыны ўключна. Ды і потым, аж да 1839 г., «наша» гісторыя ў такім выпадку — фактычна толькі гісторыя сялянства, бо менавіта яно ў асноўным і складала прыхаджан уніяцкай царквы, а эліты належалі да іншых канфесій, перш за ўсё рымска-каталіцкай» [1].

На тле элітных твараў і кволых сялянскіх хатаў паўстае прадмет псіха-гістарычнага даследавання асобы, не абцяжаранай багаццем, славаю, кананізацыяй ці сакралізацыяй, як гэта адбывалася, напрыклад, з іншым беларускім першадрукаром, дыяканам Іванам Фёдаравым. Псіхалогія паклікана, перш за ўсё, для выяўлення чалавекам свайго падабенства Логасу ў думках, пачуццях і паводзінах, артыкуляваных не столькі гісторыяй і культурай, колькі тым, чаго так не хапае нашаму земляку, — свабодаю і годнасцю [2]. Логас — гэта заўжды нябачная асоба, не індывід, не суб'ект, не асілак. Віртуальны віцязь (ад сканд. *viking*) стаіць на «распутье смерти, жены, богатства» ў той час як актуальная асоба заўжды знаходзіцца на ростанях думак, галоснасці, праваабароны.

Тэрмінам «*віртуальны*» [лац. *virtus* — мужны) рымляне абазначалі сукупнасць усіх магчымых якасцяў, уласцівых мужчынам — фізічная сіла, годныя паводзіны, маральнасць. Ахутаны легендаю мужнасці подзвіг плебея Луцыя Вяргінія, які, ратуючы сваю любімую дачку Віргінію ад распусты консула-дэцэмвіра Апія, прылюдна забівае яе са

---

**Яўген Маліноўскі** — кандыдат псіхалагічных навук, дацэнт кафедры псіхалогіі адукацыі Інстытута псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, пробашч парафіі Кірыла і Мятода ў Баранавічах. Закончыў музычна-педагагічны факультэт Мінскага педінстытута імя М. Горкага (1975) і аспірантуру па псіхалогіі (1986). Закончыў таксама Мінскую духоўную семінарыю (1994), ужо будучы праваслаўным святаром, рукапаложаным мітрапалітам Філарэтам у 1989 годзе. У 1998 годзе быў прыняты ў Грэка-каталіцкую Царкву.

словамі «толькі так, дачка мая, я магу зрабіць цябе свабоднаю». Пад уплывам публічнага подзвігу бацькі адбылося паўстанне 449 г. да н.э., калі падступная ўлада дэцэмвіраў была зрынутая, а імя Віргінія засталося сінонімам некранутасці.

Асоба — істота генералізаваная адносна гендэрных, сацыяльных ды нацыянальных стасункаў. Асабісты выбар, у адрозненне ад віртуальнай матывацыі віцязя, звязаны з Іншаю, нябачнаю, не публічнаю асобаю, ахвярны подзвіг якой застаецца актуальным па-за межамі сацыяльна-адукацыйных канструкцый. Прафесар культуралогіі Ю. В. Чарняўская некалі апублікавала ў сацсетках тэкст пра інцыдэнт, звязаны з крызісам нашай адукацыйнай сістэмы. Выпускніца Універсітэта культуры і мастацтваў, прэтэндуючая на чырвоны дыплом, абрынула ў «культурны шок» чальцоў ДзЭК падсвядомай падменаю сціплай постаці асобы публічнаю фігураю «віцязя»:

— Хто з беларусаў першым пераклаў Біблію на родную мову?

— Марцін Лютэр? — няўпэўнена прамармытала выдатніца.

— Кінг? — падступна справакаваў інтраекцыю няшчаснай экзаменатар.

— Кінг! — канчаткова выціскаючы свядомасць, дзяўчына выракла рэдукцыю слова *viking*.

Што праўда, у сітуацыі ўціску асабістыя здольнасці да ідэнтыфікацыі *Іншай асобы* загортваюцца, застаецца толькі рабская пакора прыняцця ўлады чужога меркавання. Змена колеру дыплома з чырвонага на «ружовы», апрача педагагічнага абурэння, выклікае яшчэ і псіхааналітычную ўедлівасць, што да бессвядомасці, «структураванай, — па Жаку Лакану, — як мова». У дадзеным выпадку склаліся ўмовы сімвалічнага змяшчэння імёнаў таго часу, калі Марцін Лютэр (які не Кінг) дэманстратыўна прыбівае менавіта ў 1517 годзе да дзвярэй Вітэнбергскай кірхі свае тэзісы. Аўтарытэтны брытанскі часопіс "*The Economist*", параўноўваючы Францішка Скарыну з аўтарам дзевяноста пяці тэзісаў Рэфармацыі, называе нашага земляка адной з найвялікшых постацяў у еўрапейскай культуры і адукацыі.

Сённяшняя культурна-адукацыйная рэальнасць такая, што адсутнасць у ёй асобы суправаджае адсутнасць нацыянальнага ўніверсітэта. Гэта стварае ўмовы замацавання «Кода адсутнасці як калажу беларускай ментальнасці» (В. Акудовіч). Падобна «Чорнаму квадрату» К. Малевіча, супрэматызм напластавання (фр. *coller*) эмацыйных станаў «прывучанай бездапаможнасці» (М. Сэлігман) выціскае гатоўнасць уласнага станаўлення як рэлігіі асобы. Некрытычнае стаўленне Аляксандра Васільевіча да «нашай», г. зн. «не ўніяцкай веры», правакуе распаўсюджаную для навукоўцаў суб'ектыўную ацэнку царкоўнай гісторыі, з якой, быццам бы, «выпадае» дзейнасць яе слаўнага прадстаўніка.

Калі разглядзець выключную дзейнасць Першадрукара гэтак, каб яна ментальна не адрознівалася ад справы каталіцкай супольнасці *ut unum sint* [3], дык яе псіхалагічная сутнасць палягае на канфесійнай еднасці першасвятарскай малітвы Езуса: «Каб усе былі адно» [Ян 17, 21]. Нагадаем, па-першае, што задоўга да Рэфармацыі ўжо існавала, і цяпер нікім не адмененая, Фларэнційская Унія *(unio)* 1439 года, якую вольны чалавек Скарына, безумоўна, мог вызнаваць, аб чым у першую чаргу сведчыць зусім «не праваслаўнае» імя Францішак, якое перакладаецца менавіта як «свабодны». Слова, успрынятае асобаю, робіцца ісцінай: «Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас» (Ян 8, 32). Вызваліць ад чаго? Перадусім, ад падзелаў на гаспадара і раба праз хрысціянскую альтэрнатыву асабістасці:

*Маліся ж, бабулька, да Бога,*
*Каб я панам ніколі не быў:*
*Не жадаў бы ніколі чужога,*
*Сваё дзела як трэба рабіў.*
*Каб прад меншым я носу не драў,*
*А прад большым не корчыў спіны,*
*Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,*
*У другіх каб не відзеў віны.*

Францішак Багушэвіч,
«Афяра».

Па-другое, усім вядома, што расійскае слова «*крестьянин*» паходзіць ад грэчаскага χριστιανός. Калі, з пункту гледжання А. В. Пашкевіча, гісторыя уніі — гэта «фактычна толькі гісторыя сялянства», дык віленскае барока з полацкай Сафіяй і «Полацкім сшыткам», архітэктурным ансамблем Жыровіцкага манастыра або Траецкаю Царквою ў Вольна пад Баранавічамі хіба не адлюстроўваюць сялянска-гарадскую еднасць народа з «самых слаўных, — па аўтару, — часін Вялікага Княства Літоўскага»?

Па-трэцяе, сам Аляксандр выдатна ведае, што, апрача сялянаў і «эліты», існавалі яшчэ вольныя гараджане (лац. *cives*), або мяшчане (польск. *mieszczanie*) — трэцяе саслоўе «дробнага бюргерства», для якога ў ВКЛ канца XVI ст., сапраўды, як адзначае аўтар, склаліся ўмовы для выбару рэлігіі. Але, у асноўным, сярэдні клас мяшчанства ментальна больш адпавядаў духу Крэўскай 1385 года, Люблінскай 1569 года, Берасцейскай 1596 года Уніі двух народаў і аднаго, каталіцкага веравызнання рымскага ды візантыйскага абрадаў. Асноўнымі сферамі заняткаў мяшчанаў уніятаў былі рамёствы, промыслы, гандаль. Менавіта з мяшчанства ўзнікае сацыяльны пласт інтэлігенцыі. У шостым нумары «Мужыцкай праўды» беззямельны шляхціц Вінцэнт (Кастусь) Каліноўскі піша пра адраджэнне ўніяцкай Царквы як падставы для адраджэння Вялікага Княства Літоўскага. Пасля 1917 г., у часе панавання дыктатуры пралетарыяту і ідэа-

логіі бяскласавага грамадства, слова «мяшчане» ўжывалася з адмоўнай характарыстыкай меркантыльных людзей з абмежаваным кругаглядам, як, напрыклад, у п'есе М. Горкага «Мяшчане». На гэтым алегарычна непрыдатным тле, мною, савецкім юнаком, неяк збянтэжана ўспрымаўся ў тую пару бацькоўскі наказ: «Помні, што мы былі вечнымі мяшчанамі ды нікому ніколі не падначальваліся».

Гараджане, адпаведна саслоўю, перадавалі словы Пісання на роднай мове. Доктар Францішак Скарына першым распачынае дыялог з чытачом, метадычна павялічваючы ўзровень яго псіхалагічнай гатоўнасці да біблейскай навукі. Дзіўным падаецца той факт, што, нягледзячы на найбольш частае, у параўнанні з іншымі часткамі Бібліі, перапісванне чатырох Евангелляў, першадрукар Францішак Скарына іх не перакладаў. Гледзячы на памеры падарожнай Бібліі і аўтарскія каментары, можна з упэўненасцю вызначыць яе не літургічную мэту штодзённага выхавання мешчаніна, эканомна карыстаючага здаровы сэнс «старых мяхоў» [гл. Мц 9, 17]. Між тым, як «цвёрдая ежа», «новыя мяхі» і «маладое віно» Евангелля захоўваліся тлумачом для адкрыцця тым, «хто праз ужыванне маюць спрактыкаваны розум, каб разабрацца, што добрае, а што благое» (гл. 4, Гбр 5, 14). У адрозненне ад недасканала антрапаморфных станаў і ўласцівасцяў абываценя, асоба ў пэўнай ступені валодае дарослай рэфлексіяй дасканаласці «да меры сталасці паводле Хрыстовай паўнаты» (Эф 4, 13). Падмуркам паўналеццяя становіцца пісьменнасць ды ўменне трымаць удар у прэсінгавай сітуацыі «падазронай асобы», якая аж да канца застаецца «соллю зямлі» (гл. Мц 5, 13). Калі гэтае вызначэнне мужнасці з Нагорнай пропаведзі падмяняецца ідэалагічным змацаваннем увараўскай трыяды (граф С. С. Уваров, 1833), тады руская інтэлігенцыя пачынае сумаваць па ўланах, драгунах ды кавалергардах — «вечно бабьем в русской душе» (М. Бярдзяеў). І вось на тле экстрэмісцкага параду «победоносцев» і «хоругвоносцев» з іх фундаметалізмам, панславізмам, манархізмам і гоманегатывізмам, адбываецца Унія, якая прытрымліваецца экуменізму і гуманізму, спалучаючы асабістае аб'яўленне веры з захаваннем традыцыйных праваслаўных каштоўнасцяў, у першую чаргу, жанатым духавенствам.

Што да каталіцкай Кангрэгацыі Веравучэння, Тамаш Аквінскі тэзісам «прымат інтэлекту над вераю» ўпершыню ў гісторыі чалавецтва азначыў навуковую парадыгму *cognition dei experimentalis*, або дасведчанага спасціжэння Бога. Гэтая эксперыментальная парадыгма з XIII ст. сягае наўпрост да сучаснага навуковага вопыту Г. Хофстэдэ (нідэрл. *Gerard Hofstede*), які класіфікаваў сукупнасць паказчыкаў культуры розных народаў з улікам пяці параметраў: дыстанцыраванасць ад улады, адасобленасць, маскуліннасць, або мужнасць у дасягненні выніку дарагой цаною, пазбяганне нявызначанасці, доўгатэрміновая арыентацыя на будучыню праз стратэгічнае мысленне. У ментальным самавыяўленні народа больш відавочнай робіцца адэкватная яму перадумова еўрапейскай культуры замест субкультурна падлеткавага стану талерантнай нявызначанасці. Асабістае быццё чалавека пачынаецца з канатыўнага (лац. *conative — валявы*) вызнання ўласнага выбару: «Будзь воля Твая як у на небе, так і на зямлі». Зямля «братоў маіх Русі» прагне, паводле Скарыны, пранікнення ў свой генезіс вечных каштоўнасцяў праз культурныя пласты, якія выклікаюць трансфармацыю асобы разам з захаваннем рэлігійнай традыцыі. Менавіта «старыя мяхі» (гл. Мц 9, 17) дапамагаюць народу адаптавацца да новай Еўропы. Гэтая супольнасць створана, па-першае, каталіцкаю культураю, па-другое, цывілізаваным універсітэтам, па-трэцяе, пратэстанцкаю індывідуальна-ліберальнаю эканомікаю.

Усім прыхільнікам Балонскага працэсу вядома гісторыя, па якой заснавальнікамі ўніверсітэта былі зямляцтвы, або выхадцы з адной мясцовасці, так званыя нацыі. Не кароль, не курфюрст, не Папа Рымскі, але менавіта ўніверсітэцкае юнацтва знаходзіцца ў аснове саматоеснасці шматнацыянальнай Еўропы. Мне могуць запярэчыць, што самая першая нацыя, габрэі, не навучалася ва ўніверсітэце! Але габрэйскім універсітэтам быў і застаецца ТаНаХ, або Тора, Небіім і Хетубім (Пяцікніжжа, Прарокі, Пісанні). Згадаем, што толькі Ізраэль карыстаецца Законам Майсея ў якасці дзяржаўнай Канстытуцыі. Біблія вызначыла назву габрэйскай нацыі: Народ Кнігі. Еўрапейскія нацыі, паводле генетычнага прадпісання, з'яўляюцца спадчынай аднаго з сыноў Ноя: «Хай распаўсюдзіць Бог Яфэта. І хай ён пражывае ў палатках Сэма» (гл. 4, Быц 9, 27), г. зн. увойдзе разам з габрэямі ў надзел Кнігі.

Універсітэцкая свабода бліжэй да ісціны, чым семінарская паслухмянасць. Ваяўнічы атэіст Славой Жыжак, пераасэнсоўваючы экзістэнцыяльны лозунг Ф.М.Дастаеўскага «Если Бога нет, то всё мне позволительно», абвяшчае яго сучасную інтэрпрэтацыю: «Калі Бог ёсць, дык усё мне дазволена». Праводзячы такім спосабам дэканструкцыю як праварадыкальнай, так і лявацкай, уласна, інфантыльна-антыхрыставай («я бог») эгасімптаматыкі, філосаф міжволі сцвярджае думку апостала Паўла: «Усё мне можна, але не ўсё карысна. Усё мне можна, але нічым не дам сябе зняволіць» (1 Кар 6, 12). Парадокс у тым,

што не праваслаўная сентэнцыя Фёдара Міхалыча, а лагічная філіроўка з атэістычнай іроніі Жыжака аказваецца больш тоеснай з высноваю Ізраэля: калі Бог ёсць любоў, дык улюбёнаму Давіду на вайне з Галіяфам можна ўсё: шпульнуць у злога камень з прашчы або, пры неабходнасці, і тамагаўк. «Вынішчэньне зла вызначана збытнай праўдай» (гл. 4, Іс 10, 21). І месцам справядлівага вынішчэння зла робіцца сам чалавек. У такі спосаб увараўскай трыядзе «самодержавие, православие, народность» існуе гегелеўская альтэрнатыва, якая разам са зняццем *(Aufhebung)* утварае гістарычны крок асабістага набыцця свабоды і незалежнасці. Пры дыялектычным паўторы гэтага кроку можна здабыць свабоднае ад правага ды левага ўхілу адмысловае прыняцце Творцы. Калі, як па Гегелю, тэза роду і антытэза вырадка разам складаюць сінтэз станаўлення, дык гэтым станаўленнем і ёсць Бог. Імя Бога Ізраэля праз інфінітыў дзеяслова з футурыстычнай інтэнцыяй יהוה спасцігаецца менавіта як дзеяслоў *«Быць. Станавіцца»* (гл. 4, Ян 8, 32), па Гегелю — *das Werden*, а па М. Лютэру — *"Ich werde, das Ich werde sein" («Я станаўлюся тым, што я буду»).*

Калі Імя Бога любові старанна абязлічваецца афіцыйнаю трыядаю, прывілея свабоды становіцца вытокам фармавання студэнцкай нацыі часоў Скарыны: "*Frei ist der bursch*", або «Бурш вольны!». Актуальнасць гэтай прывілеі ў тым, што студэнт вольны ў сваіх думках і самастойных рашэннях, не падначаленых чужым ацэнкам ды жаданням. Амаль праз 900 гадоў пасля Балоны як пачатку адукацыйнага працэсу паэт Эдуард Асадаў зрабіў «адкрыццё» для фізікаў ды лірыкаў 60-х: «Так пусть, пройдя моря и континенты, сухарь этнограф в атлас занесёт, мол есть такая нация — студенты — лихой, не унывающий народ». Дэвіз *"Universa universis patavina libertas"* («Генеральная свабода для ўсіх») стаў інкунабулай нацыянальнай ідэнтычнасці вечнага студэнта, які марыць аб свабодзе «братоў маіх Русі». Так звяртаецца да нас тлумач кнігі «Библия Руска, выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцка, Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Людзі паспалітыя адносілі сябе да полісу як справы народнай (пар. *Respublika*). Пры гэтай справе ўсе органы дзяржаўнай улады абіраліся на пэўны тэрмін і фармаваліся агульнанацыянальнымі прадстаўнічымі ўстановамі ВКЛ, выключаючы спадчынны ці іншы, не выбарны спосаб перадачы ўлады, а грамадзяне валодалі асабістымі і палітычнымі правамі. Толькі напрыканцы XVIII ст. людзі паспалітыя зрабіліся прыгоннымі сялянамі. Да Першага падзелу ВКЛ народ паспаліты, у адрозненне ад служылых казакоў, культурна ўпрыгожвае зямлю, на якой жыве. З гэтай эстэтычнай інтэнцыі, уласна, і пачынаецца Скарынаў пераклад 2-й страфы 1-га раздзелу Быцця. Звыклая для слыху сінадальная страфа «*Земля же была безвидна и пуста*» ў Скарыны пачынаецца пранікнёнымі словамі: «*Земля же бе неплодна і не украшенна*». Ад спустошанага «чарнобыльскага» пейзажу да захаплення прыгажосцю Зямлі —«*и виде Бог, яко добро*», ствараецца перспектыва яе плоданашэння разнастайным характвом народаў, значная частка якіх аж да гэтай пары скаваная, па ўласнай упартасці, ланцугамі злачынства.

Адна з цікавых і загадкавых біблейскіх гісторый — легенда пра Юзафа ды яго рознакаляровую вопратку. Разадраная і афарбаваная прадажнымі братамі крывёю ягняці (гл. 4, Быц 37, 33), яна сімвалізуе гісторыю барацьбы нацый за ўласную ідэнтычнасць праз уяўную смерць Месіі, яго кенозіс (гр. Κένωση — спусташэнне) і самапрыніжэнне аж да прыняцця постаці слугі (гл. Флп 2, 7). Але паўстанне ў цэласны вобраз славы народа Ізраэля не абыходзіцца без прыметніка «кашэрны» (ад іўр. כָּשֵׁר, «цэласны»), які з'яўляецца антонімам прыметніка «трэфны» (ад іўр. טְרֵפָה, «разадраны»). Адсюль становіцца больш зразумелым значэнне Ізраэля, народа Божага, ужо не разадранага на «Юдэя, язычніка, раба, вольнага, мужчын, жанчын», але цэльнага, як туніка Езуса (гл. Ян, 19, 23), патомства Абрагама і, паводле абяцання, спадкаемцы (гл. Гал 3, 29).

У постаці Скарыны мы бачым ментальнае прадстаўніцтва беларуса, схільнага да адасобленасці, адзінокага працаўніка, які прайшоў, як па трыядзе Сюрэна К'еркегарда, шлях мешчаніна ад эстэтыкі захаплення характвом сваёй зямлі, праз этыку сейбіта, да рэлігіі вызнаўцы Езуса Найсалодкага ў Акафісце пяра «лебядзінага», акраверш якога складае фразу: «*Делал доктор Скоринич Франціскус*». Мешчанін, набыўшы сілу італійскай медычнай навукі, на якой трымаецца еўрапейская цывілізацыя, ён не злоўжываў гэтаю сілаю праз ганаровую постаць магната. Упершыню ва ўсходнім славянскім свеце лекар Скарына звярнуўся да асобы, якая валодае ўласным здароўем па меры пазнання Божага вобраза. Уганараваны дыпломам бакалаўра праз курс «свабодных навук» Ягелонскага і вучонай ступенню доктара Падуанскага ўніверсітэтаў, Францішак Скарына атаясамлівае сябе, праз «слаўны горад Полацк», з народам паспалітым. Горад «слаўны» азначае цывілізаваны праз атрыманне магдэбургскага права ў 1498 годзе. Не будзе лішнім нагадаць, што ні Масква, «Трэці Рым», ні Пецярбург ніколі не валодалі такім правам. Жыхары гарадоў, якія атрымалі магдэбургскае права, вызваляліся ад феадальных павіннасцяў, ад суда і ўлады ваяводаў, старостаў і іншых

дзяржаўных чыноўнікаў, замест чаго ствараўся выбарны орган самакіравання — магістрат. І вось *baccalarius*, г. зн. «бедны і малады рыцар, уладальнік маёнтка без зямлі», але шчаслівы праз «спадчыну зямлі» (гл. Мц 5, 5), адноўленай аж праз дзясяткі пакаленняў, які, урэшце, навучаецца адрозніваць сябе ад іншых, як адрозніваць правую руку сваю ад левай (гл. Ён 4, 11).

На тле самаактуалізацыі асобы сучасны партрэт з умоўнай назваю «Скарына Піцерскі», працы мастака Нікаса Сафронава, можа паслужыць «кодам адсутнасці» саматоеснасці ў нашага сучасніка, які не ведае ўласнай гісторыі. Справа ў тым, што гэты партрэт у 2013 годзе знік з мастацкай галерэі Брэсцкай крэпасці, а ўзамен яго была выстаўлена карціна, на якой тым жа аўтарам намалявана «жанчына ў вобразе белай коткі» з таямнічым подпісам: «Ён вернецца». Каб уявіць сабе таго, хто мусіць вярнуцца, звернем увагу на метафару коткі, якая ў егіпцянаў асацыявалася з месяцам і прысвячалася багіням Ісідзе і Баст, г. зн. захавальніцам шлюбнага саюзу. Котка атаясамлялася з ноччу, пладавітасцю і весялосцю, таму жаночую істоту Баст і малявалі ў абліччы коткі. Часам яе лічылі жонкаю бога-творцы Птаха або атаясамлялі з маці неба Нут, у сувязі з чым Баст таксама набыла функцыі сонечнага Вока. Тут і паўстае ў памяці вядомы сігнет Францішка Скарыны, на якім выяўлена прамяністае Сонца анфас з прытуленым да яго тварам маладзіка ў профіль. Сімвал «Месяц сонечны» адпавядае фізічнаму здароўю, атрыманаму праз духоўнае: *orandum est ut sit mens sana in corpore sano*. Гэтае правіла Ювенала звычайна рэдукуецца «Пракруставым ложам», каб без уступнай малітвы *orandum* ды атрымаць адразу «ў здаровым целе здаровы дух».

Для антраполагаў і псіхолагаў міфічная сімволіка можа стацца надзвычай важнаю крыніцаю інфармацыі. Паводле З. Фрэйда, міф — той крок, з дапамогаю якога асобны індывід выходзіць з масавай псіхалогіі, што міжвольна пабуджае выказванні спантаннай самаацэнкі ў эмацыйным адлюстраванні рэчаіснасці. На думку Псіхааналітыка, міфы паўсталі як калектыўная фантазія, якая адлюстроўвае жаданні цэлых народаў. Механізм іх узнікнення той жа, што і пры комплексе выцясненне-замяшчэнне кампенсуючай мрояй. К. Юнг лічыў, што ў міфалагічных вобразах знаходзяць увасабленне падзеі псіхічнага жыцця. Падабенства міфалагічных сюжэтаў па ўсім свеце тлумачыцца дзеяннем архетыпаў, агульных псіхічных структураў калектыўнага несвядомага, якія адлюстроўваюць глыбінныя падструктуры асобы.

Напрыканцы свайго стогадовага жыцця стваральнік структурнай антрапалогіі Клод Леві-Строс сцвярджаў, што крызіс культурнай ідэнтыфікацыі стане бядою XXI стагоддзя, і прагназаваў пашырэнне праблемаў культурна-псіхалагічнага плану, які ўключае ў сябе не столькі ўсёабдымнае веданне і вопыт, колькі лінгвістычны здабытак і маральную годнасць: «Дваццаць першае стагоддзе або будзе гуманітарным, або яго не будзе нагогул». Структурная антрапалогія патрабуе разгляду культурна-міфалагічнай ідэнтыфікацыі не толькі як эстэтычна-эмацыйнай сувязі асобы з цывілізаваным светам, але як важнага механізму яе ўзаемадзеяння з культурным асяроддзем, валодаючым прадпісаннем рэлігійнай згуртаванасці: «Веры патрэбна культура, а культуры патрэбна вера» (св. папа Ян Павел ІІ).

Ф. Скарына ініцыятыўна надае свабодзе чын «мы», які ўключае становучыя сістэмныя ўяўленні «пра іншых» у культуры, мове, тэрыторыі пражывання, гістарычным мінулым, дзяржаўнасці: «*Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птицы, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рыбы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих*». Аднак той жа Скарына, як і кожная, без выключэння, цывілізаваная асоба, не змог пазбегнуць астракізму ў ганенні праз адмоўныя гетэрастэрэатыпы, непрыманні, ухіленні, пагарды да *persona odioso* ў сітуацыі цемрашальства. У 1525 годзе Францішак Скарына прадпрымае місіянерскае падарожжа ў Маскоўскае княства, адкуль яго не толькі выганяюць як ерэтыка, які асмеліўся дапоўніць «священное слово превыспренне щегольским злоумышленным заумствованием», але, у схізматычным свавольстве, публічна спальваюць на мяжы з ВКЛ малыя падарожныя кнігі, аб чым ёсць пісьмовае сведчанне ад 1552 года караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта ІІ Аўгуста да Альберта Крычке, свайго пасла пры папу Юлію ІІІ [5]. Асоба заўжды падуладная прэсінгу, у першую чаргу ад блізкіх людзей, ад радзімы, да якой святар наіўна далучаў і Масковію. Паказальна, што на працягу ўсяго XVI стагоддзя імя беларускага першадрукара было тут пад забаронаю.

Некалі адна з маіх былых парафіянак паўшчувала мяне такімі словамі: «Дзярэўню горадам ня зробіш». Пра лёс уніяцкага святара ва ўціску маскоўскіх царкоўных уладаў лепш прачытаць у кнізе Дзяніса Лісейчыкава [6], але яшчэ напярэдадні заключэння Берасцейскай Уніі становішча маскоўскага кліра не выглядала менш дэпрэсіўным. Дыякан Іван Фёдараў толькі пасля смерці быў узнесены на п’едэстал. У 1566 годзе, пацярпеўшы пераслед, ён, разам з Пятром Мсціслаўцам, мусіў пакінуць Маскву і вярнуцца ў ВКЛ. У пасляслоўі да львоўскага «Апостала» 1574 года ёсць запіс, што ў Маскве яму прыйшлося зведаць вельмі

моцную і частую азлобленасць ў адносінах да сябе не ад цара, а ад дзяржаўных і «свяшчэнных» начальнікаў, а таксама настаўнікаў, якія зайздросцілі яму, ненавідзелі яго, абвінавачвалі ў ерасях і хацелі знішчыць Божую справу кнігадруку.

Падначаленасць аўтарытэту — гэта балванахвальства. Фарысеі, пытаючы стражнікаў храма пра Езуса, заклікалі менавіта да падпарадкавання: «Хіба паверыў у Яго хто са старэйшын або з фарысеяў?» (Ян 7, 48). Веруючы начальнік — гэта нонсэнс. А хрысціянін, які лічыць сябе самога добрым настаўнікам, — гэта саманадзейны маргінал. Варлам Шаламаў, сын святара, прыдумаў, так бы мовіць, 11-ю пастанову: «Не вучы бліжняга свайго».

Лёс «Біблії Рускай...» ёсць адлюстраваннем рэчаіснасці, акружанай усялякімі начальніцкімі агаворкамі. Грамадства ўмацоўваецца толькі праз дзяржаўную санкцыю сілы, у тым ліку сілы ведаў, манапалізаваных гэтак, што напачатку яна станоўча ахоплівае ўсіх сваіх чальцоў і дабрачынцаў. Затым справа адукацыі і асветы раптам бурыцца і падае ў тым самым выглядзе, у якім яшчэ незадоўга перад тым ухвалялася і заахвочвалася ўладамі. Падобная ненатуральная дзея адбылася і з ужо гатовым да друку дзесяцітысячным накладам першага тома Святога Пісання на рускай мове, які так і не ўбачыў свет. Напрыканцы 1825 г. яго асобнікі былі спаленыя на цагляным заводзе Аляксандра-Неўскай лаўры. Гэтым завяршылася праца Расійскага Біблейскага таварыства (РБТ) па перакладзе і выданні рускай Біблії. Астатнія кнігі Старога Запавету, пераклады якіх паспелі зрабіць у рамках праграмы РБТ, у друк ужо не пайшлі. Крызіс у справе рускага перакладу быў пераадолены толькі ў 1856 г., калі, дзякуючы настойлівасці Мітрапаліта Маскоўскага Філарэта Драздова і яго аднадумцаў, на працягу царавання Аляксандра II было вынесена афіцыйнае сінадальнае рашэнне аб аднаўленні рускага перакладу Святога Пісання. Першае поўнае выданне рускай Біблії ў Сінадальным перакладзе выйшла толькі ў 1876 годзе, але было ўжо позна, каб асветаю і культураю папярэдзіць навалу камуністычнага мадэрнізму, што адкрываў беззаконнага чалавека, сына згубы, «які будзе працівіцца і ўзвышацца над усім, што называецца Божым і годным пашаны, так што ў святыні Божай засядзе, выдаючы сябе за Бога» (2 Тэс 2, 4).

І ўсё ж не меншую небяспеку, чым мадэрнізм, мае комплекс, калі не сказаць «свінакомплекс», у духу «сучаснага пасціш у» (фр. *pastiche*) — гэта монстр праваслаўнага атэізму. Так, губернатар Вадзім Патомскі ў сваім выступленні на ўстаноўцы ў Арле помніка Івану Грознаму агучыў дзяржаўна-арцельную «скрепу», па якой цар, як высветлілася, зусім не забіваў сына, а проста «своечасова не аддаў яго лекарам». Потым, дадаўшы ад сябе, начальнік паведаміў «зразумелыя» кожнаму беларусу словы: «у дарозе сын Грознага захварэў, калі яны ехалі з Масквы ў Пецярбург» (інтэрнэт-партал istoki.tv, 2016/07/21). Храм непазбежна становіцца месцам аселасці маргінала, выбранага атэістычна-праваслаўным насельніцтвам, бо ніякае іншае насельніцтва не дойдзе да такой ступені «арцельнай» несвядомасці.

Расійскае слова «артель» паходзіць ад цюркскага «орта» («арда», «сярэдзіна») і ўжываецца ў тым жа сэнсе, што і «род», «рот», «ртиться», г. зн. прысягаць, у першую чаргу — «царю батюшке». Для параўнання згадаем, што беларускае слова «талака» (пар. англ. *Talking* — той, хто прамаўляе) азначае суполку, малую сацыяльную групу, уласна, сям'ю, з'яднаную эмацыянальнымі міжасобаснымі зносінамі, не воляю правадыра, але паводле абяцанага слова ў выкананні сумеснай культурніцкай і прафесійнай дзейнасці, што патрабуе асабістай адказнасці перад супольнасцю, зацікаўленай як у зборы ўраджаю, высечцы лесу, так і ў збудаванні дома, храма.

Аўтар гіпотэзы «культурнага прарыву» ў заходняй мадэлі этнічнай ідэнтыфікацыі Рональд Інглгарт (R. Inglehart, ЗША) прыводзіць тэзіс, паводле якога высокая ступень адукацыі і прафесійнай кваліфікацыі суправаджаецца схільнасцю да постматэрыялістычных каштоўнасцяў, значная доля якіх прыпадае на сацыяльна-псіхалагічны статус бацькі альбо яго эгрэгара. Эгрэгар (ад грэч. ἐγρήγορος «хто чувае, бадзёры, не спіць, выдатны, знакаміты»; пар. польск. *grzeczny*) — у постматэрыялістычных рухах душа рэчы, анёл, «ментальны кандэнсат», спароджаны думкамі і эмоцыямі людзей, якія маюць самастойнае быццё. Вядома, Францішак Скарына — не помнік праведнасці, бо не «зусім белы і пухнаты», мяркуючы па «крадзяжы» нямецкіх спецыялістаў друкара і юдэя-лекара, што стала прычынаю крыўды герцага Альбрэхта Гальдштольда, які 26 мая 1530 года ў лісце да ваяводы віленскага запатрабаваў вяртання людзей. Гэты выпадак лакалізуе, дарэчы, ментальную адпаведнасць эгрэгара беларусаў, схільных да дробных авантураў дзеля важнай справы. Францішак Скарына не артадокс <...>, але менавіта эгрэгар нацыі. З гэтым тэрмінам звязана анаматалагічнае (ад грэц. *onoma* — імя) непаразуменне з біяграфіяй першадрукара. Так, надпіс на помніку ў Полацку абвяшчае: «Георгій Францыск Скарына». Упершыню гэтае імя пачалі ўжываць у другой палове XIX ст. пасля апублікавання ў 1858 г. копіі дзвюх граматаў караля Жыгімонта I на лацінскай мове. Памылка прачытання паслужыла падставаю некаторым даследчыкам лічыць,

што сапраўдным іменем Скарыны было праваслаўнае Георгій. І толькі ў 1995 г. беларускі гісторык і кнігазнаўца Георгій Галенчанка знайшоў арыгінальны тэкст прывілею караля Жыгімонта, у якім вядомы фрагмент быў выкладзены наступным чынам: *«egregium Francisci Scorina de Poloczko artium et medicine doctoris»*. Пасля выкрыцця фальсіфікацыі перапісчыка спрэчкі вакол імя першадрукара, якія вяліся на працягу стагоддзя, спыніліся [5].

Адчужэнне імя эгрэгара нацыі было наканаваным рэальнаю траўмаю безбацькоўства, дакладней, безайцоўства праваслаўна-атэістычнага насельніцтва. Неўратычная абыякавасць праз «спіраль маўклівасці» (Э. Ноэль-Нойман) садзейнічала выгнанню імя Францішка з цэнтра сталіцы аж на Старабарысаўскі тракт, «распутье» Масквы і Піцера, адпаведна культурашоку, згодна з якім «он жил и творил там». Жывое імя асобы было замененае помнікам Першадрукару працы скульптара Алеся Дранца «на ростанях» Нацыянальнай бібліятэкі з лапідарнай і таму ўжо бяспечнай для філісцера «Падарожнай Бібліяй». У праціборстве інтэлігента і філісцера перамагае апошні, г. зн. Галіяф. Рэальнае месца эгрэгара нацыі было вызвалена для віртуальнага «віцязя».

Ментальны фактар падзелу фігуры Скарыны паміж гісторыяй і актуальнасцю пераконвае нас у сялянскім неразуменні праваслаўнай версіі імя «Георгій» (ад грэч. *Γεώργιος* — земляроб) на тле ліберальнай інтэнцыі «слаўнага горада» Францішка (ад лац. *Franciscus* — свабодны). Імя, у якасці маркера канфесійнага менталітэту нацыі, азначае каласаўскі стан юнака «на ростанях» (лац. *discurro*), блуканне віцязя па пакутах. Як асіметрычнае пачуцце *Enten-eller* паводле С. К'еркегарда, так лёс беларуса — «або-або», матывуе асабісты выбар: або застацца, або ўсё ж такі знайсці выйсце з выраджанай «большой деревни» да «новага Ерузалема, які сыходзіць ад Бога з неба, падрыхтаванага, быццам нявеста, прыбраная для свайго жаніха» (гл. Ап 21, 2).



«Малая падарожная кніжыца»,
надрукаваная Ф. Скарынам у Вільні ў 1522 г.

Асабісты шлях сучаснага беларуса сёння ў чымсьці паўтарае шлях славутага літвіна ад Сярэднявечча да Асветы. Толькі для Скарыны ён распасціраецца праз кнігадрук, а для кожнага з нас — праз больш даступны спосаб інтэрнэту. «Спіраль маўклівасці» мае ўладу над грамадскасцю толькі абмежаваны час. Па іроніі лёсу Чарнобыльскі шлях 26 красавіка 2016 года быў пазначаны канфесійным дыскурсам: з аднаго боку, у артыкуле знакамітага гісторыка, з другога боку — у электроннай публікацыі невядомага псіхолага на Рэспубліканскім вэбінары, прысвечаным 500-годдзю «Бібліі Рускай...» [7]. Гэтая апошняя падзея адбылася ў Інстытуце псіхалогіі, які размешчаны акурат па вуліцы Францыска Скарыны, 13. Дыскурс, як перасоўванне з вёскі ў горад, накшталт шэсця па Егіпецкай пустыні, спаўняецца запаветнаю мэтаю «Зямлі абяцанай», бо *«люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають»*. Францішак вяртаецца малою падарожнаю кніжыцаю ад Нацыянальнай бібліятэкі вялікім праспектам па гарадскім маршруце «Усход» (гл. Лк 1, 78) — «Плошча Незалежнасці».

**Выкарыстаная літаратура**


1. Пашкевіч, А. В. «Нашай» верай было не толькі ўніяцтва [Electronic resource]. – Mode of access : http://nn.by/?c=ar&i=189711.
2. Маліноўскі, Я. Л. Тэапсіхалогія / Я. Л. Маліноўскі. – Баранавічы : БарДУ, 2012. – 473 с.
3. Иоанн Павел II.Ut Unum Sint. Энциклика / Католическая энциклопедия: в 5 т. Т.5. – Москва: Изд. францисканцев, 2013. — С. 895—896.
4. Біблія. Кнігі Святога Пісання Старога і Новага Запаветаў / пер. У. Чарняўскага – Мінск : Біблейскае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь, 2012.
5. Галенчанка, Г. Заблудаўская друкарня // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя: у 3 т. Т. 1: Абаленскі – Кадэнцыя / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд. і інш.). – Мінск : БелЭн, 2006. — 684 с.
6. Лісейчыкаў, Дз. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596–1839 гг. / Дзяніс Лісейчыкаў; Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. – Мінск : Беларусь, 2015. – 717 с.
7. Республиканский веб-семинар «Истоки формирования психологической культуры (к 500-летию первого печатного издания Франциска Скорины)» [Electronic resource]. – Mode of access : http://video.bspu.by/index.php/vebinary.




«Новы Запавет». Выданне Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, 2017 г.

Марына Пашук

# Беларускія пераклады Святога Пісання ў перыяд з 1926 па 2017 гг.

Значнай падзеяй у гісторыі кожнага народа з'яўляецца выданне Бібліі на роднай мове. Некаторыя народы ганарацца тым, што маюць шмат перакладаў Святога Пісання на сваёй мове, асабліва ганарацца старажытнымі перакладамі, бо лічаць іх вялікім скарбам і каштоўнай спадчынай. Беларусы таксама могуць ганарыцца як старажытнымі перакладамі Бібліі, так і яе шматлікімі перакладамі на родную мову, здзейсненымі ў XX і на пачатку XXI стагоддзя.

У гэтым годзе мы святкавалі вялікі юбілей — 500-годдзе першай друкаванай кнігі ўсходніх славянаў, якой была менавіта Біблія на старабеларускай мове, званая Бібліяй Францішка Скарыны. Пасля яе выдання, а таксама пасля выдання на царкоўнаславянскай і старабеларускай мовах Евангелляў паводле Мацвея, Марка і пачатку Евангелля паводле Лукі ў перакладзе пратэстанта Васіля Цяпінскага ў 70-я гг. XVI ст., справа біблійных перакладаў на беларускую мову, у сувязі з рознымі гістарычнымі падзеямі, спынілася амаль на чатырыста гадоў. Пачаткам новых выданняў Бібліі на беларускай мове становіцца 1926 г., калі пратэстанцкі пастар Лукаш Дзекуць-Малей у супрацоўніцтве са знаўцам грэцкай мовы, католікам і пазней пратэстантам Антонам Луцкевічам у выдавецтве «Компас» у Лодзі (Польшча) па чарзе пачынае выдаваць перакладзеныя на беларускую мову Евангеллі. Плёнам гэтай сумеснай працы стала выданне ў 1931 г. у Хельсінках усяго Новага Запавету разам з Кнігай Псальмаў. З таго часу па сённяшні дзень на Беларусі з'явілася больш за 20 біблійных перакладаў: ананімных, аўтарскіх і калектыўных, поўных і паасобных кніг, а таксама біблійных фрагментаў. Сярод іх вылучаюцца 17 найбольш значных і поўных перакладаў. Да іх адносяцца тры пераклады Бібліі (Старога і Новага Запавету) на беларускую мову: пратэстантаў Яна Станкевіча і Майсея Гітліна (1973); пісьменніка Васіля Сёмухі (2002) і кс. Уладзіслава Чарняўскага пад рэдакцыяй Жанны Некрашэвіч-Кароткай (2012). У гэтым годзе Біблійнае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь узнавіла гэтае выданне, выкрэсліваючы, на жаль, прозвішчы кс. У. Чарняўскага, на падставе

**Марына Пашук** – доктар біблійнай тэалогіі, супрацоўніца Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ. Выкладчык Святога Пісання (Стары Запавет) Мінскага тэалагічнага каледжа імя св. Яна Хрысціцеля. Закончыла філалагічны факультэт БДУ (1993), Акадэмію каталіцкай тэалогіі ў Варшаве (1998) і Універсітэт кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве (2016).

рукапісаў якога былі зроблены папярэднія выданні, а таксама Таццяны Федасеевай, якая звярала тэкст папярэдніх выданняў на адпаведнасць лацінскаму арыгіналу, і пастара Антонія Бокуна, які рабіў літаратурную апрацоўку тэксту.

З поўных перакладаў Новага Запавету пасля Лукаша Дзекуця-Малея асобна былі выдадзеныя яшчэ чатыры пераклады: пісьменніка Анатоля Клышкі (2014); Новы Запавет з Кнігай Прыпавесцяў пратэстанцкага пастара Антонія Бокуна (2016); пераклад Біблійнай Камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы (2017) і Секцыі па перакладзе пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі (2017).

Акрамя поўных, ёсць таксама два няпоўныя пераклады Новага Запавету: афіцыйна выдадзеныя Каталіцкім Касцёлам пераклады 4-х Евангелляў разам з Дзеямі Апосталаў кс. Вінцэнта Гадлеўскага (Вільня, 1939) і пераклады 4-х Евангелляў і Дзеяў Апосталаў (Рым, 1954), а таксама Лістоў св. Апосталаў (Рым, 1974) кс. Пятра Татарыновіча.

Сярод выдадзеных паасобных кніг Новага Запавету трэба згадаць пераклад Евангелля паводле Яна пратэстанцкага прапаведніка Яна Пятроўскага (1991) і пераклад Евангелляў паводле Мацвея і Марка (Мічыган, 1998) Міхася Міцкевіча, брата Якуба Коласа.

Такім чынам, у гісторыі Каталіцкага Касцёла на Беларусі выданне «Новага Запавету» (2017) з'яўляецца *першым* поўным выданнем, *трэцім* афіцыйным (г. зн. зацверджаным) выданнем біблійных тэкстаў на беларускай мове (пасля перакладаў кс. В. Гадлеўскага і кс. П. Татарыновіча) і *чацвёртым*, са зробленых каталікамі, перакладам, пасля перакладу кс. У. Чарняўскага, упершыню выдадзенага ў 1999 годзе.

З фрагментарных біблійных перакладаў найбольшую вартасць маюць г. зв. Лекцыянарыі — падрыхтаваныя прынагодныя літургічныя чытанні, якія выдалі кс. Адам Станкевіч — «Божае слова на нядзелі і святы», а таксама «Лекцыі і Евангеллі на нядзелі і святы» (Вільня, 1938); архімандрыт Мікалай Мацукевіч — «Напрастольнае Евангелле» (1988); Біблійная Камісія Беларускай Праваслаўнай Царквы — «Святое Евангелле» (2007); Секцыя па перакладзе пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі — Лекцыянарый у 6-ці тамах (2002–2005).

Са Старога Запавету асобнай кнігай у 2016 г. у Мінску выйшаў пераклад з Сэптуагінты Кнігі Псальмаў святара Грэка-каталіцкай Царквы Аляксандра Надсана. Іншыя пераклады паасобных кніг Старога Запавету, зробленыя ў Нямеччыне ў 40–50-х гг. XX ст. Леанідам Галяком і Вітаўтам Тумашам, існуюць толькі ў машынапісным варыянце.

На працягу амаль стагоддзя ў Беларусі і па-за яе межамі — у Рыме, у Нямеччыне, Вялікабрытаніі, ЗША і Канадзе — інтэнсіўна ствараліся біблійныя пераклады. Выдаваліся яны не толькі кірыліцай, але таксама лацінкай, што з'яўляецца сведчаннем розных пошукаў і імкненняў перакладчыкаў да пэўнай рэлігійнай і нацыянальнай адметнасці. Прыкладам такіх выданняў могуць служыць пераклады каталіцкіх святароў В. Гадлеўскага, А. Станкевіча, П. Татарыновіча і паэтычныя пераклады псальмаў кс. Я. Германовіча.

Характэрнай рысай беларускіх біблійных перакладаў з'яўляецца тое, што гэта пераважна аўтарскія пераклады, здзейсненыя свецкімі і духоўнымі асобамі. Калектыўныя пераклады здзяйсняюць толькі Секцыя па перакладзе пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі і Біблійная Камісія Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Адметнай рысай беларускіх біблійных перакладаў з'яўляецца таксама канфесійнасць. Розныя хрысціянскія вызнанні рыхтуюць свае пераклады Бібліі, паколькі маюць свой падыход да перакладу, сваю тэрміналогію і рэлігійную лексіку.

Геаграфічна плямёны ўсходніх славянаў знаходзіліся паміж двума полюсамі культурнага ўздзеяння — Бізантыяй і Рымам. Беларусь на працягу амаль усёй сваёй гісторыі з'яўлялася і з'яўляецца шматканфесійным грамадствам, у склад якога ўваходзяць каталікі, праваслаўныя, уніяты і пратэстанты, што вядзе да ўзаемнага ўплыву розных культурна-рэлігійных традыцый, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў тэанімічнай лексіцы. Да сённяшняга дня для азначэння Бога адначасова выкарыстоўваюцца 4 лексічныя адзінкі: *Пан*; *Спадар*, *Госпад* і *Гасподзь*; для азначэння Езуса таксама існуюць 4 варыянты: *Езус*, *Ісус, Ізус* і *Іісус*; для азначэння супольнасці веравызнаўцаў ёсць паняцці *Касцёл* (*Каталіцкі*) і *Царква (Праваслаўная, Уніяцкая, Пратэстанцкая)*.

З даследавання працэсу фарміравання розных перакладчыцкіх падыходаў да біблійнага тэксту, а таксама з лексікальнай варыянтыўнасці перакладаў вынікае, што на Беларусі існуюць дзве моцныя перакладчыцкія традыцыі — *Slavia Latina* і *Slavia Ortodoxa* (заходняя і ўсходняя). Прыхільнікі заходняй традыцыі аддаюць перавагу запазычанням з лацінскай мовы, напр., *Галгота* замест *Галгофа*, *блюзнерства* замест *хула*, а прыхільнікі ўсходняй традыцыі аддаюць перавагу лексіцы старацаркоўнаславянскага і грэцкага паходжання, напр., *ладан* замест *кадзіла*, *архірэй* замест *першасвятар*.

З існаваннем гэтых дзвюх перакладчыцкіх традыцый, галоўнымі прадстаўнікамі якіх на Беларусі з'яўляюцца Каталіцкі Касцёл і Праваслаўная Царква, звязаны не толькі выбар адпаведнай лексікі, але і колькасці кніг у каноне, іх парадак і назвы, а перадусім выбар крыніцы перакладу. Для тых, хто ідзе за традыцыяй *Slavia Ortodoxa*, асноўнай крыніцай для перакладу Старога Запавету застаецца *Septu-*

*aginta*, для Новага Запавету — *Textus Receptus* і ў некаторых выпадках крытычныя выданні грэцкага тэксту. Аднак узорам заўсёды застаецца ў першую чаргу царкоўнаславянскі пераклад з максімальным набліжэннем да рускага Сінадальнага перакладу, пра што сведчыць выкарыстанне адмысловай лексікі (пар. *ангел, адкравенне, благадаць, блажэнны, свяшчэннае, свяшчэннік, першасвяшчэннік, прастол*).

Для католікаў, як прыхільнікаў *Slavia Latina*, сёння крыніцай перакладу з'яўляюцца *Biblia Hebraica Stuttgartensia* (для протакананічных кніг Старога Запавету), *Сэптуагінта* (для дэутэракананічных кніг Старога Запавету), крытычныя выданні грэцкага тэксту Новага Запавету, г. зв. выданні Нэстле-Аланда, лацінскі тэкст, а менавіта *Сікстынска-Клементынская Вульгата*, а таксама крытычнае выданне *Вульгаты* Геранімa. Пры гэтым перакладчыкі выкарыстоўваюць сучасную беларускую лексіку і імкнуцца да таго, каб у перакладах было як найменш архаізмаў і царкоўнаславянізмаў.

З прыналежнасці да пэўнай традыцыі перакладу (г. зв. заходняй — *Slavia Latina* ці ўсходняй — *Slavia Ortodoxa*) вынікаюць матывы выбару крыніцы перакладу, спосабу і стылю, а таксама адпаведнай лексікі пры перакладзе. У згаданых вышэй біблійных выданнях прасочваецца эвалюцыя сакральнай лексікі, намаганні перакладчыкаў ствараць лексічную базу новай спецыялізаванай мовы і новага моўнага стылю — біблійнага.

Значную ролю ў фарміраванні не толькі рэлігійнай лексікі, але і пэўнага біблійнага стылю на Беларусі мае Каталіцкі Касцёл, аб чым сведчыць ахвярная праца яго святароў: В. Гадлеўскага, Я. Германовіча, А. Станкевіча, П. Татарыновіча, У. Чарняўскага, а таксама шматгадовая і плённая праца Секцыі па перакладзе пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, прыкладам чаго з'яўляецца выданне ўсіх літургічных кніг, Літургіі гадзінаў, 4-х Евангелляў (2012), якія былі прадстаўленыя Святому Айцу Бэнэдыкту XVI, а таксама ўсяго «Новага Запавету» (2017).

З прычыны выбару розных крыніц перакладу, а таксама з-за неаднастайнага і ненавуковага падыходу да перакладу біблійных тэкстаў большасці перакладчыкаў цяжка гаварыць пра іх адпаведнасць арыгінальным тэкстам. З прадстаўленых 17-ці перакладаў толькі ў сямі ва ўступах указаная крыніца перакладу: для кс. В. Гадлеўскага гэта была *Вульгата* (грэцкі тэкст толькі тады, калі лацінскі тэкст быў недастаткова ясны); для кс. П. Татарыновіча — *грэцка-лацінскі* тэкст Новага Запавету ў апрацоўцы прафесара Папскага Біблійнага Інстытута А. Аўгустына Мэрка TJ (1944 г.); для Секцыі па перакладзе пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі — 27-е і 28-е крытычныя выданні Нэстле-Аланда *(NA[27, 28])*; для Біблійнай Камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы — *Textus Receptus*; для кс. У. Чарняўскага — *Новая Вульгата*; для пастара А. Бокуна — *Textus Receptus* (для Новага Запавету) і выданне Кука (для Кнігі Прыпавесцяў); для а. А. Надсана — *Сэптуагінта*. Астатнія перакладчыкі не называюць зыходныя тэксты сваіх перакладаў, акрамя заўвагі кшталту «з арыгінальных моў», «са старагабрэйскай і старагрэцкай мовы» або ўвогуле без ніякіх тлумачэнняў. Толькі ў некаторых артыкулах і інтэрв'ю, змешчаных на старонках газет ці часопісаў, перакладчык мімаходзь кажа, якія тэксты былі для яго крыніцай перакладу, напрыклад, для В. Сёмухі гэта была руская Сінадальная Біблія, а для А. Клышкі рускі пераклад біскупа Касьяна Безабразава і невядомы грэцкі тэкст, атрыманы ад пастара Эрнста Сабілы.

Каб прасачыць залежнасць ад традыцыі перакладу і адпаведнасць арыгінальным тэкстам, параўнаем фрагменты некаторых перакладаў. Пра ўплыў перакладчыцкай і рукапіснай традыцыі на перакладчыкаў сведчыць перадача на беларускай мове некаторых уласных назваў, напрыклад, назвы райскага саду *Эдэм / Эдэн* (габр. עֵדֶן [`ëᵒden], гр. Εδεμ). З'яўленне зычнага «*м*» (гр. μ) на канцы слова *Эдэм* у перакладзе Я. Станкевіча і М. Гітліна, якія перакладалі тэкст з габрэйскай мовы, пра што ёсць згадка ў падтытуле, цяжка растлумачыць інакш, як толькі ўплывам Сэптуагінты і царкоўнаслявянскай рукапіснай традыцыі (пар. Быц 2,10):

וְנָהָר֙ יֹצֵ֣א מֵעֵ֔דֶן לְהַשְׁק֖וֹת אֶת־הַגָּ֑ן (BHS)

Et fluvius egrediebatur ex *Eden* ad irrigandum paradisum (NVg).

І рака выцякала з *Эдэна* для абваднення раю (NK).

З *Эдэну* выцякала рака для наваднянньня раю (Cz-R).

З *Эдэну* выцякала рака для абваднянньня раю (Cz-P).

ποταμὸς δὲ ἐκπορεύεται ἐξ Εδεμ ποτίζειν τὸν παράδεισον (LXX).

І рака выходзіла з *Эдэму* дзеля наваднення саду (JSt).

З *Эдэма* выплывала рака на арашэнне раю (Sch).

Той самы ўплыў можна прасачыць у перакладзе В. Сёмухі. Прыхільнікі заходняй традыцыі пакідаюць на канцы слова зычную «н» згодна з габрэйскім тэкстам (габр. נ [n] — «нун»), што можа ўказваць на паходжанне слова ад заходнесеміцкага кораня עדן [ʿēḏen], які выкарыстоўваецца для азначэння раскошы, празмернасці багацця, прыемнасці.

Уплыў традыцый перакладу бачны ў перакладзе ўласных імёнаў і назваў з тэафарычным элементам — *эль* (габр. אֵל [ʾēl]): *Ізраіль, Эмануіл* замест *Ізраэль, Эмануэль*, хоць ёсць супольнае для ўсіх




«Чатыры Евангеллі і Апостальскія дзеі», пер. кс. В. Гадлеўскага, 1939 г.




«Святое Евангелле і Апостальскія дзеі», пер. кс. П. Татарыновіча, 1954 г.



«Святое Евангелле». Выданне Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, 2012 г.

перакладчыкаў слова *Бэтэль* — «дом Бога» з захаваннем гэтага тэафарычнага элемента (напрыклад, Быц 28,19).

У беларускіх перакладах можна заўважыць таксама тэндэнцыю калькавання і асіміляцыі словаў старацаркоўнаславянскага паходжання і ўплыў заходніх тэкстаў, што выразна бачна ў перакладзе, напрыклад, грэцкага слова χιτών. Прыхільнікі ўсходняй традыцыі пакідаюць грэцызм *хітон*, а прыхільнікі заходняй традыцыі выкарыстоўваюць лацінскі адпаведнік *tunica* (пар. Ян 19,23):

Erat autem *tunica* inconsutilis, desuper contexta per totum (Vg[c]).

erat autem *tunica* inconsutilis desuper contexta per totum (Vg[st]).

Erat autem *tunica* inconsutilis, desuper contexta per totum (NVg).

A *tunika* była nia šytaja, tolki ŭsia ad vierchu tkanaja (Tat).

была ж *туніка* ня сшытая, цэлая вытканая із самага верху (JSt).

А *туніка* была не шытая, але ўся тканая зверху ўніз (NK).

*Туніка* была не шытая, уся ад верху тканая (Sk).

ἦν δὲ ὁ χιτὼν ἄραφος, ἐκ τῶν ἄνωθεν ὑφαντὸς δι᾽ ὅλου (NA).

*хітон* жа быў ня шыты, але ўвесь вытканы ад верху (DzM).

*хітон*-жа быў ня шыты, але ўвесь вытканы ад верху (JP).

быў жа *хітон* ня сшыты, цэлы вытканы з самага верху (Mac).

Быў жа *хітон* не шыты, а тканы суцэльна ад самага верху (Kł).

а *хітон* быў не пашыты, а ўвесь тканы зьверху (Sch).

*хітон* жа быў не шыты, а суцэльна тканы ад верху (KB).

У беларускіх перакладах здараюцца частыя дадаткі або пропуск словаў і нават сказаў, што таксама сведчыць аб прыхільнасці да пэўнай перакладчыцкай традыцыі ці аб памылках перакладчыкаў. Напрыклад, у большасці перакладаў Мк 3,15 ёсць дадатак пад уплывам *Textus Receptus*: [*улада аздараўляць немачы*] *і выганяць дэманаў*, якога няма ў крытычным тэксце NA, а таксама ў самым новым крытычным выданні Новага Запавету, падрыхтаваным вучэбным цэнтрам «Ціндэйл-Хаўс» у Кембрыджы — GNT.

І наадварот, па невядомых прычынах толькі Л. Дзекуць-Малей у тэксце Мц 3,10 прапускае прыметнік *добры*, які ёсць ва ўсіх іншых перакладах:

кожнае дрэва, якое не дае *плоду*, ссякаюць і кідаюць у агонь (DzM).

πᾶν οὖν δένδρον μὴ ποιοῦν καρπὸν καλὸν ἐκκόπτεται καὶ εἰς πῦρ βάλλεται (NA).

Таму кожнае дрэва, якое не дае *добрага плоду*, будзе ссечана і кінута ў агонь (Sk).

Цэлы сказ прапускае В. Сёмуха пры перакладзе Лк 6,32: *бо і грэшнікі любяць тых, хто іх любіць*, захаваны ва ўсіх іншых тэкстах.

Парушэнне зместу выказвання з прычыны неразумення або памылковага прачытання зы-

ходнага тэксту ёсць, напрыклад, у В. Сёмухі пры перакладзе 1 Вал 19,19, дзе ён замест дзеяслова *араў* (у Сінадальным перакладзе царкоўнаславянскае *орал* ужыта ў значэнні *пахал*) выкарыстоўвае дзеяслоў *крычаў*:

І пайшоў ён адтуль і знайшоў Елісея, сына Сафатанавага, калі ён *крычаў* (Sch).

וַיֵּ֣לֶךְ מִשָּׁ֗ם וַיִּמְצָ֞א אֶת־אֱלִישָׁ֤ע בֶּן־שָׁפָט֙ וְה֣וּא **חֹרֵ֔שׁ** (BHS)

Дык, пайшоўшы адтуль, Ілля знайшоў Элісея, сына Сафата, які *араў* (NK).

І пайшоў ён стуль, і знайшоў Елісэя Шафацёнка, а ён *араў* (JSt).

З-за складанасцяў у распрацоўцы рэлігійнай тэрміналогіі ўсе перакладчыкі сутыкаюцца з вялікімі цяжкасцямі пры выбары адпаведнага транслята, напрыклад, для назвы свята Шатроў (Ян 7,2): адны называюць яго свята *Буданоў*, *Будак*, *Кучак, кушчаў*, другія — свята *Палатак*, *Шатроў*, *Табэрнакаў*.

Бачны таксама разыходжанні і недакладнасці ў перадачы пры дапамозе беларускай мовы розных паняццяў, якія належаць да рэлігійнай сферы і гістарычных з'яваў: напрыклад, *мілата* замест *ласка*; *міліцыя* замест *жаўнеры*.

Падсумоўваючы, можна сказаць, што ў сваёй перакладчыцкай працы амаль усе аўтары, у большай ці меншай ступені, трымаюцца лексікі і перакладчыцкай традыцыі сваёй канфесіі, таму на Беларусі застаюцца папулярнымі канфесійныя пераклады. Аднак гэта не выключае магчымасці стварэння з часам міжканфесійных перакладаў на падставе ўжо існуючых уласных перакладаў.

Паколькі мова знаходзіцца ў пастаянным развіцці — узбагачаецца яе лексіка, змяняецца кантэкст успрыняцця біблійнага зместу — працэс перакладу Бібліі і даследаванне біблійных перакладаў будзе працягвацца. Хочацца толькі пажадаць, каб біблійныя пераклады заставаліся не толькі правільнымі, але і неслі людзям Божае слова на годнай і зразумелай мове.

Рыма-каталіцкі Касцёл у Беларусі таксама актыўна далучаецца да гэтай справы. 25 лістапада 2017 г. ён з радасцю прадставіў першае поўнае і афіцыйнае выданне Новага Запавету на беларускай мове, для перакладу якога з арыгінальнай мовы паслужылі 27-е і 28-е крытычныя выданні Нэстле-Аланда (*Nestle-Aland*).

Новы Запавет з'яўляецца часткаю хрысціянскай Бібліі, у якой пададзена вучэнне Езуса Хрыста, Божага Сына і нашага Збаўцы, а таксама пераказ Яго вучэння і асэнсаванне вялікай Пасхальнай таямніцы: мукі, смерці і ўваскрасення Езуса боганатхнёнымі аўтарамі. Новы Запавет складаецца з 27-мі кніг, сярод якіх галоўнае месца займаюць чатыры Евангеллі.

У каталіцкім выданні «Новага Запавету» перад кожнай з кніг, а таксама перад групай тэкстаў — Евангеллямі, пасланнямі св. Паўла і каталіцкімі пасланнямі — змешчаныя ўводзіны, дзе апісаны акалічнасці і прыкладны час напісання кніг, а таксама іх галоўная тэалагічная думка. Акрамя ўводзінаў, паводле каталіцкай традыцыі, у біблійным тэксце ёсць падзагалоўкі, узятыя ў асноўным з папулярнага французскага каталіцкага перакладу «*La Bible de Jérusalem*» (Paris, 2011), якія дапамагаюць арыентавацца ў змесце кожнай з кніг Новага Запавету.

Адметнасцю гэтага выдання з'яўляецца дадатак, у якім знаходзяцца карты, якія знаёмяць з геаграфіяй тагачаснага свету, біблійны слоўнік, а таксама храналагічная табліца падзеяў, звязаных з гісторыяй збаўлення і агульнай гісторыяй чалавецтва.

Спадзяемся, што гэта шматгадовая праца Рыма-каталіцкага Касцёла, якая з'яўляецца першым этапам афіцыйнага каталіцкага перакладу Бібліі на сучасную беларускую мову, прынясе духоўную карысць вернікам, а чытанне Божага слова на роднай мове паспрыяе ўзрастанню веры.

**Спіс скарачэнняў:**

BHS *Biblia Hebraica Stuttgartensia*, ed. K. Elliger and W. Rudolph. — Stuttgart, 1997$^{5}$.
Cz-P *Біблія. Пяцікніжжа*, пер. з лац. У. Чарняўскага, пад рэд. С. Акіньчыца. — Менск, 2002.
Cz-R *Біблія. Кніга Роду*, пер. а. У. Чарняўскага МІС. — Менск, 1997.
DzM *Новы Запавет і псальмы.* — United Bible Societies, 1991.
GNT *The Greek New Testament,* ed. D. Jongkind and P. Williams. — Tyndale House, Cambridge, 2017.
JP *Паводля сьв. Яна Эвангеле Госпада нашага Ісуса Хрыста*, на беларускую мову з грэцкага тэксту пераклаў Ян Пятроўскі. — Менск — Лёндан — Нью-Ёрк, 1991.
JSt *Сьвятая Бібля. Кнігі Сьвятога Пісьма Старога й Новага Закону*, з мовы габрэйскае а грэцкае на беларускую нанава перакладзеныя. — Ню-Ёрк, 1973.
KB *Новы Запавет Госпада нашага Іісуса Хрыста. Святое Евангелле паводле Іаана. На чатырох мовах: грэчаскай, славянскай, рускай і беларускай. З паралельнымі месцамі*, пер. на бел. мову Біблейскай Камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы. — Мінск, 2005.
Kł *Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста паводле Яна Святое Дабравесце*, пер. і кам. А. Клышкі, «Спадчына», 1992, № 3, с. 10.
LXX *Septuaginta*, ed. A. Rahlfs. — Stuttgart, 1979.
Mac *Напрастольнае Сьвятое Евангельле*, уклад. архіепіскап Мікалай, першы герарх БАПЦ. — Таронта, 1988.
NA *Novum Testamentum Graece*, ed. B. and K. Aland, J. Karavidopoulos, C. M. Martini, B. M. Metzger. — Stuttgart, 2012$^{28}$.
NK *Біблія*, на падставе рукапісаў У. Чарняўскага, навук. рэд. пер. Ж. Некрашэвіч-Кароткая, Дж. Элволд, рэц. Т. Федасеева, літ. апрац. тэкста А. Бокуна. — Мінск, 2012.
NVg *Nova Vulgata Bibliorum Sacrorum*, ed. typica altera. — Libreria Editrice Vaticana, 1986.
Sch *Біблія*, пер. В. Сёмухі. — Менск, 2002.
Sk *Святое Евангелле*, Секцыя па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ. — Мінск, 2012.
Tat *Śviataja Evanelija i Apostalskija Dziei*, pierakłaŭ i padaŭ vyjasnienni Mns. Dr. Piotr Tatarynovič. — Rym, 1954.
$Vg^{c}$ *Biblia Sacra juxta Vulgatam Clementinam*, ed. electronica Michaele Tvveedale. — Londini, 2005.
$Vg^{st}$ *Biblia Sacra Iuxta Vulgatam Versionem*, edited by R. Weber, B. Fischer, J. Gribomont, H. F. D. Sparks, W. Thiele. — Stuttgart, 1983.

СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ДРУГАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ДУХУ

### Разуменне

**У якой ідзе гаворка пра веру як найпрасцейшы сродак, з дапамогаю якога можна ўзысці да злучэння з Богам. Маецца на ўвазе другая частка Цёмнай ночы — ночы духу, што апявае другая страфа песні.**

### РАЗДЗЕЛ 3

**У якім даводзіцца, што вера з’яўляецца *цёмнай ноччу* для душы, абапіраючыся на довады, аўтарытэты і вобразы Святога Пісання.**

1. Тэолагі кажуць, што вера — гэта ўменне душы, адначасова пэўнае і цьмянае. Прычына цьмянасці гэтага ўмення ў тым, што яно робіць магчымым веру ў праўды, аб’яўленыя самім Богам, якія знаходзяцца па-над усялякім прыродным святлом і невымерна пераўзыходзяць усялякае чалавечае разуменне. І таму для душы гэтае празмернае святло, дадзенае ёй у веры, з’яўляецца змрочнай цемрай, бо найвялікшае перамагае найменшае, падобна сонечнаму святлу, якое перамагае ўсялякае іншае святло. Калі свеціць сонца, усялякае іншае святло не падаецца святлом. Сонечнае святло перамагае нашую здольнасць бачання ў тым сэнсе, што яно яе асляпляе і можна нават страціць зрок, настолькі сонечнае ззянне сваёю празмернасцю не адпавядае нашай здольнасці бачання. Падобна да гэтага і святло веры сваёю празмернасцю падпарадкоўвае і перамагае святло розуму, бо розум сам па сабе пазнае толькі прыродныя рэчы, хоць ён і мае ў сабе здольнасць да пазнання звышнатуральнага. І наш Пан можа сваёю воляю перайначыць гэтую здольнасць у дзейны чын.

2. Людскі розум сам па сабе пазнае толькі рэчы, якія явяцца яму натуральна: спачатку яны пазнаюцца пачуццямі, потым розум выпрацоўвае выявы і вобразы гэтых прадметаў саміх па сабе ці таго, што падобна да іх. І ніякім іншым чынам розум не можа пазнаваць, таму што, як кажуць філосафы, *ab obiecto et potentia paritur notitia,* што значыць *пазнанне ў душы паходзіць ад прадмету*, які пазнаецца, і ад здольнасці, якая яго пазнае. Ніхто не можа казаць, што ведае рэчы, пра якія яму апавядаюць, але якіх ён сам не спазнаў, ніколі не бачыў ні іх, ні падобных да іх. Такія рэчы гэтак і застануцца для яго цьмянымі, быццам яму нічога і не апавялі. Напрыклад, калі б некаму сказалі, што на нейкім востраве існуе пэўная жывёла, якую ён ніколі не бачыў, і што яна не падобная да іншых жывёлаў, якіх ён ведае, у яго не будзе ні ведаў, ні вобразу гэтай жывёлы, нягледзячы на тое, што яму нешта апавялі пра яе. Зразумець гэта лепей дапаможа іншы прыклад. Вось нехта нарадзіўся сляпым і ніколі не бачыў ніводнага колеру. Дык колькі б яму ні тлумачылі, чым адрозніваецца белы колер ад жоўтага, ён ніколі не зможа зразумець розніцу, бо ніколі не бачыў колераў і нічога да іх падобнага. Ён не можа меркаваць пра іх, бо ў яго розуме ніколі не з’явяцца вобразы і выявы колераў, паколькі ён іх ніколі не бачыў, ён зможа толькі запомніць іх назвы, бо пачуе іх слыхам.

3. Менавіта вера паведамляе душы пра рэчы, якіх мы ніколі не бачылі і ніколі не зможам зразумець: ні саміх рэчаў, ні падобных да іх, бо розум іх не мае ў сабе. Тое, чаму нас вучыць вера, дадзена

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

нам не праз святло натуральнай веды, паколькі ніводнае пачуццё не адпавядае таму, што яна нам паведамляе. Мы можам даведацца пра гэтыя рэчы толькі з дапамогаю слыху і верыць у тое, што яна нам гаворыць, падпарадкавацца ёй і асляпіць сваё натуральнае святло. Таму што, як гаворыць святы Павел: «*Fides ex auditu*»; вера — гэта не веды, якія дасягаюць нас праз пачуцці. Вера — гэта згода душы з тым, што яна атрымлівае праз слых.

4. Больш за тое, вера пераўзыходзіць усё, што можна зразумець з прыведзеных вышэй прыкладаў. Яна не толькі нам нічога не паведамляе, але, як мы ўжо сказалі, яна яшчэ і асляпляе і пазбаўляе нас усялякага ведання, якое б нам дапамагло меркаваць аб ёй. Святло натуральнага розуму дасягае пазнання рэчаў, але, каб дасягнуць разумення веры, неабходна адмовіцца ад святла натуральнага розуму, таму што, калі мы не адмаўляемся ад яго, мы губляем веру. Пра гэта казаў прарок Ісая: «*Si non credideritis, non intelligetis*» (7,9); *калі не паверыце, не зразумееце*. Вось чаму вера для душы — гэта цёмная ноч, бо такім спосабам вера дае душы святло. І чым большае святло веры, дадзенае душы, тым больш яно зацямняе яе і асляпляе, паводле вышэйсказаных словаў Ісаі: *калі не паверыце, не зразумееце,* бо не будзе ў вас святла. Таму вобразам веры была хмара, якая аддзяляла егіпцянаў ад сыноў Ізраэля, калі тыя ўваходзілі ў Чырвонае мора, і пра якую Святое Пісанне гаворыць : «*Erat nubes tenebrosa et illuminans noctem*» (Зых 14, 20), што значыць і «*была тая хмара цёмная і асвячала ноч*».

5. Уражвае ў гэтым прыкладзе тое, што хмара была сама па сабе цёмная, але асвячала ноч. Гэта тлумачыцца тым, што вера для душы з'яўляецца цёмнаю і змрочнаю хмараю. Для душы яна — ноч, бо ў прысутнасці веры душа пазбаўляецца натуральнага святла і асляпляецца. Але адначасова вера сваёю цемраю асвячае і асвятляе цемру душы. Таму было неабходным, каб вучань стаўся падобным да настаўніка (Лк 6, 40), бо чалавек, які знаходзіцца ў цемры, можа быць асвечаны толькі іншаю цемраю, паводле таго, чаму нас вучыць Давід, калі гаворыць: «*Dies diei eructat verbum et nox nocti indicat scientiam*», што азначае: «*Дзень дню пераказвае слова, і ноч пераказвае ночы веды*» (Пс 18, 3). І каб было больш зразумела, ён кажа: «*Дзень ёсць Богам і благаслаўленнем*». Дзе ўжо дзень, там благаслаўлёным анёлам і душам пераказваецца і вымаўляецца Слова, якое ёсць Сынам, для таго, каб яны Яго ведалі і цешыліся Ім. А ноч ёсць вераю змагарнага Касцёла, дзе пакуль пануе ноч, і яна пераказвае веды ўсяму Касцёлу і кожнай душы паасобку. Вера з'яўляецца ноччу, бо ў ёй няма яснай відавочнасці мудрасці благаслаўлёных, і ў прысутнасці веры натуральнае святло розуму — сляпое.

6. З таго, што было сказана, неабходна заключыць, што вера, як цёмная ноч, асвячае душу, агорнутую цемраю, пакуль не спраўдзіцца тое, пра што казаў Давід: «*Et nox illuminatio mea in deliciis meis*»; што значыць: «*Ноч для мяне будзе святлом у маіх суцяшэннях*» (Пс 138, 11). Псальміст нібы хоча сказаць, што ноч веры будзе павадыром на шляху да асалоды чыстай кантэмпляцыі злучэння з Богам. І таму зразумела, што душа павінна ўвайсці ў цемру, каб мець святло на гэтым шляху.

### РАЗДЗЕЛ 4
### **У якім гаворыцца пра тое, што душа, наколькі магчыма, павінна заставацца ў цемры, каб вера магла добра кіраваць ёю на шляху да вяршыні кантэмпляцыі.**

1. Мне здаецца, што ўжо стала трохі зразумела, чаму вера з'яўляецца для душы цёмнаю ноччу, чаму душа павінна заставацца ў цемры і чаму ў цемры павінна знаходзіцца яе натуральнае святло розуму. Толькі ў такім стане вера можа кіраваць душою на шляху да высокай мэты — злучэння з Богам. Але каб душа здолела прыняць гэтую цемру, нібы ўвайсці ў бездань веры, цяпер неабходна больш падрабязна спыніцца на тым, што азначае гэтая цемра. Вось чаму ў гэтым раздзеле мы пагаворым увогуле пра веру, а затым, з Божаю дапамогаю, я растлумачу, як душа павінна сябе паводзіць, каб не памыліцца і не перашкодзіць яе кіраванню.

2. Такім чынам, я сцвярджаю, што душа для таго, каб правільна падпарадкавацца веры, якая вядзе яе да гэтага стану, не толькі павінна пакінуць у цемры ніжэйшую сваю частку, гэта значыць пачуццёвую, якая зносіцца з рэчамі створанымі і прамінальнымі, пра што мы ўжо гаварылі, але душа павінна ўсыпіць і зацямніць і найвышэйшую сваю частку — рацыянальную, якая мае дачыненне да адносінаў з Богам і рэчамі духоўнымі. І пра гэта мы цяпер пачнем гаварыць.

Зразумела, што душа, каб дасягнуць звышнатуральнага перамянення, павінна зацямніцца і пераадолець усё тое, што ў ёй ёсць натуральнага: як пачуццёвага, гэтак і рацыянальнага. Гэта і азначае ўзысці на ўзровень звышнатуральнага, бо натуральнае пакідаецца ўнізе. І вось гэтае перамяненне і злучэнне немагчыма здзейсніць праз пачуцці ці праз нейкую чалавечую здольнасць. Адзінае, што залежыць ад душы, гэта добраахвотна і цалкам спустошыць сябе ад усяго, што ў ёй ёсць найвышэйшага і найніжэйшага з прывязанасцяў і волі. Бо што пасля можа перашкодзіць Богу свабодна дзейнічаць у такой душы: скоранай, спустошанай і аголенай? Трэба вызваліцца ад кожнай рэчы, ад кожнага прадмету душэўных прывязанасцяў, каб нават усё больш атрымліваючы звышнатуральныя рэчы, душа заставалася аголенаю, бы сляпы ў цемры. Яна павінна абапірацца на цёмную веру, прыняць яе як павадыра і святло і не прывязвацца да сваіх уласных разуменняў, упадабанняў, адчуванняў ці ўяўленняў, таму што ўсё гэта — цьмянасць, якая вядзе ў зман, у той час як вера знаходзіцца па-над тым, што мы разумеем, што нам падабаецца, што мы адчуваем ці ўяўляем. Вось чаму душа, калі не

асляпіць сябе, застаўшыся ў абсалютнай цемры, не дасягне таго, што ёсць найвышэйшым, гэта значыць таго, чаму яе вучыць вера.

3. Той жа, хто не аслеп цалкам, не дазваляе павадыру кіраваць сабою, але, абапіраючыся на тое, што яшчэ бачыць, думае, што лепей пайсці па бачнай для яго дарозе, бо не заўважае іншых лепшых шляхоў. І такім чынам ён зводзіць павадыра, які бачыць лепш, але які яму падпарадкоўваецца. І калі душа, якая ўступіла на шлях злучэння з Богам, абапіраецца на нейкія свае веды, упадабанні ці адчуванне Бога (якое можа быць велізарным), яна вельмі лёгка памыляецца і спыняецца, бо яна не хоча стацца сляпою ў веры, якая і ёсць сапраўдным павадыром.

4. Менавіта гэта і мае на ўвазе святы Павел, калі гаворыць: «*Credere enim oportet accedentem ad Deum quia est*», што значыць: «*Той, хто хоча дасягнуць паяднання з Богам, павінен верыць, што Ён ёсць*» (Гбр 11, 6). Нібыта, кажучы: той, хто хоча злучыцца з Богам, не павінен ісці да Яго, абапіраючыся на веды ці аддаючы перавагу сваім упадабанням ці пачуццям, ці ўяўленням, але павінен толькі верыць у Божае Быццё, якое ў гэтым жыцці непазнавальнае і не паддаецца ні жаданням, ні ўяўленням і ніякаму іншаму пачуццю. Больш за тое, усё Божае найвышэйшае, што можна адчуць ці скаштаваць у гэтым жыцці, бясконца далёкае ад таго, чым Ён ёсць на самай справе. Ісая (64, 4) і святы Павел (1 Кар 2, 9) гавораць: «*Quod oculus non vidit, nec auris audivit, nec in cor hominis ascendit, quae praeparavit Deus iis qui diligunt illum*»; гэта значыць: «*Чаго вока не бачыла, і вуха не чула*, і што не ўваходзіла ў чалавечае сэрца, тое Бог падрыхтаваў тым, хто любіць Яго». Таму што душа ў гэтым жыцці прагне, дзякуючы Божай ласцы, дасканала злучыцца з Тым, з Кім у іншым жыцці яна будзе злучана ў Хвале. І зразумела, як гаворыць святы Павел, — гэтага ні вока не бачыць, ні вуха не чуе, ні сэрца чалавека ў целе не разумее, бо, каб злучыцца з Богам у гэтым жыцці праз ласку ў дасканалай любові, душа павінна заставацца ў цемры ў адносінах да ўсяго, што ўваходзіць у яе праз вочы, што яна атрымлівае праз слых і што можа ўявіць сабе ці зразумець сэрцам, што тут азначае душу. І таму душа жахліва аддаляецца ад шляху да найвышэйшага стану злучэння з Богам, калі яна намагаецца нешта зразумець, адчуць ці ўявіць сабе, ці калі яна прывязваецца да ўласнага меркавання, ці да ўласнай волі, ці да ўласнага спосабу дзеяння, ці да любой іншай рэчы. Гэта значыць, што яна не здолела пазбавіцца ад усяго гэтага і агаліцца. Бо сапраўдная мэта, да якой яна імкнецца, значна вышэйшая за ўсе гэтыя рэчы, нават калі яны з'яўляюцца найвялікшымі для разумення і ўпадабання. Але душа павінна ўзнесціся над імі і імкнуцца дасягнуць няведання.

5. У кожным выпадку, на гэтым шляху — пакінуць яго азначае распачаць яго. Ці, дакладней, каб распачаць шлях да злучэння, трэба пакінуць свой уласны шлях — шлях уласнага дзеяння, і ўвайсці на шлях, мэтаю якога з'яўляецца толькі Бог. Таму што душа, якая дасягае стану злучэння, ужо не мае ні ўласных чынаў, ні спосабаў дзеяння, яна не прывязваецца да іх і нават не можа да іх прывязацца. Тут я маю на ўвазе спосабы разумення, упадабання і адчування. Нават калі яна іх мае, на самай справе яна іх як бы не мае, бо калі душа мае смеласць выйсці ўнутрана і вонкава з абмежаванняў уласнай натуры, яна трапіць пад панаванне звышнатуральнага, якое, на першы погляд, не мае ніякага спосабу разумення, упадабання і адчування, але па сутнасці заключае ў сабе ўсе гэтыя спосабы. З гэтага вынікае, што для дасягнення гэтага стану трэба выйсці з усіх абмежаванняў, выйсці з сябе і аддаліцца як мага далей, каб узняцца з долу да самых вышыняў.

6. Душа, такім чынам, узыходзячы па-над усім тым духоўным, што можа зведаць і зразумець натуральным чынам, павінна палка прагнуць дасягнення таго, чаго ў гэтым жыцці немагчыма ведаць і што не можа трапіць у яе сэрца. Больш за тое, пакінуўшы ў баку ўсе рэчы, якія яна пачуццёва і духоўна смакуе, адчувае і разумее ў гэтым жыцці, яна павінна прагнуць усім сэрцам дасягнуць таго, што пераўзыходзіць усялякае пачуццё і ўсялякі смак. І каб быць свабоднаю і спустошанаю, душа не павінна ніякім чынам прывязвацца да таго, што яна атрымлівае духоўнага і пачуццёвага (што я растлумачу далей, калі больш падрабязна спынюся на гэтым), але павінна лічыць усе гэтыя рэчы значна ніжэйшымі ў параўнанні са злучэннем, якога яна прагне. І сапраўды, чым больш душа захапляецца тым, што яна разумее, смакуе і ўяўляе, духоўнае яно ці не, тым больш яна аддаляецца ад Найвышэйшага Дабра і тым больш яна замаруджваецца на шляху да Яго. І наадварот, чым менш яна задумваецца над рэчамі, якія яна можа мець, нават самыя найвялікшыя, тым больш яна ўзвышае і шануе Таго, Хто ў выніку набліжае яе да іх. І такім чынам, у цемры, душа значна больш набліжаецца да злучэння праз веру, якая, у сваю чаргу будучы цёмнаю, перадказвае душы надзвычайнае святло. Зразумела, што чым больш душа прагне бачыць, чым бліжэй яна да Бога, тым большая цемра, бо Ён адкрывае ёй вочы, каб яна ўбачыла велізарнае сонечнае ззянне.

7. Вось чаму на гэтым шляху душа пабачыць святло толькі тады, калі аслепіць усе свае здольнасці, як сцвярджае Збавіцель і Евангеллі такім вось чынам: «*In judicium ego in hunc mundum veni: ut qui non vident videant, et qui vident caeci fiant*». Гэта значыць: «*На суд прыйшоў Я ў гэты свет, каб невідушчыя бачылі, а відушчыя сталі сляпымі*» (Ян 9, 39). Гэтыя словы трэба разумець літаральна, яны маюць на ўвазе духоўны шлях, пра які мы гаворым. Неабходна ведаць, што душа, якая ўвойдзе ў цемру, аслепне ў дачыненні да свайго ўласнага прыроднага святла, але пачне бачыць звышнатуральным чынам. Тая ж душа, якая засяроджваецца на якім-небудзь уласным святле,

аслепне і спыніцца на шляху да злучэння з Богам.

8. Каб пасля было меней блытаніны, неабходна, на мой погляд, у наступным раздзеле растлумачыць, што значыць злучэнне душы з Богам, бо разуменне гэтага пралье значнае святло на тое, пра што будзе ісці гаворка далей. І таму, думаю, будзе слушна спыніцца на гэтым менавіта тут і цяпер. У пэўным сэнсе такое адступленне перарве нітку нашага выкладання, але гэта варта зрабіць менавіта ў гэтым месцы, каб нашыя далейшыя разважанні былі больш зразумелымі. І таму наступны раздзел з'яўляецца як бы ўстаўкаю, узятаю ў дужкі, пасля якой мы зоймемся непасрэдна «паводзінамі» трох здольнасцяў душы ў дачыненні да тэалагальных цнотаў падчас гэтай другой ночы.

### Раздзел 5
### У якім з дапамогаю некаторых параўнанняў тлумачыцца, што такое злучэнне душы з Богам.

1. У пэўным сэнсе з таго, што было сказана, чытач ужо зразумеў, што мы маем на ўвазе, гаворачы пра злучэнне душы з Богам. Тое, што я тлумачу ў гэтым раздзеле, дапаможа яму зразумець гэта яшчэ лепей. Я не буду засяроджвацца на частках, на якія дзеліцца раздзел, бо інакш я ніколі не скончу майго аповеду, пачаўшы разглядаць, на чым палягае *злучэнне з Богам розуму*, *злучэнне з Богам волі*, *злучэнне з Богам памяці*, ці калі б я пачаў тлумачыць, чым адрозніваецца *часовае злучэнне з Богам* ад *вечнага* ў звязку з кожнай здольнасцю, узятаю паасобку ці ў плане ўсіх здольнасцяў душы, узятых разам. На працягу нашага трактата мы да іх і так звернемся, гаворачы спачатку пра адно, пасля пра другое. Аднак няма патрэбы спыняцца на тым, што мы б маглі сказаць пра здольнасці душы. Пра іх мы пагаворым у адпаведным месцы, калі ізноў звернемся да таго самага прадмету, і тады мы будзем мець жывы прыклад разам з цяперашнім разуменнем, і будзе заўважнаю і зразумелаю кожная рэч, і лепей можна будзе меркаваць пра яе.

2. Зараз жа я толькі растлумачу, чым з'яўляецца суцэльнае і сталае злучэнне душы і яе здольнасцяў з Богам *паводле субстанцыі, ці цёмнага ўмення злучэння*[2]. А пасля ўжо, з Божаю дапамогаю, мы пагаворым пра злучэнне душы з Богам паводле чыннага дзеяння, паколькі ў гэтым жыцці злучэнне з Богам не можа быць вечным, а толькі часовым.

3. Дык вось, каб добра зразумець, чым з'яўляецца злучэнне, пра якое мы гаворым, неабходна ўзгадаць, што Бог у любой душы, нават у душы самага вялікага ў свеце грэшніка, жыве і дзейнічае субстанцыйным чынам. Такога тыпу злучэнне заўсёды існуе паміж Богам і ўсімі Яго стварэннямі, бо Ён моцаю сваёю захоўвае належнае ім існаванне. І калі б гэтае злучэнне нейкім чынам знікла, знікла б і ўсё стварэнне, перастала б існаваць. І таму, калі я гавару пра злучэнне душы з Богам, я не маю на ўвазе гэтае субстанцыйнае злучэнне, якое заўсёды існавала і існуе, але гавару пра злучэнне і перамяненне праз любоў душы да Бога, якое даецца не заўсёды, а толькі тады, калі ўзнікае ўпадабненне любові. Вось чаму я буду называць гэта злучэнне — злучэннем упадабнення, у той час як іншае я назваў злучэннем субстанцыйным, ці сутнасным. Субстанцыйнае з'яўляецца натуральным, а злучэнне ўпадабнення — звышнатуральным. І гэтае апошняе здзяйсняецца тады, калі дзве волі — адна душы, а другая Бога — пачынаюць цалкам адпавядаць адна другой, бо ў першай волі няма нічога, што б магло яе адштурхнуць ад другой. Такім чынам, калі душа пазбавіцца ўсяго, што ў ёй ёсць неадпаведнага і што адштурхоўвае волю Бога, яна пераменіцца ў Бога праз любоў.

4. Гэтае адштурхоўванне трэба разумець не толькі ў сэнсе дзеяння, але таксама ў сэнсе схільнасці. Гэта значыць, што душа не толькі павінна пазбавіцца адвольных недасканалых дзеянняў, але таксама павінна знішчыць у сабе і ўсялякую схільнасць да іх, бо створаныя рэчы і ўсе іх дзеянні і здольнасці не адпавядаюць і не дасягаюць таго, чым ёсць Бог, і таму душа павінна агаліць сябе з любой створанай рэчы і з яе дзеянняў і здольнасцяў, гэта значыць з любога разумення, упадабання, адчування, пакуль не пазбавіцца ад усяго, што не падобна да Бога і што Яму не адпавядае. І тады душа дасягне ўпадабнення Богу, бо ў ёй не застанецца ніводнай рэчы, якая б не адпавядала Божай волі, і гэтак яна пераменіцца ў Бога. І нават калі праўда, што Бог заўсёды знаходзіцца ў душы, даючы ёй сваёю прысутнасцю быццё і захоўваючы яе ў прыродным існаванні, аднак не заўсёды Бог надзяляе яе звышнатуральным быццём, таму што гэтае апошняе перадаецца душы толькі праз любоў і Божую ласку. Але не ўсе душы знаходзяцца ў стане ласкі. Тыя ж, якія маюць гэтую ласку, маюць яе не аднолькавым чынам: адныя знаходзяцца на больш высокім узроўні любові, іншыя — на больш нізкім. Душа, чыя любоў больш вялікая, больш атрымлівае ад Бога, бо яе воля больш адпавядае волі Божай. Тая ж душа, якая цалкам ёй адпавядае і ўпадабняецца да яе, цалкам злучаецца з Богам і перамяняецца ў Яго звышнатуральным чынам. Дзякуючы гэтаму становіцца зразумела, чаму душа, напоўненая прывязанасцямі і прыхільнасцямі, звернутымі да стварэнняў і да сваіх уласных здольнасцяў, менш схільная да такога злучэння, бо яна не аддае Богу ўсю сябе, каб Ён змог звышнатуральна перамяніць яе. І таму адзінае, што душа павінна зрабіць, — гэта пазбавіцца ад усіх супярэчнасцяў і прыродных неадпаведнасцяў, каб Бог, які зносіцца з ёю натуральна праз яе сутнасць, пачаў зносіцца з ёю звышнатуральна праз ласку.

5. Менавіта гэта хацеў патлумачыць, каб мы зразумелі, святы Ян, калі казаў: «*Qui non ex sanguinibus, neque ex voluntate carnis, neque ex voluntate viri, sed ex Deo nati sunt*» — «*Хто не ад крыві, і не ад жадання цела, і не ад жадання мужа, але ад Бога нарадзіўся*» (Ян 1, 13). Бог даў моц стацца

сынамі Божымі, а гэта значыць перамяніцца ў Яго, не тым, хто нарадзіўся ад крыві — з паяднання і складання прыродных элементаў, па волі цела — па жаданні і прыроднай схільнасці, па волі чалавека, якая нясе ў сабе ўсе спосабы людскога суджэння і разумення; Бог даў моц стацца сынамі Божымі толькі тым, хто нарадзіўся з Бога, тым, хто наноў нарадзіўся ў ласцы, адпачатку памёрлы для ўсяго таго, што датычыць старога чалавека. Яны ўзнесліся да ўсяго таго, што ёсць звышнатуральным, атрымаўшы ад Бога адраджэнне і ўсынаўленне, найвышэйшыя за ўсё, што можна толькі ўявіць сабе. Бо, як гаворыць святы Ян у іншым месцы: «*Nisi quis renatus fuerit ex aqua, et Spiritu Sancto, non potest introire in regnum Dei*» (Ян 3,5), што значыць: «*Калі хто не народзіцца з вады і Духа, не можа ўвайсці ў Божае Валадарства*», якое ёсць станам дасканаласці. Адрадзіцца ў Святым Духу ў гэтым жыцці азначае мець душу, надзвычай падобную да Бога ў чысціні, без ніводнай недасканаласці. Толькі гэтак можна дасягнуць чыстага перамянення ў Бога, праз удзел у злучэнні з Ім, нават калі і не сутнасным.

6. І каб лепей зразумець усё гэта, прапаную некаторыя параўнанні. Калі сонечны прамень праходзіць праз шкло вакна, якое мае плямы і зацемненасці, святло не можа цалкам асвяціць і асвятліць, як бы яно магло, калі б шкло было празрыстым, ачышчаным ад усіх плямаў. Тым меней прапускае яно святла, чым болей плямаў, і наадварот, чым больш яно чыстае ад іх, тым больш святла яно прапускае. І прычына не ў промні, а ў шкле, бо сапраўды, чым больш яно празрыстае і чыстае, тым больш промень пераменіць яго і асветліць, ды гэтак, што яно з промнем стане адным цэлым, і ўжо само шкло будзе праменіць святлом. Але нават калі шкло і сапраўды падаецца адным цэлым з промнем, на справе яно мае іншую прыроду ў параўнанні з промнем. Аднак можна сказаць, што шкло ёсць промнем праз удзел у ягоным святле. І такім самым чынам у душы, як у гэтым шкле, заўсёды жыве святло Божага быцця паводле прыроды, як было ўжо сказана.

7. Калі душа скіне з сябе ўсе заслоны і ачысціцца ад усіх плямаў, гэта значыць, калі яе воля дасканалым чынам злучыцца а воляю Бога, бо любіць Бога азначае пазбавіцца ўсяго, што Ім не ёсць, і такім чынам агаліцца перад Богам, тады яна дасць Богу месца ў сабе і будзе асветленая і перамененая Ім, і Бог ёй дасць сваё звышнатуральнае быццё такім чынам, што яна станецца падобнаю да самога Бога і будзе мець тое, што мае сам Бог. Гэтае паяднанне адбываецца тады, калі Бог адорвае душу гэтаю звышнатуральнаю ласкаю, калі ўсе Божыя рэчы і душа становяцца адным у перамяненні ўдзелу. Тады душа здаецца больш падобнаю да Бога, чым да душы. І нават калі яна становіцца Богам, праз удзел у Ягонай ласцы, на справе яе натура заўсёды будзе адрознаю ад натуры Бога, нягледзячы на перамяненне. Гэтаксама, як шкло адрозніваецца ад промня, які яго асвячае.

8. З гэтага яшчэ больш зразумела, што душа, як было ўжо сказана, павінна падрыхтавацца да такога злучэння і не намагацца зразумець, смакаваць, адчуваць ці ўяўляць сабе Бога ці якую іншую рэч, але быць у чысціні і любові, гэта значыць —у суцэльнай галізне і адрачэнні ад усяго дзеля Бога. Бо не можа быць дасканалага перамянення без дасканалай чысціні. Бо асвячэнне Божае і злучэнне душы з Богам будуць большыя ці меншыя ў залежнасці ад ступені ачышчэння, якога дасягнула душа. І яна ніколі не будзе дасканалаю, як я ўжо сказаў, калі не ўдасканаліцца яе чысціня і празрыстасць.

9. Гэта таксама можна лепей зразумець праз наступнае параўнанне. Уявім сабе вельмі прыгожы абраз, аздоблены шматлікімі каштоўнасцямі, рэдкімі і далікатнымі эмалямі, некаторыя з якіх з-за іх вытанчанасці і далікатнасці амаль незаўважныя. Той, у каго не вельмі пранікліўы позірк, убачыць няшмат дасканаласці і вытанчанасці на гэтым абразе ў параўнанні з тым, у каго вока чыстае. Той жа, у каго позірк больш абвостраны, убачыць яшчэ больш дасканаласці і прыгажосці, і ўрэшце, той, хто мае здольнасць бачання вельмі чыстую і вельмі ясную, убачыць найбольш прыгажосці і дасканаласці. Бо сапраўды на гэтым абразе столькі ўсяго, каб убачыць, што чым больш ім захапляешся, тым больш застаецца, каб захапляцца.

10. Можна сказаць, што такім чынам паводзяць сябе душы ў адносінах да Бога ў гэтым асвячэнні і перамяненні. Бо калі сапраўды кожная душа ў залежнасці ад сваёй малой ці вялікай здольнасці можа дасягнуць злучэння з Богам, то не ўсе ў аднолькавай ступені яго дасягаюць. Гэта залежыць ад таго, наколькі Пан пажадае адарыць кожную з іх. Падобнае адбываецца з благаслаўлёнымі ў небе: усе бачаць Бога, але кожны па-рознаму. Усе, аднак, задаволеныя, бо задаволеная іх духовая ўспрымальнасць.

11. У гэтым жыцці таксама так бывае. Ёсць душы, якія цешацца ў роўнай ступені спакоем і адпачынкам у стане дасканаласці, і кожная з іх задаволеная тым, што мае, хоць адна можа знаходзіцца на больш высокай ступені дасканаласці, чым другая. Але яны аднолькава шчаслівыя, бо яны задаволілі ўласную духовую ўспрымальнасць. Тая ж душа, якая не дасягае чысціні, адпаведнай яе здольнасці, ніколі не дасягне спакою і радасці, бо яна не дасягнула той аголенасці і той пусткі, якія неабходныя для чыстага яднання з Богам.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.



Аркадзь Шпунт

# «Мая міласэрнасць з абразамі гэтымі...»*

Род знікае — і род нараджаецца. І толькі цудатворныя абразы жывуць у вяках, нагадваючы нам пра тое, што калісьці была адзінаю Царква і хрысціяне не падзялялі свае святыні на каталіцкія і праваслаўныя...

Большасці хрысціянаў добра вядомая гісторыя канстанцінопальскага абраза, які стаў самым шанаваным у Цэнтральнай Еўропе і асабліва ў каталіцкай Польшчы. Гісторыю гэтую, з тых часоў як падзяліліся канфесіі, людзі расказваюць па-рознаму, але абавязкова згадваюць і пра паўстанне супраць рымлянаў у 60-я гады І ст., і пра захоўванне абраза Божай Маці ў пячорах каля мястэчка Пелы ў гарах Юдэі, і пра імператрыцу хрысціянку Алену, якая прывезла абраз з Ерузалема ў Канстанцінопаль, і пра часы іканаборства, у якія загінула нямала святых выяваў. Памятаюць пра гэта і каталікі, і праваслаўныя...

Магчыма, у сувязі з асветніцкаю дзейнасцю Кірылы і Мятода, а можа, з прычыны жаніцьбы князя Уладзіміра Кіеўскага з візантыйскаю царэўнаю, але адна з 70-ці іконаў, напісаных, паводле падання, самім евангелістам Лукою, апынулася ў Галіцыі, у замку Бэлз, і стала сямейнаю святыняю галіцкіх князёў. Магчыма, паводле лёсу, а можа, паводле Божага Провіду разам з замкам Бэлз абраз Багародзіцы перайшоў у валоданне сілезскага князя Уладзіслава Апольскага і як бы набыў канфесійную прыналежнасць, бо князь Апольчык быў каталікам.

Апынуўшыся ва ўласнасці католіка, абраз Багародзіцы не страціў сваёй цудатворнасці, а наадварот — выратаваў замак падчас аблогі татарамі. Абраз вынеслі на абарончую сцяну, і адна са стрэлаў упілася ў шыю Багародзіцы. Калі з раны пацякла кроў, на татараў спусцілася густая цемра, якая прынесла з сабою паніку і жах смерці, — татары кінуліся наўцёкі...

Далей пачынаецца больш рэальная гісторыя абраза Чэнстахоўскай Божай Маці, бо князь Апольскі перадаў святыню ма-

**Аркадзь ШПУНТ —** мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000), «Тире» (2012) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

нахам паўлінам, якія жылі ў кляштары на Яснай Гуры. Было гэта ў 1382 годзе. З таго часу абраз пачалі называць Чэнстахоўскім, бо Маці Божая... не дазволіла перавезці сябе ў іншае месца, і Чэнстахова стала месцам паломніцтва мільёнаў вернікаў. Цуды іконаў праяўляюцца і ў тым, што яны самі выбіраюць для сябе месца і нават настойліва супраціўляюцца яго змене.

У 1430 годзе на Ясную Гуру напалі гусіты, для якіх не было нічога святога. Што яны рабілі з людзьмі, жахліва нават уявіць, а ікона, якая не пажадала пакідаць свайго месца, атрымала два ўдары шабляю і была разбітая на тры часткі. Святататцы адразу ж атрымалі Божую кару, а манахі, падабраўшы дошкі, злучылі іх разам і паставілі абраз на ранейшае месца.

На жаль, пашкоджанне іконы было значным, і яе фактычна перапісалі — пад сённяшнім жывапісам няма нават рэштак візантыйскага пісьма. Нават грунт быў пакладзены занава, бо тэмперная фарба не клалася на рэшткі былога жывапісу, зробленага ў тэхніцы энкаустыкі (васковымі фарбамі). Як сведчаць дакументы ордэну манахаў святога Паўла на Яснай Гуры, іконы рэстаўравалі ў 1434 годзе ў Кракаве пры двары Уладзіслава Ягайлы.

Драўляная панэль (121,7 х 81,5 см) — аснова жывапісу — адзінае, да чаго, магчыма, дакранаўся сам Хрыстус, калі ікона была сапраўды напісаная на сталешніцы стала, за якім адбывалася Апошняя Вячэра.

Ёсць думка, што абраз перапісалі ў заходняй італьянскай манеры менавіта каталіцкія іканапісцы, і многія праваслаўныя вернікі лічаць, што пад акаталічаным вобразам захоўваецца сапраўдны лік Багародзіцы, напісаны святым Лукою, — такім чынам, трэба думаць, што евангеліст Лука да канфесійнага падзелу быў праваслаўным. «*Блажен кто верует...*» Зрэшты, незлічоныя цуды абраза Маці Божай Чэнстахоўскай падарылі радасць усім сапраўды веруючым — і католікам, і праваслаўным. У знак прызнання асобай цудатворнай сілы іконы яе з XVII ст. па волі караля Яна Казіміра называюць Каралеваю Польшчы, а ў 1717 г. абраз быў урачыста каранаваны, і цяпер католікі, завяршаючы свой паломніцкі дзень на Яснай Гары, спяваюць перад цудатворным абразом «апэль»: «Maryjo, Królowo Polski, jestem przy Tobie, pamiętam, czuwam!»

З цягам часу выява цудатворнага арыгінала ўвасобілася ў мностве спісаў, захаваўшы прыкметы іканаграфічнай схемы. Сёння ва Украіне, у Беларусі і ў Расіі нямала копіяў Чэнстахоўскай Маці Божай, якія ў Польшчы называюць «славянкамі», бо яны значна адрозніваюцца і непадабенствам твару Багародзіцы, і тэхнікаю выканання. Безумоўна, пры пэўнай цярплівасці і настойлівасці, падобных да тых, з якімі вернікі на каленях пераадольваюць камяністы шлях да святыні, мастакі пры іх звыклым майстэрстве маглі б выканаць дакладнейшую копію цудатворнага арыгінала, але нават уяўляць не хочацца, што было б, калі б увесь свет запоўнілі іконы копіі — усе аднолькавыя, як друкаваная прадукцыя. Пэўна ж, не знешняга падабенства дабіваліся іканапісцы і багамазы, выконваючы спісы з цудатворных святыняў. Часам гэта былі абразы, напісаныя паводле словаў або ўласнага ўяўлення — гэтак званыя народныя іконы. Напісаныя з вераю, яны па волі Божай чынілі цуды.

...Адлегласць у часе паміж маёю сённяшняю думкаю і яе аб'ектам у мінуўшчыне запоўненая не адраджэннем і ўвасkrашэннем аб'екта, а ўсяго толькі здольнасцю думкі пераадольваць такога роду адлегласці, такія бездані. Думка, якая робіць гэта, называецца памяццю, як слушна заўважыў Робін Коллінгвуд у сваёй працы «Ідэя гісторыі».

...Гледзячы на ікону, намагаючыся спасцігнуць таямніцу



Абраз Маці Божай з касцёла ў Камаях у каштоўным акладзе. Фота 1970-х гг.

яе паходжання, мы вызначаем тып арыгінала, спісам якога яна з'яўляецца, распазнаючы яго па вядомых прыкметах, але часам з-за мноства дапаўненняў гэта вельмі цяжка разгледзець.

У нас на Беларусі даволі шмат спісаў абраза Маці Божай Чэнстахоўскай. Абраз Маці Божай Адзігітрыі з вёскі Камаі ўражвае самабытнасцю і менавіта непадабенствам да арыгінала — мяркуючы па ўсім, ён быў напісаны не самім паломнікам у Чэнстахову, а паводле аповеду пілігрыма, якому ўпрыгожаны залатымі лілеямі сіні мафорый Багародзіцы падаўся расшытым залатымі зоркамі. Сцвярджэнне, што камайскі абраз быў напісаны ў 1610 годзе ў Кракаве, патрабуе доказаў, аднак будзем паблажлівымі, бо цуды невытлумачальныя, але людзям уласціва знаходзіць свае натуральныя тлумачэнні звышнатуральным цудам, і легенды, звязаныя з першакрыніцамі, зліваюцца з гісторыямі спісаў.

Сляды ад удару шабляю — прыкмета Чэнстахоўскага абраза, схаваныя пазнейшымі запі-



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў Камаях.

самі, былі не заўважнымі пад пацямнелаю аліфаю ўжо перад першым панаўленнем, інакш іх, вядома ж, не пасмелі б не аднавіць. Калі б не гэтая «метка», убачаная пад мікраскопам, цяжка было б здагадацца, што абраз належыць да тыпу Чэнстахоўскай Адзігітрыі. Выява Божай Маці не падобная да Той, што на Яснай Гары: прадаўгаваты твар, буйнаваты падбародак, вялікаваты нос, вялікія вочы, пухлы рот з доўгімі куткамі вуснаў і амаль нябачныя сляды ад удараў шабляю на правай шчацэ.

Камайскі абраз пасля рэстаўрацыі і выдалення двух слаёў фарбаў паўстаў перад намі яркім, светлым, усмешлівым, усяго толькі з дзвюма рыскамі на шчацэ, і нагадваў сумны вобраз Чорнай (Ча́рнай) Мадонны з Чэнстаховы. Сляды ад шаблі, раскрытыя ў працэсе рэстаўрацыі, сведчаць пра тыповую прыналежнасць абраза. У Камайска-Чэнстахоўскай іконы слынная гісторыя — з XVIII ст. яна занесеная ў рэестр як цудатворная.

Мноства гісторый пра спробы ўкрасці і вывезці цудатворныя абразы сведчаць пра тое, што святататцы былі пакараныя, а іконы заставаліся на сваіх месцах. У сувязі з гэтым раскажу пра выпадак у Камаях.

Як вядома, для злодзеяў амаль няма перашкодаў. Аднойчы ўночы яны забраліся ў камайскі касцёл Яна Хрысціцеля — сарвалі каваныя, з пазалочанага срэбра шаты з абраза ў галоўным алтары і вынеслі іх, але ікону вынесці не здолелі ці таму што яна не пралезла ў акно, на якім злодзеі ламалі краты, ці таму што цудатворныя святыні самі вырашаюць, дзе ім быць. Дарэчы, на месцы злачынства міліцыянеры знайшлі згубленую адным са злодзеяў квітанцыю аб кватэрнай плаце з прозвішчам і адрасам у Ленінградзе. Злачынцу хутка знайшлі, аднак вярнуць шаты не ўдалося: злодзеі паспелі іх пераплавіць...

Не абаронены шатамі жывапіс абраза быў прымітыўна, па-дылетанцку закрыты прафілактычнаю заклейкаю — абразу патрабавалася рэстаўрацыя, і яе даручылі мне, а таму мне не раз давялося пабываць у Камаях — пра назву мястэчка, пра касцёл і пра ікону я ўжо пісаў у нататках рэстаўратара «З „Агульнага сшытка“» («Наша вера», № 1, 2015 г.).

Мясцовы касцёл — галоўная адметнасць наваколля. Укаранёны ў самую макаўку ўзгорка на скрыжаванні пяці дарогаў, у самым цэнтры вёскі, ён заўсёды з усіх бакоў бачны на фоне неба. Касцёл, пабудаваны ў 1606 годзе, быццам высечаны з цэльнай глыбы. Ён натуральна гарманіруе з двухметровым крыжам, зробленым з валуна на скрыжаванні дарогаў яшчэ з даўніх часоў. Касцёл, у якім захоўваецца абраз Маці Божай Чэнстахоўскай, невысокі, усяго 16 метраў. Магчыма, шатры яго вежаў калісьці былі вышэйшымі, але цяпер яны менавіта такія, і ў гэтым іх чароўная своесаблівасць. Просты трохкутны шчыт з чатырма нішамі завяршае фасад, фланкаваны вежамі з вузкімі вокнамі. Вежы ўпрыгожваюць байніцы рэдкай чашападобнай формы.

Гаворачы пра стыль архітэктуры касцёла, хочацца назваць яго лапідарным, бо ён надзвычай ясны і лаканічны, але не прайграе ў параўнанні з такімі помнікамі абарончага тыпу, як цэрквы ў Сынковічах і Мураванцы. Наадварот, суровая грунтоўнасць і мэтаскіраванасць касцёла выглядаюць як выразнае сведчанне неабходнасці жыць, абараняючыся, і гэта ўдала ўвасоблена ў рысах готыкі, рэнесансу і барока. Ядры пушак, умараваныя ў сцены, — гэта памяць пра шведаў, якія намагаліся праверыць на трываласць сцены двухметровай таўшчыні падчас Паўночнай вайны. Але найбольш трывалым у супрацьстаянні шведам, калі згадаць «патоп» і Паўночную вайну, быў абраз Чэнстахоўскай Багародзіцы, а збудаванне касцёла як абарончай крэпасці — гэта ўсяго толькі элементы архітэктурнага стылю.

Без усялякіх гістарычных каментарыяў зразумела, што архітэктура касцёла — Дома малітвы, надзейнага прыстанку, цытадэлі, захавальніцы цудатворнай святыні — дапамагае ўявіць абставіны мінуўшчыны на ўзгорыстым беразе былой ракі Камайкі...

Цудоўна і дзіўна тое, што на працягу 400 гадоў існавання касцёл ні разу не быў зачынены для вернікаў, нават падчас разгулу хрушчоўскага атэізму (1958–1964). Будзем думаць, што і гэта было дзякуючы абароне Нябеснай Валадаркі.

* «Жыціе св. апостала і евангеліста Лукі»



Святар салезіянін Ян Францішак Такарскі (1900–1974).

Язэп Янушкевіч

# Салезіянін — сын каваля

## На ўспамін пра ксяндза Яна Такарскага

Ад Першай Камуніі і споведзі ў маёй памяці найперш — *Неба*. Як на славутым палатне «*Зямля*» (1898) Фердынанда Рушчыца (1870–1936).

Хто не чуў пра геніяльнага нашага мастака з Багданава на Валожыншчыне і не ведае, пра што гаворка, удакладню: на гэтай карціне намаляваныя валы́; яны цягнуць рала-плуг, за якім ідзе аратай. Араты ўзмахнуў праваю рукою з заціснутаю ў ёй пугаю, сырамятка якой можа быць пустою пагрозаю, а можа й апячы валовыя хрыбты. Леваю рукою араты моцна ўчапіўся ў чапегі сахі. Постаці аратага з валамі хоць і цэнтравыя, але намаляваныя на другім плане, удалечыні, на высачэзным адхоністым узгорку раллі, а ўвесь пярэдні план карціны займае зямля — глыбокія баразны з адваленымі чорнымі скібамі. Выгляд гэтых скібаў, парэзаных лемяшом, амаль даносіць пах поту й выжыльванне плугара. Прастору нібы напаўняе велічны старажытны харал — гімн-хваласпеў стваральнай працы аратая. Ва ўяўным харале, створаным пэндзлем жывапісца, услаўляецца еднасць зямлі і стваральнай працы на ёй, пра якія ў Бібліі выразна сказана: у поце чала свайго будзеш здабываць хлеб свой (*Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння*…). Карміцелька-зямля і жывіцель свету знітаваныя ў адно, а над усім пералічаным на палатне (тое ўсё — толькі траціна, чацвярціна карціны) — бялюткія, бухматыя, нібы вазы, наладаваныя воўнаю, — хмары, якія беллю сваёю раскаціліся ў нябёсах так, што блакіту амаль не відаць. Кантраст зямлі і неба няўмольна сведчыць, што толькі адгараваўшы на чорнай зямлі ў поце чала свайго, чалавек здабудзе вечны адпачынак у небе.

…У той момант, калі матуля, трывожна азіраючыся, ціха наблізілася да мяне з немаведама адкуль узятымі і заціснутымі ў руках бялюткімі аркушамі, вырванымі з вучнёўскага сшытка, яны падаліся мне тымі аблокамі, што апалі на сляпуча-зялёную сенажаць. Каровы, якіх мы пасвілі, утомна прылеглі на лугавінцы: жвакава́лі.

Гэта толькі скаціна мела права на пярэдых, а пастушкам такі «перапынак» даваў магчымасць пазбіраць шчаўе. Але, як высвілася, не тым разам...

— Прысядзем, сынок, тут, пад кустом.

Кусты захіналі нас ззаду ад местачковых хацін. А паперадзе высілася высачэзная Міронавая Гара — Міронаўка. Там бавілася ўся дзетвара Ракава, прыходзячы сюды з далекаватых местачковых раёнаў Букраўкі, Пасёлку, Слабады і суседніх вёсак — Паморшчыны, Моняк, Гярвеляў.

Лета ўбіралася ў аксамітную раскошу. Мне было гадоў 7-10, і мяне чакала пільная навука, бо на тых бялюткіх аблоках, што апалі на сенажаць, кожны аркуш быў старанна спісаны.

*ОЙЧЭ НАШ, КТУРЫ ЕСТ В НЕБЕ,*
*СЬВЕНТ СЕН ІМЯ ТВОЕ,*
*ПШЫЙДЗЬ КРУЛЕВСТВО ТВОЕ,*
*БОНДЗЬ ВОЛЯ ТВОЯ,*
*ЯКО В НЕБІ ТАК І НА ЗЕМІ.*
*ХЛЕБА НАШЭГО, ПОВШЭДНЕГО*
*ДАЙ НАМ ДЗІСЯЙ….*

Словы былі выпісаны выразна, кожная літара запаміналася зрокава. Усё на тых аркушах трэба было вывучыць на памяць, іначай да споведзі ксёндз мяне не дапусціць, — умольна тлумачыла мне матуля, час ад часу круцячы галавою, ці не падслухоўвае хто…

---

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ** — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў у 1959 годзе. У 1981 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, у 1984 г. — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі.

Аўтар звыш 400 публікацый, у тым ліку кніг «Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991); «У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава» (1994); «Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі» (1995); «За архіўным парогам» (2002). На высокім тэксталагічным узроўні падрыхтаваў і выдаў творчую спадчыну шматлікіх дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: аднатомнікі твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984, 2001), Францішка Багушэвіча (1991, 1998, 2001), Вацлава Ластоўскага (1997, 2001).

Я нарадзіўся ў той час, калі танцаваць, як і спяваць, мог не кожны. Трэба было нямала напружвацца, каб навучыцца вальса ці польку. І не было таго тлумнага, натоўпам, шаманскага дрыгання-віхляння. І тэксты літаратурныя (неабавязкова паэтычныя) прамаўляліся старымі людзьмі з памяці (непісьменныя дзяды не былі вялікім дзівам). І да касцёла, а ў маіх местачковых рэаліях слыннага Ракава — цвінтарнай капліцы на ўскрайку мястэчка, дзятве трэба было прабірацца пакрыёма, праз «заградительные отряды» — ланцугі, у якіх на Каляды й Вялікдзень адважна, плячо да пляча, паўставалі парторгі розных савецкіх кантораў, дырэктары, завучы й настаўнікі школаў, міліцыянты й сексоты, якія сцвярджалі, што «*бога — нет*» (акурат так, з малой літары), а «*религия — опиум для народа*».

Тым не менш, гэта быў яшчэ той час, калі да бацькоў звярталіся толькі на «Вы». І цалавалі іхнія рукі: татаву — каб вымаліць прабачэнне ды пазбегнуць пакарання дзягаю; матуліну — на знак вялікай радасці й шчырай удзячнасці за набытую каляровую круцёлку ці які настольны футбол. Наогул лічылася прынятым, вітаючыся, цалаваць руку ў кожнай жанчыны. А мужчыны віталіся на вулках, схіляючыся ў пашане й прыпадымаючы капялюш ці скідваючы з галавы магерку. А яшчэ ўсе без выключэння, кабеты й мужчыны, дзеці й нямоглыя старыя, цалавалі руку ксяндзу, калі той завітваў пад чыюсьці страху.

Гэта яшчэ быў той час, калі сямейка сядала за вялікі ці малы стол і ўсе сямейнікі — тры-пяцьсем або дзясятак душ — чэрпалі лыжкамі з адной супольнай місы (найсмачней было есці з драўляных лыжак, падстаўлячы спадыспаду лусту) і мачалі хлеб у агульную патэльню. Выпадкова скінуты са стала акраец абавязкова падымаўся з падлогі, цалаваўся й клаўся на край стала (хай нават не самім на спажытак, а ўжо толькі скаціне) са словамі: «Даруй, Божухна».

Частка патрыярхальных рэалій, выцягнутых з маёй малечай памяці, была рэаліямі жыцця нашага мясцовага ксяндза-пробашча Яна Такарскага, хоць паходзіў святар ой як далёка ад Ракава над Іслаччу.

Ян Францішак Такарскі нарадзіўся 12 красавіка 1900 года ў Вялікіх Мехавічах на Тарноўшчыне (ля Тарноўскай Дубровы). Гэты абшар на самым поўдні Польшчы (ваяводства Малапольскага з цэнтрам у Кракаве) ляжаў пад аўстрыйскай імперыяй. Сям'я Казімера й Марылі Такарскіх была вялікаю: Уладзіслаў (1889-1943), Караліна (1893), Ян Непамук (1896-1898), Марыяна (1897-1935). Пазней прыйдуць на свет Зося (1901-1939), Юльляна (1903-1980), Станіслаў (1906). Тры браты й чатыры сястры. Жылі з уласнай раллі і… кузьні. Казімер быў кавалём з залатымі рукамі. Крыж на тамтэйшай святыні, акаваныя касцельныя дзверы, могілкавыя агароджы, плугі, бароны — плён працы не толькі каваля Такарскага, а і яго-ных сямейнікаў, сярод якіх Ясь найбольш прападаў-дапамагаў у кузьні. Ставала працы ад ранняй вясны да позняй восені і нават узімку, бо «калі на дварэ лядок — кавалю мядок». На непадкаваным кані не паедзеш анікуды… Басаногі Ясь Такарскі не толькі ў кузьні свяціў голымі лыткамі, але гэтак завітваў і ў касцёл, дзе змалку прыслугоўваў міністрантам. Басаногасць была часткова ад звычкі, часткова ад бядоцця, з якога шматдзетная сям'я Такарскіх не магла выбавіцца. Басаногае маленства гартавала сэрца і выкоўвала чуллівасць да ўсіх пакрыўджаных, пагарджаных, паняволеных. Калі адраджалася Польшча, 19-гадовы Ян Такарскі ахвотнікам пайшоў у шэрагі толькі што створанага Польскага войска. У 1919-1923 гадах ваяваў пад Кіевам, Бярдычавам, Львовам. Малады дзяцюк замест уласнай навукі ў гімназіях ды ўніверсітэтах ахвярна змагаўся за будучыню народа, каб наступнікі мелі дзе вучыцца на роднай польскай мове, чаго, вядома, пад аўстрыяцкім панаваннем бракавала не менш, чым беларускаму слову пад акупацыяй маскоўскай.

Там, ва Украіне, ён упершыню пачуе пра ордэн салезіянаў. Не шукайце гэтае слова ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы — там яго няма. Салезіянскае таварыства заснаваў святы Ян Боска, які назваў яго ў гонар свайго нябеснага апекуна — святога Францішка Сальскага. Мэта заснавання таварыства была акрэсленая ў першых словах





Высокія будні ксяндза пробашча Яна Такарскага ў мястэчку Ракаў. Споведзь у каплічцы. Святы хрост на плябані. Канец 1950 – пачатак 1960-х гадоў.



Пробашч Ян Такарскі кіруе рамонтам тына вакол Ракаўскіх могілак. На здымку крайні справа — муляр Уладзімір Патаповіч (па мянушцы «Бімбала»). У аб'ектыў пазірае Стась Сянькевіч. Ракаў, 1960-я гады.



Працэсія на Ракаўскіх могілках. Канец 1950 – пачатак 1960-х гадоў. Хто, апроч ксяндза Такарскага, пазнаецца сёння на гэтым фотаздымку? Я распазнаў родную матулю, Марылю Ірэну…

яго статута: «*Хрысціянская даскаланасць ягоных сяброў дасягаецца духоўнымі і цялеснымі намаганнямі на карысць моладзі, асабліва маламаёмаснай, а таксама падрыхтоўкай юнакоў да святарства*». Станаўленне салезіянаў адбылося ў сярэдзіне XIX стагоддзя. У 1857 годзе ксёндз Боска склаў першы статут таварыства і праз год наведаў Рым, каб атрымаць падтрымку ад свайго заступніка — папы Пія IX. У 1859 годзе кс. Боска склікаў першы з'езд кангрэгацыі, на якім і было заснавана Таварыства святога Францішка Сальскага. Калі на нашых землях палыхала паўстанне 1863–1865 гадоў, акурат тады былі адчыненыя першыя салезіянскія каледжы ў Мірабела, Манферата і Ланца.

Гады навучання будучага ксяндза Яна Такарскага прыпалі на час Другой сусветнай вайны. Клерыку Такарскаму давялося давучвацца патаемна — у летувіскім Сальдуціскісе. 16 сакавіка 1941 года Ян Такарскі атрымаў прэзбітэрскае пасвячэнне. Напачатку была праца ў самой Вільні (дапамагаў пры салезіянскім касцёле святога Стэфана). Потым яго чакала Беларусь: Гарадзея на Нясвіжчыне, Дубровы, Пяршаі, Ракаў.

Смерць хадзіла побач з ім усю вайну. Папярэдніка кс. Такарскага ў Гарадзеі, ксяндза Юзафа Гагалінскага, застрэлілі немцы, а ў Дубраве тамтэйшага святара Міранчыка — «партызаны». Прыйшлі проста пад плябанію, папрасілі паклікаць ксяндза і, як толькі ён з'явіўся ў дзвярах — застрэлілі. Магчыма, і там, у Гарадзеі, было забойства партызанаў, ды па традыцыі савецкай гісторыі ў нас шмат што спісвалі на гітлераўцаў. Аднак арыштавалі кс. Такарскага расейцы. Мая цётка Ядзвіня (маміна родная малодшая сястра 1930 г.нар.) прыгадвае той рашучы настрой, якім поўніўся пробашч Такарскі за тыдзень да арышту. Падчас апошняй навукі-казання ў ракаўскім касцёле ён высока ўзнёс ўгору рукі – ажно рукавы сутаны апалі па локці — і, патрасаючы імі, прамовіў:

— Папомніце адно: Бог не выдасць — свіння не з'есць.

А іншы сведка, не з Ракава, а з Дубрава, Уладзіслаў Лапа, які нарадзіўся 31 сакавіка 1929 г., памятае, як перад самым арыштам ксяндза Такарскага прывезлі да іх на хутар, на сховы. Мясцовы люд папярэдзіў пробашча, што на яго ўжо запісаны чорны «варанок», таму няхай схаваецца, перачакае. Ксёндз пасяліўся на хутары ў лепшай святліцы. Шмат чытаў. Калі жадаў выйсці з хаты ў бліжэйшы бярозавы гай (там было бялютка-бялютка ад бярозаў, ажно вочы адымала, як ад снежнай белі), дык апроч малітоўніка, Брэвіярыя, браў з сабою жаночую хустку і накідваў яе на галаву, каб здалёк здавалася, што гэта крочыць кабета. Але аднойчы ўранку, прыгадаўшы хіба што сваю ваярскую маладосць, секануў рашуча, па-кавалерыйску:

— Што будзе — тое будзе! На ўсё воля Божая. Вяртаюся да сваіх авечак…

«Палітычна небяспечны вораг савецкай улады», святар Ян Такарскі быў арыштаваны сярод белага дня 16 чэрвеня 1948 года. У той самы дзень яго вывезлі ў Вілейку на допыты. Энкавэдысцкія катаванні доўжыліся чатыры месяцы (16.06 – 20.11.1948), у свае 48 гадоў ксёндз Такарскі выйшаў з турмы бяззубым старым. Прысуджаны яму тэрмін выглядаў «сціпла»: усяго 10 гадоў.

Ракаўскага пробашча спачатку этапавалі ва Усходнюю Беларусь, у Віцебск. Паводле пазнейшых успамінаў святара, умовы там былі «прымальныя», хоць наперадзе чакалася зіма і спаць даводзілася на замерзлых, прысыпаных снегам нарах. Ужо адтуль у 1949 годзе пробашча Такарскага вязуць у канцэнтрацыйную Інту — паміж Пячораю і Варкутою. Там, у турэмных лёхах, разлічаных на 6 катаржнікаў, зняволеных напакоўвалі да трох дзясяткаў душ — схуднелых, схварэлых, занядбаных…

У жывёльных варунках Інты сплыло два гады. У 1951 годзе саветы вяртаюць ксяндза Яна ў Беларусь, у маладзечанскую тур-

му — на перасуд! І цяпер прысуд быў вынесены адпаведны, варты нялюдскай савецкай улады — 25 гадоў! Але і гэта было зніжкаю, бо судовая пастанова гучала жахліва патрабавальна: «Смяротнае пакаранне». Чаму яго змянілі зняволеннем на чвэрць стагоддзя?

Развітваючыся з мясцінамі, што сталі яму роднымі, святар Такарскі відавочна і не думаў пра мажлівасць вяртання. І тады, хіба, паўстала першая легенда, звязаная з ягоным жыццём. Не маючы мажлівасці сачыць за сабою штодня, ксёндз адгадаваў бараду, якая ўжо тады бялела сівізною і рабіла вязня на дзясятак гадоў старэйшым за сапраўдны ўзрост. Ад гэтага крыху ніякавелі самыя азвярэлыя канваіры. Таму салезіянін даў зарок: «Божа, няхай сівая барада мая стане маім абярэгам на ўсе 25 гадоў, і я зглалю яе тады, праз чвэрць стагоддзя. Калі дажыву...»

Гэтае абяцанне скончылася па тэрміне за год да яго смерці (1948+25 = 1973).

Ужо па вяртанні кс. Такарскі любіў паўтараць, пагладжваючы зрадзелую бараду: «Гэта не барада, гэта мая ратаўніца». Яшчэ адна акалічнасць, якая зрабілася вядомаю пазней: у Сібіры нейкім чынам удалося кс. Такарскаму запісаць свой узрост роўна на 10 гадоў большым (г. зн., 1890 г. нар.), таму пасля смерці Сталіна ён і трапіў у першую чаргу вызваленых, бо 65-гадовым вязням належала амністыя…

Жыццё па вяртанні ў Ракаў не было простым. Прыехаўшы летнім днём (ці не ў жніўні), падаўся на даўнюю вуліцу Віленскую, у хаціну Волеся Лукашэвіча, якому перад арыштам аддаў «сваё дабро гаспадарскае». У Лукашэвічавай хаце ўжо мясцілася калгасная кантора, і святара ўзяла да сябе старая Маеўская (па мянушцы Пштычышка), якая жыла побач з хацінаю майго роднага дзядулі, Станіслава Грыбоўскага. Неяк увечары, вяртаючыся гародамі дахаты, сын гаспадара (таксама Станіслаў — гэта мой родны дзядзька 1933 г. нар.) убачыў людзей, якія корпаліся ў гародзе ў баразнах, выкопваючы бульбу. «Што за справа такая?! — уляцеў дзяцюк у хату. — Там злодзеі нейкія бульбу нашую падкопваюць!» Але бацька не даў яму разводзіць размовы: «Маўчы, сыне! Не твайго розуму тут справа». Тады й даведаўся юнак, што бацька саступіў колькі там баразнаў з бульбаю ксяндзу Такарскаму на пражыццё...

Кожны парафіянін, ракаўчукі й жыхары навакольных вёсак, спрыялі святару як маглі. У хаціне Маеўскай, што стаяла пры цэнтральнай вуліцы Віленскай (паўз хаціны мястэчка ішоў самы кароткі шлях Мінск-Вільня, Мінск-Гародня), ксёндз доўга заставацца не мог, бо вельмі ж шмат вернікаў набівалася ў хаціну і стаяла на надворку падчас Імшы. Прадстаўнікам акупацыйнай савецкай улады гэта здавалася выклікам, таму неўзабаве кс. Такарскі перасяліўся на вуліцу Радашкоўскую, 11. Гэта была вялізная хата Фэлькі і Стафаніі Лукашэвічаў (па мянушцы Швэд), дзе адзінока жыла Манька (Швэдзішка), і стаяла хата побач з маім родным домам, усяго праз адну хаціну Казюка Лукашэвіча, аграмаднага мужчыны, якому адняло ногі ў маладыя гады (займаўся памежным мытніцтвам, цудоўна апісаным у раманах Сяргея Пясэцкага). Туды, у хаціну Швэдзішкі, і хадзіў я на іспыты перад першай споведдзю.

З жыцця ксяндза на Радашкоўскай вуліцы памятным было здарэнне, калі мой старэйшы брат, Фэлька, спаліў галёшы ў шчыліне паміж нашай дрывотняю й сцяною хаціны Казюка Лукашэвіча. Ксёндз ахвярна кінуўся тушыць чорны дым (у звыклы будзень мужчынаў па хатах не было). «Платаю» яму стала разадраная сутана (ублытаўся ў цясніне паміж будынкамі) і абгарэлая сівая (легендарная!) бародка.

Ксёндз Такарскі характарам быў гарачым, троху нервовым, хоць я ніколі сам за ім нічога такога не заўважаў, а мо проста не памятаю з-за малалецтва. Аднак парафіянам з Дубрава кс. Такарскі запомніўся словамі, сказанымі пад гарачую руку: «Божа, мой Божа, я прасіў Цябе, едучы сюды служыць, каб Ты даў мне людзей, а Ты паслаў мне свіней».

Папрокі пробашча Яна Такарскага ў бок ракаўчукоў гучалі больш стрымана: «Пшанічка за мяжу паехала, а куколі (жыцікі, пустазелле) засталіся». Але і тут мне бачыцца наследаванне запаветаў ксяндза Боска, які за *motto* жыцця абраў словы: «*DA MIHI ANIMAS, CAETERA TOLLE*» («*Дай мне душы, усё астатняе забяры*»). Калі ў нейкі момант перад ксяндзом Янам паўстала магчымасць выбару новай парафіі з пераездам ва Украіну, ракаўчукі ў адзін голас сталі ўпрошваць ксяндза застацца, ведаючы, што замены яму не будзе аніякай, бо не было святароў на паднявольнай савецкай Беларусі. Яшчэ кс. Такарскага цанілі за чынны ўдзел у грамадскай працы стваральнаю талакою. Народны звычай працаваць разам («*Калі робіш у ку́пе, не баліць і ў пу́пе*») відавочна быў блізкім кс. Такарскаму змалку. Чаго вартая толькі адна каменная агароджа — МУР, — пастаўленая па перыметры вакол абшарных Ракаўскіх могілкаў. Як згадвае мой родны дзядзька Станіслаў-Стах Грыбоўскі, нават спрактыкаваных ракаўскіх муляроў пробашч тым даймаў, што кожны камень вадой абмываць загадаў: маўляў, гэтак трывалей мур стаяцьме. Праўда, хапала і крытычных закідаў: напрыклад, чаму ксёндз у каменны мур устаўляе даўнія паваленыя, параскіданыя па цвінтары помнікі, над якімі не злітаваўся не толькі час, але й саветы-камуністы?! Няўжо каменняў на палях мала?

Што да цвінтара… Згадваецца памятнае з майго маленства: публічнае распіццё спіртных напояў за саветамі каралася, але… толькі не на могілках! Новая савецкая камсамольская моладзь (з вуснаў старэйшага люду тое «кансамольцы» гучала



Над магільнаю плітою ксяндза-вязня — паплечнікі, якія таксама прайшлі ГУЛАГ і вярнуліся служыць свайму люду. Імшу ўзначаліў ксёндз Пётра Пупін (1912–1979) з Рубяжэвічаў. Ракаўскія могілкі, снежань 1975 г. (?).




Надмагілле кс. Яна Такарскага на Ракаўскіх парафіяльных могілках.

абразліва, набліжаючыся фанетычна да «камсы» — дробнай таннай марской рыбкі) пад уздзеяннем «зялёнага змія» пачынала неміласэрна нявечыць пахаванні — бадай палова магілаў у тыя дзесяцігоддзі пазбавіліся надмагільных крыжоў...

Аднаўленне парафіяльных могілкаў — бясспрэчная і відавочная заслуга ксяндза Яна Такарскага. Слова «праца» ў салезіянскай духоўнасці выкарыстоўваецца для абазначэння не толькі самой працы, але і пабожнага, стваральнага жыцця на зямлі. Можна сказаць, што салезіянскае жыццё ёсць любоўю ў дзеянні, а не ў пустаслоўі. Згодна з навучаннем святога Яна Боска, трэба любіць не адно словам альбо языком, але канкрэтнымі ўчынкамі і праўдаю. Кожная хвіліна чалавечага жыцця павінна прысвячацца, апроч малітоўнай удзячнасці Творцу, яшчэ і апостальскай фізічнай працы, дзякуючы якой чалавек нараджаецца нанова як зямны творца, створаны на падабенства Бога. Ксяндзу Яну Такарскаму, які прайшоў па лагерным канвееры смерці і выжыў, салезіянскага аскетызму было не займаць — будаўнічыя цяжкасці ў Ракаве здаваліся яму дзіцячымі забаўкамі ў параўнанні з дзікаю бязглуздаю працаю на сібірскіх лесапавалах…

Ну, а хто працуе — той і мае. Хлеба ксяндзу Такарскаму ў ракаўскай парафіі хапала дзякуючы і самому працавітаму салезіяніну, які перайшоў у новую хаціну, набытую ў 1960-я гады на імя кухаркі Міхалінкі Станкевічанкі, і завёў уласную гаспадарку. «Ксяндзоўскі дом», як адразу ахрысцілі яго ў мястэчку, быў агароджаны высозным плотам, дзе гаспадарылі адразу некалькі сабак: сквалыжны, віскатлівы дварнячок Карусь і тлусты, бульдогападобны Мунгарт. Сабакі прывучана паслухмяна суправаджалі пробашча Такарскага падчас ягоных доўгіх шпацыраў па ваколіцах, калі даводзілася пакрыёма спавядаць людзей на лугавінах і ў пералесках, а кухарка Міхалінка потым адвячоркам разносіла выспаведаным Гостыю — Камунію. Татка мой, як цырульнік, часта мусіў наведвацца да пробашча, асабліва ў апошнія гады, калі ксёндз Такарскі згаліў бараду. Святар дзіўным чынам памаладзеў перад смерцю…

Смерць напаткала ксяндза Такарскага ў снежні 1974 года. Цукровы дыябет і іншыя «радасці», набытыя ў расейскіх турмах, моцна дакучалі яму. Да абвастрэння фізічных пакутаў спрычыніліся духоўныя: дзіўным збегам абставінаў у 1973 годзе (за год да смерці ксяндза) ракаўская капліца на могілках была двойчы абрабаваная, што балюча адбілася на самапачуванні пробашча. Першым разам ксёндз ляжаў крыжам у збэшчанай святыні, просячы ў Бога вяртання зрабаваных рэчаў: манстранцыі, васьмі кандэлябраў па тры свечкі і асабліва — цудоўнага старадаўняга алтарнага крыжа… Злодзеяў неўзабавае злавілі, а скрадзеныя рэчы знайшлі прыхаванымі ў блізкай дрывотні. Аднак пры паўторным рабунку шмат чаго не вярнулася.

...Стоячы на малітве ў нашай знакамітай цудоўнай святыні над Іслаччу, я часта думаю: «А колькі малітваў, шчырых і сімвалічных укрыжаванняў учыніў над сабою ксёндз Такарскі, выпрошваючы ў нябёсаў, каб хоць па ягонай смерці святыня вярнулася вернікам!»

І гэтак сталася.

Хто б з якога боку ні пад'язджаў да Ракава — з Расеі, з Польшчы, з Летувы ці Украіны — кожнага вандроўніка прыхільна прывітаюць у рушчыцаўскім вечна блакітным небе вежы нашай святыні, нібы малітоўна ўскінутыя рукі — «*Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі…*»

**Літаратура:** Waldemar Witold Żurek SDB. Ksiądz Jan Franciszek Tokarski // Jeńcy na wolności: Salezjanie na terenach byłego ZSRR po II wojnie światowej. — Kraków, 1998. — S. 177–206.

Анатоль Трафімчык

# Рэлігійныя матывы ў кнізе Якуба Коласа «Песні-жальбы»



Вера ў Бога, звароты да Яго становяцца адной з прыкметаў, адным з прынцыпаў мастацкага метаду Якуба Коласа ад самага пачатку творчасці. Прычым не столькі пэўная рэлігія, колькі менавіта вера. І ў гэтым не варта шукаць сімпатыі да неапратэстанцтва, якое імкліва распаўсюджвалася ў часе сталення Канстанціна Міцкевіча (мяжа XIX–XX стст.), — ён як чалавек заставаўся праваслаўным, а ў творчасці — калі закранаў менавіта моманты рэлігіі, а не веры — спалучаў традыцыі абедзвюх галоўных канфесій — праваслаўя і каталіцтва. Хаця і нельга цалкам выключаць азнаямленне будучага літаратурнага класіка з ідэямі іншых хрысціянскіх вучэнняў, якія цыркулявалі ў той час, напрыклад, талстоўства, але тым не менш казаць пра дзейсныя ўплывы на жыццё і творчасць Якуба Коласа якіх-небудзь рэлігій, апрача праваслаўя і каталіцтва, падставаў няма.

Для яснасці адразу акрэслім тэматычную дыферэнцыяцыю ранняга перыяду творчасці Якуба Коласа. Агульнапрызнана, што галоўнымі ў ідэйным спектры маладога паэта сталі сацыяльныя матывы, а канкрэтней —перажыванне за мужыцкае жыццё. Аснову вынікаў паэтычнага мыслення Якуба Коласа перыяду станаўлення складае грамадзянская лірыка ў яе звыклым літаратуразнаўчым разуменні, аднак з яе варта асобна вылучыць вершы з палітычнымі матывамі і сацыяльна-філасофскія. Акрамя таго, была напісана выдатная пейзажная лірыка, а таксама (але даволі спарадычна) — філасофская і любоўная лірыка. Рэлігійнай у вузкім сэнсе — няма.

*Нешчасьліва наша доля:*
*Нам нічога не дала.*

Так сказана ў праграмным вершы яшчэ ў 1904 г. Ім пачынаецца першая Коласава кніга «Песні-жальбы» (1910)[2]. Тым не менш і звужаць класавай сацыялагізацыяй вершы гэтай кнігі не варта. Побач з ёю цыркулююць рэлігійныя матывы, якія складаюцца ў яшчэ адну канцэптуальную інтэрпрэтацыю яе прачытання. Прычым прачытанне «Песняў-жальбаў» праз рэлігійную прызму выяўляе як яўныя, экспліцытныя сістэматычна ўжываныя элементы, так і існы імпліцытны пласт, які патрабуе філасофскай і літаратуразнаўчай дэшыфроўкі. У першым выпадку маецца на ўвазе лексічны ўзровень, у другім — вобразны і кампазіцыйны, а таксама тэксталагічны.

Найперш на наяўнасць рэлігійных матываў у кнізе ўказвае сама яе назва, якая супадае з найменнем рэлігійнага цыклу для каталіцкага набажэнства, што ўзнік у Рэчы Паспалітай на пачатку XVIII ст.: «Першы раз іх праспявалі ў касцёле Святога Крыжа ў Варшаве. У хуткім часе гэтае набажэнства стала адным з найбольш папулярных набажэнстваў Вялікага посту і на нашай зямлі. Разважанне мукаў Хрыста ў „Песнях-жальбы“[3] спрыяе духу пакаяння, а перадусім мае на мэце служыць нашаму навяртанню» [6]. Несумненна, паэту, хоць і праваслаўнаму, яны былі вядомыя: «ужо ў другой

---

**Анатоль Трафімчык** — гісторык, паэт, даследчык літаратуры. Нарадзіўся ў 1976 г. у в. Вялікія Круговічы Ганцавіцкага раёна. У 1993 г. скончыў школу. У 1998 г. скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі ў 1998–2001 гг . У 2003 г. скончыў аспірантуру Інстытута еўрапейскіх даследаванняў НАН Украіны. У 2004 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю ў Інстытуце гісторыі НАН Украіны на тэму «Станаўленне савецкай сістэмы адукацыі ў заходніх абласцях БССР у 1939–1941 гг.», атрымаў дыплом доктара філасофіі. Даследуе праблемы заходнебеларускага памежжа і палітычнай гісторыі першай паловы XX ст. Выдаў тры паэтычныя зборнікі: «Пасведчанне аб нараджэнні» (1999), «Ноты цноты» (2003), «Лірыка Лірыка» (2007). Працуе навуковым супрацоўнікам Цэнтра моваведства НАН Беларусі.

палове XIX ст. „Песні-жальбы“» спяваліся па ўсёй Польшчы» [7]. Згадаем, што пад назвай гэтай краіны яе нацыянальныя дзеячы нярэдка мелі на ўвазе землі Рэчы Паспалітай, куды ўваходзіла і тэрыторыя Беларусі, на якую таксама прыйшоў гэты рэлігійны песенны цыкл, а значыць ён, па ўсёй верагоднасці, быў знаёмы і Якубу Коласу.




Некаторыя паралелі заўважныя і паміж структурай Коласавых і рэлігійных песняў: прынамсі абодва феномены маюць уводзіны і па некалькі частак. Рэлігійны цыкл «пачынаецца ад так званай пабудкі, пасля чаго надыходзяць тры часткі разважанняў Мукаў Пана Езуса. Кожнай частцы папярэднічае адчытанне інтэнцыі. Акрамя гэтага, кожная з частак складаецца з трох раздзелаў» [7]. У кнізе Коласа змешчаны ў тым ліку плач па зямным чалавеку, яго долі, па роднай старонцы, што перагукваецца з рэлігійным цыклам, дзе «ў другой частцы разважанняў над мукаю Пана будзем разважаць аб тым, што Пан Езус выцерпеў ад несправядлівага прысуду ажно да ўкаранавання цернем. Гэтыя раны і знявагі ахвяруем Пану, просячы супакою для нашай Айчыны, згоды паміж народамі, а для нас саміх — прабачэння грахоў, паратунку ад зямных няшчасцяў, а асабліва ад пажару, голаду, вайны і заразы» [6]. Але, як падказвае сам паэт яшчэ ў першым раздзеле кнігі, інтэрпрэтацыя жальбы ў яго не супадае з рэлігійнай:

*Як бяз долі і бяз хлеба*
*Працавіты люд наш гнецца...*
*Кінь ты жальбу нашу ў неба —*
*Нехай неба ўскалыхнецца!*

(«Месяц»)

Таму і думкі незалежна ад аўтара «ўюцца», «томяць грудзі», «хочуць выліцца з душы», «выбіцца на сьвет»:

*Ці вас песьня-жальба,*
*Думкі, ўзгадавала?*
*Ці людзкое горэ*
*Ў лесі вас спаткало?*

(«Рана засмуцілісь...», 1909)

У абедзвюх цытатах закладзена непасрэдная адсылка да назвы Коласавага выдання, якое, такім чынам, не толькі алюзіруе рэлігійныя матывы, але і апаніруе ім. Гэты тэзіс можна лічыць ці не цэнтральным у тэме рэлігіі ў творчасці класіка. Месца Хрыста ў «Песнях-жальбах» займае «працавіты люд» у розных найменнях, а ролю іконы выконвае родны вобраз-абраз. Пры гэтым функцыянальнасць Коласавых «Песняў...» тоесная рэлігійным, якія маюць на мэце «пабудзіць у нас спачуванне да церпячага Хрыста, а таксама да жалю за грахі, якія і ёсць прычынай Яго такіх цяжкіх мучэнняў, а ў выніку — смерці. <...>

У гэтай прыгожай і кранальнай малітве галоўным матывам з’яўляецца жаль за грахі, які вядзе да метамарфозы (навяртання, перамены жыцця), жаль, які выплывае з асабістай любові да Хрыста. Гэтае набажэнства таксама ёсць спробай адказу на пытанне пра сэнс цярпення. Бог у Езусе Хрысце адказвае на гэтае пытанне не тэорыяй, а салідарным прабываннем з чалавекам у яго цярпеннях і болю» [7]. «…У канцэптуальным плане, паводле хрысціянскай аналогіі, кніга Якуба Коласа была менавіта разважаннем пра мукі народа, які цярпеў і мусіў праз мастацкае «ўсведамленне» сваёй пакуты адрадзіцца і «навярнуцца да новага жыцця» [1, с. 13].

Такім чынам, якраз аўтар сам падштурхоўвае паглядзець на сваё выданне праз рэлігійную прызму. У розных кантэкстах Усявышні фігуруе ўжо ў першых публікацыях вершаў Якуба Коласа, і ў «Песнях-жальбах» акрэсленая цэлая лінія прысутнасці Творцы. Найчасцей Найвышэйшая Сіла выступае як галоўная прычына бедстваў народа, край якога «забыты Богам»:

*Ціха калосься, схіліўшы галовы,*
*Шэўчуць[4] у межах палёў;*
*Толькі ж ня слухае неба іх мовы —*
*Жальбы ржаных каласоў.*
<...>
*Бедная ніва, знаць, Богам забыта —*
*Дарма надзея была:*
*Спаленай нівы жаданьне нязбыто —*
*Міма хмурынка прайшла.*

(«Хмары, 1909)

Аднак паэт не быў схільны зводзіць дэтэрмінізм цяжкай долі народа да віны Бога. Многія прычыны гаротнага становішча людской масы бачацца ўнутры яе:

*Ці мы, хлопцы, рук не маем?*
*Ці ж нам сілы Бог не даў?*
*Ці ж над родным нашым краем*
*Промень волі не блішчаў?*

(«Беларусам», 1906)

За светлыя старонкі жыцця паэт гэтаксама звяртае погляд удзячнасці ў Неба:

*Ідзе вясна ўжо, дзякуй Богу!*
(«Вясна», 1898 — 1902)

Акрамя таго, ідэя многіх вершаў Я. Коласа рэалізоўваецца з дапамогаю хрысціянскай атрыбутыкі: найперш крыжоў — прыдарожных і надмагільных, розных святаў — як часавых арыецціраў, іншых царкоўных паняццяў (абразы, царква, грэшнік, звон, дзяк і да т.п.). Слова «Бог» і ўтвораныя ад яго згадваюцца 20 разоў.

Натуральна, што адлюстраванне беларускай рэчаіснасці сапраўды немагчымае без згадвання рэлігіі, таму Я. Колас ужывае адпаведную лексіку ў тым ці іншым кантэксце. Але нават не гэта галоўнае. Звяртае ўвагу закальцаваная кампазіцыя раздзела. Вершы размешчаны не ў храналагічным парадку іх стварэння (NB на прыведзеныя адмыслова побач з назвамі твораў гады), а ў свядома абранай паслядоўнасці. З аднаго боку, праз яе закальцаванасць адлюстраваны прыродны цыкл і рытміка народнага, сялянскага жыцця. З іншага боку, у падкрэсленні матыву адраджэння-ўваскрашэння (*«Весна, весна // Жаданая! // Ты прыйдзёш зноў, // Ты вернешся»* [3, с. 28]) таксама ёсць рэлігійныя матывы. Менавіта мастацкае адлюстраванне жыцця прыроды праз заўсёднае вяртанне-ажыўленне стварае паралель з абяцаннем уваскрашэння ў хрысціянскай традыцыі. Якуб Колас мог закончыць круг на зіме, аднак ён абазначае пачатак наступнага кругу.

Фактычна менавіта са сфармуляванага вышэй тэзіса пра алюзійнасць і апаніраванне стасоўна рэлігійных матываў пачынаецца і другі раздзел Коласавых «Песняў-жальбаў», які называецца «Родныя абразы» (падкрэсленне наша. — А. Т.), а не так, як мы са школы прывыклі бачыць гэтую назву (праўда, дзякуючы аднайменнаму вершу). Вядома ж, маюцца на ўвазе родныя вобразы. Аднак жа і супадзенне адпаведнае і — паводле стылю алегарызацыі аўтара — наўрад ці выпадковае. Да таго ж лагічна паставіць пытанне, **што** аўтару перашкаджала назваць і раздзел, і вядомы хрэстаматыйны верш гэтак, як слова падавалася ў тэксце — «образы». Тым болей, што паэт практыкаваў гэткую форму — адзін з вершаў, апублікаваных у «Нашай Ніве» (1907, 24 лют., №8), называецца «Расейскія образы» (1907), у ім крытычна апісаныя карціны жыцця ў імперыі, якія ні ў якім разе не маглі быць названыя абразамі. (Згаданы твор, што паказальна, не ўвайшоў у «Песні-жальбы»!)

Успамінаючы за кратамі блізкія сэрцу краявіды, Якуб Колас называе іх менавіта абразамі, хоць гэта ўсяго толькі, як гаворыцца ў хрэстаматыйным вершы, «(в)образы». Працытуем паказальны прыклад, зазірнуўшы ў апошні раздзел «Песняў»:

*Образы мілые роднаго края*
*Смутак і радасць мая!*
*Што маё сэрца да вас парывае?*
*Чым так прыкованы я...*
(«Родныя абразы», 1908)

Такім чынам песняром фактычна абагаўляецца родны край, праяўляецца рэлігійная адданасць яму. У такім святле зусім інакш успрымаюцца радкі з ужываннем слова «абразы», а не «образы»:

*Я не знаю, я не знаю,*
*Чым я так прыкуты*
*Да тваіх, мой родны краю,*
*Абразоў пакуты.*
(«Я не знаю», 1909)

Пасля ўнармавання беларускай літаратурнай мовы і адаптацыі да нормаў Коласавых твораў азначаная нюансіроўка, на жаль, страцілася.

Да таго ж Я. Колас не толькі стварае ікону з краявідаў Бацькаўшчыны — часам выразнае стаўленне паэта да сялянскай справы як да вышэйшай за рэлігійнае жыццё:

*Хлебароб глядзіць з уцехай,*
*Ходзіць ў Божым дару…*
*Так ні поп, ні ксёндз ня ходзяць*
*Пры сьвятым алтару.*
(«Хлебароб», 1908)

Уладзімір Конан лічыў, што «Песні-жальбы» «бліжэй да філасофіі хрысціянскай дэмакратыі, чым да сацыяльнага радыкалізму. У аснове сюжэтаў і вобразаў праграмных вершаў праглядваецца архетып евангельскай прыпавесці пра Лазара беднага і багацея (Лк 16, 19–31), пераўтвораных у аспекце тагачасных сацыяльных рэаліяў Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. <…> Коласавы вобраз селяніна — гэта і вобраз Беларусі — беднага Лазара Расійскай імперыі» [4, с. 108]. Прычым падобнае прачытанне не абмяжоўваецца толькі названай кнігаю. У. Конан гаворыць яшчэ і пра алегарычнае апавяданне «Дудар» (гл. падрабязней: 4, с. 110; 1906 г. — г. зн. таксама з ранняй творчасці).

Асабліва выдзяляюцца з першых крокаў у паэзіі Якуба Коласа эсхалаталагічныя матывы, якія ў далейшым пашыраюцца і становяцца адной з дамінантаў у паэме «Новая зямля» [гл. падрабязней: 5].

Пры неабходнасці для вырашэння сваіх мастацкіх задач Якуб Колас запазычвае відавочна біблейскія калізіі. Так, верш «Мужык» (1908) выступае падагульненнем жыццёвага шляху селяніна, асабліва яго апошнія радкі:

*Я мужычы сынок,*
*Я ня маю дарог.*
*Мая школка — шынок,*
*Маё жыцьце — астрог!*

У гэтым вершы звяртае на сябе ўвагу страфа, прапушчаная пры далейшых публікацыях яўна з цэнзурных меркаванняў (пра гэта скарачэнне паведамляецца ў каментарыях апошняга Збору твораў Я. Коласа [2, с. 534], але і яго складальнікі ў дадзеным выпадку прадоўжылі нядобрую традыцыю Галоўліта). Між іншым, як сцвярджаецца У. Конанам, тая купюра з'яўляецца выразнай адсылкай да біблейскага сюжэту, але ён перанесены на глебу беларускай рэчаіснасці, і пратаганістам выступае звычайны гаротнік-мужык, «люд забіты, люд хрышчоны» (цытата з верша «Наша доля» (1907)), хоць і не зусім ідэальны ў хрысціянскім сэнсе.

*Пад ваконьнем не раз*
*Я з мяшэчкам хадзіў,*
*Міласьціны ў вас*
*Хрыстом Богам прасіў.*

*Вы ж у торбу маю*
*Клалі чэрствы кусок;*
*Замест рыбы — зьмяю*
*З сьмехам клалі ў мяшок.*

У. Конан цытуе гэтыя радкі і далей супастаўляе іх з біблейскім аповедам: «У Нагорным казанні Ісус Хрыстос пытаецца ў народа: «Ці ёсць сярод вас такі чалавек, які, калі папросіць сын ягоны ў яго хлеба, камень падаў бы яму? І калі рыбы папросіць — змяю падаў бы яму?» (Мц 7, 9)» [4, с. 108]. Гэткім шляхам Якубам Коласам дэманструецца, што жыццё мужыка праходзіць ва ўмовах, далёкіх ад міжчалавечага ўзаемаразумення.

Такім чынам, у кнізе «Песняў-жальбаў» выразна акрэсленая ідэйна-тэматычная апазіцыя «свет фізічны — свет метафізічны / рэлігійны». Жыццё чалавека і прыроды, згодна з канцэпцыяй «Песняў-жальбаў», мае два бакі — рэальны і ірэальны. Яны аб'ядноўваюцца тоеснымі рытмамі, у якіх адраджэнне рэальнага, матэрыялістычнага боку (у выніку гадавога кругазвароту) адпавядае ўваскрашэнню рэлігійна-метафізічнага (абяцанага паводле Бібліі).

Аднак выразнае і супрацьпастаўленне жыццёвай рэчаіснасці і яе нематэрыялістычнага боку. Канечне, вонкавае ўражанне, што рэпрэзентуецца сацыяльная парадыгма лірыкі «Песняў-жальбаў», і ў савецкі час такая трактоўка найзручней клалася ў пракрустава ложа марксісцка-ленінскага літаратуразнаўства. Але Я. Колас не хаваў і пэўнай рэлігійнасці, аддаючы пры гэтым перавагу не царкоўнай інтэрпрэтацыі (якой, тым не менш, не адкідваў), а сакральнасці родных вобразаў — як ён сам кажа, *абразоў*. Яны ствараюцца пэўным колам канцэптаў, што складваецца ў працэсе разгортвання панарамы «Песняў»: поры года як чытэльныя сімвалы жыцця (найчасцей — вясна), найменні Бацькаўшчыны ў розных варыяцыях (перадусім — родны край), песні як спараджэнне сацыяльнага і прыроднага жыцця, найважнейшыя ўмовы сялянскага існавання (хата, ніва, жыта, поле, лес, дарога і інш.), абагульненая фігура селяніна. Пры гэтым далёка не на апошнім месцы знаходзіцца хрысціянская рэлігійная лексіка (найбольш часта згадваюцца крыжы і словы з коранем «Бог»). Такое спалучэнне, у якім бачыцца пантэістычны пачатак, натуральна, са сваімі нацыянальнымі асаблівасцямі, адлюстроўвае светапогляд беларусаў, становіцца яго інтэлектуальным здабыткам.

У цэлым у першай кнізе паэзіі Якуба Коласа «Песні-жальбы» акрэсленыя мастацкія прыёмы аўтара. Некаторыя матывы яе вершаў былі паўтораны і плённа развіты ў наступных творах. Адным з такіх матываў з'яўляецца стварэнне і раскрыццё мастацкага свету праз рэлігійныя элементы. Наколькі яны прысутнічалі ў жыцці тагачаснага беларускага селяніна, настолькі і ўводзіліся ў творчасць. Разам з тым мы бачым вольную ці міжвольную метафарызацыю сэнсаў, закладзеных у вершах Якуба Коласа, праз эксплiцытнае выкарыстанне элементаў рэлігійнасці (перадусім на лексічным узроўні) і яго прыхаваныя адсылкі, паралелі ці аналогіі з біблейскімі матывамі.

---

[1] Цытаванне па першакрыніцы вымушанае, бо ў канчатковай рэдакцыі верш істотна зменены, асабліва ў аспекце рэлігійных матываў.

[2] Для абранага аспекту даследавання няма прынцыповага адрознення паміж напісаннем назвы праз дэфіс («Песні-жальбы) і сучасным — без дэфіса, асобна. У першапублікацыі на форзацы напісана без дэфіса, але з ім — на ўнутранай тытульнай старонцы. Беларуская мова тым часам яшчэ не была ўнармаваная, таму разнабой у напісаннях здараўся нярэдка. Звернем увагу на тое, што назва паэмы «Сымон-музыка» (цяпер пішацца праз дэфіс) спачатку публікавалася асобна — «Сымон музыка», але для гэтага няма падставаў, асабліва пры супастаўленні з назваю «Песні-жальбы». Больш правільна было б даваць назву са злучнікам, бо ён захаваны ў падобным выразе, які фігуруе ў вершы «Рана засмуціліс…», прычым дэфіс пакінуты і ў наступных публікацыях, у тым ліку апошнім Зборы твораў Я. Коласа (гл.: [2, с. 263]). Пры напісанні з дэфісам слова «жальбы» (форма слова ў такім выпадку мае назоўны склон, множны лік) становіцца азначэннем-эпітэтам «песняў», падобным да жанравага (як, напрыклад, элегіі, малітвы), без дэфіса (форма слова тады мае родны склон, адзіночны лік) слова «жальбы» можа быць суб'ектам-крыніцаю «песняў», ледзь ні лірычным героем іх або азначаць іх зместавую напоўненасць. Паколькі гэта не назіраецца пры відавочнай наяўнасці значэння фарматнай характарыстыкі «песняў», думаецца, што больш правільным з'яўляецца напісанне праз дэфіс.
У самога аўтара напісанне назвы яго першай паэтычнай кнігі часам даецца праз дэфіс: напрыклад, пры напісанні аўтабіяграфіі.

[3] Напісанне без дэфіса назвы рэлігійнага цыклу ў гэтай і далейшай цытатах з'яўляецца сінтаксічнай калькаю з польскай мовы — правільна перакладаць было б са злучком.

[4] Відавочная памылка, трэба: шэпчуць. У далейшым выпраўлена.

**Літаратура:**


1. Багдановіч, І. «Гэта — вобразы краіны Беларусі роднай…»: да 100-годдзя першага зборніка вершаў Якуба Коласа «Песні-жальбы» / І. Багдановіч // Роднае слова. — 2010. — №9. — С. 12—15.
2. Колас, Я. Збор твораў: у 20 т. / Я. Колас. — Мінск: Беларус. навука, 2007 — 2012. — Т. 1: Вершы (1898—1910) / рэд. тома М. І. Мушынскі; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т. Р. Строевай; прадм. М.І. Мушынскага; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я.Купалы, 2007. — 622 с.
3. Колас, Я. Песьні-жальбы / Якуб Колас. — Вільня, 1910. — 128 с.
4. Конан, У. Філасофскія погляды Якуба Коласа: пастаноўка праблемы / У. Конан // Каласавіны. Якуб Колас і яго акружэнне: матэрыялы навук. канф., прысвеч. 50-й гадавіне смерці нар. паэта Беларусі Якуба Коласа, 3 лістап. 2006 г., Мінск / склад. З.М. Камароўская, Г.І. Зайцава. — Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2007. С. 103-114.
5. Конан, У. Эсхаталагічныя матывы ў паэзіі Якуба Коласа / У. Конан // Каласавіны. Матэрыялы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. — Мінск, 2003. — С. 18-29.
6. Песні жальбы // catholic.by [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://catholic.by/2/home/spetials/105811-piesni-zalby.html.
7. «Песні жальбы» // PIJARY.INFO. Афіцыйны сайт Ордэна Піяраў у Беларусі [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://pijary.info/?p=176.

# «Абняла мяне Беларусь, запаланіла, трымае...»

## Размова з Данутаю Бічэль з нагоды юбілею



*— Данута, мне вельмі падабаецца, як ты апісваеш сваё першае прадчуванне творчасці ў эсэ «Толік Кіеня, месячны дожджык». Яно з'явілася ў цябе ў раннім узросце і ўжо ў маленстве вярэдзіла твае летуценні. А калі быў напісаны першы верш, і ці магла б ты яго прыгадаць?*

— Я крыху пісала пра гэта, таму буду паўтарацца... Рэня, старэйшая сястра, гуляла з сяброўкамі ў «Кошку і Мышку». Я толькі пачынала хадзіць. Босенькая, у кашульцы, злезла з ложка і ўчапілася за ўслончык, які стаяў пасярод хаты, а Рэніны сяброўкі, нашмат старэйшыя за мяне, не хацелі, каб я ім перашкаджала гуляць. Але нехта з іх мяне пашкадаваў:

— Няхай пабудзе Мышкай! Тады Кошка спытала:

— Мышка, Мышка, дзе была?

— Акунь-дакунь, кунь-кунькунь, — адказала Мышка, бо размаўляць яшчэ не ўмела, да таго ж хвалявалася. Мяне пасля гэтак і дражнілі... Мабыць, гэта і быў мой першы «вершык».

А ў пачатковай школе ў першым класе я напісала кароткія рыфмаванкі пра хлопчыкаў, якім настаўніца Любоў Антонаўна часта рабіла заўвагі на ўроках. Мае кароткія вершы змясцілі ў сценгазеце. Усе пачыталі, пасмяяліся. Гэта было зімой. Снегу было шмат. Наша школа знаходзілася на канцы вёскі ў хаце Ілюка Войдака — гэтак прозвішча гучыць па дакументах, а вясковыя называлі гэтую сям'ю Гойдавы. Звычайна мы хадзілі ў школу па пратаптаных сцежках. А тут я спалохалася, бо ўбачыла, што «героям вершаў» яны зусім не спадабаліся, і пабегла напрасткі па полі, па разорах. Хлопцы гналіся за мною і лупілі мяне снежкамі... Болей вершаў у нашай школе я не напісала, ды і паперы чыстай у мяне не было.

Пасля чатырох класаў мяне пакінулі пасвіць каровы, таму 1949 год я прапусціла. 2 верасня 1950-га сястра прыйшла да мамы, каб нарадзіць Гальку ў роднай хаце — усе былі гэтым занятыя, а я ўцякла ў школу ў Дакудава. Пасля ўрокаў настаўнік прыйшоў да нас і ўгаварыў тату, каб адпусціў мяне вучыцца. Мы хадзілі ў школу праз лес. Каб дарога была лягчэйшай, пачалі ў рытм хадзе складаць вершы і так захапіліся вершаскладаннем! Калі школа скончылася, у мяне застаўся чысты сшытак у клетачку. У вольную хвілінку я ішла ў лес, да магілкі, дзе быў пахаваны кучаравы палонны салдат, якога немцы вялі па гасцінцы, а я яго, з іх дазволу, напаіла сырадоем... Каля яго магілкі я пісала вершы і пра вайну, і пра героя, які загінуў за мяне і спачывае ў нашым лесе, а навакол пяюць птушкі, цвіце шыпшына, пахне багун і спеюць сунічкі. Мама маім сшытачкам падпаліла дровы ў пліце...

На першым курсе ў лідскай педвучэльні я напісала верш пра пятачок пад ліпкамі, на якім моладзь танцавала пад гармонік. Я гэты верш прачытала са сцэны, калі ў педвучэльню прыехаў Кандрат Крапіва. Класік тады сказаў, каб я прыслала верш у «Вожык», але я не паслала яго. Затое ўсе пачулі, што я спрабую складаць вершы, да мяне падышлі Нэля Пазняк і Анатоль Кяўлюк і прапанавалі далучыцца да іх, каб выдаваць сценгазету. Першакурсніцу з вясковай школы прынялі ў склад рэдакцыі сценгазеты, якую выпускалі сябры са старэйшых курсаў! Там я і друкавала свае вершы...

*— А калі з'явіўся твой першы верш у рэспубліканскім друку?*

— Тады, калі я скончыла педвучэльню і паступіла ў Гродзенскі педінстытут. На сустрэчу да нас прыехалі з Мінска Пятро Прыходзька і Сяргей Грахоўскі. Яны выступілі ў вялікай аўдыторыі, а пасля на літаратурным гуртку, які я наведвала. Вось тады яны і ўзялі мой верш «Роднае слова». 12 лютага 1958 года яго надрукавалі ў «ЛіМе». З тае публікацыі ўсё і пачалося.

*— З усяго табою напісанага я найчасцей перачытваю твой паэтычны цыкл «Водар і шолах». Мне здаецца, што ў сучаснай беларускай паэзіі ніхто не здолеў так паэтычна і ўзнёсла апісаць кветкі і зёлкі нашай зямлі, ніхто не перавязаў іх такім тугім і моцным перавяслам любові і захаплення. Як ствараўся гэты цыкл і ці захавалася ў душы сённяшняй гараджанкі тая любоў і замілаванасць да прыроды, да вясковага жыцця ўвогуле?*

— Я доўга збірала гэтыя вершы, прыглядалася да зёлак на лузе і ў лесе, назірала за птушкамі. Але найбольш усё вывучалася само сабою з вясковага жыцця ды з народных песняў. Мая вёска лячылася зёлкамі.

Цётка Броня вылечвала шэптам урокі, пярэпалахі, «ружу», здымала боль з цела. Калі я пісала апавяданні ў кнігу «Правінцыя святога Францішка», мая суседка па доме, Яўгенія Арцукевіч з вёскі Курпікі, расказала, што яе бабуля Параска зёлкі сама не збірала, а брала ў лес сваіх малых унучак, у якіх яшчэ не было «месячных», каб зёлкі былі чыстыя. І ў Элізы Ажэшкі нешта падобнае ўспамінаецца, але я раней гэтага не ведала… Зоська Верас у маладосці вывучала зёлкі, сабрала і выдала ў Вільні ў 1924 годзе батанічны слоўнік на чатырох мовах. Аляксей Карпюк з мяне смяяўся: «Ты ўсё пра кветачкі ды пра ягадкі, а калі ж будзеш пісаць пра жыццё?!» А Васіль Быкаў успрымаў мае зёлкі ўсур'ёз. Ён мяне аднойчы так пахваліў: «У цябе атрымалася поўнае вядзёрка ягадкаў з вяршком!»

Карпюк хацеў, каб я пісала вершы на грамадскія тэмы, а Быкаў успрымаў мяне такой, якой я была…

Я і цяпер памятаю той грудок на ўскрайку Масцішчаў, дзе мы з Эрыкам набралі поўны кошык баравічкоў і яшчэ збіралі ў кашулю. Гэта былі апошнія Эрыкавы баравічкі. Я шчаслівая нават ад успамінаў. Мяне цягне ў лес і на луг, я сумую па сваіх сцяжынках, і сум гэты светлы.

*— Данута, у цябе шмат паэтычных радкоў, прысвечаных роднай мове. Ты пішаш, што «нават дробнае слоўца нам долю звястуе». А як складваліся на працягу жыцця твае адносіны са словам? Ты па-ранейшаму давяраеш слову?*

— Некалі маладыя паэты, якія збіраліся ў Музеі Максіма Багдановіча ў Гародні, нібы жартам, супакойваючы сябе, казалі, што будзем пісаць, як умеем, а карэктары нас паправяць. З гадамі мне было ўсё цяжэй шукаць праўдзівае слова, бо настаўніцай мовы была мая вёска, мая мама, вясковая песня. Я так ім давярала, што не магла зразумець, чаму нельга ўжываць слова «*чата*», калі мама так называе і дажджавую хмару, і злосную суседку. А ў польскай мове ёсць адказ: «*чата*» — вайсковая адзінка… У нас ніхто не казаў «*сёння*», казалі «*дзісь*»; не было слова «*суніцы*», бо гэта «*паземкі*»… Мне непрыемна, калі папраўляюць словы «шмат» на «багата», «дзяружку» на «радзюшку». Я не люблю словаў «*суворы*», «*агаломшаны*»; у нас кажуць «*круча*» над Нёманам, а на Нёмане кажуць «*вір*». Кожнае роднае слова трымаецца на душы, на духу, на вышыні і глыбіні. Усе разважанні пра роднае слова — гэта разважанні пра наш неабдымны скарб, пра вялікае шчасце, у якім мы купаемся ўсё жыццё...

*— Наколькі, на тваю думку, слова здольнае перадаць рэчаіснасць?*

— Слова здольнае перадаць усялякую рэчаіснасць, усе тонкія перажыванні душы, усе нюансы жыцця, пачуцці, усё, што вочы бачаць і вушы чуюць, і чаго не бачаць — таксама. Для слова няма ніякіх абмежаванняў, яно здольнае на ўсё, яно змяняе час, межы, станы рэчаў, бо «*На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова. Яно было ў Бога на пачатку. Усё праз Яго сталася, і без Яго нічога не сталася з таго, што сталася. У Ім было жыццё, і жыццё было святлом людзей. А святло свеціць у цемры, і цемра не агарнула яго*», — так сказана ў Евангеллі ад Яна.

Беларускі народ, на жаль, страціў роднае слова і згубіў галаву, падурнеў. Мова людзей стала беднай, абмежаванай, яна не ўсведамляецца імі як родная, і па-руску гавораць абы-як…

*— А што для цябе верш — гэта дыялог, размова з людзьмі і светам, з Богам, ці ўсё ж твой унутраны маналог, імкненне выказацца?*

— У залежнасці ад формы і зместу верш можа быць і сумоўем са светам, і размоваю з Богам, і з самім сабою. Можа быць чыстай інфармацыяй або ацэнкаю ўчынкаў і вялікіх падзеяў у грамадстве, можа быць і дыялогам: «*Гэй, Музыка, можаш мне на адной сыграць струне?.. — А чаму ж бы й не?..*» Я люблю такія вершы і чытаць, і складаць, але ў мяне іх няшмат. Кароткім вершам можна ахапіць увесь свет і перавярнуць усё ўверх дном. У бедным на прыгоды і вандроўкі жыцці я мела адзіны прыемны занятак, асалоду, маленне, адхланне, адпачынак і стому — складаць вершы… Верш — гэта нейкая нябачная, але не зусім бесцялесная істота, з вершам ты не адна. Верш, які ўдаецца, робіць цябе шчаслівай надоўга, часам на ўсё жыццё. Ты вяртаешся да яго, паўтараеш у цемры, калі не спіцца, — ягоныя словы, вобразы цябе грэюць. І верш збліжае цябе з іншымі людзьмі, знаходзіць табе сяброў. Найлепшы спосаб сумоўя — размаўляць вершамі… А як няма нікога — рэцытаваць вершы Богу. Бывае, ад верша ўразаецца ў памяць, застаецца адзін радок, і ён такі значны! Калі я еду ў Скідаль маршруткай і нехта выходзіць на прыпынку «Саволеўка», я ўспамінаю паэта Валодзю Шурпу і яго верш «*Стаіць на зямлі Саволеўка»!* І болей нічога не трэба. Оля Хвашчынская стварыла на мой верш песню пад гітару — да аднаго верша дадала два радкі з другога, бо ёй іх не хапала*:* «*І я дацярплю тут пры кожным рэжыме, я буду маліцца, і Бог мяне прыме*». Алесь Дзянісаў з двух радкоў стварыў песню: «*Паміж сонным сонцам і соннай зямлёй душа размаўляе з душой*». А настаўніца з вёскі Сялец, Яўгенія Барысаўна, калі ўнучка нарадзіла хлопчыка, патэлефанавала мне і кажа: «Якое шчасце, што буслік прынёс мне праўнука. *Нарадзіўся, таму не згубіўся!*»

*— Паэзія для цябе — гэта ўцёкі ад рэчаіснасці ці, наадварот, жаданне яе зразумець?*

— Ад жыцця, ад людзей, ад самой сябе нельга нікуды ўцячы, можна на нейкі час схавацца, каб адпачыць ці залізаць раны. Але гэта раскоша, якую можа сабе дазволіць толькі спакойны і забяспечаны чалавек. Мне гэта не ўдалося, таму я не ўцякаю ад



З маці Марыляй. Біскупцы, 1987 г.

людзей, наадварот, іду насустрач, раскрываюся перад імі да астатку, ніколі не пакідаю сабе ніякай заслоны, нічога. Гэта мой вялікі недахоп, а можа, і хвароба. Пра гэта я і пішу: «*Драбноткі жыцця мяне гоняць, як крыгу, сціскаюць і раняць. І людзі чытаюць, як простую кнігу, // мой боль, маю радасць // Прастадушнасць*»…

Паэзія, вершаскладанне і сталі прычынай таго, што мне прыходзіцца бескарысліва служыць людзям, асабліва старым, адзінокім, пакінутым і пакрыўджаным. Дапамагаць паэтцы са Смаргоні Веры Вайцюль укласці адзіны зборнік вершаў «А музыка гучала». Раней прыходзілася дабываць і пасылаць лекі, бо мая зямлячка Марыя Рудзь у Гародні была загадчыцай аптэкі. Я ахвотна бяруся за такую бескарыслівую работу, як, напрыклад, набраць тэкст на кампутары. Я заўважала, што калі хітрыя людзі ўцягвалі мяне ў размовы з асуджэннямі або выцягвалі з мае душы нейкія сакрэты, якіх я выдаваць не павінна была, ці проста раскручвалі мяне на балбатню, пасля, астаўшыся без іх, я «ачышчалася» ад гэтага граху вершамі. Але маліцца Ружанец і Вяночак — гэта яшчэ лепей...

*— Ці змяняюцца твае пачуцці з узростам і ці змяніліся твае адносіны да людзей, да жыцця, да свету?*

— Вядома, і пачуцці змяняюцца, і адносіны да людзей змяніліся. Я стала больш памяркоўнай, навучылася прымаць людзей такімі, якімі яны ёсць, паважаць і выслухоўваць людзей, якія думаюць не так, як я. У цяжкіх для мяне сітуацыях аддаюся на Божую волю, прашу ратунку ў Бога, давяраю сваё жыццё і жыцці сваіх дзяцей святому Антонію. Але і адгароджваю сябе ад агрэсіі, ад людзей, якія мяне не любяць, я стараюся іх зразумець, але не імкнуся ім падабацца, а каб не раздражняць іх, трымаюся ад іх, па магчымасці, на дыстанцыі.

З нейкага часу я пачала востра адчуваць халодных, злосных людзей. Яны ёсць усюды, у касцёльных супольнасцях, на жаль, таксама. Я стамляюся ад натоўпу ў абмежаванай прасторы — мне пасля баліць галава, я дрэнна сябе адчуваю. Можа, гэта таму, што ў маладосці я шмат чытала вершаў перад рознымі аўдыторыямі. Часамі нехта мяне пазнае, гэта старэйшыя людзі. Вядома, у восемдзесят гадоў найлепш бы жыць на аднаселлі, за плотам, у садку, у сваім доме, з роднымі людзьмі. Але нічога такога я не прыдбала. Найчасцей пры вырашэнні нейкіх жыццёвых праблемаў у мяне не было выбару, але Нехта, Невідочны, падказваў мне, як жыць, куды ісці, з кім быць. А з вялікім светам наладзіць адносіны немагчыма. Я толькі слухаю ды перажываю за ўвесь свет і за кожную малую істоту ў ім.

*— Ты напісала калісьці: «Абняла мяне Беларусь, запаланіла, трымае…» Ці па-ранейшаму трымае гэтак жа моцна, нягледзячы на ўсе расчараванні і боль?*

— Калі я пісала гэты верш, думала, што можна рабіць выгляд, быццам ты не заўважаеш некаторыя непрыемныя табе з'явы ў грамадстве, і такім чынам можна быць вольнай ад іх, заставацца сабой. Не баяцца саветаў — і яны цябе не дастануць. Гэты спосаб думак і паводзінаў я атрымала ад таты, ад хутара, знаходзячыся ў тую страшную вайну ў такой маленькай, але ў такой мудра пабудаванай хаціне, у якой лёгка схавацца: уцячы з печы — у сена на гарышчы, з гарышча — праз шчыт — у лес, у стог саломы. Такое павярхоўнае, прымітыўнае разуменне гэтай страшнай «машыны», якая калілася па нашай зямлі, разбурала ўклад жыцця звонку і знутры, разбурала культуру быту, нашу псіхіку. Я любіла Беларусь тую, якою яна была да саветаў. А маё актыўнае жыццё прыпала на 60–80-я гады, прайшло пры саветах. Я паехала ў горад, дзе савецкасць была на паверхні, людзі кланамі захоплівалі ўсё, што можна было захапіць, маёмасць, пасады, і ўзбагачаліся тайна — багацце нажываецца скупасцю і несумленнымі камбінацыямі. Касцёлы працавалі падпольна. А я была тут, як гэтая мая варонка, якую яе сястрыца выкінула з гнязда, каб болей корму ад бацькоў было ёй, і цяпер варонка жыве ў маёй кватэры. Я па-свойму трымалася за Беларусь — за Быкава і Карпюка. Беларусь, пра якую я напісала ў вершы, — гэта мае бацькі, дзядзькі, цёткі, сваякі.

*— Большасць жыцця ты пражыла ў Гродне…*

— Так, гэты горад я выбрала на жыццё, і гэта таксама мая Беларусь. І горад гэты цудоўны, гістарычны. І прайшло па яго вуліцах шмат магутных духам, сапраўдных людзей, і засталася па іх моц духу. Тут жылі вялікія князі, каралі, паўстанцы Кастуся Каліноўскага. Святы Максімільян Кольбэ ды слуга Божы Мельхіёр Фардон неслі паслугу

ў нашым францішканскім касцёле.

І на мяне, і на маіх дзяцей уплывае высокая культура гэтага горада, архітэктура яго вуліц, яго будынкаў самых розных стыляў — готыкі, мадэрну, барока, канструктывізму і эклектыкі, строгіх вежаў святыняў усіх канфесій; найцудоўнейшых узораў з камення і маёлікавых плітаў на сценах з плінфы на Каложскай царкве, самай старажытнай у Беларусі і ва ўсёй усходняй Еўропе; прыгожых надмагільных помнікаў на старых могілках, цудоўных кованых балконаў, крыжоў, агароджаў, драўляных ліштваў рэзчыкаў па дрэве, гліняных вырабаў, ткацтва, вышыўкі, фатаграфіі… Майстры ўсіх відаў прафесійнага мастацтва, літаратуры, тэатра і музыкі нараджаліся ў гэтым горадзе і неслі ў свет славу пра яго. Усё гэта ў духоўным ужытку творцаў, усё вывучаецца, пераасэнсоўваецца і ўплывае на духоўны рост.

Дзяцінства паэта Максіма Багдановіча, магіла яго маці, дзейнасць юнай Зоські Верас у Гародні далі мне магчымасць праявіць і сваю грамадскую актыўнасць. Ствараючы ў 80-90-я гады Музей Максіма Багдановіча, я апынулася ў самым сэрцы грамадскага руху Гародні і ўсёй Беларусі. Гэта быў час, калі развальваўся Савецкі Саюз, людзі ехалі ў свет, шукалі Беларусь, і дом Паэта чамусьці аказваўся на скрыжаванні гэтых шляхоў.

*— Тваё літаратурнае пакаленне моцна ўпісана ў сацрэалізм. Наколькі табе асабіста ўдавалася з яго вырывацца? Каму з нашых творцаў, на тваю думку, гэта найбольш удалося? І наколькі гэты метад у беларускай літаратуры аказаўся жывучы?*

—Аркадзь Куляшоў і Пімен Панчанка напісалі прыгожыя вершы ў сацрэалізме. Максіму Танку было цяжэй з еўрапейскай культуры прыстасоўвацца да сацрэалізму, але і ў яго атрымалася. Усе, каму Бог даў талент і



З Васілём Быкавым
і Аляксеем Карпюком.
Гродна, 1964 г.

працавітасць, вырваліся з сацрэалізму і напісалі, што змаглі. Я адставала ад свайго пакалення, бо жыла не ў сталіцы, далёка ад сталічных рэдакцый. Я працавала на поўную нагрузку ў школе і была хатняю гаспадыняй. Неяк жыла сама па сабе. Цяжка было, але я не здавалася, і мне Бог даў крыху больш часу. Магчыма, у сваіх лепшых вершах мне ўдалося пазбегнуць унутранай цэнзуры, якую ў нас выхоўваў сацрэалізм…

Сацрэалізм — гэта тэматычнае абмежаванне творцы, і яно цягне за сабой абмежаванне формы. І ў нашым духоўным часопісе ёсць свае абмежаванні. І аўтар сам сябе абмяжоўвае. Я арыентавалася на тых, каго паважала: пры сацрэалізме гэта былі Васіль Быкаў, Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. Цяпер — гэта мае чытачкі: вясковая настаўніца на пенсіі Яўгенія Кулевіч і ўся яе сям'я, мінская медычка, таксама ўжо на пенсіі, Аня Дораш, паэтка з Брэста Святлана Варонік. Я пішу для іх толькі пра светлае… Не магу ацэньваць маладую літаратуру, бо чытаю толькі паасобныя творы. Люблю сваіх калегаў з малых местаў і вёсак — Алеся Зайку, Аляксея Белага, прозу Валодзі Васько. Гэтых аўтараў мала ведаюць…

Беларуская літаратура — багатая, квяцістая, разнастайная, яна прадаўжае развівацца і набірае моцы, знаходзіць новыя тэмы, новыя кірункі пры ўсіх уладах, войнах і няволях. Чытачоў у яе мала, але літаратура ствараецца, і на ёй таксама трымаецца Беларусь...

*— Данута, два твае ўнукі паехалі ў свет. Як ты адносішся да гэтага іх выбару?*

— Цяпер у свет едуць не толькі ўнукі, а нават мае равеснікі і равесніцы. Добра павандраваць па свеце і ўбачыць жыццё ў іншых краінах. Мне падабаюцца сустрэчы моладзі свету з Рымскім Папам. Гэта цудоўна!

З маіх унукаў у свет паехаў Стась Ільін. Ён працуе дальнабойшчыкам, піша прозу пра сваё жыццё ў Амерыцы. У выдавецтве «Логвінаў» выйшла яго кніга «Ветравое шкло» на рускай мове — дзённік дальнабойшчыка. Сябры, якім я падаравала Стасеву кнігу, кажуць, што яна чытаецца лёгка, здзіўляюцца, што ў Амерыцы нашай моладзі жыць не так проста, як мы тут думаем. Апавяданні Стася Ільіна публікаваліся ў «Дзеяслове», «Верасні», «Макулатуры», «Новым часе», у альманаху «Новы замак», у краязнаўчым часопісе «Охота и рыбалка», і таксама мелі добры водгук. А яшчэ ён прывозіў ці дасылаў нам часопіс «Дальнобойщик Америки», у якім вёў сваю рубрыку «Інтэрстэйты», дзе пісаў пра амерыканскія аўтамагістралі. Рэдактар часопіса Віталій Барушка ў мінулым быў праваслаўным святаром, і гэта адчуваецца па хрысціянскім змесце часопіса. Я з вялікай цікавасцю чытала Стасевы эсэ, у якіх ён апісвае аўтастрады, гісторыю іх пабудовы, розныя сустрэчы і прыгоды на дарогах. Мой унук у вольны час піша і прозу, і вершы, і тэксты для «крычашчага» рок-гурта — так ён называе гурт, у якім грае на

бубне і розных бразготках. Стась мае сяброў не толькі ў Філадэльфіі, але і ў розных канцах свету — ён злавіў гэты сучасны рытм жыцця…

Малодшы ўнук Антось пакуль што вучыцца ў Беластоку, але гэта амаль Беларусь. Унук Андрэй спрабуе арганізаваць сваё жыццё ў Гродне.

Я ўсё ж лічу, што людзям трэба жыць там, дзе яны нарадзіліся, але мае ўнукі вырашылі іначай. Зрэшты, наш дзед Адам у пачатку мінулага стагоддзя таксама з'ездзіў у Амерыку пашукаць заробкаў, але яму не ўдалося выйграць у карты востраў, як аднаму чалавеку з Забалотні. Дзед вярнуўся дадому і дзякуючы гэтаму нарадзілася мама, а ў мамы — я.



З мужам Эрыкам Загнетавым, сынам Валерам і дачкой Вікай на адпачынку ў Гаграх. 1971 г.

*— Ты нарадзілася на Лідчыне ў Біскупцах, пра якія ты пісала, што яны «агарнулі ўсю Беларусь». Твае родныя Біскупцы па-ранейшаму для цябе цэнтр сусвету?*

— Толькі ў снах… Які ж гэта цэнтр сусвету, калі я туды прыязджаю толькі на Задушны дзень? Цяпер цэнтрам з'яўляецца мая кватэра ў Гродне на першым паверсе па вуліцы Кастуся Каліноўскага, побач са стадыёнам, пабудаваным на былых габрэйскіх могілках. Калі не стала маёй сястры Рэні, Біскупцы для мянеператварыліся ў светлы настальгічны ўспамін.

Калі казаць пра Біскупцы як мой сінонім Беларусі, то гэта тое месца, дзе сфармавалася мая адказнасць перад людзьмі, сярод якіх я жыву. Гэта той уклад жыцця, які дала мне вясковая супольнасць. Да прыкладу татавай дабрыні і мамінага ўмення ўсіх накарміць, амаль не маючы прадуктаў, дадаўся прыклад цярплівай дасканаласці святога Францішка з Асізі, якога я выбрала на пэўным адрэзку свайго жыцця як свайго літаратурнага і духоўнага Настаўніка, зразумеўшы, што несвядома наследавала яго з першых сваіх крокаў. Калі ў Гродне жыў францішканін Юзаф Макарчык, мне было лягчэй, бо я мела магчымасць размаўляць з ім як з жывым святым Францішкам, але цяпер яго няма, а святы Францішак ёсць… І мае Біскупцы мяне чакаюць…

*— У цябе ёсць паэтычная кніга з прыгожаю назваю «Іду сцяжынаю да Бога». Калі і дзе пачалася гэтая сцяжына, і як табе па ёй ідзецца? Ці заўсёды знаходзіш кантакт з Богам?*

— Я нарадзілася — і пачалася сцяжына. Мяне хрысцілі на Божае Нараджэнне! Я паспела атрымаць Першую Камунію, пакуль драўляны касцёл Перамянення Пана ў Гаўі зачынілі, а ксяндза саслалі — не ведаю куды, бо з высылкі ён паехаў у Польшчу. Некалькі разоў з мамаю мы хадзілі пешкі ў Ліду ў фарны касцёл. Памятаю вялізныя чэргі да споведзі… Пасля я вучылася ў педвучэльні ў Лідзе і жыла ў доме тарцыяркі Ядвігі: Франя з Манюсяй прынялі мяне ў цесны пакоік, дзе яны ўжо год здымалі «шчылінку» за прыгожым старым крэдансам. У тым доме жылі толькі старыя святыя людзі. Наша гаспадыня ў вялікія святы праводзіла нас на касцёльныя хоры.

У Гародні я не хадзіла на Імшу — была студэнткай камсамолкай. На падсвядомым узроўні, пад скуру, нам уводзілі «вакцыну нявер'я». Але я заходзіла ў гродзенскія касцёлы — сядзела ціха, не малілася словамі. Мама малілася за мяне. Але ружанчык я мела заўсёды. Дома быў польскі малітоўнічак, мама навучыла мяне гаварыць балесныя таямніцы, і я іх адмаўляла. Чамусьці наша вёска вясною пад крыжам і зімовымі вечарамі ў чыёй-небудзь хаце адмаўляла менавіта балесныя таямніцы…

Пасля смерці майго мужа Эрыка, пасля ўсяго грэшнага жыцця, я паехала да споведзі да ксяндза Уладзіслава Чарняўскага ў Вішнева, аб чым я напісала ў вершы, які друкаваўся ў «Ave Maria». Божыя сцяжынкі прывялі мяне да вас, у «Про Хрысто», бо вы мяне паклікалі.

Кантакт з Богам — гэта інтымная справа, таямніца душы. Я малюся з усімі людзьмі ў фарным касцёле на Імшы па-беларуску. Мая вера на наіўным узроўні, гэтак вераць простыя жанчыны. У хвіліны адчаю і смутку я малюся больш, чым калі ўсё добра. Бывае, што малюся ноччу, да знямогі. На малітву патрэбны духоўныя сілы...

*— Увогуле, тэма дарогі, хады выразна выяўлена ў тваёй творчасці. Гэта відаць нават у назвах тваіх кніг: «Дзе ходзяць басанож», «Хадзі на мой голас», «Мост святога Францішка», «Іду сцяжынаю да Бога», і сваю новую кнігу, якая рыхтуецца ў нашым выдавецтве «Про Хрысто», ты назвала «Дайсці да Каложы». Што для цябе значыць дарога, шлях? Ці ўсе напрамкі выбіраліся абдумана? Ці задаволена сваім жыццёвым шляхам?*

— Мае дарогі, дакладней, сцяжынкі, вялі мяне спачатку па ягады і па грыбы, а пасля — на працу і ў крамы. Калі дарога кароткая, то ходзіш па ёй і аглядаеш уважліва, фіксуеш зрокам наваколле, якое робіцца часткаю цябе. Імкнешся быць асцярожнай, уважлівай да людзей, якіх сустракаеш на сваім шляху кожны дзень: калі няма часу паразмаўляць з імі, то хоць глянуць прыязна, усміхнуцца.

Я не выбірала абдумана жыццёвых шляхоў і напрамкаў. Усе мае жыццёвыя ўчынкі на эмацыйным узроўні. Але Нехта кіраваў маім жыццём. Я ўжо сказала пра гэта ва ўступе да кніжачкі, якую мы рыхтуем. «Дайсці да Каложы» — гэта жаданне дайсці да поўнай дасканаласці, зліцца з родным краявідам, з Нёманам, які вызначае адметнасць нашай зямлі, па цячэнні якога я прайшла, не адрываючыся ад яго; зліцца з зямлёю, і, калі Бог будзе ласкавы, з небам над роднай зямлёю. Дайсці да глыбіні па шляху, якім прайшлі мае продкі, аддацца на Божую волю. Вярнуцца туды, адкуль прыйшла. Вярнуцца сціпла і незаўважна…

*— Данута, ты даўно заняла сваё адметнае і значнае месца ў беларускай паэзіі — за кнігу «Дзе ходзяць басаног» у свой час атрымала Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы. Чаму ўсё ж прыйшла да прозы?*

— У маладосці я зрабіла адну пастанову: паколькі я дзяўчына, маім бацькам трэба, каб я выйшла замуж, бо так у вёсцы прынята, і таму буду пісаць толькі вершы, бо на іх не трэба траціць шмат часу… Гэтая пастанова не запісвалася як дэкларацыя. Я выхоўвала дзяцей, варыла бульбу, якая падгарала, бо я забывала пра яе, пісала вершы! Працавала на поўную стаўку настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, да прыходу з працы строгага мужа прыбірала кватэру. Усё так цягнулася, пакуль дзеці не падраслі і не памёр муж, які быў дзіцём вайны… Мне трэба было неяк зарабіць крыху больш сродкаў. Тады я пачала пісаць рэцэнзіі ў «Лім», у часопіс «Беларусь», дзе працавала ты, мая маладая зямлячка. А калі ты мяне запрасіла ў часопісы «Наша вера» і «Ave Maria», я зразумела, што тут трэба рабіць звычайную журналісцкую работу. Калі я пісала пра Янку Купалу, я змарнавала шмат паперы, бо не ўмела будаваць сказы: вершаваная мова зусім не такая, як мова прозы. Памятаю, як вы мне прапанавалі напісаць пра Канстанцыю Буйло, як я збірала сведчанні ў людзей па тэлефоне і пазнаёмілася з настаўніцамі беларускай мовы абодвух Вішневаў, як размаўляла пра Буйлянку з Нілам Гілевічам… Гэта давала столькі прыемных эмоцый! У часопісе «Наша вера» друкаваліся мае эсэ пра тых, каго я помню і люблю. Тады з’явіўся да мяне Павел Мажэйка з прапановаю скласці кнігу прозы для «Гродзенскай бібліятэкі». Кнігу я назвала «Хадзі на мой голас». Яна выйшла ў 2008 годзе. Тады думалася, што гэта будзе адзіная кніжачка прозы ў маім жыцці. Мы яе так хораша прэзентавалі — у Біскупцах, на Рэніным надворачку, перад сёстрамі і сваякамі! Рэня сядзела ў цэнтры і чытала мае вершы, якія толькі ў яе галаве захаваліся. Гэтая прэзентацыя засталася на «*YouTube*», толькі трэба напісаць на Яндэксе словы «Хадзіце на мой голас». Хлопцы бралі мяне ў свае падарожжы. Нельга забыць паездкі ў Мінск, у Воранава, у Бярозаўку, Наваградак, Любчу з заездам у Васілішкі да хаты Чэслава Нёмана! Алёша і Алена Белыя запрасілі нас у Баранавічы, дзе мы сустракаліся ў двары пад яблынькай у грэка-каталіцкага святара Яўгена Маліноўскага. Алёша і Павел мне паказалі Завоссе!

Саюз беларускіх пісьменнікаў выдаў маю кнігу «Мост святога Францішка» ў 2010 годзе. У ёй я сабрала свае думкі пра літаратуру. Кнігу «Правінцыя святога Францішка» ў 2013 годзе я выдала крыху недапрацаванаю… Невідочныя страхі падганялі мяне. Мне хацелася напісаць пра тыя пары сужэнцаў з розных культураў — усходняй і заходняй, якія злучыліся каханнем і гэтак аб’ядналі Беларусь… «Правінцыя…» разышлася як альбомная кніга сярод маіх сяброваk, пра якіх пісалася… І без гэтай кнігі мая літаратурная дарога была б недабудаванаю. Кнігу выбранага з усёй маёй творчасці ў «Беларускім кнігазборы» мне падараваў ад Бога Кастусь Цвірка. Такім чынам ён як бы паставіў маю творчасць поруч з творчасцю Янкі Купалы і і іншых нашых класікаў.

Калі на мяне нападае адчай ці проста хваляванне за мае літаратурныя сцяжыны, я ўспамінаю момант з прэзентацыі гэтай кнігі ў Гродне, які захаваўся на фатаграфіі: мужчына сярэдняга ўзросту прытуляе мой томік да грудзей…

*— Данута, у тваім эсэ пра Элізу Ажэшку ёсць такая фраза: «Пра сябе напісала ўсё сама». Гэтыя словы можна было б аднесці і да тваёй творчасці. Скажы, калі ласка, а чаго ты яшчэ пра сябе не напісала і што хацела б напісаць абавязкова?*

— Мне цяпер жыць нялёгка, бо хацела б, каб мною апекаваліся дзеці, унукі, а ім няма часу, прыходзіцца самой апекавацца іншымі: і бяздомнымі сабакамі, і птушкамі, і хворымі сяброўкамі, і сляпым паэтам Алесем Чобатам. Здараецца, я перажываю ночы ў страху з-за прыгодаў майго сына, стамляюся, не сплю, але неяк усё само сабой урэшце вырашаецца, суцішваецца. Заўсёды дапамагае малітва да святога Антонія — калі няма сілы на звычайныя пацеры, шчыра прашу сваімі словамі, каб дапамог...

Паколькі я не планавала сваіх літаратурных шляхоў, то не варта казаць пра тое, чаго не напісала. Бо калі пра гэта пачнеш гаварыць, трэба пачынаць пісаць. Ніякіх планаў і самаабавязкаў! Калі Бог дасць, то буду пісаць далей вершы і апавяданні пра тых, каго помню і люблю… Пісаць пра жывых людзей цікава і адказна, бо з імі трэба быць праўдзівай, не параніць выпадковым словам і не выдумляць няпраўды.

*— Дзякуй за тваю шчырасць і твой талент, Данута. Ад уясяго сэрца і ад усіх калегаў віншую цябе з юбілеем і зычу шчодрай Божай ласкі, дароў Духа Святога, натхнення і сілы яшчэ доўга жыць і радаваць нас сваімі новымі творамі.*

*Размаўляла Крыстына Лялько.*



Данута Бічэль

# У абдымках аблокаў і дрэваў

*Перада мной зямля мая святая,*
*тут у паклоне дрэвы над вадой,*
*дзе галубы бясшумна пралятаюць,*
*ступала Маці Божая па ёй…*
Ларыса Геніюш, «Жыровічы».

Пальцы мае мярцвеюць, баляць рукі, асабліва ноччу, а ўсё таму, што ў горадзе пілуюць старыя дрэвы. А навошта іх пілаваць? Зрабіць падпоркі, абгарадзіць старое дрэва плотам, абпілаваць сухія сукі — лячыць старое дрэва, як лечыць дзятлік, і няхай паціху само дажывае. Няхай выцягне сваю песню да апошняй ноты — яго ж пасадзілі людзі, якіх ужо няма. Дрэвы — сведкі гісторыі, яны калышуць успаміны, аберагаюць магілы…

Цяпер модна спілоўваць дрэвы на старых могілках, каб карані не знішчалі помнікі, каб лягчэй было прыбіраць. Жывыя робяць гэтак, каб ім самім было добра. А ў старых дрэвах спявалі салоўкі і кувалі зязюлі, калыхаючы вечны сон тых, хто заснуў…

Дрэва роду… Родавае дрэва. Тут галоўнае слова — *дрэва*. Людзі падобныя да дрэваў. Нашы продкі спяць у каранях, а дрэва роду зелянее нашчадкамі. Наіўна, як дзіця на пяску пруцікам, малюю дрэва духоўнага роду, ці дрэва сяброўства…

З тых гістарычных мясцінаў, якія мне, беднай на вандроўкі, пашчасціла наведваць, захаваліся менавіта вобразы дрэваў. Бывае, на досвітку ці ў бяссонныя ночы вяртаецца ў памяць іх пошум, іх графіка — яны мне сняцца…

Не задумваюся над гэтым, але, відаць, гэта — язычніцкі, паганскі атавізм: памятаць пра дрэвы, як пра людзей. Але ёсць гэтаму і апраўданне: Кастуся Каліноўскага я ўяўляю толькі з фотапартрэта — з латкаю на шэрых портках, ды з малюнка Пятра Сергіевіча. Сасна на пагорку ў Мастаўлянах, на месцы, дзе стаяла хата, у якой ён нарадзіўся, памятае нацыянальнага героя жывым і нам можа перадаць жывое паданне пра яго… Калі там пабудуюць новую хату для музея ці паставяць помнік, а сасну спілуюць, то разам спілуюць і жывую памяць.

*Шэсцьдзясят год жыць хочаш — то пасадзіш таполю… Два стагоддзі жыць хочаш — пасадзі сабе ліпку* — вось такая народная мудрасць.

Ліпкі абапал дарожкі ад вёскі Раманаўцы да сядзібы Каліноўскіх у Якушоўцы — гэта знакі ахвярнага подзвігу Кастуся на шыбеніцы *«за нашу і вашу свабоду»*. Мы туды ездзілі ў 1988 годзе «рафікам» Саюза пісьменнікаў. Спыніліся ў Раманаўцах. Ішла я тады з Янкам Брылём па прысадзе паміж старых ліпаў, па смецці, у якім купалася чародка стракатак

**Данута Бічэль** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басаною» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013), «Выбраныя творы» (2016). Жыве ў Гродне.

з занядбанага хутара…

*Цень Марачоўшчынскай сведкі-таполі ценем Касцюшкі вандруе па полі…*

І старыя таполі ў Лябёдцы-Галавічполі каля зараслага возера, хутчэй ставу, вядуць да прыгожага, эклектычнага, занядбанага дому родных братоў Іваноўскіх — асветнікаў, змагароў за Беларусь, Літву і Польшчу. Дом з мансардамі, з байніцамі, рознымі архітэктурнымі лішнякамі…

Сем таполяў стаялі на габрэйскіх могілках, і ў іх шчабятала птаства Гародні — гэта быў іх птушыны горад, але таполі спілавалі пад стадыён «Нёман»… Скульптар Аляксандр Ліпень казаў мне, што ніколі не заходзіў на стадыён, пабудаваны на могілках…

А я жыву каля стадыёна. Але за ім, за будынкамі, праглядаюцца вежы базылікі імя Францішка Ксавэрыя — я жыву на вуліцы Кастуся Каліноўскага, на самай высокай горцы Гародні…

Там, за гасцінцам, наш тата некалі пасадзіў таполю. Глеба была пясчаная, і таполя вырасла крохкаю, але ахоўвала хаціну ад вятроў і залеваў, ды хутка пастарэла… Ужо без таты таполя ўпала, а камель застаўся на тым жа месцы — ён служыў нам лаўкаю. Калі наша мама памерла, я нават не магла заходзіць у сваю хаціну. Калі з Крыстынаю Лялько дамаўляліся спаткацца каля хаты, яна ехала з Менска на свой хутар у Хадзюкі за Лідаю або ў Менск, а я чакала яе на таполі…

*«О, Беларусь, азёрная старонка, // пастаў мяне бярозкай у палях…»* — пісала наша таленавітая Жэня Янішчыц…

Каля дома, у якім на першым паверсе я дажываю сваё жыццё, ёсць стромкія бярозы-спарышы, і адна бярозка, ад якой я набіраюся моцы, прытуляючыся да шурпатага камля з аб'імшэлага боку. Бярозкі — вяступкі сонейка, найпрыгажэйшыя, калі растуць бярэзнікам. Каля хутара Крыстыны Лялько яе дзядуля пакінуў такі светлы прыгожы бярэзнік, і хоць яго спілавалі, на падворку і ў садзе засталося шмат дрэваў на памяць па родавым дрэве, па маме…

У нашых Біскупцах казалі, што дубок садзіць небяспечна: калі ён узнімецца і дагоніць ростам таго, хто яго пасадзіў, чалавек памірае. А паміж нашым і Ігналёвым полем якраз вырас кучаравы малады дубок, які доўга быў невідочным з-за сасонак, але ўзняўся, разросся ва ўсёй сваёй красе. Праўда, да таго часу ад Ігналёвай сям'і нікога ўжо не засталося: гаспадара замардавалі, пераблытаўшы яго з Хвёдарам, які выдаваў саветам асаднікаў, ды яшчэ, адпраўляючы іх у высылку, насыпаў у мяшок з мукою бітага шкла. Малодшага сына Фадзея забілі стрэлам з абрэза ў жывот на вечарынцы ў Бурдуках. Міша памёр ад туберкулёзу. Маці Марыля памерла ад смутку па сынах, а ў Галінкі знайшлі лімфагрануламатоз; Колік, яе бацька, які быў хворы на сухоты і, мусіць, таму не ажаніўся з дзяўчынаю, якую кахаў, а ўзяў Валю з-за Нёмана, памёр з роспачы пасля пахавання дачкі. Хворы на менінгіт Коля памёр услед за бацькамі, а Толік згарэў разам з хатаю, перанёсшы яе ў вёску… Хату патушылі, ад яе застаўся «шкілет» ад падрубы да коміна. Дубок спілавалі, калі пракладвалі новую дарогу з Еўропы на Маскву…

На гумнішчы ў швагра Мікалая і маёй сястры Рэні стаяў стары разгалісты дуб. Ніводзін хлопец мяне так не прытуляў, як гэты дуб. Можна было пра ўсё забыцца, схаваўшыся на вялізным ніжнім суку, а можна было падняцца на верхні сук, да сіваваронкі, і слухаць дуэт дуба і птушкі.

*«На магіле ўзыйду дубам…»* — наша Цётка, Алаіза Пашкевіч, напісала менавіта так, яе нашчадкі так і зрабілі — пахавалі Алаізу Сцяпанаўну пры дарозе ў Старым Двары, пасадзілі каля магілы дрэвы, а беларуская інтэлігенцыя паставіла над магілаю каменны крыж — уся народная любоў змясцілася ў гэтым помніку!

Па дзядах маіх стаялі драўляныя крыжы. Над бабуляй Франусяй, у нагах дзеда Адама, цётка Яніна пасадзіла рабіну. І рабіна звалілася, а корчык застаўся. Так цётка Яніна захавала магілы бабулі і дзеда...

Вядомы краязнаўца Міхал Ляпеха з любоўю да Францішка Багушэвіча ад хаты паэта да гістарычнага каменя «Мацею Бурачку» пасадзіў сваімі рукамі шэсцьдзясят дубоў — столькі гадоў пражыў паэт. Дзе ён іх выкапаў, узрасціў ці купіў, колькі з іх прыжылося?.. У Кушлянах шмат дзівосных дрэваў: напрыклад, кляновая альтанка — кляны пасаджаныя кругам так цесна, што іх камлі зросліся. Дзе жывуць прыгожыя людзі, там растуць і прыгожыя дрэвы… Непрыгожых дрэваў не бывае…

У мяне была такая мара — абысці берагам возера Свіцязь…

Аднойчы я паехала туды, спынілася ў прафілакторыі, дзе якраз адпачывалі людзі з чарнобыльскай зоны. Я абышла берагам возера Свіцязь, прывіталася з рэліктавымі дрэвамі, якія аберагаюць яго чысціню. Некаторыя з іх скрыпелі, нібы самі сябе палохалі, а можа, скрыпелі ад суму, я іх і паслухала…

Мая вандроўка заняла крыху больш, чым паўдня… Ішоў дробны дожджык.

*Так бы й застацца галінкай зялёнай*
*тут, дзе прамень між галінак завіс.*
*Тут і стагоддзі губляюцца ў кронах,*
*не ападаючы з лісцем уніз…*
*Дожджык сляпы… і я вочы заплюшчу,*
*як лесавінка, зашыюся ў мох*
*ды назаўсёды схаваюся ў пушчы,*
*з ёй уздыхну: сцеражы мяне Бог…*

Пакуль я дабіралася да сядзібы Адама Міцкевіча ў Завоссі, дуб мяне не дачакаўся, але ад пня ўзнялося шмат маладых пасынкаў...

Аляксандр Ліпень і Апанас Цыхун апекаваліся васьмісотгадовым дубам на беразе Пыранкі, недалёка ад Парэчча, — у дупле яго быў прымацаваны металічны крыж, да якога лясныя людзі збіраліся на Ружанец і адмаўлялі яго на дзвюх мовах — літоўскай і беларускай (сябры лічылі, што гэта і ёсць яцвяжская мова). Калі дуб упаў, крыж забраў нехта з мясцовых жыхароў, а рамку аддалі мне, я змясціла ў яе абразок Езуса Міласэрнага і перадала ў музей Карскага пры гімназіі…

У Гародні, горадзе шэрага колеру, які фарбуюць замежнымі фарбамі, толькі дрэвы — надзейныя сябры… Каштаны хварэюць, як і людзі, але зацвітаюць увосень другі раз у год… Грэцкія арэхі ламаюць, знішчаюць — толькі вароны зрываюць іх, трушчаць наляту, шпурляючы аб асфальт, і дзяўбуць гэткую смакату…

Я вітаюся з дубамі праз вокны ў тралейбусе — зрэдку яны мяне выцягваюць са старэчай ляноты прайсціся пешкі па вуліцах маладосці… Іду да пляца Тызенгаўза — за мосцікам на рэчцы Юрысдыцы мяне чакаюць, абняўшыся, два дубы, называю іх «Карпюк» і «Быкаў»: бачу, як маладыя сябры Васіль і Алёша з жонкамі Надзяй ды Інай манерна прытуляюцца плячамі да дубоў… Праўда, забыла — гэта было на яве ці ў сне… Рэальна — на фатаграфіі ў Карпюка…

Васіль Быкаў неяк распавёў мне такую гісторыю: калі ў Гародні 12 снежня 1586 года паміраў Стэфан Баторый, яго малады сябра Леў Сапега, у той час падканцлер Вялікага Княства, быў пры князю і ў памяць аб іх сяброўстве пасадзіў два дубы… Апанас Цыхун запісаў гэтае паданне: на тым месцы пахаваны яцвяг з яцвяжкаю, якіх упаляваў Стэфан Баторый…

— Няўжо іх прывезлі з пушчы, каб пахаваць у горадзе? — пярэчыла я, пачуўшы паданне.

— Яцвяжка была ведзьмаю, — сказаў мне Цыхун, — іх пахавалі, прабітых адным кап'ём. Дубы самі выраслі на магіле, ніхто іх не садзіў…

Гродзенскі краязнавец-самавук Ромка Баран ведае, што дубы прывёз з Ліёна Жан Эмануэль Жылібер, сябра Антонія Тызенгаўза, значыць, у другой палове XVIII ст., і нібы пра гэта ёсць згадка ў кнізе «Флора Літвы». Жылібер даследаваў, як адчуваюць сябе дрэвы пры змене клімату. Дуб, які апынуўся на асфальце, хварэе, некалькі сукоў пасохла, на ім святлейшае лісце. Але жалуды растуць на абодвух дубах…

Некалі быў тут іншы горад, пакуль за дубамі не пабудавалі вялізны дом гарвыканкама, а перад домам не паставілі помнік. Частку горада разабралі для пляца… Рака Гараднічанка цякла сваім руслам, тут была драўляная кладачка, да якой скакала лесвічка з драўлянымі парэнчамі. На тым прагале ад пляца Тызенгаўза і да вуліцы Віленскай знікла некалькі малых вулак: за дамамі вуліцы Ажэшкі знікла вулка Няцэлая; дзе цяпер на азярцы з'явіліся скульптуры лебедзяў, там была вулка Смелая. Тут, на пагорку, ніхто не памятае дакладнае месца, некалі стаяла старая царква святога Мікалая, а на вуліцы святога Мікалая засталіся толькі два старыя дамы. Вось яны на фатаграфіі, зробленай ад вуліцы Віленскай: за меншым з іх відаць вершаліны маіх дубоў… Як жа яны прыгожа пераплятаюцца сваімі галінамі! Але цяпер каля іх дваровыя службы выканкама паставілі сметніцу…

Іду я ў нядзельку сонечным днём на святую Імшу па-беларуску да касцёла, зварочваю да дубоў, каб набрацца ад іх моцы. Скінула абутак, стала на корань, прытулілася да шурпатай кары, а хлопец, які фатаграфуе азярцо, дзе Юрысдыка ўпадае ў Гараднічанку, заўважыў мяне і пачаў «страляць» па мне з фотаапарата. Кажу яму: «Я не прасіла цябе, каб ты мяне пстрыкаў…» — «Так Вы ж самі пазіруеце…» — «Я не пазірую, а лячуся…» Дубы дзеляцца са мной здароўем, і я не хачу, каб іх спілавалі раней, чым мяне.

Няма ў нашым горадзе дрэва Максіма Багдановіча. Праўда, на тым месцы, дзе стаяў дом Агульнікаў, растуць яблынькі-самасейкі. Калі мне дрэнна, пайду туды, сарву зялёны яблык ды падумаю: чым садзіць дрэвы, лепей пісаць вершы… Максімава маці рана памерла, затое яе магіла засталася ў Беларусі. Дзіўна выглядаюць тыя, хто пачынае ўспамінаць, як знайшлі магілу… Чалавек паміpae, яго хаваюць — вось і ўся гісторыя. Але ж гэта маці вялікага паэта…

Пасля Васіля Быкава ў Гародні ў двары дома па вуліцы Траецкай, дзе яго сям'я жыла на першым паверсе ў трохпакаёвай кватэры, застаўся стары яблыневы сад. Я хаджу напраcткі дварамі ад Дома народнай творчасці, які размясціўся ў кляштары дамініканаў, і, бывае, вырву яблык, нібы даў мне яго Васіль Быкаў…

У двары дома па вуліцы Маладзёжнай расце дуб, які ён пасадзіў…

Аляксей Карпюк пакінуў некалькі бярозаў перад домам па вуліцы Кастуся Каліноўскага, 3-а, дзе ён жыў у чатырохпакаёвай кватэры на першым паверсе (вокны выходзілі на паўднёвы захад, на поўнач і на ўсход). Ад Алёшавых дрэваў засталася адна бяроза. Суседзі чамусьці не любяць беларускіх пісьменнікаў, а таму спілавалі Карпюковы бярозы.

А гэтай вясною ішла я напрасткі па сцежцы і ледзь не самлела — там Карпюк пасадзіў арэшынку, яна грэла вочы сваімі каташкамі зімою, а малечы не злазілі з яе ўвосень, урадлівая была арэшынка, — ад яе засталіся два дубцы. Не любяць суседзі Алёшавых арэхаў…

Мая сяброўка Валя Крачкоўская вучылася ў школе ў Гародні, прыходзіла ў музей Максіма Багдановіча, а цяпер яна жыве ў Магілёве. Неяк Валя пачула па радыё, што ў Гародні каля Каложы растуць платаны, клёны без скуры, яна іх бачыла ў Рыме, калі ездзіла ў пілігрымку. Яна напісала мне, і я пайшла да платанаў (гэта было ў кастрычніку) але лісты ўжо апалі і толькі малыя шышачкі целяпаліся на ветры…

2 лістапада, у Дзень успаміну памерлых пасля Імшы на могілках, пакуль мая дачка Віка развітвалася ў Біскупцах з борам ды папялішчам хаты, у якой Марылька з Яськам некалі адпойвалі смятанкаю і любоўю нас усіх, я чакала яе ў стрыечнай сястры Яні. Спытала ў Яні пра буслоў, якія пасяліліся ў вёсцы не на дрэве, а на слупах лініі электраперадач. Буслы паляцелі ў вырай, а ў Барташэвічавай унучкі кожны год нараджаецца па дзіцятку. Барташэвічыха вырашыла, што гэта буслы прыносяць праўнукаў, якіх ёй трэба гадаваць. У мінулым годзе зімой наняла яна двух разбойнікаў і ноччу, каб ніхто не бачыў, буслянку разбурылі. А 25 сакавіка буслы вярнуліся з выраю, склалі новую буслянку на слупах і заклекаталі. Вёска паціху адлятае ў вырай, а буслы вяртаюцца з выраю…

У Яні каля плоту ажно гнуцца ад буйных ягадаў кусты каліны. «Ты не збіраеш каліны?» — пытаю. — «Навошта збіраць! Захочацца, сарву галінку ды з’ем!» — кажа сястра. Але пryляцелі амялушкі, склявалі ягады. «Птушак таксама трэба карміць!» — кажа Яня.

…Неяк бацюшка-паэт Павел Каспяровіч запрасіў нас у малітоўнае падарожжа ў Зэльву, Сынкавічы і Жыровічы. Галоўная святыня ў Жыровічах — цудоўная маленькая іконка Маці Божай з Дзіцяткам. Маці Божая аб’яўлялася ў Жыровічах праз абразок двойчы. Першы раз — на камені яшмы, якую пастушкі знайшлі на грушцы ў 1470-м (або ў 1493 г.), другі раз — калі згарэла царква ў 1520 г., Маці Божая аб’явілася пастушкам у ззянні на камені з абразочкам у руках… Дзецям аб’явілася, а дарослыя не ўбачылі… Назаўтра на тым жа месцы дзеці знайшлі абразок. Камень абгарадзілі. З-пад яго прабілася святая крыніца… Пабудавалі царкву, і цяпер цудоўны абразок знаходзіцца ў ёй. Светла сумаўляцца з Маці Божай Жыровіцкай, цалаваць цудоўны Яе Лік і адчуваць, што Яна заўсёды — наша Суразмоўніца, Абаронка і Сяброўка.



Юрка Голуб, Аліна Паўлоўская, Валянцін Дубатоўка, святар Павел Каспяровіч, Алег Бембель, Данута Бічэль і Анатоль Брусевіч падчас паездкі ў Жыровічы.

Жыровіцкі комплекс знаходзіцца ў найпрыгажэйшым месцы на зямлі. Святасць, спакой, містычнасць — запаветныя рэліктавыя дрэвы. Можна зразумець Алега Бембеля, які аднойчы прыехаў сюды памаліцца і застаўся на ўсё астатняе жыццё. Алег завёз нас на самы высокі пагорак за могілкамі, адкуль відаць увесь царкоўна-манаскі комплекс, пасля мы паехалі да святой крыніцы. Мужчыны акунуліся ў жыватворнай купелі, шафёр нашай машыны набраў святой вадзіцы, каб вылечыць маму пасля аперацыі, а мы з паэткай Алінай Паўлоўскай абмылі твар і напіліся з гаючай крыніцы… Прысела я на лаўку, заслухалася, як шэпчуць хвалу Богу старыя дрэвы запаветнай зямлі. Уявіла, як сядзела тут Ларыса Геніюш, складала верш:

*Жыровічы — святы для нас куточак,*
*дзе цэрквы ў неба вежы узнялі.*
*На дрэве Маці Божай абразочак —*
*благаслаўленне для маёй зямлі.*

Дрэвы, дрэвы…

# Прыгоды цудоўнай «Шпілечкі» графіні Габрыэлі

## *(Слоўца ад перакладчыка)*



Чытачам «Нашай веры» ўжо знаёмае імя Габрыэлі Пузыні (1815 – 1869), вядомай у свой час, але прызабытай сёння пісьменніцы нашага краю, якая актыўна працавала на ніве літаратуры ў 40-60-я гады XIX стагоддзя. У перакладзе з польскай мовы на старонках часопіса публікавалася падборка апавяданняў пісьменніцы («Наша вера», 2011, № 3), а таксама яе вершы «Песня аб Найсвяцейшай Панне Марыі Вастрабрамскай» («Наша вера», 2014, № 4) і «Касцёл у Бялынічах» («Наша вера», 2017, № 2).

Яе першы зборнік вершаў пад назвай «*W Imię Boże*» *(«У Імя Божае»)* убачыў свет у Вільні ў 1843 г. пад дзявочым прозвішчам паэткі — Габрыэля Гюнтэр. У ім былі сабраныя глыбока прачулыя вершы рэлігійнай тэматыкі («Аллелюя!», «Дзень Задушны», «Папялец», «Анёл-Ахоўнік» ды іншыя), пазначаныя высокім прафесійным майстэрствам. Зборнік адразу ж стаў вельмі папулярным сярод чытачоў, і яго нават часам цёпла называлі своеасаблівай хатняй «кантычкай».

Назва першага паэтычнага зборніка становіцца ў далейшым літаратурным псеўданімам аўтаркі: наступны свой зборнік «*Dalej w świat*» *(«Далей у свет»)*, дзе былі сабраныя вершы свецкай тэматыкі, яна выдае ў 1845 г. і падпісваецца «*Аўтарка ў Імя Божае*», стаўшы пазнавальнай і адметнай постаццю ў тагачасным літаратурным жыцці Беларусі. З-пад яе пяра выходзілі новыя вершы, апавяданні, п'есы, якія траплялі на старонкі польскамоўнага перыядычнага друку і выходзілі асобнымі кнігамі.

Ужо вершы першай кнігі сведчылі аб плённым працягу Габрыэляй Гюнтэр (Пузыняй) традыцый высокай духоўнай паэзіі, што склалася яшчэ ў старажытнасці і плённа развівалася ў Беларусі на працягу стагоддзяў. Габрыэля ад нараджэння гадавалася ў атмасферы хрысціянскай духоўнасці. Графская сям'я Гюнтэраў (бацька пісьменніцы Адам Гюнтэр паходзіў з нямецкага роду, які даўно асталяваўся на беларускіх землях) была пабожнаю каталіцкаю сям'ёй, як і род Габрыэлі па мацярынскай лініі — Тэзенгаўзы. Гэта азначала паўсядзённую практыку малітвы і хрысціянскіх праўдаў веры. Менавіта таму, як і належыць верніцы каталічцы, якая кожны свой новы дзень і кожны занятак прывыкла пачынаць «у імя Айца і Сына, і Духа Святога», Габрыэля выбрала назву для свайго першага паэтычнага зборнічка «У Імя Божае» («W Imię Boże»), прысвяціўшы Богу такім чынам і ўсю сваю далейшую творчую дзейнасць.

У гэтым нумары мы знаёмім чытачоў з высокадухоўным, авеяным чароўнасцю містычнай таямніцы апавяданнем пісьменніцы «Шпілечка з 1730 года». Адправіўшыся разам з «уваскрослай» шпілечкай у незвычайнае падарожжа па свеце завядзёнак і ўпадабанняў далёкіх і блізкіх продкаў, можна пераканацца таксама ў глыбокай назіральнасці і дасканаласці пісьменніцкага майстэрства графіні Габрыэлі, якая ўмела заўважыць незвычайнае ў простым і паўсядзённым бегу жыцця, падгледзець і надаць каштоўнасць сапраўдных мастацкіх перлінаў тым драбніцам, якія незаўважна сплываюць разам з ягонымі хвілямі, і да таго ж агафтаваць усё гэта тонкім пачцівым гумарам.

*Ірына Багдановіч*

---

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), «Залатая Горка» (2016), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011), «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014) і інш. Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

Габрыэля Пузыня



Вільня. Касцёл Святога Духа і кляштар дамініканаў. Малюнак Зыгмунта Вогеля.

# Шпілечка з 1730 года

## Катакомбы дамініканскага касцёла ў Вільні

Касцёл дамініканаў у Вільні мае глыбокія сутарэнні, населеныя памерлымі, нібы яшчэ адзін горад. Але з прыбыццём у Вільню ў 1850 годзе новага начальніка губерні быў выдадзены загад замураваць катакомбы назаўсёды. Такі загад абудзіў у многіх асобах ахвоту азнаёміцца з тым падзямеллем, аб якім ніхто датуль амаль не ведаў. Спяшаліся, пакуль быў час, а цікавасць і прывабнасць забароненага плоду перамагалі страх і гідлівасць. Маршалак П., правёўшы ўсю раніцу пад зямлёю з памерлымі, вечарам апавядаў нам з захапленнем, але і з жахам, што ён там бачыў, — а бледны, як труп, сам выглядаў нібы жыхар тых цікавых катакомбаў!.. Такая вялікая колькасць памерлых рознага стану і ўзросту наводзіла на розныя домыслы — прыходзілі думкі аб эпідэміі, вайне, пераследах; але забывалі, што час — найвялікшы знішчальнік людзей — без дапамогі паразаў і няшчасцяў, толькі сваёй заключанаю са смерцю дамоваю нагрувасціў тую грамаду нябожчыкаў, якія нас трывожаць, бо мы бачым іх усіх адразу і ў адным месцы.

Апавяданне маршалка П. было занадта жахлівым, каб магло заахвоціць узяць за прыклад ягоную адвагу. Але прайшло яшчэ некалькі дзён, і доктар Т., гледзячы на тыя катакомбы з паэтычна-гістарычнага боку, так настойліва і пераканаўча заахвочваў наведаць іх, нагадваючы, што праз пару дзён будзе ўжо запозна (бо загад замураваць меў вызначаны тэрмін), што, дадаючы адны другім адвагі, шматлікай групай і з дазволу ўрадавай улады, выбраліся мы ў падземную пілігрымку.

Было гэта зімой 1850 года. Дзясятая ранішняя гадзіна і святая Імша ў касцёле Святога Духа (былым дамініканскім) былі пунктам збору. Мясцовы пробашч і доктар Т. меліся быць нашымі праваднікамі, а цікаўных сабралася сем ці восем асобаў (пераважна кабеты). З касцёла калідорамі выйшлі мы на кляштарны дзядзінец; спускаліся мы па адным па каменных цагляных сходах, выслізганых, вышчарбаных, у цёмны доўгі лёх. Жаўнеры неслі перад намі паходні і свечкі, скляпенне нізкае, мур прамы, наздраваты і вузкі, як калідор, а пад нагамі хрумстанне стружак, сена і людскіх касцей, раскіданых, рассыпаных так

густа, што іх немагчыма было абмінуць; да таго ж друз і каменне, такія ж белыя, як і косці, узмацнялі пачуццё гідлівасці і страху. Дзе толькі было крыху шырэй або якая ніша ў сцяне, усюды былі труны, пакладзеныя адна на адну, як паленне, ніводная з іх не была зачыненая, а ў некаторых прыпаднятае века. У адной труне ляжала маладая кабета, гадоў 120 назад туды пакладзеная! Аб гэтым сведчыла дата смерці на труне. На яе чапцы захаваліся карункі, а сукенка была муаравая жоўтая ці ружовая (цяжка было вызначыць пры свечцы), ручкі малыя і зграбныя, твар спакойны, рысы дробныя, але скура быццам з непаліраванага гіпсу… Далей дамініканін — рэльефныя рысы, нос гарбом, твар паважны, рукі складзены як для пацераў і святарскі крыж на грудзях. Іншыя зноў жахлівага выгляду, з перакрыўленымі вуснамі, з заламанымі рукамі, а каля іх кубламі спарахнелыя чэрві, нібы яны былі пахаваныя жыўцом у летаргіі і, абудзіўшыся ў труне, у роспачы каналі. Тут шкілет без адзення, з выгляду і па палажэнні спакойны, аднак з галавой набок і з рукамі, складзенымі *à la Napoléon*, такая пастава і скураная партупея на баку выдавалі ў ім рыцара.

— Гэта мусіў быць афіцэр, бо і шпага была, — чуецца голас жаўнера, які нам свяціў. — Але…,— дадаў ён праз хвіліну, — цяпер народ не такі рослы.

Там ізноў нейкая дама ў драцяным каптуры. З многіх трунаў выглядалі газавыя венгеркі і старасвецкія карункі, нікольkі не збуцвелыя. У некаторых зусім цэлая канфедэратка, і кармазынавая адамашка, і падушка атласная белая, а на той падушцы… галава трупа без цела!

Найбольшую нашу ўвагу прыцягнуў стары ў перламутравым жупане і кармазынавым кунтушы з адкіднымі рукавамі. Шкаплер, перакінуты праз спіну, трымаў у руцэ, а рукі — доўгія, дагледжаныя, і такая пачцівасць на твары, і такі спакой ва ўсёй паставе, выразна *спачыў у Пану*. Усіх немагчыма было пералічыць і пабачыць, навокал велізарная колькасць трунаў, а пад намі косці, прах і выкінутыя з трунаў падушкі, як бы на знак, што і яны залішнія для памерлага… Адным словам, знішчэнне, нішто. Ды, аднак, дзіўная рэч! Знаходзячыся там, не адчувалі мы ўсёй жудаснасці падобнай карціны; столькі нас было жывых, не зведалі мы гідлівасці; і толькі цяпер, падрабязна разбіраючы тыя ўражанні, робіцца халодна і страшна!

У адным закутку (а ўсе сутарэнні там у выглядзе калідораў) пабачылі мы набор маленькіх дзіцячых труначак. «Колькі ж гэта слёзаў праліты́х!» — сказала пані К. як маці, якая разумее іншых мацярок.

На зваротным шляху згубілі мы былі план, куды вяртацца. Калі б так здарылася адной, то было б жудасна… не гэтага таварыства памерлых, але гэтых лёхаў без выйсця! Гадзіну часу заняла ў нас вандроўка па тым свеце; з радасцю пабачылі мы сонца, неба, паветра; а выходзілі мы не без здабычы, не здольныя ўваскрасіць кагосьці з паснулых там навекі, вярталі мы свету праз 120 гадоў пахаваную там са сваёй паняю *шпілечку*. Самая адважная з нас вынула яе з карункавага каптурыка той маладой ладнай пані.

Паварочваючы на галерэю, па якой ідзе працэсія, доктар Т. звярнуў нашу ўвагу на мармуровую надмагільную пліту, умураваную ў сцяне. Надпіс на ёй быў наступны (бо яго на месцы я даслоўна перапісала) :

Пастой, госцю, — пазнай нас,<br>падземных,<br>Якія цябе чакаем —<br>Я, Базыль Баршчэўскі,<br>Году Панскага 1607.<br>Веку майго 50 гадоў —<br>І я Андрэй Арлоўскі,<br>Году 1610 —<br>У гэтай цёмнай гаспадзе<br>мы апярэдзілі<br>цябе.<br>Просім, маліся за нас<br>да Пана Бога —<br>А пакуль са смяротнымі,<br>сам з сабою і са смерцю<br>Спазнайся — ідзі ж у супакоі.

---

Гэты знак жонка Эльжбета<br>Барташоўна, Каралькевічава,<br>віленская бурмістрава з дачкой<br>Ганнай Арлоўскай —<br>На вечную памяць сваім сужэнцам паставіла ў жалобе:<br>Году Панскага 1635.

---

Учытваючыся ў той надмагільны надпіс, бачыла я падабенства і стасоўнасць яго да тых, што ляжалі ў катакомбах, а менавіта: той паважны паляк са шкаплерам у руцэ мусіць быў панам Базылём Баршчэўскім, тая пані ў драцяным каптуры — гэта, без сумнення, жонка двух мужоў, а тая маладая і гожая пані ў ружовым муары — гэта яе праўнучка па дачцэ Арлоўскай, мужам альбо нарачоным якой мусіў быць рыцарскага выгляду шкілет…

Наша шпілечка мусіла ўмацаваць нас у думках і дапамагаць у параўнанні вякоў мінулых з цяперашнім. Бралі мы яе з са-

бою на шматлюдныя спатканні, дакладна занатоўваючы тое, што паўставала ў думках і ў сэрцы пад уплывам той гістарычнай шпілечкі. Усё наступнае сталася вынікам таемных размоваў з гэтым сведкам даўніх здарэнняў. Няма, аднак, там нічога важнага, бо самой гісторыі хіба толькі як на ўкол шпількі.

* * *

Шпількі жывуць доўга, хаця, ды можа, і ўласна таму, што яны маленькія і з лёгкасцю губляюцца. Змена гаспадароў, змена месцаў і прызначэнняў робіць іх жыццё багатым на здарэнні; і здолелі б яны стварыць успаміны больш займальныя, чым тыя, што мы, людзі, пішам, калі б галоўка шпількі ўмела задумвацца, разважаць і апавядаць, што яна бачыла. Але і шпілька мае сваю супольную мову з многімі, ах, з многімі людзьмі! Яна ўмее калоць, і такім чынам размаўляла са мною шпілька з 1730 года. Паколькі яна ў гэтым годзе была пахаваная, лёгка ўявіць, што яна добра памятала яшчэ больш даўнія часы. Была яна, можа, адной з першых, што выйшлі ў свет, і была, напэўна, французская. Можа, прыбыла ў Польшчу разам з картэжам Марыі-Людвікі? Можа, пры яе асобе? І суправаджала яе двойчы да алтара?.. Пасля чаго, напэўна, шляхам фраўцымеру, калі нейкая прыдворная паненка выходзіла замуж, трапіла гістарычная шпілечка на Літву, а затым сваёю чаргою, уторкнутая ў раброн[1], што перадаваўся ў спадчыну ад маці да дачкі аж да чацвёртага калена, свяцілася яна, напэўна, не ў адным шлюбным вянку… А хто ведае, можа, у каўпаку якога рыцара была тая шпілечка на вайне разам з Чарнецкім або Сабескім! Так яно было ці не, хто ж тое адгадае і хто запярэчыць? Людзі, якія жывуць некалькі дзясяткаў гадоў, страчваюць памяць і не могуць дакладна пераказаць падзеяў уласнага жыцця; што ж здзіўляцца шпілечцы, якая некалькі вякоў, можа, ператрывала на свеце і больш за век праляжала ў труне?! Даты ў яе галоўцы блыталіся да такой ступені, што яна мела прэтэнзію, каб і сёння было так, як дзвесце гадоў таму. А наглядзеўшыся на волатаў даўняга часу, на іх магутны рост і загартаваныя душы, сённяшнюю моладзь лічыла за дзяцей, якія яшчэ вырастуць… О як жа яна сама здзяцінела!

Ёсць від нервовай гарачкі, якая ў вачах хворага двоіць усе прадметы; падобным чынам і мы з таго дня, калі шпілечка, здабытая з труны, апынулася сярод жывых, трапілі пад уплыў такой галюцынацыі.

Побач з сучаснасцю, жывой і шматфарбнай, часткаю якой былі мы самі, паўставала мінуўшчына, нібы яе цень, што крочыў услед за ёю. *Напрыклад*: калі па вуліцы ехаў які-небудзь васямнаццацігадовы маладзён і так глыбока сядзеў у сваім фаэтоне, што вярхолак ягонага капелюша ледзьве маглі ўбачыць мінакі, а двое коней цягнулі яго, быццам штосьці вельмі важнае, а двое слугаў пільнавалі, быццам штосьці вельмі крохкае; — тут жа наўзбоч паніча на агністым бахмаце[2] ў цяжкіх рыцарскіх даспехах або толькі з буркай, накінутай на кунтуш, бадзёра гарцаваў шасцідзесяцігадовы стары з паголенай галавой, з магутным вусам, пры карабелі[3]; здавалася, што ён раз-пораз то сумным позіркам, то зноў вясёлай усмешкай ці то высмейвае, ці то шкадуе ўласнага прапраўнука!..

Калі дачка вітала з падарожжа сваіх бацькоў, цалуючы іх у твар ці ў плячо, называючы іх *ты* па-французску, тут жа за тою моднаю дачкою выступала наперад постаць пяцідзесяцігадовай кабеты ў раброне, абдымаючай калені бацькі і маці на звычайны «дзень добры»…

Калі на якой вечарынцы маладзёны, паўлежучы на софах і з цыгарэтай у вуснах, размаўлялі гучней за дамаў і старэйшых; быццам у абарону зараз жа паўставала некалькі юнакоў даўняга часу, маўклівa і з пашанай слухаючых дасведчаную гутарку бацькоў...

Ды нават не аднойчы дым ад цыгарэты, якую паліла маладая паненка, рабіўся падобным да кудзелі…

Ці былі гэтыя асязальныя прывіды выкліканыя з лёхаў касцёла Святога Духа разам са шпілечкай? Не ведаю. Ведаю толькі тое, што заўсёды, перш чым яны з’яўляліся, я адчувала лёгкі ўкол шпількі, якую насіла на сабе, нібы, як той казаў, *дакор сумлення*, пасля чаго адразу з’яўляліся постаці, з якімі сёння можна спаткацца толькі на старых карцінах і ў старых мемуарах; але перад імі, хоць былі яны ценем і з’яўляліся ў ценю, блякла і гасла жывая і квяцістая рэчаіснасць.

Гневала мяне спачатку гэтая дваістасць прадметаў, гэтая нібы прапрадзядоўская бурклівасць. Была, сапраўды, розніца, і вялікая, у знешнім выглядзе і звычаях даўнейшых і сённяшніх. Але хто ведае, на чыім баку перавага? Можа, мы ўласна з-за таго, што слабыя, што бледныя, што фамільярныя са старэйшымі, бо-

лей адухоўленыя і чуллівейшыя сэрцам?.. А сказаўшы гэта (каб заглушыць боль, які мне чыніла шпілечка бесперапынным пакалваннем), рада была я хоць чым-небудзь засароміць тую з'едлівую містрыню.

Калі на банкетах нават гарадскіх багацеяў сціпла адбываў сваю чаргу кілішак, няўзнак я ўспамінала ёй аўгустоўскія часы, калі за гонар і прэстыж лічылася напаўняць вялізныя кубкі, а кожны банкет заканчваўся пад сталом. Шпілька адразу маўчала, нібы згаджаючыся, затым адным, але моцным уколам звяртала маю ўвагу на стосы бутэлек шампанскага, выпаражненых без ніякай нагоды і аказіі тымі, хто не толькі сваёй піўніцы, але і пэўнага кавалка хлеба для сваіх дзяцей не маюць, а сціплы заробак канцылярыста прызначаюць на такія трактаменты…

На жаль! Гэта была такая відавочная праўда, што я не ўспаміналa ўжо болей аб Сасах. Аднак, не губляючы надзеі на тое, што некалі я выйграю, чакала я, як каня дажджу, якога вяселля, шлюбу, каб давесці шпілечцы перавагу нашага часу; бо ў выніку асветы і прагрэсу сучасныя шлюбы адбываюцца па выбары сэрца, а не па разліку, згодна з сямейнаю дамоваю. Няма сёння сярод нас сумных ахвяраў фанабэрыі і пыхі, думала я з радасцю. А шпілечка, не адзіны шлюбны букет прымацоўваючы да боку, ці не павінна была таксама ведаць, як б'ецца сэрца паненкі, што не па ўласнай волі ідзе да алтара? Пабачыць сёння гэтую розніцу і мусіць згадзіцца, нябога!

Калі я так разважала, здалося мне, што пачула я лёгкі ўкол, і ў тую ж хвіліну штосьці мне зашаптала на вуха: а разводы?

Той укол быў выпадковы; шпілечка, праляжаўшы ў труне ўсё панаванне караля Станіслава, ані сніла нават аб *разводах*, чым тлумачылася яе здзіўленне ў адносінах да сённяшніх сужэнскіх параў, якія нам здаюцца (і слушна) палепшанай рэдакцыяй мінулага веку. Але для шпілечкі, звыклай да іншых звычаяў, былі яны вартымі хіба вялікага спісу абдруковак. — Ша… Такім чынам, аб разводах — як бы іх не было.

Сярод гэткіх думак атрымліваю запрашэнне на вяселле маладой пары, якую злучыла сімпатыя. Шпілечка паехала са мной… Укалола яна мяне, насамрэч, пры агляданні пасагу, што каштаваў тысячы, а складаўся з лахманоў, укалола пры выглядзе пана нарачонага, які прыходзіў штораніцы да нарачонай з цыгарэтаю… А ў перспектыве мроіліся мне віdзежы турніраў, і панна маладая, якая ўскладала вянок рыцару, што ўкленчыў каля яе ног… Але я прызвычаілася ўжо да гэтых прышпільванняў і рабіла выгляд, што нічога не чую і нічога не бачу.

Калі дайшло да апранання панны маладой, шпілечка была ў вялікай агітацыі, не бачачы ані дуката пасвянцонага, ані руты ў вянку, ані хлеба пад вянком. Яна прывыкла весці рэй у падобных справах, хацелася ёй і сюды ўшчаміць свой носік…, але ніхто яе не слухаў! Хто ж у XIX стагоддзі зважае на такую дробязь?

Вясельны картэж сабраўся ў камплекце; шпілька, дзякаваць Богу, сядзела ціхутка, цывілізавалася патроху. Ужо яе нашы фракі не абражалі, а толькі смяшылі. Увайшоўшы ў залу, панна маладая *насамрэч* ўпала ў ногі бацькам, што, здавалася, расчульвае шпілечку і за што я ў духу сардэчна дзякавала нявесце, бо сёння не кожная так робіць, толькі цалуючы рукі тых, хто далі ёй жыццё, выхавалі яе, выпеставалі ды, нарэшце, аддалі другому, каб з ім магла стацца шчаслівейшаю, чым з імі!

Калі ж мы ўвайшлі ў біткам набіты касцёл, вясельны картэж ледзьве здолеў праціснуцца сярод натоўпу. Шпілька дабрадушна цешылася з такога агульнага жадання благаславіць маладую пару, а я дыпламатычна прамаўчала аб цікаўнасці, звяртаючы ўсю ўвагу на ўражанне, якое зрабіла на прысутных тая маладая, прыгожая, стройная, займальная пара. Ужо была я гатовая агучыць свой трыумф, калі моцны, як ніколі, укол замяніў выбух радасці на крык болю! Некалькі галоваў павярнулася ў мой бок. Крык пайшоў *à conto*[4] цісканіны, а я, апамятаўшыся ад болю і здзіўлення, што ж бачу? Бачу побач з маладымі другую пару сужэнцаў…, але ў раброне і кунтушы! Маладая выглядала гадоў на 18, ружы здароўя квітнелі на белым твары, чорныя валасы ў доўгіх косах спадалі на белую шыю і белую адамашку, але колер яе вачэй зразумець было цяжка пад пушыстымі цёмнымі веямі, апушчанымі долу… Дзявіца малілася. Жаніх, на жаль, выглядаў гадоў на 50, аднак быў крэпкі і румяны, яго высокі лоб напалову быў пазначаны шнарам, а смелы позірк быстрых вачэй гаварыў, што шнар гэты быў ад шаблі і атрымаў ён яго на вайне.

На выгляд гэтая пара была зусім не адпаведнаю па ўзросце, таму я з трыумфам пазірала на маю пару, падабраную адпаведна. Але дзіўная рэч! Маладыя здаліся мне даволі бледнымі і крыху змарнелымі, нібы гэта яны, а не тыя вярнуліся з таго свету!

На ілбе жаніха, які меў 27 гадоў, не было шнару, але былі

зморшчыны, аб якіх прыгаслыя вочы сведчылі, што дачакаўся іх раней часу ў супакоі.

У кунтушовага пана зубы былі белыя і ўсенькія.

Фраковы пан меў іх толькі некалькі спераду, і тыя былі пачарнелыя, напэўна, ад цыгараў.

Чупрына кунтушовага была крыху з сівізною і падголеная, але густая.

Валасы фраковага былі чорныя і прыгожа завітыя, але з-пад букляў свяцілася лысіна…

Кунтуш аблягаў тулава даволі акруглых абрысаў.

Фрачак вісеў на вузкіх плячах і ўпалай грудзіне.

Гэта нічога, казала я сабе, не даючы прынізіць сябе параўнаннем. Затое сённяшняя моладзь больш працуе галавой і мае гарачэйшае сэрца.

Ай! Укалола мяне зноў шпілечка і гэтым уколам адчыніла мне сэрцы абедзвюх параў.

Кунтушовы быў равеснікам бацькі сваёй жонкі і, заняты справамі краю, да таго часу ніводнай кабеты не кахаў, а таму чыстае сэрца ў здаровым целе прыносіў на алтар сямейнага шчасця.

Нарачоная не ведала будучага мужа аж да дня заручынаў, але ведала, што будзе ягонаю жонкаю. Глядзела яна на маці, на яе любоў і пашану да свайго *ягамосця*, і, узмоцненая тым прыкладам, стала каля алтара, каб прысягнуць каханне таму, хто, умеючы бараніць край, здолее і жонцы сваёй быць апекаю.

Ці было сэрца пад атласным гарсэцікам і чорным фракам? Было — але не біла…, бо ўжо ці раз тыя сэрцы кахалі? Паніч кахаў *і* сваю будучую жонку, але сужэнства лічыў ганаровым канцом ужо доўгага жыцця! Маладая кахала і свайго будучага мужа, але ў шлюбным пярсцёнку бачыла не ланцуг, што мусіць прыкаваць яе да новых абавязкаў, але ключ, які адчыніць ёй свабоду…

Шпілечка ўзяла верх! І пад яе кіраўніцтвам два вяселлі злучыліся ў адно і ўвайшлі разам у залу. Узносячы віваты ў гонар маладых, пілі за іх здароўе шампанскае і такай з келіха і чаравічка. А калі модны аркестр граў польку, і маладая ў абдымках *не* мужа круцілася па зале, прафануючы свой белы вэлюм, з другога канца капэла зайграла паланэза, і маладая з бацькам сваім і першымі саноўнікамі па чарзе пратанцавала ў першай пары, адбітая, нарэшце, мужам, які яе ручкі нікому ўжо не саступіў*.

Брала я шпілечку з сабою ў касцёлы, каб расчуліць яе выглядам старасвецкіх помнікаў і іх начыння, але яна і там калола мяне, як бы хацела сказаць: «Гэта ўсё даўніна, а дзе сённяшняя праца?» — «Глядзі! — Глядзі!» — Адказвала я пакрыўджана, паказваючы ёй *сённяшнія* ахвяры і *сёння* ўзведзеныя святыні. Але яна, кальнуўшы мяне глыбей, чым звычайна, вырвала з маіх грудзей крык: «Ах, праўда! Гэта добра на сёння, але будучыні не дачакае!»

Бачачы, што горад не дагаджае шпілечцы, я павезла яе на вёску, наўмысна выбраўшы дзеля трыумфу цяперашніх часоў дом, дзе ўмеюць пагадзіць старадаўнюю пышнасць і цноты з сённяшнім выхаваннем і густам. Палац пані Х. быў модна збудаваны, але ў сярэдзіне меў даўнія кілімы і старыя габелены. У шафах старасвецкай разьбы стаялі прадзядоўскія келіхі, а сама пані ткала арнаты на кроснах. Не сумнявалася я, што тут шпілечка схіліць сваю ганарлівую галоўку. І сапраўды, з самага пачатку па яе маўчанні я здагадалася, што яна, відавочна, чулася прыніжанаю і яе ўразіла такое разумнае паяднанне даўніны з сучаснасцю. Калі ж мы прывіталіся з гаспадыняй, якая сядзела ў канцавым кабінеце *enfilady*, а яна ўсадзіла мяне ў глыбокі фатэль за *Альбом Вільні* і *Узоры сярэдніх вякоў*, цешыла мяне здзіўленне шпілечкі, якая, спазіраючы на такое высокае мастацтва, анямела.

У гадзіну запрасілі да стала. У вялікай зале, сцены якой аздаблялі партрэты продкаў, быў накрыты стол на пяць асобаў. Гаспадыня была ўдавою і, апрача старога капелана і дзвюх паненак, нікога з хатніх не было. Стравы былі вытанчаныя, смачныя, пададзеныя з элеганцыяй. Я чакала кампліментаў ад шпілечкі, але замест гэтага выдала крык, нібы мне костка стала ўпоперак горла; дзіўная рэч, бо гэта было *consomée*[5], найруплівейшым чынам пазбаўленае костак! Прычынаю майго крыку быў неміласэрны ўкол, і ў тую ж хвіліну я пабачыла постаці, што выходзілі з рамаў партрэтаў і рассаджваліся разам з намі за сталом, які падоўжыўся аж да канца залы. Уваходзілі праз усе дзверы рэспектабельныя панны і маладыя людзі, усе бадзёрыя і прыстойныя. Стравы на стале таксама змяніліся, былі спажыўныя, але не вытанчаныя. Срэбра было цяжкое, як і стравы, але мёд ліўся ў кубкі і весялосць была агульная…

— *Vous ne mangez pas*?[6] — Спытала гаспадыня, убачыўшы, што я не дакранулася да смажаніны і адмовілася ад гароднiны.

Зразумеўшы свой промах, я перапрасіла за няўважлівасць, і прывіды зніклі…

Вечарам заседзеліся мы ў салоне вакол століка ў модных фатэлях; мы чыталі, размаўлялі, было нам вельмі добра. Але гаспадыня мусіла выходзіць з салону, каб аддаваць распараджэнні; капелан пайшоў на свае пацеры, і былі хвіліны, калі я заставалася адна. Не было мне нудна, але было страшна сярод тых агромністых залаў. Але працягвалася гэта нядоўга, бо шпілька зноў калола і салоны напаўняліся тымі асобамі, якіх я бачыла за сталом, капэла грала на хоры, а моладзь танчыла да ранку…

Прыйшоўшы ў свой пакой, я загадала шпільцы патлумачыць яе папрокі. — «Твае ціхія бяседнікі мне зусім не імпануюць, — гаварыла я, каб збіць з яе пыху. — Кожны век мае свой звычай, і невядома, што мілей мець у доме: ці пастаянны гармідар і танцы замест ціхай свабоды, ці тлустыя стравы замест далікатнай кухні?»

А шпілечка на тое, колючы мяне зноў: «Згода! Але калі хто любіць самоту, навошта такі вялікі палац? Хіба што сённяшняе *я,* як паветра, само запаўняе ўсе пустоты?.. Бяседнікі мае — гэта бедная шляхта, якая харчуецца і выхоўваецца ў вялікіх паноў… Не без таго, што ёсць і сёння засцянковая моладзь, якая падсілкавалася б адной з гэтых далікатных страваў, калі б кошт яе зрэдукаваць на зразы альбо штуфады[7], а месца, як кажуць, хапіла б у тым палацы для паловы павету…

— Досыць гэтага, буркліўка! — адказала я. — Сёння лёгкія не такія моцныя, як раней, трэба шмат паветра для кожнага паасобку, і хоць з ім жа разам паглынаем нуду, аддаем перавагу ёй, а не дыханню людзей іншага класу…

Гэтак, набуркатаўшыся на маю шпілечку, ездзіла я з ёю доўга па краі; рабілася яна штораз больш кемліваю і з многімі вобразамі асвойталася, як сумленне, якое ў рэшце рэшт заспакойваецца і ўжо больш не коле. Адной толькі змены яна не магла бачыць без абурэння і не раз мяне калола аж да крыві: калі бачыла, як коней гасцінна адсылалі да карчмы. Я дапытвалася ў яе, чаму гэта яе больш абурае, чым штосьці іншае?

— Звычкі і звычаі, — адказвала яна мне, — часта мацнейшыя за самі цноты, і таму з'яўляюцца іх ахоўнікамі. Калі звычаяў пазбудземся, у што ж ператворацца цноты?..

Бачачы, што шпілечцы цяжка дагадзіць, не зважаючы ўжо на яе капрызы, паехала я для сваёй уласнай пацехі ў колішнія Сапліцоўскія мясціны. Там нанесеныя шпілечкаю раны пацуху гаіліся, аднак жа і там не ўсё было па-старому…, новыя завядзёнкі звыклым шляхам пракраліся і туды, як і ў іншыя месцы, але грунту там не парушылі, ва ўсялякім разе мне самой так здавалася. Але, каб не псаваць сабе крыві, не пыталася я ўжо больш ні аб чым у шпілечкі, адклала яе ўбок як рэліквію даўніны і нават мела не раз крыўду на яе, што без патрэбы раскрыла мне вочы … Ах! Гэта вялікая праўда, што калі не можам штосьці змяніць, лепей заставацца ў змане!

*Пісана ў 1856 годзе*
*ў Гарадзілаве.*

* Апярэджваючы закіды тых, хто лічыць, што я не зусім слушна прызнаю перавагу мінулых часоў, аж да адмаўлення шчасця і годнасці сучасных сужэнскіх параў, адкажу: так, безумоўна, у выніку суровых прынцыпаў і строга рэлігійных уяўленняў, якія існавалі на той час ва ўсім краі і амаль паўсюдна ў свеце, прасцей было тады мець шчасце ў няроўным шлюбе, чым сёння ў згодзе і роўнасці. Відаць, што разводы, прайшоўшыся па краі, як ураган, тое, што не здолелі разбурыць, пахіснулі. Але, дзякуй Богу, сляды гэтага буралому сустракаюцца ўсё радзей і ўрэшце іх зусім не будзе. Ужо маем шчаслівы таму пачатак, бо ў хвіліну, калі гэтае пішу, дайшла да нас вестка аб вяселлі, якое адбылося недалёка ад нас, пад Менскам, а тое ў спосаб, які дагадзіў бы самой шпілечцы. Панна маладая мела на сабе хлеб, цукар і пасвянцоны дукат (спадчыну па бабцы). А баль распачаўся паланэзам. Было шампанскае, але быў і мёд; была даўняя гасціннасць, бо было старапольскае сэрца. Дай Божа шчасця маладой пары! Дай Божа доўгага жыцця іх бацькам і штораз больш такіх прыкладаў! — *(Прыпіска Аўтаркі).*

*Пераклад з польскай мовы Ірыны Багдановіч.*
*Паводле: [Gabryela Puzynina] «Małe a prawdziwe opowiadania. Przez Autorkę w Imię Boże». — Wilno, 1857..*

[1] Раброн – старадаўняя жаночая сукенка з крыналінам (тут і далей – заўвагі перакладчыка).
[2] Бахмат – кіргізская парода коней.
[3] Карабеля (гіст.) – крывая шабля (парадная).
[4] На рахунак (іт.).
[5] Кансамэ – крэпкі булён (фр.).
[6] Вам не смакуе? (фр.).
[7] Тушаная ялавічына (пол.).



Алена Васілевіч.
Фота Сяргея Скібінскага.

Вера Галубовіч

# «Пачакай, затрымайся...»

*«Кожны раз, калі я азіраюся ў тую, цяпер ужо даўнюю далячынь, кожны раз я пытаюся ў сябе: „Няўжо гэта там, за тым засмужаным ружовым туманам ранкам, жывой галінкай зелянееш ты сама? І гэта тваім босым нагам гэтак лёгка хадзіць па зямлі, а загарэлым рукам гэтак прагнецца дацягнуцца да ўсяго на свеце? І няўжо твая гэта песня звініць і не ведае стомы з ранку да вечара? І гэта ў цябе столькі шчырага даверу, хто б ні стрэўся табе на дарозе, хто б ні азваўся да цябе прыхільным словам?"*

*І цяпер, калі між нас лягла такая неабсяжная прастора часу і ўзросту, калі столькі камення лягло на той дарозе, якая нас развяла і раз'яднала, я пытаюся, дзівячыся і спадзеючыся:*

*— Тая даўняя з таго далёку ТЫ — гэта Я? І Я цяперашняя — гэта ТЫ таксама?»*

Так бывае — бярэш у рукі кнігу, каб зверыць цытату ці аднавіць нейкі эпізод у памяці — і ўсё, ты прапаў, пакуль не дойдзеш да апошняй кропкі, яна не адпусціць і ты будзеш — каторы раз — пражываць і суперажываць гэта жыццё, якое зусім не будзе здавацца чужым. Ёсць такія кнігі. Нямнога, але тут ужо — як каму пашанцуе. Першая такая кніга ў маім жыцці — «Расці, Ганька» Алены Васілевіч.

У далёкім 1966 годзе мой бацька, чалавек па тым часе адукаваны (вучыўся ў гімназіі яшчэ пра царызме), прывёз з Мінска гэтую кніжку. То быў час, калі сцвярджэнне «Лепшы падарунак — гэта кніга» яшчэ не ўзялі на ўзбраенне гумарысты і людзі сапраўды з задавальненнем атрымлівалі такі падарунак. Тэлевізары тады мала хто меў, і кніга была адзіным акном у іншае жыццё. Хто ж у дзяцінстве не сягаў у сваіх марах далёка ды высока? Вось тут кнігі і былі першымі памочнікамі і спадарожнікамі. Хай сабе тыя мары не збудуцца ніколі, але ж яны павінны быць, іначай выходзіць і не было ў цябе ніякага дзяцінства. Кніжак пра «іншае жыццё» я на той час прачытала ўжо шмат, бо любіла гэты цудоўны занятак і чытала ўсё без разбору, што ў рукі патрапіць. Не ўсё з прачытанага адклалася ў памяці ды і ці варта пра тое шкадаваць? А вось падораную бацькам кніжку, якая, у рэшце рэшт, не вярнулася да мяне, узятая «пачытаць» некім з вясковых сяброў, шкадую дагэтуль. Гэтая кніга звязвае мяне з маленствам, з вёскай, з бацькамі, якіх даўно няма на свеце, з сябрамі…

Трэба сказаць, што жыццё беларускай вёскі ў 60-я гады мінулага стагоддзя не так ужо кардынальна адрознівалася ад часу, апісанага Аленай Васілевіч у сваёй аповесці, таму, толькі адгарнуўшы колькі старонак, я зразумела — гэта пра нас, пра мяне. Я пазнавала сваіх суседзяў

**Вера Галубовіч** — пісьменніца. Нарадзілася ў вёсцы Батурынка на Смалявіччыне. Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Друкавалася ў «ЛіМе», у «Дзеяслове», у анталогіі «Насустрач Духу». Жыве і працуе ў Мінску.

і сяброў, ды што там — я пазнала ўласнага дзеда Марціна, які ў аповесці называўся Ганьчыным дзедам Грысем. І цётка Фядора ў мяне таксама была. У нас былі тыя ж клопаты і праблемы — зжаць жыта, выкапаць бульбу, папасвіць свіней… І такім жа прывабным быў чужы гарох…

Дзіўным чынам старонкі, дзе маці вучыць Ганьку, як трэба і як не трэба сябе паводзіць, нагадвалі тую навуку, што чулі мы ад уласных бацькоў, ад суседзяў аднавяскоўцаў. «*Па сутнасці, гэта яна, вуліца, першая школа і першая настаўніца ў тваім жыцці*».

Пазбаўленыя рэлігійнага выхавання (такі ўжо быў час), са старонак Ганьчынай гісторыі мы даведаліся пра большасць Божых запаведзяў, якія супадалі з тым, чаму вучылі дома, — калі на словах, калі прыкладам.

Вось Ганьцы старэйшы брат Коля прывёз з горада лялька — такую, якіх няма ні ў кога з таварышак. «*Адзінае, чаго ёй хочацца, што ёй неабходна сёння, як паветра, — гэта ўзяць ляльку і пайсці з ёю па вуліцы. З канца ў канец вёскі. Каб бачылі ўсе! Каб усе глядзелі ёй услед. Каб усе ад зайздрасці паўміралі! І Анютка Корбутава, і Маня Паўлава, і Грышка, і Бурбалка… Вось што патрэбна сёння Ганьцы. І больш ёй нічога не трэба.*

*Маці бачыць Ганьку наскрозь.*

*— Не, — кажа маці, — на вуліцу з лялькай не пойдзеш. Выгнюсіш, выпацкаеш адразу… І наогул выхваляцца, што толькі ў цябе адная такая лялька, а больш ні ў кога няма, нядобра, брыдка*».

О, гэтая пахвальба, такая своеасаблівая дзіцячая пыха, якую мала хто не зведаў у сваім дзяцінстве.

А тут яна ўлезла ў чужы гарох.

«*— Ай-яй-яй! Гэтака вяліка дзеўка ды заблудзіла па дарозе!..*

*Ад нечаканасці, перапуду і сораму ў Ганькі не хапае адвагі павярнуць галавы на голас. Некаторы час яна так і застаецца сядзець у гаросе, яшчэ больш утуліўшы галаву ў плечы… А потым, чырвоная, няшчасная, брыдкая, устае і паволі брыдзе па гаросе да дарогі. А гарох блытаецца ў нагах, чапляецца за сукенку, нібыта хоча затрымаць Ганьку, нібыта хоча на ўвесь свет паказаць яе сорам! Ага, папалася! Будзеш ведаць, як красці чужое! І Ганьцы здаецца, што ў яе пад нагамі гарыць і расколваецца зямля…*

*— Ай-яй-яй! — пры дарозе, каля плота, стаіць з доўгім кіем у руках дзед Васіль. Ён нічога больш не кажа, ён толькі трасе кароткай сівой бародкай, і ў вачах яго скача, скача смех… Ганька хоча абысці дзеда Васіля, але дзе там! Дзед заступае ёй дарогу:*

*— Гэта цябе маці вучыць красці чужы гарох?*

*— Н-не… — ад сораму і гора Ганька не можа прамовіць больш ні слова.*

*— А я думаў, што гэта твая маці цябе вучыць… А каб Тодар застаў цябе?*

*Ганька і сама пра гэта думала, з самага пачатку думала. Што, як нарвецца сам Тодар?.. Колькі разоў і маці наказвала ёй: не зайздросць на чужое, ніколі не бяры чужога…*»

І праўда — нікога маці не вучыла браць чужое. Але ж, пачынаючы з Адама і Евы, нас спакушае чужы яблык, хоць цяпер, калі прамінула столькі гадоў, я магу паклясціся, што самыя смачныя ўсё ж выспявалі якраз у нашым уласным садзе.

«*Дзіўная рэч. Маці ніколі не кажа пры ёй дрэннае пра людзей: ні пра суседзяў, ні пра сваякоў. Наадварот, маці заўсёды як быццам хоча выгарадзіць, хоча знайсці апраўданне іх чалавечым слабасцям. Аднак Ганьку нельга падмануць. Яна беспамылкова адчувае матчыны адносіны да людзей — каго яна не любіць, каго не паважае*».

Як жа памятна гэтая ранейшая вясковая завядзёнка — не казаць ні пра кога дрэнна. Памятаю цётку суседку, якая, калі сварылася за што-небудзь на нас, дзяцей (а сварыцца было за што), выкарыстоўвала такі абарот: «А каб табе добра было!» Шмат гадоў прайшло, перш чым я зразумела, што тая суседка ведала вялікую сілу слова. Карысталіся словамі звычайна абачліва і асцярожна. Прынамсі, у маёй памяці не засталося ні брыдкаслоўя, ні праклёнаў, ні абразаў — не было тады гэта прынята на нашых землях. Вось і ў аповесці «Расці, Ганька» мы бачым беларускую вёску, якая яшчэ здаровая ў сваёй маралі і выхоўвае такімі ж сваіх маленькіх жыхароў — словам, справай, прыкладам. Нягледзячы на цяжкую працу, знаходзіцца ў сялянаў час і на кніжку, і на вершы, і на песні. «*Дзядзька ў вольныя суботнія вечары любіць чытаць у сталовай тоўстую кнігу, якая называецца „ВсѢмірная исторія“. <…> І ў гэты ж час ён паспявае весці гутарку і з дзецьмі пра іх кнігі і ўрокі, любіць расказваць ім пра тое, што ён чытае зараз і што чытаў некалі: пра розных цароў і палкаводцаў, пра іх паходы і войны.*»

А вось Ганьчына маці чытае на памяць вершы, расказвае дачцэ, як у вёску прыязджаў Колас. «*І з людзьмі Якуб Колас трымаўся вельмі проста і звычайна. Першы вітаўся. Ахвотна гаманіў са старымі… А назаўтра, у нядзелю, як прыгналі кароў з ранак, чытаў у Мікалаевым садзе, у цяньку пад касцянкай каля свірна, свае вершы. Чытаў пра раніцу ў нядзельку, пра жніво, пра падгляд пчол… Чытаў пра ўсё такое знаёмае — і сумнае і вясёлае, што жанкі толькі божкалі і дзівіліся: „От бо чалавек! Трэба ж гэтак складна пра ўсё напісаць!..“ І калі паехаў, доўга ўсё ўспаміналі: „От Каласок дык Каласок!..“*»

«Расці, Ганька» — толькі першая аповесць тэтралогіі «Пачакай, затрымайся…». Расповед плаўна пераходзіць у аповесці «Доля знойдзе цябе», «Новы свет», «Пачакай, затрымайся…» Іх я прачытала пазней, ужо дарослай. Пачала адпачатку — з «Ганькі». І скажу шчыра — не магла стрымаць слёз у тых жа самых месцах, што і некалі ў далёкім дзяцінстве.

Усе аповесці тэтралогіі пранізвае тэма дабрыні. *«Маці верыла ў Бога, звала Яго добрым і літасцівым і заўсёды чакала ад Яго дабра. І Ганьку яна таксама заўсёды вучыла шанаваць Бога і быць добрай»*. І вось сірата Ганька, якую крыўдзяць блізкія людзі — родны дзядзька і яго жонка, не памятае зла і ледзь толькі няшчасце прыходзіць у іх хату, першая кідаецца спачуваць і дапамагаць. Цётку Фядору як «кулачку» высяляюць з хаты.

*«Хату ачысціць (гэта значыць, пакінуць, вызваліць) Гайдукевіч загадаў да вечара.*

*— А дзе ж мне дзецца — з сям'ёю, з дзецьмі?.. — загаласіла Фядора.*

*— Гэта не наша справа, грамадзянка. У памяшканні савецкай школы кулакам заставацца строга забараняецца!*

*— А дзе ж мне дзе-э-эцца-а…*

*— Цётка, не плачце… — кранула Фядору за рукаў Ганька. — Пойдзеце ў нашу хату… У нашай не раскулачаць больш».*

Ды ўрокі дабрыні тут ледзь не на кожнай старонцы. «…*У той год, як на Украіне быў голад. Як хадзілі па хатах украінцы. Прыязджалі аднекуль вельмі здалёку („з-під Пілтавы“, „з-під Житомира“…“) старыя, маці з малымі дзецьмі, — хадзілі па хатах і выменьвалі, што ў каго было, на хлеб, на сала, на бульбу. У тое лета хаты не зачыняліся з ранку да вечара… Раніцой напячэ, на снеданне, баба Іваніха блінцоў, наварыць бульбы, паставіць у печ абед (па чыгуну бульбы і капусты) — і як пачнуць з самае раніцы ісці і ісці гэтыя няшчасныя людзі, як пачнуць прасіць — да вечара ў хаце не застаецца нават свіное бульбіны ў карыце… Бо як было адмовіць і не даць гэтым працягнутым рукам?»*

І Ганьцы ў жыцці часта сустракаюцца добрыя людзі. Гэта выпадковы спадарожнік Іван Сцяпанавіч Мялешка, які дапамог неспрактыкаванай у далёкіх паездках дзяўчыне дабрацца да горада Рагачова, дзе яна паступіць у педагагічны інстытут. А вось у Савецкім Саюзе ўводзіцца плата за навучанне і студэнты масава пакідаюць навучальныя ўстановы, бо мала хто мог заплаціць грошы. І няма каму плаціць за сірату Ганьку. Якраз жа ў той час, калі ў чарзе да кабінета дэкана перад ёю застаецца адзін чалавек, прыходзіць тэлеграма: «*Ганька, не кідай інстытута. Паможам кончыць. Валодзя*». Валодзя — гэта муж яе дваюраднай сястры Сашы. «*Праз дзень прыходзіць мне пісьмо з Ленінграда. „Ты, Ганна, рабіць глупствы здольная… Дык вось кажу табе: не ўздумай кідаць інстытут. Мы з Лізаю паможам табе дацягнуць гэты год. Сцёпа“. І я застаюся канчаць інстытут*». Сцёпа — яшчэ адзін Ганьчын дваюрадны брат. Добрых людзей наогул больш, чым кепскіх, хіба ж не так?

Але пра кнігу не трэба шмат расказваць, яе трэба чытаць — нават дарослым людзям, разам з дзецьмі ці ўнукамі. У цяпер ужо далёкім 1996 годзе Алена Сямёнаўна Васілевіч падарыла нашай сям'і дапоўненае выданне кнігі «Пачакай, затрымайся…» з надпісам: «*Усім Галубовічам — Ксені, Веры і Леаніду — жадаю Дабра і Шчасця. Толькі — Шчасця і Дабра!*» Дачцэ якраз было восем гадоў — самы той узрост. Так у жыцці пашчасціла — не толькі прачытаць гэтыя цудоўныя аповесці, якія і цяпер вяртаюць мяне ў дзяцінства, бо любімыя кнігі я час ад часу перачытваю, але і пазнаёміцца з Аленай Сямёнаўнай і займець у яе асобе добрага старэйшага сябра. Яна заўсёды пацікавіцца не толькі нашымі справамі і здароўем, але і распытае пра нашых родзічаў — не дзеля ветлівасці, а таму што ёй гэта сапраўды цікава. Гэтым летам у нас было не вырашана пытанне, ехаць ці не нам з дачкою ў Кіеў — ёй па вучобе, мне «за кампанію» і таму што не была, і неяк яно не выпадала. Але вось прыходжу дадому, а Ксеня ўрачыста аб'яўляе: «Званіла Алена Сямёнаўна — сказала ехаць!» І як жа добра, што паехалі, бо ўражанні незабыўныя. І адкуль яна гэта ведала? Але ж, пэўна, ведала, бо пражыла вялікае і цікавае жыццё. Былі ў ім і цяжкія часы. Была вайна — эвакуацыя, праца ў шпітальнай бібліятэцы, у страявой часці — пісарам, пра што Алена Сямёнаўна таксама расказала ў сваіх творах. І было шмат гадоў працы ў часопісе «Работніца і сялянка», у выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва», уласнай творчасці. У 1976 годзе за кнігу аповесцяў «Пачакай, затрымайся…» Алена Васілевіч была ўганараваная Дзяржаўнай прэміяй БССР, і гэта якраз той выпадак, калі лаўрэат быў вызначаны беспамылкова.

10 гадоў таму мне давялося віншаваць Алену Сямёнаўну Васілевіч з 85-гадовым юбілеем на старонках «ЛіМа», і я вельмі рада, што гэты тэкст магу закончыць тымі самымі словамі і тым самым пажаданнем: «Жывіце доўга, Алена Сямёнаўна. Мы вас любім і помнім!»

**Літаратура:**

Алена Васілевіч, «Пачакай, затрымайся…». – Мінск, 1994.



# Аксана ДАНІЛЬЧЫК

**Аксана Данільчык —** кандыдат філалагічных навук, перакладчыца. Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Абрыс Скарпіёна» (1996), «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), «Сон, які немагчыма забыць» (2011) кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005) і інш. Перакладае з італьянскай мовы, займаецца даследаваннем беларускай і італьянскай літаратуры. Жыве ў Мінску.

* * *

Вада мае здольнасць
прымаць любую форму,
але захоўвае сутнасць.
Гэта – галоўнае.

* * *

Nu locuim intr-o tara, locuim intr-o limba.
Patria este limba, nimic altceva[1].
M. E. Choran

Слонцо закацілася за гае далёкія,
пад старою дзічкаю коўзаецца змрок,
і кудысьці дзеласё даўняё, высокаё,
ўсё, што ты, няўдаліца, затрымаць ня змог.
Верабіны гнуткія на платэ паклаліся,
полё разгарнуласё сівым палатном,
ну чаго ж вы, дзетачкі, гэтак іспужаліся
то заранка бліскае над начным сялом…

Мятавы вецер,
шантавы вецер
стагоддзямі
пыл узнімае
і апускае на дол,
белых рамонкаў,
што да мяне падыходзілі,
круціць пялёсткі
і высыпае
ў прыпол.

[1] Чалавек жыве не ў краіне, ён жыве сярод мовы. Радзіма — гэта мова і нічога больш (М. Э. Чоран).

Ад «алімпійкі»,
што легла лінейнай пазнакаю
на пераходы
між возерскам і падлессем,
гук прапаўзае вужакаю
праз перашкоды,
вуха казыча
і растае
ў міжлессі.

Усё, што я чую,
над гэтымі скрыжаваннямі,
усё, што я ведаю
пра непарыўнасць часоў,
увасабляецца
словамі-заклінаннямі,
перадаецца таму,
хто аднойчы
паўторыць іх
зноў.

* * *

Перамена
месцамі складнікаў
мае ў большай ступені
філасофскі сэнс,
чым матэматычны.

Асабліва
для складнікаў.

Хоць сума, безумоўна,
не мяняецца.

## Дзень Фердынанда Рушчыца

Менавіта ў час
халоднага ветру
і непазбежна яркага сонца,
калі мокрае вецце
здаецца промнямі святла,
мы маем права
быць нешчаслівымі,
сумнымі,
адсутнымі.

Мы маем права думаць,
што няма ніякай заганы
у непераадоленай адлегласці,
у неадноўленай памяці,
у неабавязковасці
існавання навідавоку.

І мы можам стаяць
ля касцёла
ці ля царквы,
распусціцца
сваімі тканкамі
ў сонечным мроіве
або плысці
па перакуленых нябёсах
разам з мінулагоднім лісцем,
ведаючы нешта
пра чаргаванне
руху і нерухомасці.

Менавіта ў час,
калі мокрае вецце
здаецца промнямі святла.

* * *

Птушыныя галасы
запаўняюць гукавыя пустоты,
у паабедзенны час
пачуццё неадольнай дрымоты
апаноўвае, і за ветрам,
што разгортвае ледзяныя трасы,
рухаецца рака,
штурхаючы цёмныя масы
вады, і чаіцаў белая пляма
мяняе бесперапынна абрысы
на цынавых хвалях,
дзе іх чарада мітусіцца.
І патэнцыйны снег
пагражае з асфальтаванага неба,
а ўсё, што належыць вясне,
ператворана ў небыць.

Час ад часу навіслая хмара
расплюшчвае вока
і ліставую мазаіку
высвятляе з паўзмроку.

Цёмна-шэрая сцюжнасць
выглядае
даволі злавесна,
і трэба мець
сапраўдную мужнасць,
каб у такое надвор'е
ўваскрэснуць.

* * *

Ёсць людзі лёгкія
як аблокі,
неабцяжараныя зямлёй,
яны ўзнімаюцца
разам з ветрам
без засмучэнняў,
без шкадаванняў,
і гэтак проста
плывуць па свеце,
не пакідаючы за сабой
ні сумнай радасці,
ні папрокаў
сваіх нявыкананых абяцанняў.

І я,
спрабуючы зразумець аблокі,
гляджу на неба
блакітны бляск,
дзе абсалютнасць
маіх вытокаў
і недасяжная легкадумнасць.
Непераўзыдзеная адлегласць
між светабачаннямі
праз нас
наўпрост кладзецца,
але нарэшце
мне больш не горка,
мне больш не сумна.

Здзьмухваю
памяць,
як пыл з люстэрка,
дзе ўсім адбіткам
адзіны скон,
ёсць людзі
лёгкія, як аблокі,
не мне імкнуцца
ім наўздагон...

# Леапольд СТАФ



**Леапольд Стаф —** польскі паэт, драматург, перакладчык. Нарадзіўся ў 1878 г. у Львове. Пасля заканчэння гімназіі вучыўся ў Львоўскім універсітэце (1897–1901). Удзельнік паэтычнага гуртка «Płanetnicy». З 1918 г. жыў у Варшаве. Быў сурэдактарам часопіса «Nowy Przegląd Literatury i Sztuki» (1920–1921), старшынёю Таварыства польскіх пісьменнікаў і журналістаў (1924–1931). З 1920 г. — член кіравання Саюза польскіх пісьменнікаў, член Польскай акадэміі літаратуры (з 1933 г.) і яе віцэ-старшыня (1934–1939).
Лаўрэат Дзяржаўнай літаратурнай прэміі (1927, 1951). З 1931 г. — ганаровы член польскага ПЭН-клуба; лаўрэат узнагароды ПЭН-клуба (за перакладчыцкую дзейнасць; 1948). Доктар *honoris causa* Варшаўскага ўніверсітэта (1939), Ягелонскага ўніверсітэта (1949).
Аўтар драматычных твораў «Skarb» (1904), «Południca» (1920) і інш., паэмы «Mistrz Twardowski. Pięć śpiewów o czynie» (1902), паэтычных зборнікаў «Sny o potędze» (1901), «Ptakom niebieskim» (1905), «Gałąź kwitnąca» (1908), «Tęcza łez i krwi» (1918), «Ucho igielne» (1927), «Barwa miodu» (1936), «Wiklina» (1954) і інш.
Перакладаў з грэчаскай, лацінскай, італьянскай, французскай, нямецкай моў творы Рамэна Ралана, Томаса Мана, Рабіндраната Тагора і інш., пераклаў на польскую мову «Кветачкі святога Францішка».
Падчас нямецкай акупацыі Польшчы жыў у Варшаве, выкладаў у падпольным універсітэце. Памёр у 1957 г. Пахаваны на Варшаўскіх могілках Павонзкі.

## Малітва

Ратуй жа, мой Божа, душы маёй квецень
Ад чорнай патравы на гэтым свеце.
Каб нават на той, на Апошняй Вячэры,
Я чуў яе водар у прыцемку шэрым.

Няхай на крыжы я распяты канаю,
Не бачу я сонца, нічога не маю.
Тады мне хай вера, о Маці Марыя!
У далечы цёмнай свет новы адкрые.

## Нядзельны ранак

У сонечным ранку нядзельным
Пустыя шляхі над азерцам,
І свет гэты бачу, бы ў сне я,
Як быццам адбіты ў люстэрку.

І святасць вось гэтай гадзіны
Змяняе зямныя абшары.
Блакіт насычаюць нябесны
Чароўныя Боскія мары.

На лес, на сады, агароды,
На хаты, схаваныя ў вецце,
Сплывае анёльска пагода,
І мір добрым людзям на свеце.

Ці мне падаецца, ці бачу?
На ціхім шляху апусцелым,
Што Хтосьці з галінкаю пальмы
Там едзе на восліку белым.

## Звеставанне

Авэ, Марыя! Навек благаславёна!
З захаду сонца Цябе прывітае,
Знае: з Твайго што народзіцца лона,
Вечарам горкім з ім разам сканае.

Авэ, Марыя! Калоссем зноў важкім
Нівы схіляюцца ў прыцемку шэрым,
Што ў час трывогі і ў смутку дзень цяжкі
З'явяцца хлебам Апошняй Вячэры.

Авэ, Марыя! Нябесныя росы
Лягуць, як жэмчуг, ля ног Тваіх самі,
І ў час жалобы тваёй невыноснай
Ціха сальюцца з Тваімі слязамі.

Авэ, Марыя! Хай ветрык пяшчотны
Той, што злятае з-за воблачнай пусткі,
Твар Твой абсушыць ад слёз і ад поту,
Калі ў Веранікі не будзе хусткі.

Авэ, Марыя! Лілеі на лузе
Ўслаўляць Цябе за твой боль і за мукі,
Голаў, што ўвенчана цернямі ў скрусе,
Прымеш Ты ціха ў лілейныя рукі.

Авэ, Марыя! Над шляхам, над полем
Песні падзякі пяюць табе птушкі,
Што панясуць над бясконцым раздоллем
Выдых апошні любові патухшай.

Авэ, Марыя! Зноў змрок раздарожжа
Да Тваіх ног упадзе ў паняверцы,
Каб ад Галготы, ад крыжа падножжа,
Роспаччу горкаю легчы на сэрца.

Авэ, Марыя! Навек благаславёна,
Вечнасць павінна Табе тут сівая
За Твае мукі, за плод Твайго лона,
Бо найвышэйшая з ахвяр тут — малая.

## Ноч

Нябёсы, як Сын Божы ранамі,
Скрозь зоркамі густа прабіты.
Шлях Млечны шырокай павязкаю,
Як быццам на бёдрах спавіты.

Нябачны, вякамі зацемнены,
Бы на абразе пачарнелым,
І толькі акладам сярэбраным
Над светам ён свеціцца цэлым.

## Я выйшаў шукаць…

Я выйшаў шукаць Цябе ранкам, на золку ў трывозе,
Ніяк не знайду, мо іду я дарогай не тою?
Спаткаў жа Цябе я, калі абярнуўся ў дарозе,
Бо Ты ўсё жыццё крок у крок ішоў следам за мною.

Дзень цэлы блукаў я пад хмараў свінцовым цяжарам,
У холадзе поўдзень мінуў мой, каб толькі пад вечар
Успыхнуць Табой на змярканні маім палкім жарам,
Як ззяе пад сонцам вячэрнім на захадзе рэчка.

* * *

Вось так, як Цябе тут цвікамі да крыжа,
Любоў да Цябе мяне, Божа, прыбіла.
І не адарве ўжо ніякая сіла
Ад моцы Тваёй: ні самлеласць, ні слава.

Мне быць ад Цябе, можа, злева ці справа?
Не ведаю, Божа. Абы не гнявіла
Цябе тут душа мая, што саграшыла,
І просіць аб літасці шчыра, ласкава.

Бо ў час той ганебнай для людства падзеі
Не я падняў крыж Твой на горкай дарозе,
Падзякай Тваёй, каб навекі сагрэцца.

Але ж я не трачу, мой Божа, надзеі
І сэрца маё не жыве ўжо ў трывозе,
Бо злева ў разбойніку ўбачыў Ты сэрца.

## Просьба

І мара, і праўда ў нядолі,
І ява над снамі вітае.
І вязняў, што мруць у няволі,
Зноў крыўда, як воўк злы, кусае.

А людзі свет зганьбілі ў Бога,
Нянавісць спагаду крыжуе.
Народзіцца заўтра трывога,
І смерць тут з жыццём спарышуе.

І будзе пракляццем хвіліна,
Цяжкая, як слёзы стагоддзя,
Ды зноўку падстаўлена спіна,
Каб несці бяду пры народзе.

Хоць свет гэты гневу і варты
Тых мудрых, што ведаюць святасць…
Ты збі з мяне пыху пагарды
І дай жа пакоры мне радасць.

*Пераклаў з польскай мовы*
*Сцяпан Сяргей.*



Бронзавая скульптура папы Клімэнта II (скульптар Сабінэ Хоппэ) перад пратэстанцкаю царквою ў Хорнбургу.
*Фота Георга Освальда Котта.*

Георг Освальд Котт

# Клімэнт II — Папа Рымскі з Хорнбурга

Пасля палявання на мядзведзя ў Бланкенбургскім лесе Конрад, граф Морслебена і Хорнбурга, скача вярхом разам з дванаццацю ўзброенымі спадарожнікамі да сваёй галоўнай рэзідэнцыі.

Ён скача, не разбіраючы шляху, праз балоты і ручаі. Зноў і зноў дарогу перагароджваюць валуны і паламаныя дрэвы. Жарабец графа пужаецца кожнай новай перашкоды. Конрад бярэцца за бізун, прымушае свайго каня зрабіць скачок. Граф стрымгалоў імчыцца наперад, пакідаючы ззаду сваіх людзей. Сёння, 1 верасня 1005 года, яго падганяе навіна: Амульрада, ягоная жонка, адчувае родавыя болі. Вельмі хутка яна народзіць дзіця. Графу Конраду было прадказанне: «Толькі калі ён, стаўшы бацькам, ужо ў дзень нараджэння возьме немаўля на рукі, дзіця ўчыніць штосьці вялікае для чалавецтва».

Далей ён скача галопам. Хутка з ляснога масіву Гроссэр Фальштайн становіцца бачнаю мэта вандроўкі. Вартавая вежа Хорнбурга, што стаіць высока на ўзгорку, узвышаецца над гарадскімі валамі і хатамі. Яшчэ не развяваецца на вежы сцяг у знак нараджэння, але яно неўзабаве адбудзецца.

У сваім замкавым пакоі ляжыць у пасцелі Амульрада. Дыханне перарывіста вырываецца ў яе з грудзей, яна курчыцца ад болю. Павітуха Ізольда гладзіць графіню па валасах, падбадзёрвае яе, спявае дзіцячую песню. Дзве служанкі рыхтуюць радзільнае крэсла, высцілаючы яго палотнамі. Затым яны асцярожна падымаюць графіню, падтрымліваюць яе, пакуль яна з выцягнутымі нагамі не ўсядзецца на радзільнае крэсла. Павітуха стаіць перад ёю на каленях. Яна пяшчотна кладзе рукі на ўлонне маці, навобмацак вызначае пазіцыю дзіцяці. Галоўка намацваецца, ляжыць зручна. Ізольда націрае родавыя шляхі і дае графіне парады, як ёй трэба дыхаць і тужыцца.

Раптам усё адбываецца вельмі хутка: Амульрада нараджае хлопчыка. Немаўля крычыць і перабірае ручкамі і ножкамі, здаецца, што гэта абсалютна здаровае дзіця. Хлопчыка мыюць і спавіваюць. Хутка пасля гэтага граф Конрад трымае свайго сына на руках.

Смяротнасць сярод немаўлятаў шырока распаўсюджаная, таму спешна рыхтуецца хрост. Кажуць: «Нябёсы адчыненыя толькі для ахрышчанага». Праз некалькі гадзінаў у замкавай капліцы з малітваю і пры свечках адбываецца хрост дзіцяці. Хлопчыка будуць зваць Суітгерам. Яшчэ ў паўзунковым узросце Суітгер соваецца па пакоях. Калі ён асмельваецца зрабіць першыя крокі і пачынае хадзіць, ён даследуе замак, стайні і вежу да самых зубцоў.

Як толькі ён навучыўся ездзіць верхам, ягоная прага ведаў выганяе яго вонкі. Ён усё лепш знаёміцца з наваколлем Хорнбурга. На поўдні яго вабяць горы Гарца. З цікаўнасцю ходзіць ён па лясах, узбіраецца па ўцёсах на высокі Брокэн.

Ён ездзіць верхам уздоўж берага ракі Ільзэ да яе вусця, дзе яна ўпадае ў Окер. Ён накіроўваецца ўслед за ракою на поўнач, знаходзіць месца кладу ў Альтэвіку, дзе каля пераправы праз Окер праходзіць гандлёвы шлях ад Рэйна да Эльбы. У гэтым паселішчы распараджаюцца бруноны. Са свайго замка яны кантралююць гандаль на Океры і патрабуюць дарожную даніну.

З усходу і захаду сыходзіцца разнамасны народ. Каля Альтэвіка, вакол святога Мікалая — драўлянай царквы — стаяць крытыя саломаю хаціны. Яны служаць месцам адпачынку і

**Георг Освальд Котт** — пісьменнік, паэт. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў Зальцгітэры. Закончыўшы рамесніцкае навучанне, вывучаў дыеталогію і германістыку; працаваў выкладчыкам у прафесійнай школе і ва ўніверсітэце ў Гановеры. Аўтар радыёп'есаў, апавяданняў, эсэ і вершаў, некаторыя з якіх пакладзеныя на музыку і перакладзеныя на розныя мовы. Аўтар 25-ці кнігаў, сярод якіх апошнія — выданні вершаў: «След ад воза» (Берген/Галандыя, 2001), «Палёт сарокі» (Хаўцэнберг, 2006), «Марыенборн» (Хаўцэнберг, 2014), «Вершы за ўсмешку» (Лейпцыг, 2014). Узнагароджаны прэміяй «Новая кніга» ў Ніжняй Саксоніі і Брэмене (1998), Крыжом за заслугі Ніжнесаксонскага ордэна (2011) і інш. Сябра Саюза нямецкіх пісьменнікаў і ПЭН-клуба. Жыве ў Германіі, у Браўншвайгу.

ўцехаў для падарожнікаў. З шынкоў гучыць гоман, звонку каля лавак зазывалы расхвальваюць свае тавары. Тут прапаноўваюцца рэчы адусюль: бурштын з Усходу, тканіны з Брабанта, амулеты, кальчугі, мячы і яшчэ шмат таго, што жадаюць людзі.

Граф Брун прыязджае з замка верхам. Паперадзе яго мчацца ягоныя ахоўнікі. Яны трымаюць на павадках сабак. Палкамі і ўдарамі бізуноў яны ачышчаюць вуліцу. Жабракі ўцякаюць. Адзін з іх спатыкаецца аб свае мыліцы. Граф Брун прышпорвае жарабца, рэзка збівае калеку з ног. Суітгер спяшаецца жабраку на дапамогу, падымае яго і падтрымлівае, пакуль той ізноў можа стаяць. Ахоўнікі праганяюць Суітгера.

Манах Гунтрам — настаўнік Суітгера. Ён суправаджае яго з дзяцінства. Гунтрам — шчаслівы выпадак для маладога графа: гэты манах разумны і разбіраецца ў жыцці. Ён жыў у Ерузалеме, у Візантыі і ў Рыме. Ён ведае Біблію і шматлікія працы вучоных. Ён умее апрацоўваць поле, прадказвае буру і ведае пра лекавую сілу многіх раслінаў. Гунтрам перадае свае веды Суітгеру, размаўляе і чытае з ім па-грэчаску і па-латыні. З кожным днём веды Суітгера павялічваюцца. Ён валодае алгебраю, ведае філасафаў і можа падкаваць каня.

Ужо хутка скончыцца дзяцінства Суітгера. Ён яшчэ вагаецца, не ведае, ці зрабіцца яму правіцелем, ці святаром. У гэты час пошукаў ён скача ў Пфальц Верла. Ён часта наведвае каралеўскі палац на крутым беразе Окера, да якога ўсяго толькі гадзіна язды верхам ад Хорнбурга. Пфальц з'яўляецца для яго месцам вучэння, асабліва ў тыя дні, калі кайзер праводзіць сеймы. Тут сустракаюцца магутныя людзі з усіх канцоў імперыі, што раскінулася ад Міжземнага да Паўночнага мора. Герцагі, графы, святары высокага рангу. І ўсе яны прыязджаюць са світаю. У такія дні Суітгеру сустракаюцца многія незнаёмыя людзі. Ён размаўляе з панамі і са слугамі і слухае, што адбываецца ў далёкіх мясцінах і што новага



Бамбергскі катэдральны сабор, брама Адама.
*Фота Георга Освальда Котта.*

ў свеце.

Сёння ў палацы знаходзіцца кароль Конрад II. На свабодным месцы паміж палацам і царквою ўстаноўленыя трыбуны. Пасярэдзіне сядзяць кароль і каралева ў атачэнні дваранства і высакародных дамаў. Два рыцары пачынаюць коннае спаборніцтва. Пераможцам стане той, хто кап'ём выб'е праціўніка з сядла. Прастора для змагання роўная даўжыні пяцідзесяці коней. У кожным канцы дыстанцыі стаіць адзін з абодвух рыцараў і цэліцца ў свайго праціўніка. Кожнага з іх абараняюць даспехі, грудзі і ногі закрытыя панцырамі. Галава схаваная ў жалезны шлем.

Народ чакае знаку. Кароль узнімае руку. Адразу ж гучыць барабанны дробат. Потым раздаюцца гукі трох трубаў. Сцяганосец апускае сцяг, і змаганне пачынаецца. Вершнікі нясуцца адзін на аднаго. На іхніх конях — гунькі. Бакі пакрытыя чырвоным сукном. Галовы схаваныя пад чорнымі маскамі. Відаць толькі вушы. З вузкіх прарэзаў пазіраюць вочы коней. Іхні позірк паверх намаляваных цмокавых зубоў здаецца злосным. Кожны вершнік трымае ў руцэ кап'ё і накіроўвае яго на свайго праціўніка. Усё хутчэй і хутчэй набліжаюцца яны адзін да аднаго. Раптам яны наносяць коп'ямі ўдар. Ён трапляе ў аднаго з вершнікаў. Праз удар кап'ё разломліваецца на кавалкі. Частка дрэўка ўтыкаецца рыцару ў горла. Ён хістаецца, узнімае рукі ўгору, выпадае з сядла. Ягоны конь устае на дыбкі, падае і прыдушвае яго сваім целам. З усіх ярусаў гучаць крыкі радасці. Пераможца накіроўвае свайго каня да трыбуны. Ён адкрывае забрала і кланяецца каралю.

Гэтае пабоішча наганяе на Суітгера жах. Ён скача прэч. Па дарозе назад у Хорнбург ён сустракае свінапаса Ота. Той здымае шапку і пачынае скардзіцца: «Малады пан, выслухай мяне, калі ласка. Ахоўнікі з Верлы пазабіралі ў мяне маю жывёлу». Заўсёды, калі кароль спыняецца ў палацы, яму і ягонай світе патрэбныя хлеб, мяса і фрукты. Сялянаў вымушаюць сплочваць даніну. Часта перад нападам світы правіцеля яны гоняць кароваў у лес, хаваюць тое, што можна выратаваць, каб не памерці з голаду.

Нястачы сялянаў выклікаюць у Суітгера спачуванне. Ён думае, якім чынам ён можа дапамагчы гэтым людзям. Таму ён шукае дапамогу ў бэнэдыктынаў. Ён канчаткова пакідае Хорнбург і ідзе ў Хельмштэдт, у кляштар святога Людгера. Манахі жывуць тут у пакоры, у цноце і веры ў Бога. Яны выкарчоўваюць лес вакол кляштара, робяць пустку пладароднай, выкопваюць сажалкі, каб разводзіць рыбу. Яны захоўваюць збожжа і фрукты ў свірнах і склепах для запасаў на зіму. Яны будуюць шпіталь і даглядаюць там хворых, аблягчаюць іхнія болі травамі з кляштарнага саду. Кожны дзень голад гоніць беднякоў да дзвярэй кляштара. Натоўп калекаў і абадраных дзяцей просіць літасці. Манахі раздаюць жабракам хлеб і суп. Суітгер дапамагае па меры сілаў. Ён адчувае сябе на сваім месцы, тым больш што тут ён можа дапамагаць людзям і, апрача таго, памнажае свае веды ў кляштар-

най бібліятэцы. Жыццё з манахамі фармуе яго, робіць гатовым да святарства. Так, у 1032 годзе ён становіцца канонікам сабора ў горадзе Хальберштадт. Хутка пасля гэтага арцыбіскуп Герман прызначае яго прыдворным святаром у сваё біскупства ў Гамбург і Брэмен. У якасці прыдворнага святара ён сустракае караля Генрыха ІІІ. У гэты час кароль атрымаў ліст ад італьянскага манаха Пятра Даміяні. Той скардзіцца на распусту рымскага духавенства. Кароль звяртаецца да Суітгера за параду і хутка вельмі ўражаны ягонымі дабрачыннасцямі і ведамі. Генрых разумее, што Касцёлу патрэбныя такія святары, як Суітгер.

Летам 1040 года памірае Эберхард, біскуп Бамберга. Пасля гэтага кароль прапаноўвае Суітгера на пасаду біскупа Бамберга. 28 снежня 1040 года ў Мюнстары мітрапаліт Барда, арцыбіскуп Майнца, пасвяціў Суітгера ў біскупы.

Калі Суітгер уязджае ў Бамберг і з узгоркаў бачыць рознакаляровыя фахверкавыя дамы, калі ён чуе, як журчыць рака Рэгніц, нарэшце, калі ён уваходзіць у сабор і бачыць ягонае харАство, ён усклікае: «Які прыгожы горад, тут хачу я дзейнічаць, хачу прымірыць зямное з нябесным». Ён здзяйсняе гэты намер: ён суцяшае людзей і дапамагае ім. Па яго наказе жабракі атрымліваюць ежу, а хворыя догляд. Апрача таго, ён засноўвае бэнэдыктынскі кляштар святой Тэрэзы. Дзякуючы часу, які ён правёў сярод манахаў у Хельмштэдце, ён ведае, якую карысць прыносяць людзям кляштары.

У разгар ягонай дзейнасці ў біскупстве яго выклікаюць да караля.

У пачатку верасня 1046 года ў Бамберг конна прыязджае ганец. Ён перадае біскупу ліст. Генрых ІІІ выклікае ў паход у Рым. Ён хоча, каб Папа Рымскі каранаваў яго імператарскаю каронаю. Магутных людзей імперыі выклікаюць на зборы ў Аўгсбург. Суітгер ад'язджае, яго суправаджае Гунтрам, ягоны



Капліца святога Пятра і святога Яна ў кляштары святога Людгера. Хельмштэдт. *Фота Георга Освальда Котта.*

самы блізкі сябар з дзяцінства, і яшчэ дзесяць паплечнікаў.

З усіх мясцовасцяў краіны збіраюцца вялікія асобы: герцагі, графы, біскупы, абаты. Разам з іхняю світаю і ўзброенымі суправаджальнікамі яны ўтвараюць моцнае войска. У канцы верасня яны пакідаюць горад і пачынаюць свой паход у Рым. Пасля пераходу праз Альпы Генрых ІІІ праводзіць у Павіі службовы дзень. Прама перад славутаю школаю права ён паказвае, хто ў краіне гаспадар.

Далей яны выпраўляюцца на поўдзень па старой рымскай дарозе. Тым часам войска моцна павялічылася за кошт далучэння біскупаў з Бургундыі, Савоі і Ламбардыі. Тым не менш, яны хутка рухаюцца наперад. У сярэдзіне снежня войска дасягае біскупскага горада Сутры, што знаходзіцца на шляху ў адзін дзень на поўнач ад Рыма. Тут кароль сустракаецца з манахам Пятром Даміяні. Той у якасці вандроўнага прапаведніка і прапаведніка пакаяння падарожнічае па Еўропе і нястомна заклікае да абнаўлення Касцёла. Ён змагаецца супраць сіманіі, шырока распаўсюджанай дрэннай традыцыі купляць за грошы касцёльныя пасады. У першую чаргу ён скардзіцца на становішча ў Рыме. Гарадское дваранства складаецца з двух лагераў, якія бязлітасна змагаюцца паміж сабою. Кожная група прызначыла свайго Папу і прагнала дзеючага Пантыфіка, так што ў цяперашні час паміж сабою спрачаюцца тры Папы — Грыгор VI, Бэнэдыкт ІХ і Сільвестр ІІІ; кароль Генрых ІІ бачыць, што яго каранаванне імператарскаю каронаю ў небяспецы. Яшчэ ў Сутры па яго загадзе праходзіць пасяджэнне Сінода і гэтых трох Папаў здымаюць з пасадаў.

23 снежня 1046 года кароль са сваёю світаю дасягае Рыма. Ужо на наступны дзень выбіраюць новага Папу: гэта Суітгер, біскуп Бамберга. Згодна з кананічным правам, яму на плечы накідваюць чырвоную мантыю. У апсідзе сабора святога Пятра ён сядае ў крэсла, што стаіць на ўзвышэнні. У доўгія чэргі выстраіліся магутныя людзі краіны. Кожны з іх становіцца на калені перад новым Папам і прысягае яму на вернасць. Пасля гэтай інтранізацыі да яго ўрачыста падыходзяць тры кардыналы-біскупы і з нагоды пасвячэння кажуць малітву благаслаўлення за новага Пантыфіка. Пасля гэтага архідыякан Рымскага Касцёла кладзе яму на плечы палій. З гэтага моманту Суітгера завуць Клімэнт ІІ.

Ён пакідае сабор святога Пятра, сядае на белага каня, скача да Латэранскай базылікі і сімвалічна ўступае ў валоданне сваім біскупскім касцёлам.

Адразу ж пасля літургіі пачынаецца каранацыя імператарскаю каронаю. Папа Клімэнт ІІ разам з каралём Генрыхам ІІ уваходзіць на чале працэсіі ў сабор святога Пятра, дзе пасля ўрачыстай Імшы адбываецца намашчэнне Генрыха, і Папа ўручае яму імператарскія рэгаліі.

На сваёй новай пасадзе Клімэнт ІІ адразу пачынае абнаўляць Рымскі Касцёл: ён выступае пасрэднікам паміж варагуючым паміж сабою духавенствам, змагаецца з сіманіяй, бярэ кляштар Клюні пад папскую ахову. Ён першым залічае да грону святых

жанчыну — манашку Выбараду. Нястомна едзіць ён па краіне, каб сачыць за парадкам і несці людзям суцяшэнне.

У сярэдзіне верасня 1047 года ён з невялікаю світаю скача на сустрэчу з Пятром Даміяні. Манах з'яўляецца прыёрам бэнэдыктынскай супольнасці пустэльнікаў у Фонтэ Авелана. Ён змагаецца за чысціню Касцёла і, як прыхільнік рэформаў, становіцца саюзнікам новага Папы. Атрад вершнікаў рухаецца наперад вельмі павольна. Гарачае паветра дрыжыць, нідзе няма ценю, паліць сонца. Папа Клімэнт хістаецца ў сядле, ягонае цела нахіляецца ўбок, і ён вось-вось упадзе з каня. Гунтрам ловіць яго і спехам укладвае на зямлю. Падарожжа перарываецца. У недалёкім кляштары Сан-Тамаза група знаходзіць прыстанішча. У сціплай манаскай келлі для хворага Папы рыхтуюць пасцель. Клімэнт адчувае, што ягоная смерць блізка. Аднак ён працягвае весці свае службовыя справы. Ён дыктуе лісты, прызначае біскупаў, падпісвае дакументы. Ён захаваў за сабою сваю пасаду біскупа Бамберга і дакладна прадпісвае, каб яго пахавалі не ў Рыме, а ў Бамбергу. Ужо на смяротным ложы ён дае ясныя ўказанні пра сваё бальзамаванне. 9 кастрычніка 1047 года папа Клімэнт II памірае ва ўзросце 42-х гадоў.

Манах Гунтрам, паплечнік і верны суправаджальнік Суітгера, рыхтуе перавозку цела. Абат кляштара Сан-Тамаза патрабуе сэрца мёртвага Папы, ягоныя лёгкія і ягоную кроў. У капліцы рыхтуюць магілу і ўрачыста хаваюць унутраныя органы. Цела мыюць у травяной ванне. Грудзі, жывот і ўсё ўнутры напаўняюць пакуллем. Нос, задні праход, рот і вушы напіхваюць міраю, ладанам, алоэ, а горла напаўняюць рознымі вострымі травамі. Пасля гэтага цела добра выціраюць і ўціраюць у скуру бальзам. Пасля таго як усе часткі цела з галавы да ног туга абгорнутыя ў прамочаныя воскам тканіны, усё цела ўпрыгожваюць папскім адзеннем і, як мае быць, кладуць у труну.



Цела папы Клімэнта II перапраўляюць цераз Альпы. *Мастак Макс Котт.*

Перавозка мёртвага цела патрабуе смеласці і хітрасці. На доўгім шляху ў Бамберг падсцерагаюць выкрадальнікі мошчаў. Гарады і кляштары прагнуць мець папскую магілу. Асаблівай сквапнасцю вызначаюцца жыхары Равэнны. Яны ўжо доўгі час плануюць павысіць каштоўнасць ратонды Тэадэрыха з дапамогаю папскіх мошчаў.

Гунтрам аддае таемны загад пагрузіць труну на запрэжаную аслом павозку. Воз маскіруюць мяхамі, напоўненымі рысам. Ноччу, у святле поўні, ён разам з пяццю вернымі сябрамі пакідае кляштар Сан-Тамаза. Яны рухаюцца наперад праз даліну Фоглія. Каля Пезара яны неўпрыкмет дабіраюцца да мора. Там чакае рыбак Джузэпэ. Ён пагружае людзей, асла і павозку ў сваю лодку. Шмат дзён яны плывуць па моры на поўнач, да таго месца, дзе рака Адзіджэ вымыла ў вусці шырокае рэчышча, так што Джузэпэ можа весці сваё судна ўверх па цячэнні. За два дні шляху на ўсход ад Вероны Гунтрам са сваім грузам прычальвае да берага. Тут праходзіць стары гандлёвы шлях да пераходу Брэнэр. Дарога ажыўленая, з павозкамі, паломнікамі і конніцаю. Гунтраму з ягоным возам удаецца незаўважна далучыцца да падарожнікаў. Небяспека пагражае яшчэ раз, калі ў Альпах снежная лавіна амаль уцягвае запрэжаную аслом павозку ў прорву. З гэтага моманту падарожжа становіцца лягчэйшым, і пасля шматлікіх тыдняў язды маленькі атрад дасягае сваёй мэты.

**Заўвагі.**

Папа Рымскі Клімэнт II быў першым Папам Сярэднявечча, які праводзіў рэформы. Плён яго дзейнасці распаўсюджваецца і на сучаснасць. Ягоная магіла знаходзіцца ў заходнім хоры Бамбергскага катэдральнага сабора і з'яўляецца адзінаю захаванаю папскаю магілаю на поўнач ад Альпаў.

Хорнбург — горад нараджэння папы Клімэнта II — і італьянская парафія Мантэлабатэ з кляштарам Сан-Тамаза — месцам смерці Папы — з 1987 года з'яўляюцца гарадамі-пабрацімамі.

У асобнай зале музея Хорнбурга пра папу Клімэнта II нагадваюць тэксты, карціны, дакументы і рэчы.

Перад пратэстанцкаю царквою *Beate Mariae Virginis* у Хорнбургу знаходзіцца статуя папы Клімэнта II, якую зрабіла скульптар Сабінэ Хоппэ.

*Пераклад з нямецкай мовы Алены Сямёнавай-Герцаг.*

Літаратура:
Georg Gresser: Clemens II. — der erste deutsche Reformpapst; Verlag Ferdinand Schöningh. — Paderborn, 2007.
Romedio Schmitz-Esser: Der Leichnam im Mittelalter — Einbalsamierung, Verbrennung und die kulturelle Konstruktion des toten Körpers; Jan Thorbecke Verlag. — Ostfildern, 2007.
Eberhard Segner: Geschichte der Stadt Hornburg; Heckners Verlag. — Wolfenbüttel, 1994.



Аляксандр Ярашэвіч падчас музейнай экспедыцыі. Вёска Добруш, 1984 г.

# ПАМЯЦІ АЛЯКСАНДРА ЯРАШЭВІЧА — ДАСЛЕДЧЫКА БЕЛАРУСКАЙ ДАЎНІНЫ

Мінуў год, як не стала Аляксандра Адамавіча Ярашэвіча — вядомага беларускага гісторыка мастацтва, краязнаўцы, архівіста, музейнага работніка, самааданага ў справе даследавання, выратавання і зберажэння беларускага сакральнага мастацтва.

Аляксандр Ярашэвіч (28.08. 1940–28.10.2016) нарадзіўся ў вёсцы Любкаўшчына Стаўбцоўскага раёна ў сялянскай сям'і. Там, ля вытокаў Нёмана, прайшло яго дзяцінства сярод мілых сэрцу беларускіх краявідаў, апетых у «Новай зямлі» Якубам Коласам. Вучыўся Алесь Ярашэвіч у школе ў Мікалаеўшчыне, роднай вёсцы вялікага паэта, скончыў яе з залатым медалём. Родныя мясціны, багатыя на помнікі гістарычнай даўніны — Новы Свержань, Стоўбцы, а далей — Нясвіж, Мір, Ішкалдзь, Новая Мыш, Вольна, дзе вандраваў калісьці і Уладзіслаў Сыракомля, у маладосці скалясіў на ровары Аляксандр Ярашэвіч, ужо тады захоплены таямнічай прыгажосцю старажытных беларускіх замкаў і храмаў.

Пасля заканчэння ў 1962 г. Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «атамная фізіка» ён працаваў настаўнікам на брэсцкім Палессі, вучыўся ў аспірантуры, затым працаваў у Інстытуце ядзернай энергетыкі Акадэміі навук Беларусі. Але захапленне старажытным беларускім мастацтвам перамагло і, пачынаючы з 1970-х гадоў, стала галоўнаю справаю жыцця Аляксандра Ярашэвіча. Па шчаслівых акалічнасцях, напэўна, не выпадковых, а наканаваных, яго прафесійнае далучэнне да беларускага старажытнага мастацтва адбылося ў коле беларускіх фізікаў-атамшчыкаў. Разам з Ю. Хадыкам, І. Быцевай, В. Філіпавым, Э. Максімавай і інш. фізікамі А. Ярашэвіч стаў удзельнікам мастацтвазнаўчага семінара, якім кіравала яркая, таленавітая даследчыца старажытнабеларускага іканапісу Элеанора Вецер. Яе лекцыі па гісторыі сакральнага мастацтва ў залах Дзяржаўнага мастацкага музея БССР і заняткі семінара ў сектары збора помнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР згуртавалі з ліку маладых беларускіх вучоных-атамшчыкаў кола аднадумцаў, неабыякавых да беларускай даўніны, гісторыі старажытнабеларускага мастацтва. Удзельнікі семінара самаахвярна, у свой вольны час прымалі ўдзел у экспедыцыйных паездках па цэрквах і касцёлах Беларусі, удзельнічалі ў распачатай беларускім акадэмічным Інстытутам мастацтвазнаўства ў падрыхтоўцы выдання «Збора помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Разам з вядомымі даследчыкамі беларускага мастацтва Л. Дробавым, В. Шматавым, В. Цераршчатавай дзейсны ўдзел у гэтых экспедыцыях прымаў і А. Ярашэвіч.

У 1970-я гады, калі ў краіне панавала ідэалогія ваяўнічага атэізму, вывучэнне і збіранне царкоўных рэчаў было свайго роду актам апазіцыі, грамадзянскага супраціву. У час, калі святыні зачыняліся і руйнаваліся, менавіта дзякуючы экспедыцыйным паездкам Дзяржаўнага мастацкага музея БССР на чале з Н. Высоцкай і экспедыцыям Інстытута мастацтвазнаў-

ства, этнаграфіі і фальклору пад кіраўніцтвам В. Церашчатавай удалося выратаваць ад знішчэння і сабраць з паўразбураных, патрабуючых тэрміновай рэстаўрацыі прадметаў царкоўнай даўніны ўнікальныя калекцыі твораў стажытнабеларускага іканапісу, скульптуры, дэкаратыўнага мастацтва, старадрукаў, якія склалі фонды старажытнабеларускага мастацтва НММ РБ і Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі. Менавіта з гэтымі музеямі звязаў свой лёс Аляксандр Ярашэвіч. У 1979 г. ён прыйшоў на работу ў Музей старажытнабеларускай культуры на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка, галоўнага захавальніка фондаў.



Ганна Фурс, Ларыса Геніюш, Вольга Церашчатава, Аляксандр Ярашэвіч. Зэльва, 1982 г.

Фарміруючы экспазіцыю музея, клапоцячыся пра захаванне і рэстаўрацыю выратаваных ад разбурэння твораў сакральнага беларускага мастацтва, Аляксандр Ярашэвіч падчас шматгадовай работы ў Музеі старажытнабеларускага мастацтва (1979–2004) і сам сфарміраваўся як глыбокі даследчык беларускай мінуўшчыны. Ён грунтоўна падыходзіў да даследавання старажытнабеларускага мастацтва, заснаванага на глыбокім стылёвым аналізе, архіўных пошуках і яго агульнаеўрапейскім кантэксце, літаратурных, іканаграфічных крыніцах — усё гэта дамінавала ўжо ў яго першых публікацыях, прысвечаных вывучэнню беларускай барочнай алтарнай скульптуры ў касцёлах Гродна, Новай Мышы, Волпы, Будслава і Міхалішкаў. Гэтыя публікацыі, дапоўненыя іншымі глыбокімі даследчымі матэрыяламі, склалі аснову абароненай А. Ярашэвічам кандыдацкай дысертацыі.

Музей старажытнабеларускай культуры на працягу больш дзесяці гадоў праводзіў экспедыцыйныя паездкі па цэрквах і касцёлах Беларусі, складаючы поўны звод захаваных у гэтых храмах помнікаў мастацтва, гісторыі і культуры, робячы іх фатаграфаванне і навуковае апісанне. Дзейсны ўдзел у гэтых экспедыцыях разам са сваімі калегамі В. Церашчатавай, М. Мельнікавым, М. Яніцкай, А. Лявонавай і інш. прымаў Аляксандр Ярашэвіч. У 1990-я гады ён ўдзельнічаў у экспедыцыях музея на чале з В. Шматавым у чарнобыльскую зону, дзе была сабрана ўнікальная, адзіная ў краіне калекцыя помнікаў народнага мастацтва і побыту з адселеных вёсак.

Вялікаю заслугаю А. Ярашэвіча падчас яго працы ў Музеі старажытнабеларускай культуры стала падрыхтоўка і выданне першага вялікага альбома музейнага збору, дзякуючы якому ўнікальная калекцыя беларускай даўніны, сабраная ў музеі, набыла шырокую вядомасць не толькі ў нашай краіне, а і за яе межамі. Мэце міжнароднага прызнання каштоўнасці сакральнага беларускага мастацтва мінулага, яго значэння ў кантэксце ўсходнееўрапейскай мастацкай спадчыны, спрыялі выступленні і публікацыі А. Ярашэвіча на міжнародных навуковых канферэнцыях і ў навуковых зборніках, выдадзеных у Маскве, Кіеве, Луцку, Вільнюсе. Вядомыя



Юрый Піскун, Аляксандр Ярашэвіч, Аляксандр Белакоз (дырэктар Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея), Вольга Церашчатава, Ала Лявонава з супрацоўнікамі музея. Вёска Гудзевічы Мастоўскага р-на, 1983 г.

вучоныя-мастацтвазнаўцы Расіі, Украіны, Літвы і Польшчы вельмі высока ацэньвалі ўклад Аляксандра Адамавіча ў даследаванне сакральнага мастацтва позняга Сярэднявечча і эпохі Барока. З многімі вядомымі даследчыкамі з гэтых краінаў А. Ярашэвіч меў блізкія, сяброўскія стасункі. Сумесна з польскім даследчыкам Т. Чарняўскай у 1996 г. А. Ярашэвічам было зроблена апісанне Кальварыйскіх могілак у Мінску (*T. Czarniawska, A. Jaroszewicz. «Rzymsko-Katolicki cmentarz Kalwaryja w Mińsku na Białorusi» (I tom z serii «Cmentarze na dawnych kresach Rzeczypospolitej». Warszawa*, 1996).

Вызначальнымі рысамі Аляксандра Ярашэвіча як даследчыка былі яго вялікая эрудыцыя, энцыклапедызм, глыбіня аналізу, якія сумяшчаліся з яснасцю, прастатою выкладання матэрыялу. Ён быў выдатным папулярызатарам, які імкнуўся данесці сваё захапленне старажытнабеларускім мастацтвам як мага большаму колу людзей, абуджаць у іх любоў да роднай спадчыны. Таму так актыўна і шмат (больш за тры сотні артыкулаў) пісаў ён пра беларускую даўніну — касцёлы, цэрквы, манастыры, кляштары, помнікі мастацтва і архітэктуры, канфесійныя ўтварэнні і мастацкія цэнтры — у энцыклапедычныя выданні: «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», «Рэлігія і Царква Беларусі», «Вялікае Княства Літоўскае». Ён быў пастаянным аўтарам і сябрам рэдкалегіі часопіса «Наша вера». Для шырокага кола чытачоў і вандроўнікаў прызначаны падрыхтаваныя і выдадзеныя ім ў выдавецтве «Беларусь» альбомы-пуцевадзіцелі па славутых храмах Беларусі ў Будславе і Гродне (альбом пра гродзенскі паезуіцкі касцёл, выдадзены ў суаўтарстве з В. Бажэнавай).

З 2004 года і да апошніх дзён жыцця А. Ярашэвіч працаваў вядучым навуковым супрацоўнікам аддзела старажытнабеларускага мастацтва ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Тут яскрава праявілася яго здольнасць данесці да наведвальнікаў музея свае глыбокія веды і сваё бясконцае захапленне мастацкай спадчынай Беларусі. Ім былі распрацаваны навуковыя канцэпцыі пяці экспазіцый у Мірскім замку, прысвечаных войнам XVI–XIX стагоддзяў, і пры яго непасрэдным удзеле былі падрыхтаваныя такія значныя тэматычныя выстаўкі старажытнабеларускага мастацтва, як міжнародная «Праваслаўная ікона Расіі, Украіны і Беларусі» (2008), «Алтарны жывапіс Беларусі» (2009), «Беларускі іканастас» (аўтар канцэпцыі выстаўкі, 2015), «Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы» і «Святло нябеснае на зямлі» (2016); напісаны ўступныя артыкулы да каталогаў гэтых выставак і артыкул пра старажытнабеларускае мастацтва ў альбом-каталог грандыёзнага выставачнага праекту НММ РБ і Белгазпромбанка «Дзесяць вякоў мастацтва Беларусі» (2014). Дзякуючы старанням Аляксандра Адамавіча ў збор Мастацкага музея былі перададзены з Жыровіцкага Успенскага манастыра ўнікальныя творы беларускага іканапісу канца XVII ст., ён быў адным з кансультантаў па стварэнні ва Усіхсвяцкім саборы ў Мінску новага іканастаса ў беларускіх традыцыях.

Аляксандр Ярашевіч напісаў шэраг артыкулаў для альбома-каталога «Партрэты ўладароў і магнатаў ВКЛ», які рыхтуецца да друку. У апошні год свайго жыцця ён у суаўтарстве з Аленаю Карпенка працаваў над альбомам-каталогам «Гістарычны партрэт канца XVI — пачатку XIX стагоддзя ў зборы Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь».

Навуковая пазіцыя А. Ярашэвіча вызначалася неангажыраванасцю, прынцыпамі экуменізму. Для яго было аднолькава каштоўным і цікавым як мастацтва, створанае ў рэчышчы беларускай праваслаўнай традыцыі, так і мастацтва Уніяцкай Царквы і Каталіцкага Касцёла. Ён добра разумеў і мог вызначыць асаблівы шлях развіцця старажытнабеларускага мастацтва, які сплавіў у адзінае цэлае поствізантыйскую традыцыю ўсходняй Царквы з традыцыямі заходняй Царквы, уплывам каталіцкага мастацтва Рыма, Германіі, Польшчы. Вялікім захапленнем Аляксандра Адамавіча было даследаванне цудадзейных абразоў Божай Маці, праслаўленых і ў беларускіх праваслаўных і ўніяцкіх храмах, а таксама і ў беларускіх касцёлах. Яго кніжка пра абразы Божай Маці Снежнай у храмах Беларусі — выдатнае таму сведчанне. Апошняе навуковае даследаванне Аляксандра Ярашэвіча, прысвечанае цудадзейнаму абразу Божай Маці Мінскай (у суаўтарстве з Э. Шаўчэнка), было надрукавана ў «Праваслаўнай энцыклапедыі» ў Маскве ўжо пасля яго смерці.

Аляксандр Ярашэвіч назаўжды ўвайшоў у кола тых выдатных даследчыкаў старажытнабеларускага мастацтва, дзякуючы якім нашы веды пра беларускую мастацкую спадчыну сталі больш грунтоўнымі. Да друку рыхтуецца кніга А. Ярашэвіча аб сакральнай і мемарыяльнай скульптуры Беларусі, а таксама выстаўка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, прысвечаная яго памяці.

*Юрый Піскун.*

*Фота Міколы Мельнікава.*

**Юрый Піскун** — мастак і мастацтвазнаўца. Нарадзіўся ў 1955 г. Вядучы навуковы супрацоўнік аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, дацэнт, сябра Беларускага саюза мастакоў. Аўтар звыш 50-ці навуковых артыкулаў па гісторыі беларускага іканапісу і старажытнабеларускага мастацтва, апублікаваных у выданнях Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Славакіі, Літвы, Італіі і ФРГ, аўтар манаграфіі «На перекрёстке европейских дорог. Белорусские иконы» (Мілан, 2007), складальнік і навуковы рэдактар альбомаў «Беларускае мастацтва XX стагоддзя» (Мінск, 2002), «Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Мастацтва XV – пачатку XX стагоддзя» (Мінск, 2006).

Ларыса Сырбу

# «Дык з чаго твой панцыр, чарапаха?»



Таццяна Шчарбакова.
Віцебск, 1958 г.

У апошнія гады свайго жыцця мая мама вельмі хварэла (у яе былі частыя сардэчныя прыступы), і мы з братам начавалі каля яе па чарзе — яна баялася памерці ў адзіноце (бацькі нашага ўжо не было). Удзень мама нешта рабіла ў кватэры — прыбірала, гатавала і нават вышывала гладдзю падушачкі (гэты занятак яна вельмі любіла). Усё жыццё, з маленства, яна працавала і, калі адчувала сябе трошкі лепш, ніколі не сядзела без справы. Калі ёй было кепска, мы ўсаджваліся каля яе ложка і проста слухалі яе — мы, як высветлілася, шмат чаго не ведалі...

Мая мама нарадзілася ў 1926 годзе ў вёсцы Кардон на Шумілёншчыне, недалёка ад старажытнага мястэчка Ула, якое цяпер амаль занядбанае, а да вайны гэта быў прыстойны гарадок з ваенным аэрадромам (дарэчы, тут нарадзіўся знакаміты мастак Іван Хруцкі, які не толькі маляваў нацюрморты, але і распісваў святыні ў Вільні і Коўне). У сям'і былі тры дзяўчынкі і хлопчык — усе ахрышчаныя каталікі. Дзеці ведалі польскую мову і маліліся па-польску. Наша бабуля (маці маёй мамы) Ганна Марцулевіч дзяўчынкаю хадзіла на працу ў панскі маёнтак, фундамент якога дасюль захаваўся ў яблыневым садзе. Жылі бедна, але вельмі дружна — любілі і шкадавалі адзін аднаго. Мая мама была старэйшаю з дзяцей, і яе асабліва любіў бацька — яна была прыгожаю, жывою, завадатаркаю і пявуннюю (у маладосці іграла на гітары, якая вісела на сцяне ў нашай віцебскай кватэры, упрыгожаная вялікім пунцовым бантам). Дзеці былі апранутыя, як і ўсе ў вёсцы, бедна, але яны былі вясёлыя: хлеб у руку — і на вуліцу! Зімою — на вялізных санках з горкі, па сумётах... Улетку ўвогуле рай на зямлі — лес, грыбы, ягады, рэчка. Дзеці хадзілі ў школку і вучыліся з задавальненнем, а на школьных святах мая мама разам з настаўнікам спявала песні пра грамадзянскую вайну: *«Шёл отряд по берегу, шёл издалека, а под красным знаменем — командир полка...»* (і мы іх спявалі ў сваім школьным дзяцінстве).

У Шуміліне жыў дзед маёй мамы, і яна хадзіла да яго проста праз лес — у яго быў патэфон! У Кардон на лета прыязджалі «дачнікі» з Ленінграда, і ў іх за малако, смятану, яйкі можна было набыць нейкія рэчы. Калі бацька маёй мамы — Антон Шчарбак, пачаў працаваць у сельсавеце, сям'я зажыла трошкі лепш, але 8 лютага 1938 года ўсё абарвалася — майго дзеда, бацьку маёй будучай мамы, арыштавалі разам з яго братам Сцяпанам і іншымі вяскоўцамі «за шпіянаж». І згінулі мужыкі... Наша бабуля Ганна паехала ў Віцебск і намагалася знайсці свайго мужа, але сама ледзьве не трапіла ў рукі бандытаў, якіх тады было шмат у горадзе (казалі, што яны забівалі людзей і прадавалі як мяса).

Застаўшыся адна з чатырма дзецьмі, малодшаму з якіх, Валодзю, было тры гады, наша бабуля Ганна ледзьве зводзіла канцы з канцамі. Ніякай дапамогі чакаць не выпадала — сям'я «ворага народа». Праўда, мая будучая мама сябравала з дваюрадным братам, і той часам нешта прыносіў у сям'ю са свайго стала...

Напярэдадні вайны на Ульскім аэрадроме разабралі (на рамонт) самалёты і зброю і адпусцілі ў

**Ларыса Сырбу** — пенсіянерка. Нарадзілася ў Віцебску. Закончыла СШ № 21 (1971) і тэлеграфныя курсы пры Віцебскім аддзяленні Беларускай чыгункі (1972). Працавала ў Віцебскай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі (1972–1992) і ў сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі УП «Водаканал».

адпачынак служачых. Немцы, якія акупавалі мястэчка ўжо ў ліпені 1941 года, ушчэнт разбамбілі аэрадром... Мая мама, якой было тады 15 гадоў, на ўсё жыццё запомніла маладога паміраючага лётчыка, які прасіў аб дапамозе. Людзі, як маглі, хаваліся ад бамбёжак, а падчас зацішша намагаліся пахаваць забітых салдатаў, якія ляжалі на палях і ўзбочынах. Дзеці хавалі забітых! Спалі з катомкамі за плячыма і думалі, што ўсё хутка скончыцца...

Сярод першых немцаў у мястэчку мая мама запомніла старога салдата, які сказаў: «Вы думаеце нам хочацца ваяваць? Пракляты Гітлер!» У лясах з'явіліся партызаны, якія прыходзілі ў мястэчка ноччу. Адны былі добрыя і проста прасілі што-небудзь, а другія забіралі ўсё і нават расстрэльвалі тых, хто супраціўляўся (магчыма, гэта былі «бандэраўцы» або «лясныя браты», якія засталіся ў нашых лясах і пасля вайны); мама казала, што яе дваюрадныя браты — адзін інвалід, без рукі, — пайшлі на заробкі ў Прыбалтыку і былі забітыя ў лесе.

...Калі ў мястэчку Ула пачалі хапаць моладзь для працы ў Германіі, схапілі і маю 15-гадовую маму. У сям'і так і не даведаліся, куды яна прапала. У Германіі яна спачатку працавала ў сталоўцы для ваенных, а потым — у фермера. Ён ніколі не крыўдзіў яе (карміў, апранаў), а недзе перад Новым годам, 1945-м, сказаў: «Наступны Новы год вы будзеце сустракаць дома...» Ведаў, што адбываецца на фронце...

Маму (з такімі ж дзяўчатамі, як яна) вызвалілі амерыканцы і перадалі іх нашым, але ўжо ў дарозе, вяртаючыся на радзіму, яна зразумела, што́ яе, дачку «ворага народа», «польскага шпіёна», можа чакаць дома: выгнаных у Германію часта выклікалі ў КДБ



Ганна Марцулевіч (злева) з невядомаю асобаю. Пачатак XX ст.

і, здаралася, што абвінавачвалі ў здрадніцтве. Да таго ж, яна вярталася з выгнання не падобнаю на моцна пацярпелую, — ахайная, чыстая, прыгожая. Таму мая мама, Тоня Шчарбак, вырашыла не вяртацца ў вёску і, спыніўшыся ў Віцебску, дзе яна знайшла



Антон Шчарбак. Пачатак 1930-х гг.

працу з магчымасцю жыць у інтэрнаце, стала Таняю Шчарбаковай — сваё каталіцтва таксама даводзілася хаваць. Нават калі Германія пачала праз гады выплочваць кампенсацыю пацярпелым у вайну, мая мама не прызналася ў тым, што была вывезеная на прымусовыя працы — яна баялася, і нават мы, яе дзеці, даведаліся пра яе сумную гісторыю амаль перад яе смерцю, як і пра нашага прапаўшага дзеда...

Дарэчы, пра імёны... Маміны родныя сёстры таксама іх змянілі: Ядвіга (1933–2003) стала Адаю (гэта мама Ліды Камінскай, якая актыўна супрацоўнічае з каталіцкім друкам і называе сябе каталіцкаю праваслаўнаю), а Зоя, напэўна ж, была Зосяю, хоць яна ўжо пра гэта не памятае і ўспамінаць не хоча (яна жыве ў Бешанковічах), а наш дзядзька Валодзя (1935–2005) часта называў сябе Вальдэмарам — усе яны сталі пасля вайны Шчарбаковымі, пакуль жанчыны не змянілі свае дзявочыя прозвішчы на прозвішчы мужоў. І нікому з іх, дзецям «польскага шпіёна», не прыходзіла ў галаву ахрысціць сваіх дзяцей у касцёле — зрэшты іх ужо амаль не было... Міжволі згадваюцца вершаваныя радкі Льва Халіфа, вядомыя інтэлігенцыі з самвыдату савецкага часу: *«Из чего твой панцирь, черепаха? // Я спросил и услыхал в ответ: // „Из годами копленного страха — ничего прочнее в мире нет...“»*

...Наша бабуля Ганна памерла ў вёсцы Кардон у 1947 годзе ад голаду — так усе казалі. Пахаваная ў вёсцы Мікалаева. Было ёй трошкі за 40 гадоў. Калі яна памірала, суседка спыталася: «На каго ж ты, Анечка, сваіх дзетак пакідаеш?», а яна прашаптала: «На Бога». Малодшаму Валодзю было 12 гадоў, але маёй будучай маме ўжо было 20 — дарослая.

Яна ўсім намагалася дапамагчы, усіх шкадавала, асабліва малодшую Ядзю, і доўга, да 30-ці гадоў, не выходзіла замуж, хоць і вельмі падабалася мужчынам. Мая мама працавала і поварам, і нават матросам на нашай Заходняй Дзвіне, а ноччу і вугаль разгружала на чыгунцы, каб нешта зарабіць і лепшае купіць, апрануць — у мамы былі прыгожыя камбінацыі з карункамі, шаўковыя сукенкі, яна любіла фатаграфавацца. Калі яна была яшчэ малою дзяўчынкаю, вяскоўцы гаварылі: «Ну, Анька, твая дачка, як артыстка, пэўна, выйдзе замуж за лётчыка!» Але замуж мая мама выйшла за майго бацьку, Фёдара Казлова, які прыехаў на пачатку 1950-х з Данбаса, дзе быў на заробках, і меў ажно два касцюмы. Дарэчы, бацькава сям'я не хацела, каб ён жаніўся з маёю мамаю: яны былі праваслаўныя і католікаў не любілі — называлі маму «палячкаю». Але маю маму нельга было не палюбіць — працавітая, цярплівая, добрая, спагадлівая, яна хутка змякчыла сэрцы бацькавай радні. Жылі яны ў бараку, з «выгодамі» на вуліцы, з пячным ацяпленнем. Цяжка працавалі: бацька — на Дзвіне, у водным транспарце, мама — на заводзе электравымяральных прыбораў.

Мая мама ненавідзела Сталіна. Ненавідзела за прапаўшага бацьку, нашага дзеда (тады мы не ведалі, што яго расстралялі), за памерлую ад голаду маладую маці і за сябе — за тое, што жыла ў страху і, будучы выгнанаю ў Германію, баялася пераследу ад «нашых».

У 70-я гады маміна дваюрадная сястра намагалася высветліць, што здарылася з іх прапаўшымі бацькамі — ёй сказалі, што яе бацька памёр ад туберкулёзу. І толькі нядаўна я знайшла ў інтэрнэце ў спісах ахвяраў палітычных рэпрэсій прозвішчы свайго дзеда, яго брата Сцяпана



Антон Шчарбак (крайні справа) сярод аднавяскоўцаў. 1920-я гг.

і іх аднафамільцаў з вёскі. Дзед і яго брат былі расстраляныя 4 чэрвеня 1938 года за «шпіянаж на карысць Польшчы». Амаль непісьменныя калгаснікі — шпіёны?! Дзеду было ўсяго 38 гадоў, а наша бабуля ў свае 30 гадоў выглядала сапраўды як бабуля... Нашага дзеда Антона Іванавіча Шчарбака рэабілітавалі толькі ў 1989 годзе, але нікому з родных пра гэта не паведамілі, і мама памерла, не ведаючы, як завяршылася яго жыццё...

Майго дзеда расстралялі не немцы, не бандыты, а «нашы», і нехта канкрэтны яго судзіў, дапытваў, падпісваў прысуд, расстрэльваў — вырашаў чалавечы лёс: расстрэльваючы аднаго, «расстрэльваў» усю сям'ю. Я — унучка «ворага народа», і вось пра што я часам думаю: Папа Рымскі, Ян Павел II, гаворачы пра памылкі Касцёла, прасіў прабачэння ад імя Касцёла за ўвесь Касцёл, пачынаючы з Сярэднявечча, з інквізіцыі, а Германія, яе ўрад, арганізавала акцыю «Пакаянне» і выплаціла грашовыя кампенсацыі пацярпелым ад жахаў фашызму. А чаму наша «сістэма» не хоча пакаяцца за свае ахвяры? Хіба прыгожыя словы пра тое, што «ніхто не забыты і нішто не забыта» гаворацца толькі пра тых, хто загінуў на вайне? «Сістэма» апантана знішчала генафонд, і сёння дэградацыя насельніцтва (менавіта насельніцтва, не нацыі) цалкам відавочная. «*Дык з чаго твой панцыр, чарапаха?*»

І яшчэ адзін эпізод. Мама расказвала, што дзецьмі яны па вечарах збіраліся на печцы ў старога Людвіга, які чытаў і пераказваў ім Біблію. Ён казаў, што па небе будуць лятаць жалезныя птушкі, неба будзе аблытанае павуцінаю, і будзе шмат хлеба і булак, але іх ужо не захочацца. І мая мама горача пярэчыла яму: «Ну што ты, дзед, падманваеш! Як гэта — не захочацца булак? Такога быць не можа!»

...Даўно лятаюць «жалезныя птушкі», і неба аблытанае і нізка, і высока, і хлеба з булкамі дастаткова, і іх, сапраўды, не заўсёды хочацца...

Тамара Габрусь



Касцёл св. Юрыя ў в. Паланечка (Баранавіцкі р-н).

# ПРЫГАЖОСЦЬ У ПРАСТАЦЕ

Першы **касцёл св. Уладзіслава ў в. Суботнікі (Іўеўскі р-н)** быў заснаваны ў 1545 г. каралём Жыгімонтам І Аўгустам (фундацыя замацавана ў 1573 г. Альбрыхтам Радзівілам). У 1755 г. уладальнікамі маёнтка Юрыем і Марыяй Абрамовічамі быў пабудаваны новы драўляны двухзрубавы касцёл базылікальнай канцэпцыі з двухвежавым галоўным фасадам-нартэксам, з барочным франтонам і ўваходным порцікам. У 1900–1928 гг. быў змураваны новы храм у стылі неаготыкі па фундацыі Уладзіслава і Яніны Умястоўскіх.

Драўляны **касцёл Міхала Арханёла ў в. Барань (Барысаўскі р-н),** паводле стылёвых прыкметаў, пабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст. Яго выява прадстаўлена ў польскамоўным «Апісанні павета Барысаўскага» 1847 года. Гэта двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з двухвежавым фасадам-нартэксам з рысамі сармацкага барока. Чацверыкі вежаў былі накрытыя пакатымі шатрамі з заломам, увенчанымі гранёнымі «банькамі». Па баках пяціграннага алтарнага зруба мясціліся невялікія квадратныя сакрыстыі, накрытыя двухсхільнымі дахамі з дыяганальнымі вільчыкамі.

Драўляны **касцёл у Дамбровіцах (б. Гродзенскі п., цяпер Польшча)** быў заснаваны ў 1594 г. уладальнікам маёнтка, гродзенскім ваяводам Пятром Вясялоўскім, перабудаваны ў XVIII ст. Двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі пабудаваны ў традыцыях заходнепалескай рэгіянальнай школы. Надзвычай высокі вальмавы гонтавы дах меў трохвугольныя застрэшкі ў месцы злучэння квадратнага асноўнага і пяціграннага алтарнага зрубаў, а на галоўным

*Заканчэнне. Пачатак у № 2 за 2017 г.*

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, членкарэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

фасадзе завяршаўся трохвугольным франтончыкам з шырокім прычолкам паміж дзвюма чацверыковымі вежамі, увенчанымі «банькамі». Па баках апсіды размешчаны невысокія сакрыстыі з рамбічнымі вокнамі, пры ўваходзе — невялікая крухта. Меў традыцыйную вертыкальную шалёўку з нашчыльнікамі і прамавугольныя вокны. Асобна стаяла двух'ярусная званіца (чацверык на чацверыку), накрытая пакатым шатром-«каўпаком». У краязнаўчай літаратуры занесены ў «цуды польскія».

**Юр'еўскі касцёл у в. Паланечка (Баранавіцкі р-н)** быў пабудаваны ў 1751 г. у стылі барока па фундацыі біскупа Жалкоўскага, у 1899 г. рэканструяваны (арх. К. Вайцяхоўскі). Гэта двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з двухвежавым галоўным фасадам. Выцягнуты прамавугольны асноўны зруб і пяцігранная апсіда прэзбітэрыя аб'яднаныя агульным дахам з падоўжным вільчыкам. Галоўны фасад раскрапаваны па баках двух'ярусным вежамі (чацверык на чацверыку), завершанымі высокімі шатрамі. Першапачаткова ў завяршэннях вежаў спалучаліся пакатыя шатры з пукатымі купалкамі. Пасля рэканструкцыі верхнія чацверыкі вежаў, франтон і фасады атрымалі арыгінальны неагатычны дэкор. Бакавыя фасады аздоблены стральчатымі абрамленнямі вокнаў і вертыкальнымі сцяжкамі, якія імітуюць ступеньчатыя контрфорсы, характэрныя для мураванага дойлідства гэтага рэгіёна (касцёл у Ішкалдзі, уніяцкая царква ў Вольна). Абапал прэзбітэрыя размешчаны невысокія абшырныя сакрыстыі. Унутраны бабінец і крухта вырашаны ў выглядзе двухкалонных порцікаў. Багатаю аздобаю вылучаецца інтэр'ер храма. Над уваходам на хорах размешчаны арган, зроблены ў 1897 г. віленскім майстрам Ф.Астрамецкім.

**Былы Троіцкі касцёл (цяпер царква) у Цялядавічах (Капыльскі р-н)** пабудаваны ў 1792 г. на сродкі нясвіжскага жаночага кляштара бэнэдыктынак. У 1868 г. храм быў перададзены праваслаўным, а ў 1910 г. істотна перабудаваны. Першапачаткова ў архітэктуры будынка сумяшчаліся рысы барока і класіцызму. Гэта двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з двухвежавым галоўным фасадам-нартэксам, укампанаваным у асноўны прамавугольны аб'ём. Агульны дах над асноўным зрубам і пяцігранную алтарную апсідаю ўтварае трохвугольныя застрэшкі ў месцы злучэння і вальмы над алтаром. Па баках апсіды размешчаны невысокія сакрыстыі. Інтэр'ер перакрыты люстраным скляпеннем на падугах, над вузкім нартэксам мясціліся арганныя хоры. У дэкоры выкарыстаны прафіляваныя карнізы і пілястры, размаляваныя ў інтэр'еры пад мармур. Пры перабудове на пачатку XX ст. помніку былі нададзены рысы неарускага стылю: надбудаваны 4 цыбулістыя гранёныя галоўкі (над вежамі і на вільчыку даха), зменены характар шалёўкі і дэкор франтона, над якім была надбудавана вастраверхая васьмерыковая вежа. Прафіляваны карніз аздоблены разьбяным падзорам, накшталт аркатурнага пояса, у канструкцыі даха зроблены люкарны. У наш час сцены пафарбаваныя ў блакітны колер.

Каталіцкая парафія ў **Ашмянах** заснаваная ў 1387 г. вялікім князем літоўскім Ягайлам; у 1667 г. уладальнікамі мястэчка Андрэем і Даротаю Абнорскімі тут былі асаджаныя дамінікане. Пасля пажару ў 1797 г. быў пабудаваны новы драўляны **касцёл пад тытулам Міхала Арханёла** — двухзрубавы, з сакрыстыяй вакол пяціграннага алтара, з дзвюма вежамі на галоўным фасадзе, якія мелі два чацверыковыя ярусы над прафіляваным карнізам. Новы касцёл быў змураваны ў 1906—1910 гг. у стылі неабарока.

Парафіяльны **касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Груздава (Пастаўскі р-н)** заснаваны ў 1529 г. вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам. У 1773 г. парафіянамі быў адбудаваны новы храм, які складаўся з прамавугольных, асноўнага і алтарнага, зрубаў, накрытых агульным вальмавым дахам з трохвугольнымі застрэшкамі ў месцы злучэння і трохвугольным франтонам з невялікаю вежачкаю-сігнатуркаю на галоўным фасадзе. У XIX ст. праз невысокі бабінец была прыбудаваная двух'ярусная вежа-званіца. На мяжы XIX–XX стст. на месцы гэтага касцёла пабудавалі драўляны касцёл тыпу трохнававай двухвежавай базылікі, выява якой вядомая паводле фотаздымка Я. Балзункевіча. У пачатку XXI ст. была змуравана новая святыня з сілікатнай цэглы.

**Касцёл св. Юрыя ў в. Вялікія Свіранкі (Астравецкі р-н),** помнік драўлянага дойлідства ў стылі сармацкага барока. Пабудаваны ў 2-й палове XVIII ст., у пачатку XX ст. рэканструяваны пад царкву: зняты верхнія чацверыкі вежаў, над франтонам устаноўлена невялікая васьміграннная вежачка з шатром і крыжам. Вернуты католікам у 1998 годзе. Першы касцёл тут быў заснаваны ў 1671 г. па фундацыі віленскага капітула; у 1690 г. пры ім пабудавалі таксама драўляны кляштар ордэну місіянераў. Мае тыповую барочную структуру: прамавугольную наву, пяцігранную апсіду, дзве чацверыковыя вежы, якія выступаюць з плоскасці галоўнага

фасада. Аб'ёмы накрытыя агульным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром і застрэшкамі ў месцы злучэння зрубаў. Тарэц даха закрыты атыкавым франтонам, сіметрычныя раскрапоўкі па баках сведчаць пра існаванне верхніх чацверыкоў вежаў. Вокны маюць лучковыя завяршэнні. Сакрыстыі розных памераў: паўночная зроблена ў адну лінію з бакавым фасадам, паўднёвая, відавочна, пашырана пазней. Невысокая крухта (экзанартэкс) таксама накрытая двухсхільным дахам з трохвугольным франтонам. Шалёўка сценаў гарызантальная, з вертыкальнаю цокальнаю панэллю, умацаваная вертыкальнымі сцяжкамі. Інтэр'ер залавага тыпу з плоскім сафітам на падугах. Унутры сцены таксама ашаляваныя, а ўнізе ўпрыгожаныя філёнгавымі нішамі, расчлянёныя пілястрамі і завершаныя прафіляваным карнізам. Усе гэтыя дэталі маюць рысы барочнага класіцызму. На поўдзень ад касцёла знаходзілася двух'ярусная мураваная званіца (чацверык на чацверыку), накрытая шатром-«каўпаком», пабудаваная ў 1910 г. на месцы старой драўлянай (разабраная ў канцы ХХ ст.).

Драўляны **касцёл у в. Осава (б. Пінскі павет)** быў пабудаваны Карповічамі ў 1648 годзе. Невялікі двухзрубавы храм з дзвюма вежамі, накрытымі пакатымі шатрамі сармацкага тыпу зафіксаваны на малюнку Я. Драздовіча (1926 г.). Асобна стаяла двух'ярусная чацверыковая званіца.

Драўляны **касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі місіі бэрнардынаў у в. Мсціж (Барысаўскі р-н)** быў пабудаваны ў 1760 г. па фундацыі І. Л. Храптовіча, падканцлера літоўскага. Складаўся з асноўнага прамавугольнага зруба, пяціграннай алтарнай апсіды і вузкага аб'ёма бабінца, які выступаў за межы навы. Усе часткі кампазіцыі былі аб'яднаныя агульным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром і невялікімі застрэшкамі ў месцы злучэння зрубаў над невысокімі сакрыстыямі з вальмавымі дахамі. Пасярэдзіне вільчыка размяшчалася гранёная галоўка на васьміграннай «шыйцы». Сцены былі ашаляваныя вертыкальна дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваныя сцяжкамі-«лісіцамі». Вокны прамавугольныя. Драўляная ўніяцкая Крыжаўзвіжанская царква была пабудавана ў гэтым мястэчку ў 1649 г. па фундацыі Казіміра і Алены Сапегаў (Акты віленскай археаграфічнай камісіі, спр. 256, арк. 35).



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Дуды (Іўеўскі р-н).

Каталіцкая парафія ў **в. Дуды (Іўеўскі р-н)** была заснаваная ў 1608 г. вялікім гетманам літоўскім Каралем Хадкевічам. Першы драўляны **касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі** быў пабудаваны ў 1672 г. па фундацыі караля Рэчы Паспалітай Міхала Вішнявецкага; адбудаваны пасля пажару ў 1772 г. «з дрэва цёсанага» на сродкі мясцовага старосты Гераніма Зянковіча і яго жонкі Барбары; асвячоны ў 1781 г. біскупам Т. Зянковічам. Адноўлены ў 1908 г. і ў 1990-я гады. Класічны ўзор сармацкага барока ў дрэве, відавочна, меў за ўзор мураваныя касцёлы ў Міхалішках і Засвіры. Прамавугольны асноўны і пяцісценны алтарны зруб накрыты агульным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Па баках алтарнай апсіды размешчаны квадратныя ў плане невысокія сакрыстыі, накрытыя вальмавымі дахамі з дыяганальным вільчыкам (форма пакрыцця характэрная для гэтага рэгіёна). Галоўны фасад фланкуюць дзве сіметрычныя, квадратныя ў плане вежы, шырыня якіх абумоўлівае памеры ўнутранага бабінца. Вежы маюць тры чацверыковыя ярусы, якія злёгку скарачаюцца ўгору, што надае кампазіцыі фасада вертыкальную дынаміку. Паводле фотаздымка пачатку ХХ ст., вежы завяршаліся пакатымі шатрамі з заломам і васьмiграннымі гру-

шападобнымі галоўкамі-«банькамі»; у наш час яны завершаны высокімі неагатычнымі шатрамі з трохвугольнымі франтонамі ў аснаванні граняў. Цэнтральная частка фасада заглыбленая паміж вежамі і завершаная атыкавым франтонам. Помніку ўласцівая строгасць і лапідарнасць вонкавага аблічча ў спалучэнні з багатаю аздобаю інтэр'ера. Унутры драўляная столь навы і прэзбітэрыя імітуе люстэркавае скляпенне з арнаментальнаю размалёўкаю ў стылі мадэрн. Над бабінцам размешчаны арганныя хоры. Тры познебарочныя алтары маюць калоны карынфскага ордэру і дынамічна раскрапаваныя антаблементы з ракайльнымі картушамі.

Каталіцкая парафія ў м. **Свіслач (Асіповіцкі р-н)** была заснаваная ў 1600 г. Мікалаем Гарабурадам, кашталянам мінскім. Драўляны **касцёл пад тытулам св. Барбары** быў збудаваны па фундацыі Барбары Незабытоўскай (з Завішаў) у 1783–1786 гг. Гэта быў двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з дзвюма чацверыковымі вежамі на галоўным фасадзе і трохвугольным франтонам паміж імі. Паводле інвентара 1854 г., ён быў пабудаваны з брусоў, меў «бабінец унутраны», злева ад яго была лесвіца на хоры, падмурак з бутавага каменя (НГАБ, Мінск, ф. 1781, воп. 27, спр. 274, арк. 1).

Драўляны парафіяльны **Троіцкі касцёл у в. Амнішава (Лагойскі р-н)** пабудаваны ў 1795–1797 гг. па фундацыі Юзафа Корсака і яго маці Анэлі (з Байкоўскіх). Двухзрубавы храм з пяцісценнаю алтарнаю апсідаю быў накрыты агульным высокім шматсхільным гонтавым дахам з падоўжным вільчыкам. На галоўным фасадзе над карнізам даха ўзвышаліся дзве чацверыковы вежы, накрытыя шатрамі-«каўпакамі», і значных памераў франтон, які імітаваў атыкавыя франтоны тагачасных мураваных святыняў позняга барока. Верхняя частка франтона мела пластычны абрыс і барочныя валюты па баках. Сцены былі ашаляваныя вертыкальна дошкамі з нашчыльнікамі, вокны мелі лучковыя завяршэнні. У інтэр'еры была намаляваная «на оптыку» алтарная кампазіцыя. З боку, «у адну лінію з фасадам», стаяла каркасная чацверыковая званіца, накрытая гонтавым шатром-«каўпаком».

Драўляны парафіяльны **касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Куранец (Вілейскі р-н)** быў пабудаваны ў 1652 г. Паводле інвентара 1798 г., быў двухзрубавым, з роўнавысокімі крыламі трансепта і дзвюма вежамі на галоўным фасадзе, унутры меў 3 барочныя алтары. Быў знішчаны пажарам у 1809 г., але адбудаваны ў 1810 г. на сродкі Казіміра Сулістроўскага ў стылі класіцызму. Пры гэтым касцёл набыў галоўны фасад у выглядзе шасцікалоннага порціка, увенчанага двух'яруснаю вежачкаю (васьмярык на чацверыку) з цыбулепадобнаю галоўкаю. Разабраны пасля вайны. Выява вядома па фотаздымку пачатку XX ст.

Драўляны **касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Палачаны (Маладзечанскі р-н)** быў пабудаваны на сродкі маршалка ашмянскага Антонія Сулістроўскага і яго жонкі Тэрэзы ў 1738 г., з 1765 г. ён вядомы як грэка-каталіцкі храм. У 2-й палове XIX ст. на яго месцы была пастаўлена мураваная праваслаўная царква. Першапачаткова гэта быў храм двухзрубавага двухвежавага тыпу з сіметрычнымі сакрыстыямі абапал пяціграннай апсіды прэзбітэрыя. Аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю будынка ўвенчвалі фігурныя купалы-«банькі» над вежамі і над апсідаю. Уваход быў афармлены ганкам «з балясінамі».

Драўляны філіяльны **касцёл бабруйскай місіі езуітаў у в. Гарбацэвічы (Бабруйскі р-н)** быў заснаваны па фундацыі бабруйскага старосты Пятра Трызны ў XVII ст., перабудаваны ў 2-й палове XVIII ст. Паводле люстрацыі 1773 г., стаяў «на Слуцкім тракце, парканам старым в коло оправаджоны, новы, з дрэва тёсанага з дзвюма вежачкамі і адным купалком, гонтам пакрыты, хор, падлога з тарціц, вокнаў 7 шкла белага ў дрэва апраўленых» (РДГАСА, Масква, ф. 2188, воп. 1, спр. 60, арк. 32).

Асноўнымі сродкамі мастацкай выразнасці беларускіх драўляных касцёлаў былі маналітнасць і пластычнасць іх формаў, суладдзе і дынаміка геаметрыі ліній і плоскасцяў, адсутнасць дробнага дэкору, стварэнне прасторавага ансамбля, што аптычна павялічвала маштаб камерных збудаванняў адносна навакольнага асяроддзя. Лаканізм, нават аскетызм, мастацкіх дэкаратыўных сродкаў кампенсаваўся гарманічнай выразнасцю прапорцый і рытмаў аб'ёмаў, пластыкай гонтавага пакрыцця і маляўнічай кампазіцыяй вянчаючых масаў, што падкрэслівала паслядоўную эвалюцыю стылю барока. Намі разгледжаны найбольш пашыраны ў мясцовым каталіцкім драўляным дойлідстве эпохі барока тып клецевага касцёла базылікальнай канцэпцыі, які, па нашым вызначэнні, мае падабенства з мураванымі аднанававымі святынямі Беларусі, але не тоесны архітэктоніцы класічнай архітэктурнай базылікі.

*Фота аўтара.*

